УДК 811.161.1+811.161.3] : 61 : 001.4(038)
ББК 81.2 Рус–4
В 18

Рэкамендаваны Цэнтральным навукова-метадычным саветам УА «Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт» (пратакол № 7 ад 28.06.2011).

Аўтар: В.І. Варанец, ст. выкладчык кафедры рускай і беларускай моў.

Рэцэнзенты: Васільеў У.С., доктар медыцынскіх навук, прафесар кафедры інфекцыйных хвароб УА "Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт";
Шлык І.М., старшы выкладчык кафедры беларускай і замежных моў Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта.

Рэдактар: метадыст вучэбна-метадычнага аддзела Т.У. Мініч.

**Варанец, В.І.**
В 18 Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў : для студэнтаў лячэбнага, педыятрычнага, медыка-псіхалагічнага, медыка-дыягнастычнага факультэтаў / В.І. Варанец. – Гродна: ГрДМУ, 2011. – с. 232.
ISBN 978-985-496-861-2

Слоўнік уключае ў сябе больш за тры тысячы медыцынскіх тэрмінаў і дае іх тлумачэнне.
Дадзены дапаможнік прызначаны для студэнтаў лячэбнага, педыятрычнага, медыка-псіхалагічнага, медыка-дыягнастычнага факультэтаў, але можа быць выкарыстаны выкладчыкамі і студэнтамі іншых спецыяльнасцей вышэйшых і сярэдніх спецыяльных медыцынскіх навучальных устаноў, медыцынскім персаналам устаноў аховы здароўя, усімі, хто цікавіцца беларускай прафесійнай лексікай.

**УДК 811.161.1+811.161.3] : 61 : 001.4(038)**
**ББК 81.2 Рус–4**

**ISBN 978-985-496-861-2**

© Варанец В.І., 2011
© УА «ГДМУ», 2011

## *Ад аўтара*

Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў – першае выданне падобнага тыпу ў беларускім мовазнаўстве. Ён змяшчае больш за тры тысячы медыцынскіх тэрмінаў і тлумачэнняў да і х. Прычым, каля 2000 уласнабеларускіх. Сфера ўжывання беларускай мовы з кожным годам пашыраецца не толькі ў грамадскім і культурным жыцці Беларусі, але і ў навуковым і прафесійным. У сваю чаргу медыцына – адна з найбольш запатрабаваных галін грамадскай зацікаўленасці. Дадзены слоўнік разлічаны ў першую чаргу на вялікую беларускамоўную плынь нашага насельніцтва, а таксама на работнікаў аховы здароўя, якім досыць часта прыходзіцца сутыкацца з носьбітамі беларускай мовы. Слоўнік будзе запатрабаваным пры выкладанні курса “Беларуская мова. Прафесійная лексіка” на лячэбным, педыятрычным, медыка-псіхалагічным, медыка-дыягнастычным факультэтах медыцынскіх ўніверсітэтаў. Зацікавіць кніга і спецыялістаў-мовазнаўцаў , а таксама ўсіх прыхільнікаў беларускага слова.

## *Рускі алфавіт*

Аа, Бб, Вв, Гг, Дд, Ее, Ёё, Жж, Зз, Ии, Йй, Кк, Лл, Мм, Нн, Оо, Пп, Рр, Сс, Тт, Уу, Фф, Хх, Цц, Чч, Шш, Щщ, Ъъ, Ыы, Ьь, Ээ, Юю, Яя.

## *Скарачэнні*

м.р. – мужчынскі род
н.р. – ніякі род
ж.р. – жаночы род
мн.л. – множны лік

# ЗВЕСТКІ ДЛЯ КАРЫСТАЛЬНІКАЎ СЛОЎНІКА

Слоўнікавыя артыкулы змяшчаюцца ў дапаможніку ў алфавітным парадку.

У беларускім варыянце пастаўлены значок націску ( / ) пасля націскной літары ва ўсіх словах, за выключэннем аднаскладовых, і вызначаны род, за выключэннем слоў множнага ліку: **абсо/рбцыя (ж. р.), нядо/дых (м.р.), гіпапно/э (н.р.)**. У складаных словах ставіцца адзін націск, напр. **агранулацыто/з (м.р.)** , **спіраметры/я (ж.р.)**.

Назоўнікі падаюцца ў назоўным склоне адзіночнага ліку, пасля ўказваецца род назоўніка. У назоўным склоне множнага ліку падаюцца назоўнікі, якія або зусім не маюць адзіночнага ліку, або ўжываюцца пераважна ў множным ліку, напр**. гла/нды, ві/тавы ско/кі**.

Прыметнікі падаюцца ў назоўным склоне мужчынскага роду ў поўнай форме, напр. **зало/зісты, нерво/вы**. Калі мужчынскі род не ўжываецца ці ўжываецца рэдка, гэта адзначаецца ў адпаведных выпадках.

Дзеясловы падаюцца ў інфінітыве.

Калі патрэбна, паказваецца моцнае кіраванне дзеяслова і назоўніка, г.зн. якога склону яны патрабуюць, што і абазначаецца склонавымі пытаннямі: *каго-чаго* (родны склон), *каму-чаму* (давальны склон), *каго-што* (вінавальны склон), *кім-чым* (творны склон), *пры кім-чым* (месны склон) і пад. Калі слова кіруе толькі адушаўлёным назоўнікам, то ў склонавым пытанні даецца толькі займенні *хто* (*каго, кім* і г.д.), а ў вінавальным *каго* (*што*) для адрознення з родным. Калі слова кіруе толькі неадушаўлёным назоўнікам, то ў склонавым пытанні даецца толькі займеннік *што* (*чаго, чым* і г.д.).

Асноўным прынцыпам перакладу рускіх слоў у слоўніку з'яўляецца выяўленне найбольш дакладнага эквівалента для кожнага слова і яго значэння. Калі

рускае слова перакладаецца некалькімі адназначнымі беларускімі словамі, то на першае месца ставіцца ўласнабеларускае слова.

Для зручнасці карыстання ў канца дапаможніка прыводзіцца “Беларуска-рускі слоўнік”.

# -А-

**Абазия** – абазі/я (ж. р.) – *няздольнасць хадзіць, якая звязана з разладам раўнавагі цела або з рухавымі пашкоджаннямі ніжніх канцавін.ъ*

**Абдоминальный** –брухаві/нны, абдаміна/льны – *якi адносіцца да жывата.*

**Абиотрофия** – абіятрафі/я (ж. р.) – *схаваная анамалія органа ці сістэмы арганізма, якая характарызуецца рэзкім зніжэннем адаптацыйных магчымасцей і праяўляецца ў расслабленні функцый пры звычайным ладзе жыцця.*

**Абластика** – абла/стыка (ж. р.) – *хірургічны прынцып прафілактыкі рэцыдыву і метастазіравання злаякаснай пухліны, якая заключаецца ў яе знішчэнні адным блокам са шляхамі лімфаадтоку ў межах здаровых тканак.*

**Аблефария** – аблефары/я (ж. р.) – *анамалія развіцця: адсутнічаюць павекі і вочныя шчыліны.*

**Абляция** – абля/цыя (ж. р.) - *хірургічная аперацыя па выдаленні органа або якой-н. часткі цела.*

**Аборт** – спаро/н (м.р.), або/рт (м. р.) – *дачаснае адвольнае або штучнае спыненне цяжарнасці, спарон.*

**Абортцанг** – абартца/нг (м. р.) – *заціскач для захопу і выдалення з маціцы частак плоднага яйца пры аборце.*

**Абсанс** – абса/нс (м. р.) – *кароткачасовая страта свядомасці з наступным бяспамяццем.*

**Абсентизм** – абсэнты/зм (м. р.) – *форма хранічнага алкагалізму, якая ўзнікае з прычыны злоўжывання абсэнтам.*
**Абсорбацыя** – усмо/ктванне (н. р.), абсарба/цыя (ж. р.) – *паглынанне рэчыва з раствору або газу ўсім аб'ёмам цвёрдага рэчыва ці вадкасці.*
**Абсолютный** – безу/моўны - *1) безумоўны, неабмежаваны, які па-за ўсякім параўнаннем; 2) поўны, канчатковы.*
**Абсорбция** – абсо/рбцыя (ж. р.) – *паверхневае паглыбленне, усмоктванне.*
**Абстиненция** – абстыне/нцыя (ж. р.) – *стан, які ўзнікае ў выніку раптоўнага спынення прыёму рэчыва, які выклікае залежнасць, або пасля ўвядзення іх антаганістаў; характарызуецца псіхічнымі, вегетатыўна-саматычнымі расстройствамі.*
**Абстракция** – абстра/кцыя (ж. р.) – *1) тое, што і абстрагаванне; 2) адцягненае паняцце, тэарэтычнае абагульненне.*
**Абсцесс** – абсцэ/с (м. р.) – *гнойны нарыў; запаленне тканак якога-н. органа з нагнаеннем.*
**Авитаминоз** – авітаміно/з (м. р.) – *хвароба, якая развіваецца пры адсутнасці або недахопе вітамінаў у ежы.*
**Автоматизм** – самачы/ннасць (ж. р.), аўтаматы/зм (м. р.) – *механічнасць, несвядомасць, неадвольнасць (дзеянняў, рухаў).*
**Автономный** – са/масны, аўтано/мны – *які карыстаецца аўтаноміяй, мае аўтаномію.*
**Агглютинация** – злі/панне (н.р.), аглюцына/цыя (ж.р.) – *зліпанне і выпадзенне ў асадак узважаных часціц.*
**Аггравация** – абцяжа/ранне (н.р.), аграва/цыя (ж.р.) – *перавелічэнне хворым сімптомаў захворвання.*
**Агнозия** – непазнава/нне (н.р.), агно/зія (ж.р.) – *парушэнне працэсу пазнавання прадметаў і з'яў пры захаванні функцый органаў пачуццяў.*

**Агония** – кана/нне (н.р.), аго/нія (ж.р.) – *перадсмяротны стан арганізма.*
**Агорафобия** – агорафабі/я (ж.р.) – *дакучлівы страх: боязь адкрытых памяшканняў.*
**Агранулоцит** – агранулацы/т (м.р.) – *лейкацыт, цытаплазма якога не мае зярністасці.*
**Агранулоцитоз** – агранулацыто/з (м.р.) – *сіндром, які характарызуецца адсутнасцю гранулацытаў у перыферычнай крыві.*
**Аграфия** – аграфі/я (ж.р.) – *парушэнне здольнасці пісаць правільна па сэнсу і форме пры захаванні рухальнай функцыі рукі.*
**Аграмматизм** – мовазру/х (м.р.), аграматы/зм (м.р.) – *парушэнне здольнасці карыстацца граматычным ладам мовы*
**Агрегация** – агрэга/цыя (ж.р.) – *аб'яднанне аднародных ці разнастайных часцінак у адно цэлае пры дапамозе фізічных сіл счаплення.*
**Агрессивный** – зачэ/пны, агрэсі/ўны – *захопніцкі, варожы, наступальны.*
**Агрипния** – агрыпні/я (ж.р.) – *расстройства сну, якое праяўляецца парушэннем засынання.*
**Адактилия** – адактылі/я (ж.р.) – *анамалія развіцця: адсутнасць пальцаў.*
**Адамантиома** – адамантыно/ма (ж.р.) – *дабраякасная эпітэліяльная пухліна.*
**Адамантома** – адаманто/ма (ж.р.) – *анамалія развіцця зуба: вузелковае ўшчыльненне яго шыйкі.*
**«Адамово яблоко»** – ко/ўцік (м.р.),” ада/мавы я/блык” (м.р.) – *выступ шчытападобнага храстка.*
**Адаптация** – прыстасава/нне (н.р.), адапта/цыя (ж.р.) – *прыстасаванне арганізма або органаў пачуццяў да навакольных умоў.*
**Адгезивность** – прымацава/льнасць (ж.р.), адгезі/ўнасць (ж.р.) – *запаволенае мысленне з ухілам да захрасання на адной тэме ці дэталі.*
**Адгезия** – прымацава/нне (н.р.), адгезі/я (ж.р.) – *злучэнне дзвюх розных паверхняў, напрыклад,*

*паверхняў суставаў, пры дапамозе валакністай злучальнай тканкі, якая ўтвараецца на месцы запалення ці траўмы.*
**Адекватный** – адпаве/дны, адэква/тны – *які цалкам адпавядае чаму-н.*
**Аденит** – адэні/т (м.р.) – *запаленне лімфатычных вузлоў.*
**Аденоакантома** – адэнааканто/ма (ж.р.) – *разнавиднасць раку.*
**Аденовирус** – адэнаві/рус (м.р.) – *узбуджальнік кан'юктывіту, запалення верхніх дыхальных шляхоў, пнеўманіі.*
**Аденогипофиз** – адэнагіпо/фіз (м.р.) – *пярэдняя доля гіпофізу.*
**Аденоид** – адэно/ід (м.р.) – *глоткавая міндаліна – няпарнае скапленне лімфоіднай тканкі звода і задняй сценкі глоткі.*
**Аденоидит** – адэнаіды/т (м р.) – *запаленне глоткавай міндаліны.*
**Аденолипома** – адэналіпо/ма (ж.р.) – *ліпома, якая мае залозныя элементы.*
**Аденома** – адэно/ма (ж.р.) – *дабраякасная пухліна, якая мае падобную будову з тканкай залоз.*
**Аденоматоз** – адэнамато/з (м.р.) – *наяўнасць шматлікіх адэном.*
**Аденоектомия** – адэнаэктамія/ (ж.р.) – *хірургічная аперацыя па выдаленні адэномы чалясніцы.*
**Аденомиоз** – адэнаміё/з (м.р.) – *від эндаметрыёзу, пры якім эндаметрыяльная тканка разрастаецца ў міяметрыі; няправільнае размяшчэнне тканак.*
**Аденомиома** – адэнаміё/ма (ж.р.) – *1) тканкавы комплекс пухлінападобнага выгляду, які складаецца з эпітэліяльных (залозістых) і гладкацяглічных элементаў, як правіла без прыкмет росту.*
**Аденомит** – адэнамі/т (м.р.) – *запаленчы працэс у адэматозна зменевай чалясніцы.*
**Аденотомия** – адэнатамі/я (ж.р.) – *хірургічная аперацыя па выдаленні адэноідаў.*

**Аденотрихия** – адэнатрыхі/я (ж.р.) – *агульная назва розных парушэнняў росту валасоў, абумоўленых паталагічнымі зменамі іх фалікулаў.*
**Аденофлегмона** – адэнафлегмо/на (ж.р.) – *гнойнае запаленне абалонкі, якая акружае лімфатычныя вузлы; звычайна ўскладненне вострага лімфадэніту.*
**Аденоцистома** – адэнацысто/ма (ж.р.) – *агульная назва дабраякасных эпітэліяльных пухлін яечніка, якія часта ўтвараюць кісты.*
**Аденоциты** – адэнацы/ты – *залозістыя каморкі пярэдняй долі гіпофіза.*
**Адентия** – адэнты/я (ж.р.) – *адсутнасць, страта зубоў з прычыны якіх-н. чыннікаў. Гэтымі чыннікамі могуць быць карыес і яго ўскладненні, траўма і інш.*
**Адермин** – адэрмі/н (м.р.) – *састарэлая назва вітаміна В6, ці пірыдаксіну.*
**Адермия** – адэрмі/я (ж.р.) – *анамалія развіцця: дэфект ці адсутнасць скуры.*
**Адинамия** – не/марач (ж.р.), адынамі/я (ж.р.) – *празмерная слабасць, недахоп сіл, немагчымасць хадзіць, стаяць, сядзець, паніжэнне разумовай дзейнасці, хваравітая апатыя, нерухомае становішча ў пасцелі.*
**Аднексит** – аднексі/т (м.р.) – *запаленне, захворванне мацічных труб і яечнікаў, якія маюць падобны патагенэз і клініку.*
**Адаптивный** – прыстасо/ўчы, адапты/ўны – *арганізм або орган пачуццяў, які мае ўласцівасць прыстасоўвацца да навакольнага асяроддзя (умоў).*
**Адреналектомия** – адрэналектамі/я (ж.р.) – *выдаленне наднырачнікаў.*
**Адреналин** – адрэналі/н (м.р.) – *асноўны гармон мазгавога рэчыва наднырачнікаў, а таксама нейрамедыятар. Па клінічнай будове з'яўляецца катэхаламінам. Утрымліваецца ў розных органах і тканках, у значнай колькасці ўтвараецца ў храматафіннай тканцы, асабліва ў мазгавым рэчыве наднырачнікаў.*

**Адсорбция** – паглына/нне (н.р.), адсо/рбцыя (ж.р.) – *паглынанне часцінак газу або асобных састаўных часцінак раствору паверхневым пластом другога рэчыва.*
**Ажитация** – ажыта/цыя (ж.р.) – *моцная эмацыйная ўзрушанасць, якая суправаджаецца пачуццём трывогі і страху.*
**Азигография** – азігагра/фія (ж.р.) – *рэнтгеналагічнае даследаванне судзін.*
**Азоаспермия** – азоаспермі/я (ж.р.) – *поўная адсутнасць народкаў у семяннной вадкасці.*
**Азотемия** – азатакро/віца (ж.р.), азатэмі/я (ж.р.) – *наяўнасць у крыві залішняй колькасці мачавіны і іншых азотаскладальных злучэнняў, якія з'яўляюцца прадуктам жыццядзейнасці арганізма.*
**Акантоз** – аканто/з (м.р.) – *павелічэнне колькасці шыпаватых каморак эпідэрмісу ў яго растковым слаі, якое прыводзіць да патаўшчэння.*
**Акапния** – няча/днасць (ж.р.), акапні/я (ж.р.) – *гэта адсутнасць або значнае памяншэнне колькасці вуглекіслаты ў крыві.*
**Акариаз** – акарыя/з (м.р.) – *гэта захворванне, якое выклікаюць кляшчы, а таксама сімптомы гэтых захворванняў, узнікненне якіх найбольш верагодна ў выніку ўкусу кляшча.*
**Акарофобия** – акарафо/бія (ж.р.) – *дакучлівы страх, боязь захварэць на каросту.*
**Акаталазия** – акаталазі/я (ж.р.) – *гэта прыроджаная адсутнасць або нізкі ўзровень каталазы крыві, якая прыводзіць да інфекцыі і раскеліны дзясны і слізніцы падзі.*
**Акинезия** – акінезі/я (ж.р.) – *гэта парушэнне нармальнага тонусу цягліц або іх чуйнасці.*
**Акиноспермия** – акінаспермі/я (ж.р.) – *нерухомасць народкаў у сперме.*
**Аккомодация** – дапасава/нне (н.р.), акамада/цыя (ж.р.) – *прыстасаванне (арганізма). Акамадацыя вока*

*(здольнасць вока прыстасоўвацца да разгляду прадметаў на розных адлегласцях).*
**Акме – акмэ**/ (н.р.) – *1) найвышэйшая кропка тэмпературнай крывой; 2) кульмінацыя хваробы.*
**Акортицизм** – акартыцы/зм (м.р.) – *клінічны сіндром, які назіраецца ў навародкаў, адсутнасць функцыі надныркавай залозы.*
**Акроалгия** – акраалгі/я (ж.р.) – *гэта боль у канцавінах.*
**Акрогерия** – акрагеры/я (ж.р.) – *спадчынная хвароба, якая характарызуецца атрафіяй скуры.*
**Акродерматит** – акрадэрматы/т (м.р.) – *паражэнне аддзелаў канцавін.*
**Акромегалия** – акрамегалі/я (ж.р.) – *хвароба, якая характарызуецца вялікім ростам.*
**Акромион** – надпле/чнік (м.р.), акраміё/н (м.р.) – *дайгаваты атожылак у верхняй часткі лапаткі.*
**Акросклероз** – акрасклеро/з (м.р.) – *скурнае захворванне, якое лічыцца разнавіднасцю генералізаванай склерадэрміі.*
**Акротизм** – акраты/зм (м.р.) – *адсутнасць або недатыкальнасць тутна пры пальпацыі.*
**Акротрофоневроз** – акратрофанеўро/з (м.р.) – *парушэнне жыўлення пераважна дыстальных аддзелаў канцавін, якое суправаджаецца разладам перыферычнага кровазвароту.*
**Акрофобия** – акрафабі/я (ж.р.) – *дакучлівы страх: боязь вышыні ці высокіх месцаў, якая суправаджаецца заваротам галавы.*
**Акроцефалия** – акрацэфалі/я (ж.р.) – *анамальная формы чэрапа ў выглядзе вежы.*
**Акроцианоз** – акрацыяно/з (м.р.) – *сінюшнасць канцавін.*
**Акроэстезия** – акраэстэзі/я (ж.р.) – *павышаная адчувальнасць дыстальных аддзелаў цела.*
**Акселерация** – акселерацы/я (ж.р.) – *паскарэнне плоцевага даспявання, фарміравання, росту, развіцця.*

**Аксон** – аксо/н (м.р.) – *адростак нервовай каморкі (нейрона), які перадае нервовы штуршок за межы каморкі.*
**Аксонный холмик** – грудо/к аксо/ну (м.р.) – *вырост цела нейрона, які з'яўляецца месцам адыходу аксону.*
**Активирование** – актывава/нне (н.р.) – *прывядзенне ў дзеянне.*
**Активность** – акты/ўнасць (ж.р.) – *1) (у біялогіі) уласцівасць жывых арганізмаў, якая выяўляецца ў іх здольнасці пераадольваць або выкарыстоўваць вонкавыя ўздзеянні для рэалізацыі сваіх патрэб; 2) дзейснасць, энергічнасць; 3) хуткае развіццё.*
**Актиномицин** – актынаміцы/н (м.р.) – *група падобных па хімічнай будове і фізічных уласцівасцях антыбіётыкаў.*
**Актиномикоз** – актынаміко/з (м.р.) – *хранічная інфекцыйная хвароба чалавека і жывёлы, выкліканая актынаміцэтамі і якая характарызуецца гранулематознай паразай тканак і арганізмаў з развіццём шчыльных інфільтраў, утварэннем абсцэсаў.*
**Актинотерапия** – актынатэрапі/я (ж.р.) – *лячэнне розных захворванняў інфрачырвоным ці ультрафіялетавым выпраменьваннем.*
**Актография** – актаграфі/я (ж.р.) – *рэгістрацыя рухальнай актыўнасці чалавека для адзнакі яе змен у часе.*
**Актомиозин** – актаміязі/н (м.р.) – *складаны бялок цяглічных валокнаў, які абумоўлівае іх скарачальную здольнасць і складаецца з актыну і міязіну.*
**Акушер** – акушэ/р (м.р.) – *урач, спецыяліст па акушэрству.*
**Акцептор** – прыйма/ч (м.р.), акцэ/птар (м.р.) – *рэчыва, якое палягчае працэс акіслення рэчыва з паніжанай канцэнтрацыяй шляхам прыняцця дадатковай колькасці іонаў вадароду.*
**Алалия** – слыхане/масць (ж.р.), алалі/я (ж.р.) – *параза маторнай функцыі мозгу.*

**Алексия** – алексі/я (ж. р.) – *набытая няздольнасць чытаць, звязаная з захворваннем левага паўшар'я галаўнога мозгу ў людзей, якія пішуць правай рукой.*
**Алимфоплазия** – алімфаплазі/я (ж.р.) – *анамалія развіцця: адсутнасць вілачкавай залозы; можа спалучацца з гіпаплазіяй усёй лімфоіднай тканкі.*
**Алкалоз** – алкало/з (м.р.) – *форма парушэння кіслотна-лужнай раўнавагі ў арганізме, якая характарызуецца зрухам суадносін паміж аніёмамі і катыёнамі ў крыві ў бок павелічэння катыёнаў.*
**Алкоголеметрия** – алкаголеметры/я (ж.р.) – *сукупнасць метадаў вызначэння ўзроўню алкаголю ў крыві.*
**Алкоголизм** – алкагалі/зм (м.р.) – *сістэматычнае бязмернае ўжыванне спіртных напіткаў у мерках, якія выклікаюць алкагольнае ап'яненне, залежнасць ад алкаголю.*
**Алкоголь** – алкаго/ль (м.р.) – *1) аднаатамны спірт; 2) наогул віно, спіртныя напіткі.*
**Аллерген** – іншачы/ннік (м.р.), алерге/н (м.р.) – *1) рэчывы антыгенаў, здольныя сенсібілізаваць арганізм і выклікаць іншачыннасць; 2) прэпарат для дыягностыкі і лячэння іншачынных захворванняў.*
**Аллергия** – іншачы/ннасць (ж.р.), алергі/я (ж.р.) – *павышаная адчувальнасць арганізма да якога-н. рэчыва, што выклікае хваравіты стан.*
**Аллерголог** – алерго/лаг (м.р.) – *спецыяліст (урач), які займаецца вывучэннем і лячэннем іншачыннасці.*
**Аллометрия** – аламетры/я (ж.р.) – *нераўнамерны рост частак цела.*
**Аллопат** – алапа/т (м.р.) – *урач-спецыяліст, які займаецца вывучэннем і лячэннем нераўнамернага росту частак цела.*
**Алопеция** – алапецы/я (ж.р.) – *трывалае або часовае, поўнае або частковае выпадзенне (адсутнасць) валасоў.*

**Алоэ** – алья/с (м.р.) – *шматгадовая травяністая трапічная расліна з тоўстым мясістым лісцем, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне.*
**Альбинизм** – альбіні/зм (м.р.) – *прыроджаная адсутнасць пігменту скуры, валасоў, райковай і пігментнай абалонкі вока.*
**Альбумин** – альбумі/н (м.р.) – *асноўны бялок плазмы крыві.*
**Альвеола** – пухі/рык (м.р.), альвэ/ля (ж.р.) – *канцавая частка дыхальнага апарата ў лёгкім, якая мае форму пухірыка, які адкрыты ў прасвет дыхальнага ходу.*
**Альдостерон** – альдастэро/н (м.р.) – *асноўны мінерала кортыкастэроідны гармон кары наднырачнікаў у чалавека.*
**Альтерация** – няве/чанне (н.р.), альтэра/цыя (ж.р.) – *змяненне структуры і функцыі каморак, тканак і органаў пад уздзеяннем шкодных агентаў.*
**Альфа-терапия** – а/льфа-тэрапі/я (ж.р.) – *від прамянёвай тэрапіі з лячэбным выкарыстаннем альфа-часціц.*
**Амбиверт** – амбіве/рт (м.р.) – *індывід, які мае сярэднія паказчыкі па шкале экстраверсіі.*
**Амблиопия** – амбліяпі/я (ж.р.) – *паслабленне зроку функцыянальнага і другаснага характару, якое не паддаецца выпраўленню з дапамогаю акуляр ці кантактных лінзаў.*
**Амбулаторыя** – амбулато/рыя (ж.р.) – *медыцынская ўстанова, у якой аказваюць дапамогу хворым, якія прыходзяць або знаходзяцца дома, але ім не прадстаўляюць бальнічных месцаў.*
**Аменорея** – аменарэ/я (ж.р.) – *адсутнасць аплаваў.*
**Амёбиаз** – амёбія/з (м.р.) – *хранічнае захворванне: рэцыдывавальны гемарагічна-раскелінавы каліт, часам з абсцэсамі ў іншых органах.*
**Амигдала** – амігда/ла (ж.р.) – *(тое, што і мігдаліна)* – *анатамічны тэрмін, які пазначае субкартыльнае базальнае ядро.*

**Амилаза** – аміла/за (ж.р.) – *фермент, які расшчапляе крухмал да алігасахарыдаў.*
**Амилоидоз** – амілаідо/з (м.р.) – *бялкова-вугляродная дыстрафія, сістэмнае адкладанне ў тканках бялковага рэчыва – амілоіду.*
**Амимия** – амімі/я (ж.р.) – *адсутнасцьківамігаў.*
**Амиостения** – аміястэні/я (ж.р.) – *цяглічная слабасць. Назіраецца пры арганічных захворваннях цэнтральнай нервовай сістэмы і неўрозах.*
**Аммиак** – амія/к (м.р.) – *(нашатыр) – газ з рэзкім задушлівым пахам.*
**Амитоз** – аміто/з (м.р.) – *дзяленне каморкі без утварэння верацяна дзялення.*
**Амнезия** – бяспа/мяцце (н.р.), амнезі/я (ж.р.) – *адсутнасць успамінаў або няпоўныя ўспаміны аб падзеях вызначанага перыяду.*
**Аморфный** – амо/рфны – *1) які не мае правільнай крышталічнай будовы; 2) бясформенны, расплывісты.*
**Ампелотерапия** – ампелатэрапі/я (ж.р.) – *лячэнне вінаградам.*
**Ампула** – ду/цік (м.р.), а/мпула (ж.р.) – *герметычна запаяная шкляная пасудзіна.*
**Ампутация** – адня/цце (н.р.), ампута/цыя (ж.р.) – (чаго) – *усячэнне дыстальна размешчанай часткі органа.*
**Амузия** – амузі/я (ж.р) – *страта здольнасці разумець музыку, пісаць і чытаць ноты, якая ўзнікае пры паразе скроневых аддзелаў шкарупы правай паўкулі за кошт парушэння музычнага слыху.*
**Анабиоз** – анабіё/з (м.р.) – *стан жывога арганізма, пры якім жыццёвыя працэсы (абмен рэчываў і інш.) настолькі запаволеныя, што адсутнічаюць усе бачныя праявы жыцця.*
**Анаболизм** – анабалі/зм (м.р.) – *сукупнасць хімічных працэсаў, якія складаюць адзін з бакоў абмену рэчываў у арганізме, накіраваных на шварэнне састаўных частак каморак і тканак.*

**Анагенез** – анагенэ/з (м.р.) – *тып эвалюцыйнага працэсу, які характарызуецца ўскладненнем органаў, удасканаленнем іх дзейнасці і развіцця.*
**Анакрота** – анакро/та (ж.р.) – *узыходнае калена тутной крывой.*
**Аналгезия** – бязбо/льнасць (ж.р.), аналгезі/я (ж.р.) – *з'ява памяншэння адчувальнасці. Назіраецца пры некаторых захворваннях нервовай сістэмы.*
**Аналгезирующие средства** – болепато/льныя ( аналгезірава/льныя) сро/дкі (мн.л.) – *лекавыя сродкі, якія памяншаюць або ліквідуюць боль (наркатычныя сродкі, антыбіётыкі).*
**Анализ** – раскла/д (м.р.), ана/ліз (м.р.) – (чаго) – *тэст ці проба, якая дазваляе вызначыць моц раствору, прапорцыі рэчываў у сумесі, уласцівасці лекавых сродкаў. У псіхалогіі разуменне складаных разумовых працэсаў.*
**Анализатор** – раскладa/льнік (м.р.), аналіза/тар (м.р.) *1) прыбор для вызначэння характару палярызацыі святу; 2) элемент анатама-фізіялагічнай сістэмы чалавека і жывёл, якія выконваюць функцыю ўспрымання раздражненняў, што паступаюць з вонкавага і ўнутранага асяроддзя, ператвараюць іх у вызначаныя адчуванні і фізіялагічнае тлумачэнне.*
**Анальгезия** – анальгезі/я (ж.р.) – *паніжаная або поўная нячуйнасць да болю, адсутнасць адчування болю.*
**Анальный** – ана/льны – *мае дачыненне да ануса.*
**Анамнез** – ана/мнэз – *сукупнасць звестак, якія ўрач атрымоўвае ад пацыента ці ад яго знаёмых (умовы жыцця, перанесеныя хваробы і г.д.).*
**Анартрия** – анартры/я (ж.р.) – *запаволенасць мовы праз парушэнні артыкуляцыі, якія ўзнікаюць у выніку пашкоджванняў цягліц ці нерваў, што прымаюць удзел у маўленні.*
**Анасарка** – анаса/рка (ж.р.) – *рэзкі ацёк ног, тулава і плоцевых органаў у выніку затрымання вадкасці ў арганізме; часта ўзнікае пры хваробах сэрца ці нырак.*

**Анастамоз** – злучэ/нне (н.р.), анастамо/з (м.р.) – *злучэнне ў арганізме паміж дзвюма судзінамі.*
**Анатом** – ана/там (м.р.) – *вучоны, які вывучае і мае трывалыя веды па анатоміі.*
**Анатомия** – анато/мія (ж.р.) – *навука пра будову жывых арганізмаў; будова арганізма, органаў.*
**Анафилаксия** – анафілаксі/я (ж.р.) – *від іншачыннай рэакцыі.*
**Анаэроб** – анаэро/б (м.р.) – *арганізмы, здольныя да жыцця пры адсутнасці кіслароду.*
**Анаэробиоз** – анаэрабіё/з (м.р.) – *жыццё без дастаўкі кіслароду.*
**Ангедония** – жыццяспа/д (м.р.), ангедані/я (ж.р.) – *псіхічнае парушэнне, якое звазана са стратай пачуцця радасці, задавальнення ад жыцця.*
**Ангина** – зава/лкі (м.л.), ангі/на (ж.р.) – *запаленне слізістай абалонкі зеву, міндалін.*
**Ангиограмма** – ангіягра/ма (ж.р.) – *метад рэнтгеналагічнага даследавання.*
**Ангиома** – ангіё/ма (ж.р.) – *дабраякасная пухліна, якая развіваецца з крывяносных (гемангіёма) або лімфатычных (лімфагіёма) судзін.*
**Ангиоспазм** – ангіяспа/зма (ж.р.) – *спазматычнае звужэнне прасвету дробных лутніц і капіляраў з рэзкім абмежаваннем або спыненнем крывятоку ў іх.*
**Андроген** – андраге/н (м.р.) – *гармоны мужчынскіх палавых залоз і кары наднырачнікаў, якія рэгулююць развіццё мужчынскіх другасных плоцевых адзнак.*
**Аневризма** – пашырэ/нне (н.р.), анеўры/зма (ж.р.) – *пашырэнне прасвету крывяноснай судзіны або паражніны сэрца праз паталагічныя змяненні іх сценак або анамаліі развіцця.*
**Анемия** – недакро/віца (ж.р.), анемі/я (ж.р.) – *стан, які характарызуецца зніжэннем утрымання гемаглабіну ў адзінцы аб'ёму крыві, часцей за ўсё пры аднaчасовым памяншэнні эрытрацытаў.*
**Анергия** – анергі/я (ж.р.) – *1) поўная адсутнасць рэакцый арганізма на пэўныя раздражняльнікі; 2) у*

*псіхіятрыі – зніжэнне псіхічнай, рухальнай і маўленчай дзейнасці.*
**Анестезин** – анестэзі/н (м.р.) – *рэчыва для анестэзіі.*
**Анестезиолог** – анестазіё/лаг (м.р.) – *урач-спецыяліст, які атрымаў спецыяльную падрыхтоўку па пытаннях абязбольвання і ўпраўлення жыццёва важнымі функцыямі арганізма пад час хірургічнага ўмяшання.*
**Анестезиология** – анестазіяло/гія (ж.р.) – *раздзел клінічнай медыцыны, які вывучае пытанні абязбольвання і ўпраўлення жыццёва важнымі функцыямі арганізма пад час хірургічных умяшанняў.*
**Анестезия** – анестэзі/я (ж.р.) – *адсутнасць адчувальнасці.*
**Анизокория** – анізакары/я (ж.р.) – *няроўнасць дыяметраў зрэнак правага і левага вока.*
**Анимизм** – анімі/зм (м.р.) – *сістэма ўяўленняў пра існаванне ў чалавека, жывёлы, расліны, прадметаў духа, душы; адухаўленне сіл і з'яў прыроды.*
**Анион** – аніо/н (м.р.) – *адмоўна зараджаны іон.*
**Анкилоз** – анкіло/з (м.р.) – *адсутнасць рухомасці ў суставе з прычыны запалення, траўмы.*
**Аномалия** – анама/лія (ж.р.) – *адхіленне ад нормы.*
**Аномия** – анамі/я (ж.р.) – *анармальныя паводзіны (апатыя, расчараванне), працэс разбурэння базавых элементаў культуры ў аспекце этычных норм.*
**Анорексия** – анарэксі/я (ж.р.) – *поўная адсутнасць апетыту пры наяўнасці фізіялагічнай патрэбы ў харчаванні.*
**Аносимия** – аню/хасць (ж.р.), анасімі/я (ж.р.) – *адсутнасць функцыі нюху.*
**Анофтальм** – анафта/льм (м.р.) – *адсутнасць аднаго або абодвух вочных яблыкаў.*
**Антагонизм** – супраці/ўнасць (ж.р.), антагані/зм (м.р.) – *супрацьлеглае дзеянне, процідзеянне органаў, хімічных рэчываў, мікраарганізмаў.*
**Антиалкогольный** – антыалкаго/льны – *накіраваны супраць алкаголю.*

**Антибиотик** – антыбіё/тык (м.р.) – *рэчыва біялагічнага паходжання, здольнае падаўляць жыццядзейнасць хваробатворных мікраарганізмаў.*
**Антиген** – антыге/н (м.р.) – *любое рэчыва ў арганізме, якое імунная сістэма прызнае “чужародным”.*
**Антидот** – адатру/та (ж.р.), антыдо/т (м.р.) – *лекі або іншыя рэчывы, якія служаць для проціdзеяння труці.*
**Антикоагулянт** – антыкаагуля/нт (м.р.) – *рэчыва, якое перашкаджае або супрацьдзейнічае каагуляцыі або згортванню крыві.*
**Антирабическая (вакцина)** – антырабі/чная (вакцына) – *выкарыстоўваецца для імунізацыі супраць шаленства.*
**Антисептика** – антысе/птыка (ж.р.) – *метад папярэджання заражэння ран і лячэнне інфікаваных ран уздзеяннем на патагенныя мікробы хімічнымі або біялагічнымі метадамі.*
**Антитела** – антыце/лы (ж.р.) – *складаныя бялкі – рэчывы, якія ўтвараюцца ў арганізме пры ўвядзенні ў яго чужародных рэчываў і нейтралізуюць іх шкоднае дзеянне.*
**Антропология** – чалавекаве/данне (н.р.), антрапало/гія (ж.р.) – *навука, якая вывучае біялагічную прыроду чалавека.*
**Антропометрия** – антрапаме/трыя (ж.р.) – *антрапалагічнае даследаванне, якое заключаецца ў вымярэнні чалавечага цела і яго частак.*
**Анурия** – ануры/я (ж.р.) – *недастатковае ўтварэнне мачы ныркамі.*
**Анус** – а/нус (м.р.) – *знешняя анальная атворына кутніцы, зачыненая кальцавой цяглiцай.*
**Аорта** – ту/тніца (ж.р.), ао/рта (ж.р.) – *галоўная лутніца ў арганізме хрыбетнікавых і чалавека, якая выходзіць з левага жалудачка сэрца і жывіць лутнічнай крывёю ўсе органы цела, акрамя лёгкіх.*
**Аортография** – тутніцапі/с (м.р.), аортаграфі/я (ж.р.) – *метад рэнтгеналагічнага даследавання тутніцы.*

**Аорталгия** – тутніцалгі/я (ж.р.), аорталгі/я (ж.р.) – *прыпадкі загрудзінных боляў, якія часам могуць пераходзіць у міжлапаткавую вобласць ці шыю, якія ўзнікаюць у сувязі з расцяжэннем паталагічна змененых сценак грудзіннай часткі тутніцы.*
**Апатия** – апа/тыя (ж.р.) – *стан душэўнай абыякавасці.*
**Апинальный** – апіна/льны – *верхавінны, накіраваны да верху.*
**Апитерапия** – апітэрапі/я (ж.р.) – *метад лячэння пчаліным ядам.*
**Аплазия** – аплазі/я (ж.р.) – *прыроджаная адсутнасць якой-н. часткі цела або органа.*
**Апноэ** – не/дых (м.р.), апно/э (н.р.) – *спыненне дыхальных рухаў.*
**Апокринный** – апакры/нны – *які адносіцца да апакрынных залоз.*
**Апоневроз** – сухажы/льнае распласта/нне (н.р.), апанеўро/з (м.р.) – *шырокая сухажыльная пласцінка, сфарміраваная са шчыльных калагенавых і эластычных валокнаў.*
**Апоплексия** – паляру/ш (м.р.), апапле/ксія (ж.р.) – *удар; гэтым імем называецца хутка надыходзячая нядольнасць мозга да функцыянавання.*
**Апофермент** – апаферме/нт (м.р.) – *бялковая частка ферментаў, для праявы якіх неабходна прысутнасць і небялковага кампанента – кафермента.*
**Апофиз** – апо/фіз (м.р.) – *узнік з самастойнага ядра акасцянення, адростак косці паблізу эпіфіза.*
**Аппарат** – апара/т (м.р.) – *1) механізм, складанае прыстасаванне; 2) спецыяльная сістэма працэдур і функцый.*
**Аппендицит** – кабыля/нец (м.р.), апендыцы/т (м.р.) – *запаленне чэрвепадобнага адростка сляпой кішкі.*
**Аппендэктомия** – кабылянцактамі/я (ж.р.), апендэктамі/я (ж.р.) – *хірургічная аперацыя па выдаленні кабылянца.*

**Апперцепция** – аперцэ/цыя (ж.р.) – *успрыманне, пазнаванне на падставе ранейшых уяўленняў і запасу ведаў.*
**Аппетит** – смач (м.р.), апеты/т(м.р.) – *жаданне есці.*
**Аппликатор** – апліка/тар (м.р.) – *прылада, якая накладаецца на пэўны участак скуры або слізістай абалонкі.*
**Апроксия** – апраксі/я (ж.р.) – *парушэнне змены формаў адвольнага і мэтанакіраванага дзеяння пры захаванні яго элементарных рухаў сілы, дакладнасці і каардынацыі.*
**Аптека** – аптэ/ка (ж.р.); фитоаптека – зе/льня (ж.р.) – *установа, дзе рыхтуюцца, захоўваюцца і прадаюцца лекі і іншыя медыцынскія тавары.*
**Аритмия** – арытмі/я (ж.р.) – *парушэнне нармальнай дзейнасці сэрцавых скарачэнняў.*
**Артериосклероз** – артэрыясклеро/з (м.р.) – *ушчыльненне прасвету лутніцы.*
**Артерия** – лу/тніца (ж.р.), артэ/рыя (ж.р.) – *крывяносная судзіна, якая нясе кроў ад сэрца да органаў і тканак.*
**Артефакт** – штучначы/н (м.р.), артэфа/кт (м.р.) – *прадмет або аб'ект, які з'яўляецца прадуктам чалавечай працы і які адрозніваецца ад прыроднага аб'екта.*
**Артралгия** – артралгі/я (ж.р.) – *боль у суставах пры розных захворваннях.*
**Артрит** – артры/т (м.р.) – *збіральнае абазначэнне любых захворванняў суставаў, можа быць асноўным захворваннем (спандылаартрыт) ці праявай іншага захворвання (раматус), вострым і хранічным, пашкоджанне аднаго ці некалькіх (паліартрыт) суставаў.*
**Артоз** – арто/з (м.р.) – *хранічнае захворванне суставаў. З'яўляецца пры парушэннях абмену рэчываў, прафесійных пашкоджаннях, хранічных траўмах.*

**Асептика** – асе/птыка (ж.р.) – *метад прафілактыкі пранікнення мікробаў у рану, тканку ці паражніну цела.*
**Асимметрия** – асіметры/я (ж.р.) – *адсутнасць парушэння сіметрыі.*
**Аскетизм** – аскеты/зм (м.р.) – *абмежаванне пачуццёвых пажаданняў, добраахвотнае перанясенне фізічнага болю, адзіноцтва.*
**Аспирация** – аспіра/цыя (ж.р.) – *1) адсмоктванне спецыяльнымі інструментамі вадкасці ці паветра з якой-н. паражніны цела; 2) трапленне пры ўдыху ў дыхальныя шляхі рэшткаў ежы, крыві пры парушэннях глытання.*
**Ассимиляция** – засвае/нне (н.р.), прыпадабне/нне (н.р.), асіміля/цыя (ж.р.) – *засваенне пажыўных рэчываў жывымі каморкамі.*
**Ассоциативный** – злуча/льны, асацыяты/ўны – *які адлюстроўвае сувязь паміж уяўленнямі.*
**Астения** – астэні/я (ж.р.) – *нервова-псіхічная слабасць, павышаная стамляльнасць, парушэнне сну.*
**Астигматизм** – астыгматы/зм (м.р.) – *скажэнне малюнка (бачання) аптычнай сістэмай.*
**Астма** – ды/хавіца (ж.р.), а/стма (ж.р.) – *прыступы задышкі ў выніку хваробы сэрца або дыхнікаў.*
**Атаксия** – атаксі/я (ж.р.) – *парушэнне каардынацыі руху.*
**Атеросклероз** – атэраскларо/з (м.р.) – *хранічнае сэрцава-судзіннае захворванне, якое характарызуецца ўтварэннем атэрасклератычных вузлікаў.*
**Атетоз** – атэто/з (м.р.) – *міжвольныя рухі з прычыны павольнага танічнага скарачэння цяглiц.*
**Атлант** –першахрыбе/тка (ж.р), атла/нт (м.р.) – *кольцападобная першая шыйная хрыбетка ў чалавека і вышэйшых хрыбетнікавых, якая злучаецца з чэрапам.*
**Атония** – атані/я (ж.р.) – *страта нармальнага тонусу цяглiц шкілета і ўнутраных органаў пры нервовых і іншых захворваннях.*

**Атопия** – атапі/я (ж.р.) – *агульная назва алергічных захворванняў, у развіцці якіх значная роля прыналежыць спадчыннасці.*
**Атракция** – атра/кцыя (ж.р.) – *рух канцавіны, накіраваны да тулава.*
**Атриовентрикулярный** – атрыявентрыкуля/рны – *перадсэрцава-жалудачкавы.*
**Атропин** – атрапі/н (м.р.) – *трутнае лекавае рэчыва, якое атрымліваюць з беладоны.*
**Атрофия** – атрафі/я (ж.р.) – *змяншэнне памераў органа або тканкі з парушэннем (заканчэннем) іх функцыі.*
**Аттитюд** – аттыцю/д (м.р.) – *аптымальнае функцыянаванне.*
**Аудиология** – аўдыяло/гія (ж.р.) – *навука аб слыху.*
**Аудиометрия** – слыхаме/ранне (н.р.), аўдыяметры/я (ж.р.) – *замер вастрыні слыху шляхам устанаўлення найменш успрымальнай сілы гуку.*
**Аускультация** – аўскульта/цыя (ж.р.) – *адзін з асноўных метадаў даследавання ўнутраных органаў выслухоўваннем гукавых з'яў, якія ўзнікаюць у іх.*
**Аутизм** – аўты/зм (м.р.) – *цяжкая анамалія псіхічнага развіцця дзіцяці, якая характарызуецца галоўным чынам парушэннем кантакту з іншымі людзьмі, эмацыянальнай халоднасцю, перверсія інтарэсаў*
**Аутоаллерген** – аўтаалерге/н (м.р.) – *алерген, які ўтвараецца ў самім арганізме; аснова ўзнікнення аўтаалергічных хвароб.*
**Аутовакцина** – аўтавакцы/на (ж.р.) – *вакцына, зробленая з бактэрый, якія выклікалі захворванне і былі ўзяты ад таго хворага, для лячэння якога вакцына і прызначаецца.*
**Аутогемотерапия** – аўтагематэрапі/я (ж.р.) – *метад лячэння ўласнай крывёю хворага, складаецца з увядзення ў цягліцу крыві, узятай з жылы.*
**Аутогенный** – аўтаге/нны – *які ўзнікае ў самім арганізме.*

**Аутогипноз** – аўтагіпно/з (м.р.) – *гіпноз, выкліканы самаўнушэннем – у супрацьлегласць гетэрагіпнозу, выклікانаму ўздзеяннем іншага чалавека.*
**Аутоиммунный** – аўтаіму/нны – *абумоўлены рэакцыямі імунітэту, накіраванымі супраць уласных тканак і органаў.*
**Аутоинтоксикация** – аўтаінтаксіка/цыя (ж.р.) – *самаатручэнне, якое выклікана атрутнымі рэчывамі, што ўтварыліся ў самім арганізме.*
**Аутопсия** – аўтапсі/я (ж.р.) – *ускрыццё трупа з дыягнастычнай або навуковай мэтай.*
**Аутоскоп** – аўтаско/п (м.р.) – *прыбор для агляду парожніны дыхніцы, ніжніх дыхальных шляхоў.*
**Аутотрансплантация** – аўтатрансплантa/цыя (ж.р.) – *перасадка ўласных тканак*
**Афазия** – афазі/я (ж.р.) – *парушэнне ўжо сфарміраванай мовы.*
**Афония** – нягу/чнасць (ж.р.), афані/я (ж.р.) – *страта гучнасці голасу.*
**Аффект** – афе/кт (м.р.) – *стан моцнага ўзбуджэння і страта самакантролю..*
**Афферентация** – цэнтраімкне/нне (н.р.), аферэнта/цыя (ж.р.) – *пастаянны паток нервовых штуршкоў, якія паступаюць у цэнтральную нервовую сістэму ад органаў пачуццяў.*
**Афферентный** – дацэ/нтравы, аферэ/нтны – *перадае штуршок ад органа да нервовага цэнтра.*
**Ахилия** – ахілі/я (ж.р.) – *адсутнасць салянай кіслаты і пепсіну ў страўнікавым соку.*
**Ахромия** – ахрамі/я (ж.р.) – *адсутнасць колеру, тыповага для пэўнай каморкі.*
**Ацетилхолин** – ацэтыльхалі/н (м.р.) – *медыятар нервовых штуршкоў у сінапсах парасімпатычных нервовых сістэмах.*
**Ацетонурия** – ацэтануры/я (ж.р.) – *павялічанае вывядзенне кетонавых цел з мачой.*
**Ацидоз** – перакісле/нне (н.р.), ацыдо/з (м.р.) – *форма парушэння кіслотна-лужнай раўнавагі ў арганізме.*

**Аэрация** – аэра/цыя (ж.р.) – *натуральнае паступленне або прымусовае ўвядзенне атмасфернага паветра ў розныя асяроддзі.*
**Аэрозоль** – аэразо/ль (ж.р.) – *безліч найдрабнейшых часцінак якога-н. рэчыва, распыленых у газах або газападобным асяроддзі.*
**Аэрозольтерапия** – аэразольтэрапі/я (ж.р.) – *метад фізіятэрапіі, які заключаецца ва ўвядзенні аэразолей біялагічна актыўных рэчываў у дыхальныя шляхі.*
**Аэроионотерапия** – аэраіонатэрапі/я (ж.р.) – *метад фізіятэрапіі, дзеючым фактарам якога з'яўляюцца пераважна аэраіоны.*
**Аэротерапия** – аэратэрапі/я (ж.р.) – *метад клімататэрапіі, заснаваны на ўздзеянні адкрытага паветра пры абароне ад прамога сонечнага выпраменьвання.*
**Аэрофобия** – аэрафабі/я (ж.р.) – *боязь скразнякоў.*

# - Б –

**Багровый** – барво/вы – *насычанага чырвонага колеру.*
**Базальный** – база/льны – *у анатоміі – асноўны, размешчаны каля асновы, звернуты або які адносіцца да яго.*
**Базилярны** – базіля/рны – *асноўны.*
**Базион** – базіё/н (м.р.) – *кроака; кропка на сярэдзіне пярэдняга боку вялікай адтуліны; самая ніжняя кропка пярэднягя боку вялікай патылічнай адтуліны на медыяльнай лініі.*
**Бактериемия** – бактэрыямі/я (ж.р.) – *наяўнасць бактэрый у крыві.*
**Бактериология** – бактэрыяло/гія (ж.р.) – *галіна мікрабіялогіі, якая вывучае будову, фізіялогію, біяхімію, генетыку, сістэматыку бактэрый, іх распаўсюджванне і ролю ў прыродзе.*

**Бактериостатический** – бактэрыястаты/чны – *здольны спыняць або запавольваць рост і размнажэнне бактэрый.*
**Бактериофаг** – бактэрыяфа/г (м.р.) – *вірус, які жыве ў бактэрыях і інфіцыруе іх.*
**Бактериурия** – бактэрыыўры/я (ж.р.) – *выдзяленне бактэрый з мачой.*
**Бактерицидный** – бактэрыцы/дны – *які забівае бактэрыі або затрымлівае іх развіццё.*
**Бактерии** – бактэ/рыі (мн.л.) – *група пракарыётных мікраарганізмаў, часцей за ўсё аднакаморкавых.*
**Баланит** – баланi/т (м.р.) – *запаленне жолуда.*
**Баллистокардиография** – балістакардыяграфі/я (ж.р.) – *метад даследавання механічных праяў сэрцавай дзейнасці, якая выяўляецца ў зруху цела чалавека.*
**Бальнеолог** – бальнеё/лаг (м.р.) – *спецыяліст па бальнеялогіі.*
**Бальнеология** – бальнеяло/гія (ж.р.) – *1) вучэнне пра мінеральны воды і водалячэнне, а таксама пра гразелячэнне, моралячэнне, кліматалячэнне і г.д.; 2) раздзел медыцынскай навукі, якая вывучае з'яўленне і фізіка-хімічныя якасці мінеральных вод, метады іх выкарыстання з лячэбна-прафілактычнай мэтай.*
**Бальнеотерапия** – бальнеятэрапі/я (ж.р.) – *сродак для павышэння аднаўленчых сіл арганізма, дапамагае арганізму пераносіць змяненні знешняга асяроддзя.*
**Бандаж** – банда/ж (м.р.) – *спецыяльны пояс, напрыклад, для прэса, пры кілах і г.д.*
**Банка** – ба/нька (ж.р) – *шкляны посуд, звычайна цыліндрычнай формы.*
**Барабанная перепонка** – бубе/нная бало/нка (ж.р) – *фіброзная пластынка, размешчаная ў адтуліне паміж слыхавым праходам і бубеннай паражнінай сярэдняга вуха.*
**Барокамера** – барака/мера (ж.р.) – *герметычна закрытае памяшканне, у якім штучна змяняецца ціск*

*паветра і даследуецца ўплыў вышыні і зmененага газавага аясяроддзя на арганізм чалавека.*
**Бароотит** – бараа/тыт (м.р.) – *запаленне сярэдняга вуха, якое ўзнікае ў выніку рэзкага калыхання атмасфернага ціску.*
**Баротерапия** – баратэрапі/я (ж.р.) – *метад лячэння, пры якім штучна змяняецца атмасферны ціск, каб павялічыць напаўненне крывёй судзін якога-н. органа або часткі цела чалавека.*
**Баротравма** – баратра/ўма (ж.р.) – *пашкоджанне паветразмяшчальных органаў у выніку рэзкага змянення бараметрычнага ціску.*
**Барьер** – бар'е/р (м.р.) – *невялікая перагародка, якой аддзяляецца што-н. ад чаго-н.*
**Батмотропное (действие)** – батматро/пнае (дзеянне) – *уздзеянне экстракардзіяльных фактараў, якія выклікаюць змену ва ўзбуджальнасці сэрцавай цягліцы.*
**Бахрома** – махо/р (м.р) – *1) няроўны край чаго-н.; 2) пялёсткі ў махровых кветках; 3) тонкія адгалінаванні кораня расліны.*
**Бдительность** – пі/льнасць (ж.р.) – *пранікліваcць, уважлівасць, бачнасць.*
**Бедренная кость** – сцягні/ца (ж.р) – *трубчатая косць ад лагва да калена.*
**Бедренный** – сцегнавы/ – *паказвае на прыналежнасць да сцягна.*
**Бедро** – сцягно/ (н.р) – *частка нагі (у жывёл – задняй канцавіны) ад тазасцегнавога да каленнага сустава..*
**Безводный** – бязво/дны – *1) пазбаўлены вады, вільгаці; 2) які не мае ў сваім складзе вады, вільгаці.*
**Безумие** – шал (м.р) – *псіхічная хвароба, звязаная з раздражненнем, нястрыманасцю.*
**Безусловный** – безумо/ўны – *неабмежаваны ніякімі ўмовамі, несумненны; бясспрэчны.*
**Безымянный (палец)** – пярсце/нец (м.р) – *чацвёрты палец на руцэ паміж сярэднікам і мезенцам.*

**Бели** – бе/лі (мн.л.) – *вылучэнні з жаночых плоцевых органаў пры запаленчых захворваннях.*
**Белок** – бяло/к (м.р.) – *1) высокамалекулярнае арганічнае злучэнне, якое забяспечвае жыццяздольнасць жывёл і раслін; 2) празрыстая частка яйка, якая бялее пры смажанні; 3) непразрыстая белая абалонка вока.*
**Белье** – бялі/зна (ж.р) – *прадмет ніжнягя адзення, тканіна або выраб з тканіны для хатніх патрэб.*
**Бельмо** – бяльмо/ (н.р.) – *белаватая пляма або патлушчэнне празарокі пасля розных яе захворванняў ці траўмы.*
**Беременеть** – цяжа/рыць – *станавіцца цяжарнай.*
**Беременность** – цяжа/рнасць (ж.р.) – *стан жанчыны (і жывародзячых наогул) у перыяд развіцця плода ў арганізме.*
**Берцовый** – галё/начны – *які адносіцца да галёнкі.*
**Беспокойный** – неспако/йны, турбо/тны – *неспакойны, той, хто заўсёды імкнецца ажыццявіць што-н.*
**Беспокойство** – неспако/й, турбо/та – *клопат, руплівасць, неспакой, жаданне ажыццявіць што-н.*
**Бессознательный** – непрыто/мны – *1) які страціў прытомнасць, знаходзіцца ў стане падучай хваробы; 2) які нічога не памятае, душэўна ўзрушаны;*
несвядо/мы – *1) які не ўсведамляе сваіх адносін да рэчаіснасці, сваіх абавязкаў; 2) які адбываецца без кантролю, свядомасці, інстынктыўна.*
**Бессонница** – бе/ссань (ж.р.), бяссо/нніца (ж.р.) – *расстройства сну, у якім праяўляецца парушэнне засынання, перарыўны, паверхневы сон або хуткае абуджэнне.*
**Бета-терапия** – бэта-тэрапі/я (ж.р.) – *від прамянёвай тэрапіі, заснаваны на ўздзеянні бэта-выпраменьваннем радыеактыўных ізатопаў на паталагічныя змяненні тканак.*
**Билиарный** – жо/ўцевы, білія/рны – *які адносіцца да жоўці.*

**Биливердин** – білiверды/н (м.р.) – *зялёны пігмент, які выяўляецца ў жоўці ў невялікіх колькасцях у сысуноў, прамежкавы прадукт распаду гемаглабіну ў печані, касы і ў касцявым мазгу хрыбетнічных жывёл.*
**Билирубин** – білірубі/н (м.р.) – *жоўта-чырвоны пігмент жоўці, які з'яўляецца дэрыватам гемаглабіну ці прадуктам аднаўлення білівердыну ў печані і інш. органах.*
**Билирубинемия** – білірубінемі/я (ж.р.) – *павышанае змесціва білірубіну ў крыві.*
**Бинокулярный** – двухво/чны, бінакуля/рны – *адначасовае функцыянаванне абодвух вачэй.*
**Биолог** – біё/лаг (м.р.) – *спецыяліст па біялогіі.*
**Биология** – біяло/гія (ж.р.) – *комплекс навук аб жывой прыродзе, аб заканамернасцях арганічнага жыцця.*
**Биометрия** – біяметры/я (ж.р.) – *раздзел біялогіі, зместам якога з'яўляецца планаванне і апрацоўка вынікаў эксперыментаў і назіранняў метадамі матэматычнай статыстыкі.*
**Бионика** – біё/ніка (ж.р.) – *навука, якая вывучае магчымасці выкарыстання ў тэхніцы кібернетычных, канструкцыйных і энергетычных прынцыпаў, рэалізаваных у жывых арганізмах.*
**Биопсия** – біяпсі/я (ж.р.) – *прыжыццёвае ўзяцце невялікага аб'ёму тканкі для мікраскапічных даследаванняў з дыягнастычнай мэтай.*
**Биотип** – біяты/п (м.р.) – *сукупнасць нязменных марфалагічных, фізіялагічных і псіхічных індывідуальных уласцівасцей чалавека, якая вызначае яго развіццё як індывідума.*
**Биохимический** – біяхімі/чны – *суадносіцца з назоўнікам біяхімія, звязаны з абменам рэчываў жывых арганізмаў.*
**Биполярный** – двухкра/йні, біпаля/рны – *1) мае два палюсы; 2) (у анатоміі) выкарыстоўваецца для апісання нейрона (нервовай каморкі), які мае два адросткі, якія адыходзяць у розных напрамках ад цела каморкі.*

**Бицепс** – бі/цэпс (м.р.) – *двухглавая цягліца пляча.*
**Близнецы** – блізня/ты (мн.л.) – *дзеці адной маці, якія нарадзіліся адначасова.*
**Близорукость** – блізару/касць (ж.р.) – *1) чалавек, які дрэнна бачыць на далёкую адлегласць; 2) недальнабачны, пазбаўлены праніклёнасці.*
**Блокада** – супы/н (м.р.), блака/да (ж.р.) – *1) акружэнне войск праціўніка, а таксама ізаляванне варожай дзяржавы; 2) адключэнне якога-н. органа ці тканкі ад цэнтральнай нервовай сістэмы.*
**Бок** – бок (м.р.) – *правая або левая частка цела.*
**Болевой** – бо/левы – *які адносіцца да болю.*
**Болезнетворный** – хваробатво/рны – *які выклікае хваробу.*
**Болезнь** – хваро/ба (ж.р) – *1) парушэнне нармальнай дзейнасці арганізма, недамаганне; 2) дрэнная схільнасць да чаго-н.*
**Болеть** –хварэ/ць – *1)* (на што, чым і без дап.) *Быць хворым на якую-н. хваробу; 2)* (за каго-што) *Трывожыцца, непакоіцца аб кім-, чым-н.; 3)* (на што і чым) *Мець дрэнную схільнасць да чаго-н.; 4)* (за каго-што) *Хваляваца за чые-н. поспехі (спартсмена, артыста і пад.).*
**Болеутоляющий** – болесуцяша/льны – *які суцяшае боль.*
**Болтающийся** – віхля/сты – *пра прадметы, якія дрэнна ляжаць ў якім-н. месцы, або пра вадкасць у посудзе; ходзіць з бока ў бок.*
**Боль** – боль (м.р.) – *адчуванне фізічнай або маральнай пакуты.*
**Больница** – бальні/ца (ж.р.) – *медыцынская ўстанова для стацыянарнага лячэння хворых.*
**Больно** – балю/ча – *калі з'яўляецца адчуванне болю.*
**Больной** – хво/ры – *1) які хварэе на яку-н. хваробу; 2) пашкоджаны хваробай (пра цела і яго часткі); які сведчыць аб хваравітым стане, аб хваробе; 4) ненатуральны, празмерны, ненармальны.*

**Большеберцовый** – вялікагалё/нкавы – *які адносіцца да косці або цяглiцы вялікай галёнкі.*
**Большой (палец)** – адзі/нец (м.р.), вялі/кі па/лец (м.р.) – *самы вялікі з усіх пальцаў на руках і нагах.*
**Болячка** – бо/лька (ж.р) – *гнойная або запалёная ранка, струп.*
**Бор** – бор (м.р.) – *1) стары сасновы лес; 2) хімічны элемент, які ўваходзіць у склад многіх мінералаў; 3) свердзел са стальной, алмазнай або карбарундавай галоўкай, які выкарыстоўваецца ў зубалячэбнай справе.*
**Бормашина** – бормашы/на (ж.р.) – *інструмент з высокай хуткасцю кручэння, які прымяняецца для выдалення часткі зубной паверхні (галоўным чынам пры лячэнні зубнога карыесу).*
**Борода** – бара/да (ж.р.) – *гэта валасяны покрыў на ніжняй частцы твару.*
**Бородавка** – баро/даўка (ж.р.) – *1) гэта невялікае вузельчыкавае ўтварэнне скуры (звычайна ў выглядзе акруглага наросту); 2) круглы нарост на кары дрэва, пладах і г.д.*
**Ботулизм** – батулі/зм (м.р.) – *вострае інфекцыйнае захворванне, якое ўзнікае ў выніку атручэння прадуктамі (звычайна кансервамі, рыбай, мясам, грыбамі), якія заражаны анаэробнымі мікробамі, і характарызуецца цяжкім паражэннем нервовай сістэмы.*
**Боязнь** – бо/язь (ж.р.) – *неспакой, страх.*
**Боярышник** – глог (м.р.) – *калючае дрэва ці хмызняк сямейства ружовакветкавых, некаторыя віды якога выкарыстоўваюцца як зялёная загарадзь, дэкаратыўныя расліны, а плады ў фармакалогіі.*
**Брадикардия** – брадыкарды/я (ж.р.) – *змяншэнне частасці сэрцавых скарачэнняў ніжэй за 60 уд./ хв.*
**Брегма** – брэ/гма (ж.р.) – *гэта антрапаметрычная кропка на чэрапе на месцы злучэння сагітальнага і вянечнага швоў ( у немаўляці тут пярэдняе цемечка).*

**Бред** – тры/зненне (н.р) – *гэта сімптом псіхічнага захворвання – разлад думкавай дзейнасці.*
**Бредить** – тры/зніць – *гаварыць без памяці.*
**Бровь** – брыво/ (н.р.) – *дугападобная палоска валасоў над вочнай ямінай.*
**Брожение** – брузава/нне (н.р.), бражэ/нне (н.р.) – *метабалічны працэс, пры якім рэгенеруецца АДФ.*
**Бронх ( -і )** – ды/хнік (-і) (м.р.), бро/нха (-і) (ж.р.) – *разгалінаванні дыхальнага горла, якія праводзяць паветра ў лёгкія.*
**Бронхиолит** – бранхіялі/т (м.р.) – *запаленне бранхіёл.*
**Бронхиолы** – ды/хнічкі, бранхіё/лы (мн.л.) – *канцавыя галіны бранхіяльнага дрэва, не ўтрымліваюць храсткоў і пераходзяць у альвэльныя хады лёгкіх.*
**Бронхит** – бранхі/т (м.р.) – *запаленне дыхнікаў.*
**Бронхоаденит** – дыхнічкаадэні/т (м.р.), бронхаадэні/т (м.р.) – *запаленне ў лімфатычных вузлах, якія дапасуюцца да крайніх дыхнічкаў.*
**Бронхогенный** – дыхнічкаге/нны, бранхаге/нны – *які ўтвараецца ў дыхнічках.*
**Бронхопневмония** – дыхнічкапнеўмані/я (ж.р.), бронхапнеўмані/я (ж.р.) – *запаленне лёгачнай тканкі, інфекцыйнае, праходзіць з паражэннем альвэлі.*
**Бронхоскопия** – дыхнічкаскапі/я (ж.р.), бронхаскапі/я (ж.р.) – *даследаванне ніжніх дыхальных шляхоў, заснаванае на аглядзе ўнутранай паверхні дырхі і дыхнікаў.*
**Бронхоэктазы** – дыхнічкаэкта/зы (мн.л.), бронхаэкта/зы (мн.л.) – *пашырэнне абмежаваных участкаў дыхнікаў з прычыны запаленчых дыстрафічных змяненняў іх сценак або анатоміі развіцця дыхнікальнага дрэва.*
**Бруцеллёз** – бруцэлё/з (м.р.) – *інфекцыйная хвароба, якая перадаецца ад жывёлы чалавеку і паражае нервовую, сэрцава-судзінную сістэмы і косцева-сустаўны апарат.*

**Брыжэйка** – ато/чына (ж.р.) – *складкі брухавіны, з дапамогай якіх унутрыбрухавінныя органы прымацоўваюцца да сценак брухавіннай паражніны.*
**Брызгать** – пы/рскаць – *раскідваць пырскі.*
**Брызги** – пы/рскі (мн.л.) – *кроплі вады, якія імкліва разлятаюцца ад удару, усплеску.*
**Брюхо** – ланту/х (м.р.), бру/ха (н.р.) – *самая вялікая з трох паражнін цела чалавека і жывёлы, размешчаная паміж грудзьмі і лагвом.*
**Брюшина** – брухаві/на (ж.р.) – *серозная абалонка, якая пакрывае некаторыя органы брухавіннай паражніны і высцілае знутры яе сценкі.*
**Брюшнотифозный** – брухавінатыфо/зны, брушнатыфо/зны – *які адносіцца да брухавіннага тыфу, хворы на брухавінны тыф.*
**Бубон** – бубо/н (м.р.) – *павелічэнне лімфатычных вузлоў запаленчага характару.*
**Бугорок** – вала/к (м.р.) – *невялікая выпукласць на чым-н. (звычайна ў чалавека, жывёлы).*
**Бугорчатка** – сухо/ты (мн.л.) – *састарэлая назва сухотаў. Інфекцыйнае захворванне чалавека і жывёл, выкліканае некалькімі відамі мікрабактэрый.*
**Буж** – буж (м.р.) – *прылада для даследавання і пашырэння трубчастых органаў (мочаспускальны канал, стрававод).*
**Булимия** – булімі/я (ж.р.) – *гэта запаволенасць рытму ежы, якое характарызуецца рэзкім узмацненнем апетыту ў выглядзе прыступу. Суправаджаецца пачуццём пакутлівага голаду, агульнай млявасцю, болямі ў падлыжачкавай вобласці. Прыводзіць да атлусцення.*
**Бульбарный** – бульба/рны – *які адносіцца да дайгаватага мозгу. Вызначае парушэнне функцый дайгаватага мозгу або асобных яго парушэнняў.*
**Буллёзный** – булё/зны – *пузырчаты, які складаецца з бурбалак, пакрыты бурбалкамі.*
**Бурав** – свё/рдзел (м.р.) – *прылада для свідравання адтулін.*

**Бурсит** – бурсі/т (м.р.) – *запалене сінавіяльнай кайстры сустава.*
**Бюллетень** – бюлетэ/нь (м.р.) – *бальнічны ліст аб часовай непрацаздольнасці.*

# - В –

**Вагина** – вагі/на (ж.р.) – *тое, што і похва.*
**Вакуоль** – пусто/тка (ж.р.), вакуо/ля (ж.р.) – *абмежаваны мембранай арганоід, які ўтрымліваецца ў некаторых эўкарыятычных каморках і выконвае розныя функцыі (сакрэцыя, экскрэцыя, захоўванне запасных рэчываў, аўтоліз і інш.)*
**Вакуум** – ва/куум (м.р.) – *стан моцна разрэджанага газу пры нізкім ціску.*
**Вакцина** – вакцы/на (ж.р.) – *прэпарат з жывых (абясшкоджаных) ці забітых мікраарганізмаў і прадуктаў іх жыццядзейнасці. Ужываецца з лекавымі і прафілактычнымі мэтамі.*
**Вакцинация** – вакцына/цыя (ж.р.) – *увядзенне вакцыны ў арганізм чалавека ці жывёлы для стварэння актыўнага імунітэту супраць інфекцыйнай хваробы.*
**Вакцинотерапия** – вакцынатэрапі/я (ж.р.) – *ужыванне вакцыны для лячэння інфекцыйных захворванняў.*
**Валериана лекарственная** – аўрыя/н (м.р.) – *расліна, карані якой ужываюцца для вырабу прэпаратаў, якія рэгулююць дзейнасць нервовай сістэмы.*
**Вариант** – варыя/нт (м.р.) – *1) відазмяненне, разнавіднасць; 2) розначытанне ў тэксце.*
**Варикозный** – варыко/зны – *які характарызуецца пашырэннямі і патаўшчэннямі; каравы.*
**Васкулит** –васкулі/т (м.р.) – *запаленне сценкі дробных крывяносных судзін пры інфекцыйных і інфекцыйна-іншачынных захворваннях (раматус, сэпсіс і інш.).*

**Васкулярный** – васкуля/рны – *судзінны; які адносіцца да судзін.*
**Вата** – баво/ўна (ж.р), ва/та (ж.р.) – *валакністы матэрыял з бавоўны, шэрсці або сінтэтычны, прызначаны для медыцынскіх, бытавых і тэхнічных мэт.*
**Вдох** – уды/х (м.р.) – *кожны асобны ўпуск паветра ў лёгкія пры дыханні, які чаргуецца з выдыхам.*
**Вдохновение** – натхне/нне (н.р.) – *стан творчага ўздыму. Душэўны пад'ём, запал.*
**Вегетарианец** – вегетарыя/нец (м.р.) – *той, хто харчуецца толькі малочнай і расліннай ежай з адмаўленнем ад мясной.*
**Вегетативный** – вегетаты/ўны – *які служыць для жыўлення і росту жывёльных і раслінных арганізмаў.*
**Везикулярное** – везікуля/рнае – *пакрытае пухірыкамі, з пухірыкамі; пухірыстая.*
**Везикула** – везі/кула (ж.р.) – *балючае пухірнае ўздуццё на скуры.*
**Веко** – паве/ка (н.р) – *рухомая складка скуры, якой прыкрываецца вока.*
**Векслера шкалы** – Ве/кслера шка/лы (мн.л.) – *шкала інтэлекту для дарослых і дзяцей.*
**Велоэргометрия** – велаэргаметры/я (ж.р.) – *нагрузачны тэст для дыягностыкі ішэміі ў кардыялогіі.*
**Вена** – жы/ла (ж.р), ве/на (ж.р.) – *крывяносная судзіна, па якой кроў рухаецца да сэрца.*
**Венепункцыя** – венепу/нкцыя (ж.р.) – *укол жылы.*
**Венерический** – венеры/чны – *той, хто адносіцца да захворванняў плоцевых органаў.*
**Венеролог** – венеро/лаг (м.р.) – *урач, які лечыць захворванні плоцевых органаў.*
**Венерология** – венерало/гія (ж.р.) – *навука аб захворваннях плоцевых органаў.*
**Венесекция** – венесе/кцыя (ж.р.) – *рассячэнне жылы скальпелем.*

**Венечный** – вяне/чны, вянко/вы – *які акружае, нібы карона.*
**Венозный** – жы/лавы, вяно/зны – *які мае дачыненне да вен.*
**Вентиляция** – ветрава/нне (н.р.), вентыля/цыя (ж.р.) – *1) праветрыванне закрытага памяшкання; 2) сістэма ўстройстваў для праветрывання памяшкання.*
**Вентральный** – брушны/, вентра/льны – *тэрмін, які прымяняецца ў анатоміі чалавека ці жывёлы да органа ці яго часткі, размешчаным на брухавінным баку ці звернутым да брухавіннага бока.*
**Венула** – жы/лка (ж.р.), ве/нула (ж.р.) – *крываносная судзіна невялікага дыяметра, якая нясе кроў да сэрца.*
**Веретено (мышечное)** – пачы/нак (м.р.), верацяно/ (н.р.) – *уласны ўспрымальнік цяглiц.*
**Вероятный** – вераго/дны – *які не выклікае сумнення, надзейны.*
**Версионные движения** – вярча/льныя, версі/йныя ру/хі (мн.л.) – *макрарухі вачэй, якія дапаўняюць вергент руху.*
**Вертел** – круця/к (м.р.) – *рухомы канец сцягніцы, які ўваходзіць ў чашку лагва.*
**Вертлужный** – ку/бкавы, вятлу/жны – *месца на лагвовай косці, дзе знаходзіцца рухомы канец сцягніцы.*
**Верхние конечности** – ве/рхнія канцаві/ны (кане/чнасці)(мн.л.) – *рукі, асобны рухальны орган, пярэднія канцавіны ў жывёл.*
**Вес** – вага/ (ж.р.) – *цяжар прадмета, цела, вызначаны якой-н. мерай.*
**Весить** – ва/жыць – *мець тую ці іншую вагу.*
**Веснушки** – баця/нькі (мн.л.), вясну/шкі (мн.л.) – *пігментныя плямкі карычневага ці жоўтага колеру на скуры, якія з'яўляюцца ў некаторых людзей вясной.*
**Вестибулярный (апарат)** – прысе/начны, вестыбуля/рны – *апарат, які знаходзіцца ва ўнутраным вуху органаў пачуццяў і ўспрымае змяненне становішча галавы і цела ў прасторы.*

**Ветвь** – галі/на (ж.р.) – *1) бакавы адростак у дрэва, сук ў веццi; 2) асобная вобласць навукі, галіна ведаў, вытворчасцi, пэўная група дзейнасцi.*
**Ветряная оспа** – вятру/ха (ж.р.), ветрана/я во/спа (ж.р.) – *вострая, пераважна дзiцячая хвароба, якая суправаджаецца буйным сыпам.*
**Вещество** – рэ/чыва (н.р.) – *від матэрыі; тое, з чаго складаецца фізічнае цела, матэрыял.*
**Вживлять** – ужыўля/ць – *змяшчаць унутр жывога арганізма часова ці для прыжыўлення.*
**Взаимодействие** – узаемадзе/янне (н.р.) – *узаемная сувязь дзвюх з'яў; 2) узгодненасць дзеянняў, узаемная падтрымка.*
**Взгляд** – по/зiрк (м.р) – *накіраванасць зроку на каго-, што-н.*
**Вздох** – узды/х (м.р.) – *удых, а за ім і выдых.*
**Взрослый** – даро/слы, ста/лы – *1) які выйшаў з дзіцячага ўзросту, узмужнеў, набыў сталасць; 2) які дасягнуў поўнай сталасцi па гадах, паводзінах, дзеяннях.*
**Виварий** – віва/рый (м.р.) – *памяшканне для ўтрымання жывёл, пераважна лабараторных.*
**Вивисекция** – вівісе/кцыя (ж.р.) – *разрэз цела жывых арганізмаў з навуковай мэтай; жывое сячэнне.*
**Визус** – зрок (м.р.), ві/зус (м.р.) – *1) адно з пяці знешніх пачуццяў, органам якога з'яўляюцца вочы; здольнасць бачыць; 2) погляд, позірк.*
**Виртуальная реальность** – уя/ўная рэа/льнасць (ж.р.) – *уяўная, няісная; якая існуе не ў сапраўднасці, а ва ўяўнасці.*
**Вирулентность** – віруле/нтнасць (ж.р.) – *сукупнасць хваробатворных уласцівасцей узбуджальнікаў заразных хвароб.*
**Вирус** – ві/рус (м.р.) – *найдрабнейшы арганізм (некаморкавы), узбуджальнік заразных хвароб.*
**Висмут** – ві/смут (м.р.) – *1) хімічны элемент, крохкі серабрыста-чырвоны метал; 2) лекі з прэпаратаў гэтага металу.*

**Висок** – скронь (ж.р.) – *бакавая частка чэрапа ад вуха да лобнай косці, а таксама скура і валасы, якія растуць тут.*
**Височный** – скро/невы – *які суадносіцца па значэнні з назоўнікам скронь, злучаны з ім. Размешчаны ў бакавой частцы галавы.*
**Висцеральный** – нутравы/, вісцэра/льны – *унутранасны, які адносіцца да ўнутраных органаў (напр. нутравы лісток плеўры).*
**Витальный** – жыццё/вы, віта/льны – *поўны жыцця, энергіі.*
**Витамин** – вітамі/н (м.р.) – *арганічныя рычывы, неабходныя ў невялікіх колькасцях у харчавым рацыёне як чалавека, так і большасці хрыбеткавых.*
**Витаминосодержащий** – вітамінаўтрыма/льны – *у склад якіх уваходзяць вітаміны.*
**Витаминотерапия** – вітамінатэрапі/я (ж.р.) – *увядзенне ў арганізм вітамінаў у пэўных дозах з мэтай пакрыцця іх недахопу, а таксама з іншымі лячэбнымі і прафілактычнымі мэтамі.*
**Виттова пляска** – ві/тавы ско/кі (мн.л.) – *нервовая хвароба, якая суправаджаецца міжвольнымі сутаргамі цяглiц твара ці якой-н. часткі цела.*
**Вкус** – смак (м.р.) – *гэта адчуванне, якое ўзнікае пры дзеянні хімічных раздражняльнікаў (харчовых і нехарчовых рэчываў) на ўспрымальнікі языка і паражніны рота.*
**Вкусовой** – сма/кавы – *1) смакавыя адчуванні; 2) (надаюць смак) смакавыя рэчывы.*
**Влага** – ві/льгаць (ж.р.) – *сырасць, вада, якая змяшчаецца ў*
*чым-н.*
**Влажный** – вільго/тны – *насычаны вільгаццю, сыры, мокры.*
**Влагалище** – по/хва (ж.р.) – *1) канцавы аддзел плоцевых праводных шляхоў ў жанчыны; 2) ніжняя частка ліста, якая ў выглядзе трубкі ахоплівае сцябло ў некаторых раслін; 3) тое, што і ножны.*

**Влагопотеря** – стра/та ві/льгаці (ж.р.) – *страта арганізмам вільгаці ў вялікіх колькасцях.*
**Влечение** – по/цяг (м.р.), схі/льнасць (ж.р.) – *моцная схільнасць да каго-, чаго-н.*
**Вливание** – уліва/нне (н.р.) – *1) працэс дзеяння ад дзеяслова* ***ўліваць****; 2) увядзенне ў арганізм (пад скуру ці ў жылу) лекавага, пажыўнага раствору ці крыві.*
**Вмешательство** – умяша/нне (н.р.) – *1) стаць удзельнікам чужой справы; 2) прыняць удзел у якой-н. справе з мэтай змены ходу яе.*
**Внезапно** – ра/птам – *вельмі хутка і нечакана.*
**Внеклеточный** – пазакамо/ркавы, пазакле/тачны – *змешчаны па-за каморкай, за яе абалонкай.*
**Внешнесекреторный** – вонкасакрацы/йны, знешнесакрато/рны – *сакрэцыя, накіраваная ў навакольнае асяроддзе.*
**Внешний** – во/нкавы – *1) знешні, знадворны; 2) які праяўляецца толькі са знешняга боку, не закранаючы сутнасць чаго-н.; 3) паказны, паверхневы, пазбаўлены глыбіні;* зне/шні – *1) які знаходзіцца па-за межамі чаго-н.; 2) які выяўляецца толькі вонкава, не адпаведны ўнутранаму стану; 4) які адносіцца да зносін з замежнымі дзяржавамі.*
**Внимание** – ува/га (ж.р.) – *1) сканцэнтраванасць думак ці зроку, слыху на чым-н.; 2) клапатлівыя, чулыя адносіны да каго-, чаго-н.*
**Внутренний** – уну/траны – *1) які знаходзіцца ўнутры; 2) які складае змест, раскрывае саму глыбіню, сутнасць чаго-, каго-н.; 3) які мае адносіны да жыцця ўнутры якой-н. арганізацыі, дзяржавы.*
**Внутренность** – уну/транасць (ж.р.) – (чаго) *Тое, што знаходзіцца ўнутры чаго-н.*
**Внушение** – унушэ/нне (н.р.) – *1) унушаць; 2) уздзеянне на псіхіку хворага, гіпноз.*
**Возбудимость** – узбуджа/льнасць (ж.р) – *стан узбуджэння.*

**Воздействие** – уздзе/янне (н.р.) – *дзеянне, накіраванае на каго-, што-н. з мэтай дабіцца чаго-н., паўплываць на каго-, што-н.*
**Воздух** – паве/тра (н.р) – *сумесь газаў, якая складае атмасферу Зямлі.*
**Возраст** – узро/ст (м.р) – *1) перыяд, ступень у развіцці, росце чалавека, жывёліны, расліны; 2) колькасць пражытага часу, гадоў.*
**Волдырь** – вады/р (м.р) – *пухір, які ўзнікае на скуры (апёк тэрмічны, хімічны).*
**Волнение** – хвалява/нне (н.р) – *нервовая ўзбуджанасць, выкліканая адчуваннем трывогі, радасці і пад.*
**Волокно** – валакно/ (н.р.) – *1) выцягнутая ў даўжыню каморка раслiннай або жывёльнай тканкі; 2) ніткападобная эластычная пасма расліннага або штучнага паходжання.*
**Волос** – во/лас (м.р.) – *1) рагавое ніткападобнае ўтварэнне на скуры чалавека і жывёл; 2) раслiннасць на целе жывёлы.*
**Волчанка** – ваўча/нка (ж.р.) – *цяжкая форма сухот скуры, пры якой, звычайна на твары, узнікаюць грудкі з наступным утварэннем язваў і шнараваннем.*
**Вонь** – смуро/д (м.р) – *непрыемны пах, назва такога паху мае на ўвазе дадатковую, рэзка негатыўную эмацыянальную характарыстыку. Антонім – водар.*
**Воображение** – уяўле/нне (н.р.) – *здольнасць свядомасці ствараць выявы, уяўленні, ідэі і маніпуляваць імі; мае ключавую ролю ў наступных псіхічных працэсах: мадэляванне, планаванне, творчасць, чалавечая памяць.*
**Вопль** – ля/мант (м.р) – *гучны, пранізлівы крык, які выказвае страх, гнеў, боль ці нястрымную радасць.*
**Воронка** – суле/йка (ж.р), варо/нка (ж.р.) – *1) прыстасаванне ў форме конуса з трубкай на вузкім канцы, якое служыць для пералівання вадкасці ў посуд з вузкім горлышкам; 2) вір на паверхні вады; 3) яма,*

*якая ўтварылася ў зямлі на месцы выбуху бомбы, снарада.*

**Ворсинка** – по/ўсцінка (ж.р) , варсі/нка (ж.р.) – *1) тонкая і кароткая валасінка на паверхні раслінных і жывёльных арганізмаў; 2) валасінка, нітачка ворса; 3) мікраскапічны выраст слізніцы тонкай кішкі, праз які адбываецца актыўнае ўсмоктванне ежы.*

**Воспаление** – запале/нне (н.р) – *хваробны працэс, які суправаджаецца павышэннем тэмпературы, прыпухласцю і пачырваненнем хворай часці цела.*

**Восприятие** – успрыня/цце (н.р.) – *здольнасць успрымаць, адрозніваць і засвойваць з'явы навакольнага свету; засваенне, усведамленне.*

**Восстановление** – аднаўле/нне (н.р.) – *1) працэс дзеяння па значэнні дзеясловаў аднавіць – аднавіцца; 2) паніжэнне ступені акіслення атамаў (у хіміі).*

**Впадина** – я/міна (ж.р.) – *запалае месца на асобе, частцы цела.*

**Врач** – ура/ч (м.р.) – *асоба з вышэйшай медыцынскай адукацыяй, якая мае права займацца лячэбна-прафілактычнай або санітарна-эпідэміялагічнай дзейнасцю.*

**Врачебно-консультационный** – урачэ/бна-кансультацы/йны (камісія) – *камісія пры лячэбна-прафілактычнай установе, якая ажыццяўляе кантроль за правільнасцю дыягностыкі і лячэннем хворых, якія маюць лісток непрацаздольнасці, і вырашае пытанні аб падаўжэнні адпачынку па хваробе звыш тэрміну.*

**Врачебно-санитарный** – урачэ/бна-саніта/рны (камісія) – *якая ажыццяўляе дзяржаўны нагляд за выкананнем усіх правіл, загадаў ва ўстаноўленым парадку Галоўнага санітарнага ўрача (раёна, вобласці, рэспублікі).*

**Врачебно-трудовая, экспертная комиссия (ВТЭК)** – урачэ/бна-праца/ўная экспе/ртная камі/сія (УПЭК) (ж.р.) – *установа экспертызы працаздольнасці, якая высвятляе ступень яе страты, групу і чыннікі*

*інваліднасці і выдае працоўныя рэкамендацыі інвалідам, якія знаходзяцца ў адпачынку па стане здароўя.*

**Врачебный – урачэ/бны** – *1) які адносіцца да дзейнасці ўрача; 2) уласцівы ўрачу, звязаны з ім.*

**Вращатели (мышцы)** – кру/тніцы (мн.л.) – *група мышцаў грудзей, шыі, паясніцы.*

**Вред – шко/да (ж.р.)** – *пашкоджанне, урон, страта.*

**Временной – ча/савы** – *той, які дзейнічае не ўвесь час.*

**Время** – час (м.р.) – *1) бесперапынная і пастаянная змена мінут, гадзін, дзён і пад.; 2) прамежак пэўнай працягласці, у які адбываецца што-н., паслядоўная змена гадзін, дзён, гадоў і пад.; 3) нейкі пэўны момант, у які што-н. адбываецца; 4) перыяд, эпоха; 5) пара дня, года; 6) зручны момант для чаго-н.*

**Врожденный** – прыро/джаны – *уласцівы ад нараджэння.*

**Всасывание** – усмо/ктванне (н.р.) – *паступленне розных рэчываў праз клеткавыя элементы ў кроў і лімфу.*

**Вскрытие** – ускрыццё/ (н.р.) – *даследаванне ўнутраных органаў памерлага з мэтай высвятлення характару хваробы і вызначэння прычыны смерці.*

**Вспомогательный** – дапамо/жны – *1) прызначаны для дапамогі каму-, чаму-н; 2) неасноўны, дадатковы.*

**Вспыльчивость** – запа/льчывасць (ж.р.) – *стан хуткага ўзбуджэння, раздражнення, гневу.*

**Втирание** – націра/нне (н.р.) – *намазванне, змазванне вадкасцю, маззю скуры да іх усмоктвання.*

**Вторичный** – дру/гасны – *вытворны, не зыходны; уяўляе з сябе другую, больш познюю прыступку ў развіцці чагосьці.*

**Вульва** – ву/льва (ж.р.) – *зборнае найменне жаночых вонкавых палавых органаў.*

**Вульвит** – вульві/т (м.р.) – *запаленне жаночых вонкавых палавых органаў.*

**Вульвовагинит** – вульвавагані/т (м.р.) – *запаленне вульвы і слізістай абалонкі похвы.*
**Вшивость** – вашы/васць (ж.р.) – *заражанасць скурнага покрыву вошамі.*
**Выборка** – вы/барка (ж.р.) – *шэраг выпадкаў, з дапамогай вызначанай працэдуры абраных з генеральнай сукупнасці для ўдзелу у даследаванні.*
**Вывих** – вы/крут (м.р.) – *зрушэнне косці ў суставе, а таксама месца, дзе адбылося такое зрушэнне.*
**Вывихнуть** – вы/круціць – *пашкодзіць які-н. член цела, выкруціўшы яго ў суставе.*
**Выворот** – вы/варат (м.р.) – *становішча, пры якім орган ці яго частка вывернуты ўнутраным бокам наверх.*
**Выделение** – выдзяле/нне (н.р.) – *рэчывы, выдзеленыя арганізмам.*
**Выдох** – вы/дых (м.р.) – *разавае выштурхванне паветра з лёгкіх пры выдыханні.*
**Выздоравливать** – ачу/ньваць – *папраўляцца пасля хваробы.*
**Вызов** – вы/клік (м.р.) – *патрабаванне, запрашэнне з'явіцца куды-н.*
**Выйный** – ка/ркавы – *які адносіцца да задняй часткі шыі ў чалавека і жывёлы.*
**Выкидыш** – вы/кідыш (м.р.) – *1) дачаснае спыненне цяжарнасці; 2) неданошаны і няздольны выжыць плод.*
**Выпот** – вы/пат (м.р.) – *збіранне вадкасці з крывяносных сасудаў у якой-н. поласці цела пры запаленні.*
**Выпрямление** – выпро/staванне (н.р.) – *прыняцце прамога становішча.*
**Выпуклость** – вы/пукліна (ж.р.) – *сферычная вонкавая паверхня.*
**Выпячивание** – выпіна/нне (н.р.) – *высоўванне наперад.*
**Выработка** – выпрацо/ўка (ж.р.) – *тое, што зрабілі, выпрацавалі.*

**Выравнивание** – выраўно/ўванне (н.р.) – *рабіць роўным.*
**Выскабливание** – выскраба/нне (н.р.) – *медыцынская аперацыя; ачыстка, выдаленне чаго-н. інструментам.*
**Вытяжка** – вы/цяг (м.р.), вы/цяжка (ж.р.) – *рэчыва, хімічна здабытае з арганічнай тканкі.*
**Вязкость** – гру/зкасць (ж.р), вя/зкасць (ж.р.) – *цягучасць, клейкасць.*

# - Г –

**Габитус** – аблі/чча (н.р.) – *знешні выгляд чалавека, яго пастава; знешні выгляд жывёлы, расліны.*
**Газы** – га/зы (мн.л.) – *рэчывы, у якіх кінетычная энергія цеплавога руху яго часцінак значна перавышае патэнцыяльную энергію ўзаемадзеянняў паміж імі, у сувязі з гэтым часцінкі рухаюцца свабодна, запаўняючы раўнамерна ўвесь аб’ём.*
**Гайморит** – гаймары/т (м.р.) – *запаленне слізістай абалонкі, зрэдку і косных сценак гаймаравай сулоні.*
**Гайморова полость** – гаймарава суло/нь (ж.р.) – *дадатковая парная сулонь носа ў верхняй сківіцы.*
**Галлюцинация** – амаро/ка (ж.р.), галюцына/цыя (ж.р.) – *з’ява абману зроку, слыху, дотыку і пад. у выніку псіхічнага расстройства.*
**Галлюциноген** – галюцынаге/н (м.р.) – *сродак, які выклікае галюцынацыю.*
**Гальванотерапия** – гальванатэрапі/я (ж.р.) – *метад электрычнага лячэння, заснаваны на гальванізацыі.*
**Гамма - глобулин** – гама-глабулі/н (м.р.) – *фракцыя імунаглабулінаў плазмы крыві, у якой знаходзіцца мноства антыцел і якая валодае самай маленькай (у параўнанні з альфа- і бэта-глабулінамі) электрафарэтычнай рухавасцю.*
**Гамма - излучение** – гама-выпрамяне/нне (н.р.) – *фатоннае выпрамяненне, якое ўзнікае пры змяншэнні*

*электрычнага стану атамных ядзер або ядзерных пераўтварэннях.*
**Гамма - терапия** – гама-тэрапі/я (ж.р.) – *від выпрамяняльнай тэрапіі, заснаваны на выкарыстанні гама-выпрамянення.*
**Ганглий** – ву/зел (м.р.), га/нглій (м.р.) – *частка лімфатычнай сістэмы.*
**Гангрена** – агняві/ца (ж.р), гангрэ/на (ж.р.) – *від некроза, пры якім змярцвелыя тканкі або высыхаюць, або паддаюцца гніласнаму распаду.*
**Гармон** – гармо/н (м.р.) – *біялагічна актыўнае рэчыва, якое выдзяляюць у кроў залозы ўнутранай сакрэцыі.*
**Гастрит** – раза/чка (ж.р), гастры/т (м.р.) – *запаленне слізістай абалонкі страўніка.*
**Гастроскоп** – разачкаско/п (м.р.), гастраско/п (м.р.) – *прыбор для агляду сулоні страўніка, які ўводзяць праз рот.*
**Гастроскопия** – разачкаскапі/я (ж.р.), гастраскапі/я (ж.р.) – *урачэбны метад абследавання, агляд сулоні жывата з дапамогай разачкаскопа.*
**Гастроэнтероколит** –разачкаэнтэракалі/т (м.р.), гастраэнтэракалі/т (м.р.) – *вострае або хранічнае запаленне ўсяго страўніка-кішачнага тракту ў чалавека.*
**Гастроэнтэролог** – разачкаэнтэро/лаг (м.р.), гастраэнтэро/лаг (м.р.) – *вучоны, які вывучае будову і функцыі органаў стрававання, метады лячэння, прафілактыкі і распазнавання.*
**Гастроэнтэрит** – разачкаэнтэры/т (м.р.), гастраэнтэры/т (м.р.) – *запаленчае захворванне страўніка і тонкага кішачніка.*
**Гелиотерапия** – геліятэрапі/я (ж.р.) – *лячэнне і прафілактычнае выкарыстанне прамога выпраменьвання сонца. Метад лячэння захворвання скуры і інш.*
**Гельминтоз** – гельмінто/з (м.р.) – *хвароба, выкліканая паразітычнымі чарвякамі.*

**Гельминтолог** – гельмінто/лаг (м.р.) – *доктар, які займаецца вывучэннем глістоў.*
**Гемагглютинация** – гемаглютына/цыя (ж.р.) – *склейванне і выпадзенне ў асадак эрытрацытаў.*
**Гемагглютинин** – гемаглютыні/н (м.р.) – *антыцела, здольнае выклікаць гемаглютынацыю.*
**Гематоген** – гематаге/н (м.р.) – *лекавы прэпарат, выраблены з крыві забітага быдла з дадзеннем сіропу, смакавых рэчываў і этылавага спірту.*
**Гематогенный** – гематаге/нны – *утвораны з крыві.*
**Гематолог** – гемато/лаг (м.р.) – *доктар, які спецыялізуецца на лячэнні хвароб крывяных каморак*
**Гематология** – гематалогі/я (ж.р.) – *навука аб складзе, уласцівасцях і хваробах крыві.*
**Гематома** – гемато/ма (ж.р.) – *скопішча крыві ў тканках пры іх пашкоджанні.*
**Гематопоэз** – гематапаэ/з (м.р.) – *працэс стварэння (генерацыі) каморак крыві.*
**Гематурия** – гематуры/я (ж.р.) – *наяўнасць у мачы крыві ці эрытрацытаў.*
**Гемералопия** – гемерало/пія (ж.р.), "куры/ная слапата/"(ж.р.) – *рэзкае пагаршэнне зроку ва ўмовах паніжанага асвятлення, абумоўленае парушэннем функцыі палачкавага святлоадчувальнага апарата.*
**Гемианопсия** – геміянапсі/я (ж.р.) – *дэфект поля зроку, які лакалізуецца ў адной палове поля кожнага вока.*
**Гемиплегия** – геміплегі/я (ж.р.) – *паралюш цяглiц адной паловы цела.*
**Гемоглобин** – гемаглабі/н (м.р.) – *дыхальны пігмент, які змяшчаецца ў эрытрацытах крыві.*
**Гемограмма** – крывяры/с (м.р.), гемагра/ма (ж.р.) – *сукупнасць якасных і колькасных вынікаў крыві.*
**Гемодермия** – гемадэрмі/я (ж.р.) – *агульная назва паражэнняў скуры, абумоўленых злаякаснай праліферацыяй каморак крыватворных органаў і ратыкулярнай тканкі.*

**Гемодиализ** – гемадыя/ліз (м.р.) – *метад лячэння вострай і хранічнай ныркавай недастатковасці пры дапамозе апарата "штучная нырка".*
**Гемодинамика** – крывяру/х (м.р.), гемадына/міка (ж.р.) – *рух крыві па судзінах, які ўзнікае з прычыны рознасці гідрастатычнага ціску ў розных участках крываноснай сістэмы.*
**Гемодинамические насосы** – крывяру/хальныя по/мпы (мн.л.), гемадынамі/чныя по/мпы (мн.л.) – *сэрцавая помпа (галоўная ў чалавека) і перыферычныя помпы (шматлікія, больш за шэсцьсот) – перыферычныя "сэрцы", вянозныя помпы, грудная, брухавінная …помпы, а таксама скарачальная здольнасць судзінных сценак.*
**Гемолиз** – кроварашчыне/нне (н.р.), гемо/ліз (м.р.) – *разбурэнне эрытрацытаў, якое суправаджаецца афарбоўкай плазмы крыві ў чырвоны колер.*
**Гемолитический** – гемаліты/чны – *выкліканы кроварашчыненнем, або які суправаджаецца кроварашчыненнем.*
**Гемопоэз** – гемапаэ/з (м.р.) *нараджэнне, развіццё і дасяванне каморак крыві.*
**Гемоптоэ** – гемапто/э (н.р.) – *крывацёк з лёгачных або бранхіяльных судзін, які суправаджаецца вылучэннем крыві з дыхальных шляхоў.*
**Геморроидальный** – лястыраіда/льны, гемараіда/льны – *які мае адносіны да лястыру, уласцівы хвораму на лястыр.*
**Геморрой** – ляст/р (м.р.), гемаро/й (м.р.) – *хвароба, звязаная з застоем крыві ў ніжняй частцы кутніцы і пашырэннем жыл у выглядзе вузлоў, якія часта выклікаюць крывацёк.*
**Гемофилия** – гемафілі/я (ж.р.) – *спадчыннае захворванне, звязанае з парушэннем каагуляцыі, якое суправаджаецца ўзнікненнем кровазліцця.*
**Ген** – ген (ж.р.) – *матэрыяльны носьбіт спадчыннасці, адзінка спадчыннага матэрыялу, які вызначае*

*фарміраванне элементарнай структуры жывога арганізма.*
**Генетик** –гене/тык (м.р.) – *спецыяліст у галіне генетыкі.*
**Генетика** – гене/тыка (ж.р.) – *навука аб законах спадчыннасці і зменлівасці арганізмаў.*
**Гениальность** – генія/льнасць (ж.р.) – *самая высокая ступень творчай адоранасці, таленавітасці чалавека ў якой-н. сферы дзейнасці.*
**Гениталия** –геніта/лія (ж.р.) – *вобласць палавых органаў.*
**Генный** – ге/нны – *які мае адносіны да гена.*
**Генотип** – генаты/п (м.р.) – *характарыстыка асаблівасцей чалавека, жывёлы і г.д.*
**Гепатит** – гепаты/т (м.р.) – *хвароба печані запаленчага або дыстрафічнага характару.*
**Гермафродит** – абаму/д (м.р.), гермафрады/т (м.р.) – *арганізм, часцей жывёльны, які мае адзнакі абодвух палоў.*
**Герметический** – герметы/чны – *які наглуха закрываецца і зусім не прапускае вадкасць і газ.*
**Героин** – гераі/н (м.р.) – *моцнадзейны наркотык, які выpабляецца з апійнага маку.*
**Геронтолог** – геранто/лаг (м.р.) – *вучоны, які вывучае будовы жывых арганізмаў, у тым ліку і чалавека, у старасці.*
**Геронтология** – герантало/гія (ж.р.) – *навука аб старэнні жывых арганізмаў і прадаўжэнні жыцця.*
**Герпес** – во/гнік (м.р.), ге/рпес (м.р.) – *захворванне чалавека, якое выклікаецца вогніквірусамі. Пашкоджваецца скура, слізістыя абалонкі глоткі, вачэй і г.д.*
**Гетерогенный** – размаі/ты, гетераге/нны – *які складаецца з неаднолькавых, разнародных частак.*
**Гештальт** – гешта/льт (м.р.) – *тэрапія, варыянт псіхатэрапіі.*

**Гигиена** – гігіе/на (ж.р.) – *вучэнне аб захаванні здароўя, а таксама мерапрыемствы, якія садзейнічаюць гэтаму.*
**Гидронефроз** – гідранефро/з (м.р.) – *хвароба ныркі, пры якой павялічваецца місачка і чашачка з атрафіяй ныркавай парэнхімы.*
**Гидроторакс** – гідрато/ракс (м.р.) – *скапленне транссудату ў плеўральнай роўніцы.*
**Гингивит** – гінгіві/т (м.р.) – *запаленне слізістай абалонкі дзясны.*
**Гинекология** – гінекало/гія (ж.р.) – *навука, якая вывучае фізіялогію жаночай палавой сістэмы.*
**Гинекомастия** – гінекамасты/я (ж.р.) – *павелічэнне малочнай залозы (у мужчын, дзяцей).*
**Гиперацидитас** – гіперацы/дытас (м.р.) – *павелічэнне колькасці гідрахларыду ў страўніку.*
**Гипервитаминоз** – гіпервітаміно/з (м.р.) – *інтаксікацыя арганізма пры празмерным паступленні вітамінаў.*
**Гипергликемия** – гіперглікемі/я (ж.р.) – *павялічанае знаходжанне глюкозы ў арганізме.*
**Гиперемия** – гіперэмі/я (ж.р.) – *павялічанае крывянапаўненне якога-н. участка перыферыйнай судзіннай сістэмы.*
**Гиперкапния** – гіперкапні/я (ж.р.) – *павялічанае ўтрыманне вуглякіслага газу ў крыві і (або) іншых тканках.*
**Гиперкинез** – гіперкінэ/з (м.р.) – *аўтаматычныя гвалтоўныя рухі з прычыны міжвольных скарачэнняў цягліц.*
**Гипермнезия** – звышпа/мятлівасць (ж.р.), гіпермнезі/я (ж.р.) – *рэзкае абвастрэнне памяці з наплывам шматлікіх успамінаў, часам з вобразнымі выявамі.*
**Гиперморфоз** – гіпермарфо/з (м.р.) – *разнавіднасць філембрыягенэзу, пры якой адбываецца змена канчатковых стадый зародкавага развіцця ў філагенэзе.*

**Гиперпатия** – звышадчува/льнасць (ж.р.), гіперпаты/я (ж.р.) – *скрыўленне адчувальнасці, якое характарызуецца павышэннем парога ўспрымання, адсутнасцю дакладнай лакалізацыі адчуванняў, якія маюць непрыемны характар, схільнасць да іррадыяцыі.*
**Гипертензия** – гіпертэ/нзія (ж.р.) – *павялічаны гідрастатычны ціск у судзінах, полых органах або ў паражнінах арганізма.*
**Гипертермия** – гіпертэрмі/я (ж.р.) – *стан арганізма, пры якім захоўваецца павялічаная тэмпература цела.*
**Гипертонический** – гіпертані/чны – *які мае адносіны да гіпертаніі.*
**Гипертония** – гіпертані/я (ж.р.) – *павышэнне крывянога ціску.*
**Гипертрофия** – гіпертрафі/я (ж.р.) – *павелічэнне памераў якой-н. тканкі або органа.*
**Гиперэстезия** – звышчулл/івасць (ж.р.), гіперастэзі/я (ж.р.) – *павялічаная чуллівасць зубоў.*
**Гипноз** – гіпно/з (м.р.) – *асаблівы стан частковага, няпоўнага сну, які выклікаецца ўнушэннем і суправаджаецца падпарадкаваннем таму, хто ўнушае, а таксама сам спосаб такога ўнушэння.*
**Гипо** – гі/па- – *прыстаўка, якая паказвае на змяншэнне чаго-н. у параўнанні з нормай.*
**Гипоалгезия** – малабо/льнасць (ж.р.), гіпаалгезі/я (ж.р.) – *зніжаная болевая рэакцыя – адказ на нармальны болевы стымул.*
**Гипобулия** – бязво/лле (н.р.), гіпабулі/я (ж.р.) – *нязначныя праявы адсутнасці ў чалавека сілы волі.*
**Гиповентиляция** – недаветрава/нне (н.р.), гіпавентыля/цыя (ж.р.) – *анамальна павярхоўнае і запаволенае дыханне, у выніку якога ў крыві адзначаецца рэзкае павелічэнне ўтрымання вуглекіслага газу.*
**Гиповитаминоз** – гіпавітаміно/з (м.р.) – *недастатковае паступленне ў арганізм аднаго або некалькіх вітамінаў.*

**Гипогликемия** – гіпаглікемі/я (ж.р.) – *паніжанае ўтрыманне глюкозы ў крыві, можа прывесці да развіцця слабасці і зблытанасці свядомасці.*
**Гиподерматоз** – гіпадэрмато/з (м.р.) – *хранічная хвароба, выкліканая лічынкамі надскурнага авадзеня роду Hypoderma.*
**Гипокапния** – гіпакапні/я (ж.р.) – *паніжаны парцыяльны ціск вуглякіслага газу ў лутнічнай крыві( і ў арганізме).*
**Гипокинезия** – гіпакінезі/я (ж.р.) – *асаблівы стан арганізма, абумоўлены недастатковасцю рухальнай актыўнасці.*
**Гипоксемия** – гіпаксемі/я (ж.р.) – *паніжанае ўтрыманне кіслароду ў крыві ў выніку парушэння кровазвароту.*
**Гипоксия** – недатляне/нне (н.р.), гепаксі/я (ж.р.) – *кіслароднае галаданне, кіслародная недастатковасць, паніжанае ўтрыманне кіслароду ў тканках.*
**Гипнотерапия** – гіпнатэрапі/я (ж.р.) – *тэрапія з дапамогай гіпнозу.*
**Гипопноэ** – нядо/дых (м.р.), гіпапно/э (н.р.) – *рэспіраторныя падзеі, якія характарызуюцца часовым зніжэннем носа-ротавага паветранага патоку.*
**Гипоталамус** – падзро/чча (н.р.), гіпатала/мус (м.р.) – *аддзел галаўнога мозга, размешчаны ніжэй за зрочны грудок.*
**Гипотеза** – дапушчэ/нне (н.р.), гіпо/тэза (ж.р.) – *недасказанае сцвярджэнне або здагадка.*
**Гипотензия** – гіпатэ/нзія (ж.р.) – *хвароба, звязаная з парушэннем функцыі цэнтральнай нервовай сістэмы і ненейрагарманальнай рэгуляцыяй тонусу судзін, якая суправаджаецца паніжэннем лутнічнага ціску.*
**Гипотермия** – ахало/джанне (н.р.), гіпатэрмі/я (ж.р.) – *астуджэнне, паніжэнне тэмпературы цела цеплакроўных жывёл і чалавека з прычыны перавагі цеплааддачы над цеплапрадукцыяй.*
**Гипотонический** – гіпатані/чны – *які адносіцца да гіпатаніі або што характарызуецца ёю.*

**Гипотония** – гіпатані/я (ж.р.) – *паніжэнне крывянога ціску.*
**Гипофиз** – мя/згавы прыве/сак (м.р.), гіпо/фіз (м.р.) – *залоза ўнутранай сакрэцыі, якая непасрэдна ўплывае на дзейнасць і рэгулюе функцыі залежных ад яе перыферычных эндакрынных залоз.*
**Гипофункция** – гіпафу/нкцыя (ж.р.) – *недастатковая інтэнсіўнасць дзейнасці якога-н. органа, тканкі, сістэмы, што можа прывесці да парушэння жыццядзейнасці арганізма.*
**Гипоэстезия** – малачуллі/васць (ж.р.), гіпаэстэзі/я (ж.р.) – *паніжаная адчувальнасць да раздражняльнікаў. Часта назіраецца пры расстройствах свядомасці, арганічных парушэннях цэнтральнай нервовай сістэмы, дэпрэсіўных станах.*
**Гиппократ** – Гіпакра/т (м.р.) – *старажытнагрэцкі лекар. У працах Гіпакрата, якія сталі асновай наступнага развіцця медыцыны, адлюстраваны паданні аб цэласнасці арганізма, індывідуальным падыходзе да хворага і яго лячэнні; вучэнні аб этыялогіі, прагнозе, тэмпераментах і г.д.*
**Гирудиноз** – гірудыно/з (м.р.) – *хвароба, выкліканая ўздзеяннем п'явак, якія прысмакталіся да скуры або якія пракраліся ў дыхальныя шляхі, страўнікава-кішачны тракт і інш. парожніны арганізма, якія спалучаюцца з навакольным асяроддзем; выяўляецца крывацёкам, галаўнымі болямі, анеміяй і інш. сімптомамі, у залежнасці ад месцазнаходжання паразіта.*
**Гистолиз** – гісто/ліз (м.р.) – *разбурэнне тканак пры дапамозе аўтолізу і фагацытозу.*
**Гистолог** – гісто/лаг (м.р.) – *спецыяліст у галіне гісталогіі.*
**Гистология** – гістало/гія (ж.р.) – *навука аб будове і развіцці тканак чалавека і жывёлы.*
**Глаз** – во/ка (н.р.) – *1) орган зроку, а таксама сам зрок; 2) здольнасць бачыць, набытая ў працэсе жыццёвага вопыту.*

**Глазная впадина** – во/чная я/міна (ж.р.) – *парная паражніна ў чэрапе, якая ўтрымлівае вочны яблык з яго дадаткамі.*
**Глазница** – вачні/ца (ж.р.) – *паглыбленне ў пярэдняй частцы чэрапа, у якім змяшчаецца вочны яблык.*
**Глазной** – во/чны – *які мае адносіны да вока.*
**Гланды** – гла/нды (мн.л.) – *паднябенныя міндаліны.*
**Глаукома** – глаўко/ма (ж.р.) – *вялікая група вочных захворванняў, характарызуецца сталым або перыядычным павышэннем унутрывочнага ціску з наступным развіццём тыповых ган поля зроку.*
**Гликемия** – глікемі/я (ж.р.) – *колькасць цукру ў крыві.*
**Гликозурия** – гліказуры/я (ж.р.) – *выдзяленне цукру з мачой.*
**Гликоген** – глікаге/н (м.р.) – *поліцукрыд, утвораны рэшткамі глюкозы; асноўны запасны вугляваддарод чалавека і жывёл.*
**Глинолечение** – гліналячэ/нне (н.р.) – *лячэнне пры дапамозе гліны.*
**Глистогонный** – глістаго/нны – *які выганяе глістоў.*
**Глобин** – глабі/н (м.р.) – *бялковае рэчыва, якое з'яўляецца адным з прадуктаў самаадвольнага распаду гемаглабіну.*
**Глобулин** – глабулі/н (м.р.) – *распушчальны ў разбаўленых растворах соляў бялок, які ўваходзіць у склад раслінных і жывёльных тканак.*
**Глобулярный** – глабуля/рны – *па форме падобны да шара.*
**Гломерулонефрит** – гламеруланефры/т (м.р.) – *захворванне ныркі, выкліканае парушэннем дзейнасці нефрону.*
**Глоссит** – гласі/т (м.р.) – *запаленне языка.*
**Глотание** – глыта/нне (н.р.) – *дзеянне, накіраванае на праштурхоўванне чаго-н. у страваввод.*
**Глотка** – гло/тка (ж.р.) – *пачатковы аддзел стрававальнага і дыхальнага шляхоў.*
**Глотнуть** – глытну/ць – *пры дапамозе цягліц горла праштурхоўваць што-н. у стрававод і страўнік.*

**Глоток** – глыто/к (м.р.) – *аднаразовы рух глытальных цяглiц пры глытаннi.*
**Глоточный** – глы/тачны – *якi адносiцца да глоткi.*
**Глохнуть** – глу/хнуць – *трацiць здольнасць чуць, станавiцца глухiм.*
**Глутамин** – глутамi/н (м.р.) – *галоўная незамяшчальная амiнакiслата.*
**Глухой** – глушэ/ц (м.р), глухi/ – *часткова або поўнасцю пазбаўлены слыху, няздольны чуць.*
**Глухота** – глухата/ (ж.р.) – *поўная адсутнасць або частковы недахоп слыху.*
**Глюкоза** – глюко/за (ж.р.) – *вiнаградны цукар, якi ўтрымлiваецца ў пладах раслiн i жывёльных арганiзмах.*
**Гнить** – гнi/сцi – *1) станавiцца гнiлым пад уздзеяннем мiкраарганiзмаў; 2) цяжка жыць, гiбець.*
**Гноение** – гнае/нне (н.р.) – *1) дзеянне паводле дзеяслова <u>гнiсцi.</u>*
**Гноеотделение** – гноевыдзяле/нне (н.р.) – *жоўтыя цi зеленаватыя вадзянiстыя вылучэннi, якiя затым становяцца густымi.*
**Гноеродный** – гноеро/дны – *выклiканы, утвораны нагнаеннем.*
**Гной** – гной (м.р.) – *1) жоўтая цi зеленаватая вадкасць, якая ўтвараецца ў тканках арганiзма пры iх запаленнi; 2) памёт, сумесь памёту i подсцiлу, якая ўжываецца для ўгнаення глебы.*
**Гнойничковый** – гнайнiчко/вы – *гнайнiк, месца, дзе збiраецца i выдзяляецца гной.*
**Гнозис** – гно/зiс (м.р.) – *збiральнае паняцце для працэсаў перцэптыўнай катэгарызацыi стымулаў рознай мадальнасцi.*
**Гнусавый** – гамза/ты, гнуса/вы – *з непрыемнай насавой прыкметай у голасе.*
**Годовалый** – аднагадо/вы – *якi пражыў адзiн год ад нараджэння.*
**Голень** – галё/нка (ж.р) – *частка нагi ад каленкi да ступнi.*

**Голова** – галава/ (ж.р.) – *частка цела чалавека або жывёліны, у якой знаходзяцца мозг, органы смаку, слыху, рот і органы зроку.*
**Головка** – галоўка (ж.р.) – *патоўшчаная частка чаго-н.*
**Головка члена** – гало/ўка чэля/са (ж.р.) – *стожкападобнае ўшчыльненне плоцевага чэляса.*
**Головной** – гало/ўны – *які адносіцца да галавы.*
**Головокружение** – заваро/т галавы/ (м.р.) – *стан, пры якім страчваецца пачуццё раўнавагі, і ўяўляецца, што ўсё навокал хістаецца.*
**Голод** – го/лад (м.р.) – *1) вострае адчуванне патрэбы ў ежы; 2) адсутнасць ці недахоп прадуктаў харчавання ў выніку неўраджаю, засухі, вайны і пад.*
**Голодный** – гало/дны – *які адчувае голад, нясыты.*
**Гомадотропин** – гомадатрапі/н (м.р.) – *гармон, які апрацоўваецца варсінкамі харыёна і плацэнтай некаторых вышэйшых прыматаў і чалавека; складаны бялок (глікапратэід)*
**Гомеопат** – гамеапа/т (м.р.) – *урач, спецыяліст па гамеапатыі.*
**Гомеопатия** – гамеапатыя (ж.р.) – *метад лячэння хваробы малымі меркамі тых лекаў, якія ў вялікіх мерках выклікаюць у здаровага чалавека прыметы гэтай хваробы.*
**Гомеостаз** – непару/шны стан (м.р.), гамеаста/з (м.р.) – *знаходжанне ў нерухомасці ці дынамічнай стабільнасці складу і ўласцівасцяў унутранага асяроддзя.*
**Гомогенный** – аднаі/сты, гамаге/нны – *аднародны па свайму складу ці паходжанні.*
**Гомологичный** – падо/бны, гамалагі/чны – *суадносны, падобны.*
**Гомосексуализм** – гомасексуалі/зм (м.р.) – *плоцевая цяга да свайго ж полу.*
**Гонит** – гані/т (м.р.) – *запаленне каленнага сустава.*
**Гонорейный** – ву/рзпельны – *звязаны з вурзпелем, характэрны для яго.*

**Гонорея** – ву/рзпель (м.р.) – *венерычная хвароба, выкліканая ганакокам.*
**Горечь** – гарко/та (ж.р.) – *горкі смак, пах чаго-н.*
**Горло** – го/рла (н.р.) – *сярэдняя пярэдняя частка шыі ў чалавека і жывёл ад падгардзёлка да грудзей.*
**Гормон** – узру/шнік (м.р.), гармо/н (м.р.) – *біялагічна актыўнае рэчыва, якое выдзяляюць у кроў залозы ўнутранай сакрэцыі.*
**Гормонопоэз** – узрушнікаўтварэ/нне (н.р.), гармонапо/эз (м.р.) – *працэс развіцця і фармавання органаў, якія выдзяляюць узрушнікі.*
**Горно-климатический** – го/рна-кліматы/чны – *характэрны для клімату гор.*
**Гортань** – дыхні/ца (ж.р), гарта/нь (ж.р.) – *пачатковы аддзел дыхальных шляхоў, які размяшчаецца паміж глоткай і дыхніцай.*
**Горчичник** – гарчы/чнік (м.р.) – *пластыр з пластом гарчыцы (выкарыстоўваецца як лекавы сродак, што выклікае прыток крыві).*
**Госпитализировать** – шпіталізава/ць – (каго) – *змясціць у шпіталь для лячэння.*
**Госпиталь** – шпіта/ль (м.р.) – *бальніца, пераважна вайсковая.*
**Градиент** – градые/нт (м.р.) – *вектар, які паказвае кірунак найхутчэйшай змены некаторай велічыні, значэнне якой змяняецца ад адной кропкі прасторы да другой.*
**Градусник** – ме/рнік (м.р.), гра/дуснік (м.р.) – *тэрмометр для вымярэння тэмпературы цела, а таксама вады, паветра.*
**Гранулема** – гранулё/ма (ж.р.) – *запаленчае разрастанне тканкі, якое мае выгляд вузельчыка або грудка.*
**Гранулоциты** – гранулацы/ты (мн.л.) – *крупчатыя лейкацыты, белыя крывяныя каморкі. У цытаплазме ўтрымліваюць спецыфічныя зярняты-гранулы, малыя фагацыты.*

**Грелка** – грэ/лка (ж.р.) – *прыбор для саграванння, абагрэву.*
**Грипп** – грып (м.р.) – *заразная хвароба, якая характарызуецца запаленнем дыхальных шляхоў і ліхаманкавым станам.*
**Гроб** – труна/ (ж.р.) – *спецыяльная скрыня, у якой хаваюць памерлага.*
**Груди** – гру/дзі (мн.л.) – *1) пярэдняя частка тулава ад шыі да жывата, а таксама парожніна гэтай часткі тулава; 2) малочныя залозы ў жанчыны.*
**Грудница** – грудні/ца (ж.р.) – *запаленне грудных залоз.*
**Грудобрюшная преграда** – грудабру/шная перапо/на (ж.р.) – *перапона, якая раздзяляе грудную і брухавінную паражніны.*
**Грудь** – гру/дзі (мн.л.) – *1) пярэдняя частка тулава ад шыі да жывата; 2) малочныя залозы ў жанчын.*
**Грыжа** – кіла/ (ж.р) – *хвароба, якая характарызуецца выхадам унутранага органа за межы паражніны, у якой ён знаходзіцца, праз натуральную ці ненатуральную адтуліну ў гэтай паражніне.*
**Грязеводолечебница** – гразеводалячэ/бніца (ж.р.) – *медыцынская ўстанова, у якой адбываецца лячэнне хворых лячэбнымі гразямі і водамі з крыніц.*
**Грязелечебница** – гразелячэ/бніца (ж.р.) – *медыцынская ўстанова, у якой адбываецца лячэнне хворых пры дапамозе лячэбных гразей.*
**Грязи** – гразі (мн.л.) – *азёрны або ліманны іл як лекавы сродак, а таксама месца, дзе імі лечацца.*
**Губа** – ву/сна (ж.р.) – *скурна-мускульная рухомая складка, якая ўтварае край рота.*
**Гумма** – гу/ма (ж.р.) – *пухлінападобнае разрастанне тканак розных органаў, характэрнае для позніх перыядаў пранцаў.*
**Гуммозный** – гумо/зны – *які мае адносіны да гумы.*
**Гуморальный** – ва/дкасны, гумара/льны – *звязаны з вадкасцямі арганізма, крывёй, лімфай.*

# -Д –

**Давление** – ціск (м.р.) – *1) сіла, што дзейнічае на якую-н. паверхню ў разліку на адзінку плошчы паверхні; 2) сіла, што дзейнічае на сценкі крываносных судзін чалавека і жывёл пад уплывам кровазвароту; 3) прымус, насілле над чыёй-н. воляй, перакананнямі.*
**Дактилоскопия** – дактыласкапі/я (ж.р.) – *вывучэнне будовы скурных ліній на ўнутраным баку пальцаў рук; метад устанаўлення асобы па адбітках пальцаў.*
**Дальнозоркий** – далёказро/чны – *які бачыць аддаленыя прадметы больш ясна, чым блізкія.*
**Дальнозоркость** – далёказро/чнасць (ж.р.) – *недахоп зроку, які перашкаджае бачыць на блізкай адлегласці.*
**Дальтонизм** – дальтані/зм (м.р.) – *недахоп зроку – няздольнасць адрозніваць некаторыя колеры, звычайна чырвоны і зялёны.*
**Данные** – да/ныя – *сукупнасць асобных характарыстык якога-н. параметру медыка-біялагічных сістэм.*
**Дантист** – зубаса/д (м.р.), данты/ст (м.р.) – *зубны ўрач; зубны тэхнік.*
**Дарсонвализация** – дарсонваліза/цыя (ж.р.) – *метад электратэрапіі; прымяненне штуршковага току высокай частасці, малой сілы і высокага напружання для лячэння неўрозаў, жыўлення тканак.*
**Датчик** – чу/йнік (м.р.), да/тчык (м.р.) – *прылада, якая непасрэдна прыймае, пераўтварае і перадае спецыяльнымі прыборамі даныя якіх-н. вымярэнняў.*
**Дауна болезнь** – хваро/ба Даўна (ж.р.) – *адна з найбольш распаўсюджаных храмасомных хвароб, абумоўлена наяўнасцю лішняй храмасомы.*
**Двенадцатиперстная** – двана/стка (ж.р), дванаццаціпе/рсная (ж.р.) – *частка тонкай кішкі чалавека, якая пачынаецца ад страўніка.*

**Двигательный** – ру/хальны – *які мае адносіны да руху, прыводзіць у рух што-н., кіруе рухам чаго-н.*
**Движение** – рух (м.р.) – *1) змяненне становішча прадмета ці яго частае перамяшчэнне; 2) перамяшчэнне ў прасторы; 3) змяненне становішча цела ці яго частак; 4) колькаснае ці якаснае змяненне, развіццё.*
**Двойной** – двайны/, падво/йны – *1) у два разы большы, падвоены; 2) які складаецца з двух аднародных ці падобных прадметаў, частак; 3) які праяўляецца ў двух відах.*
**Двойня** – двайня/ты (мн.л.) – *двое дзяцей, адначасова народжаных адной маці.* Двойственные изображения – двайі/стыя адлюстрава/нні (мн.л.) – *адлюстраванні, якія дапускаюць розныя суадносіны "фігуры" і "фону" ў залежнасці ад уяўленняў суб'екта.*
**Двоюродный** – стрые/чны – *які знаходзіцца ў сваяцтве па дзеду ці бабцы з дзецьмі іх сыноў або дачок.*
**Двуперистые** – двухпе/рыстыя (цяглiцы) – *цягліцы, якія маюць прымацаванні па абодва бакі ад шчапы.*
**Де – (дез -, дезо-)** – дэ-, (дэз-, дэза-) – *прыстаўка 1) аддзяленне, выдаленне, адмена, спыненне; 2) рух уніз, паніжэнне, спад.*
**Дебильность** – дэбі/льнасць (ж.р.) – *псіхічная непаўнавартасць, разумовая адсталасць па прыродзе.*
**Девиантное поведение** – дэвія/нтныя паво/дзіны (мн.л.) – *стварэнне ўчынкаў, якія супярэчаць нормам сацыяльных паводзін у тым ці іншым грамадстве.*
**Девственная плева** – дзяво/цкая бало/на (ж.р.) – *складка слізніцы, якая размешчана паміж прысенкам і паражнінай похвы, мае злучальнатканкавую аснову, якая мае валокны цыгліц, нервы, крывяносныя судзіны.*
**Девственница** – дзе/вая (ж.р.) – *асоба (жанчына), якая не мела плоцевых зносін.*
**Девственность** – дзяво/цкасць (ж.р.) – *адсутнасць у асобы плоцевых зносін; асноўнай прыкметай у жанчын з'яўляецца наяўнасць дзявоцкай балоны.*

**Дегазация** – дэгаза/цыя (ж.р.) – *абяшкоджванне мясцовасці, рэк і інш., заражаных атрутнымі рэчывамі.*
**Дегельминтизация** – дэгельмінтыза/цыя (ж.р.) – *комплекс лячэбна-прафілактычных мерапрыемстваў, накіраваных на вызваленне людзей ці жывёл ад гельмінтаў і на прадухіленне забруджвання пры гэтым навакольнага асяроддзя інвазійнымі элементамі (яйкамі ці лічынкамі гельмінтаў).*
**Дегенерация** – дэгенера/цыя (ж.р.) – *пагаршэнне біялагічных і псіхічных адзнак арганізма, выраджэнне.*
**Дегидратация** – зняво/дненне (н.р.), дэгідрата/цыя (ж.р.) – *памяншэнне ўтрымання вады ў арганізме.*
**Дегидроз** – дэгідро/з (м.р.) – *паніжанае потааддзяленне.*
**Дегустация** – дэгуста/цыя (ж.р.) – *кулінарны тэрмін, які азначае "ўважлівае ацэньванне смаку разнастайных прадуктаў" і засяроджванне ўвагі на смакавай сістэме адчуванняў высокага кулінарнага мастацтва.*
**Дезаминирование** – дэзамінава/нне (н.р.) – *хімічны працэс страты амінагрупы.*
**Дезинфекция** – дэзінфе/кцыя (ж.р.) – *знішчэнне заразных мікробаў спецыяльнымі сродкамі.*
**Дезодорация** – дэзадара/цыя (ж.р.) – *знішчэнне дрэннага паху з дапамогай хімічных рэчываў.*
**Дейтеранопия** – дэйтэранапі/я (ж.р.) – *прыроджаная частковая слепата, пры якой адсутнічае ўспрыманне зялёнага колеру.*
**Декаляж** – дэкаля/ж (м.р.) – *паўторнае з'яўленне пазнавальных структур у працэсе развіцця.*
**Деление** – дзяле/нне (н.р.) – *працэс бясполага размнажэння каморак у жывёл і раслін.*
**Деликт** – дэлі/кт (м.р.) – *парушэнне закона, невыкананне абавязкаў, як аснова для іску па стратах пры адсутнасці кантракта.*
**Делирий** – дэлі/рый (м.р.) – *від памрачэння свядомасці; узнікненне памылковай арыентацыі ў*

*прасторы, сцэнападобных, радзей слыхавых амарок, яркіх трызневых уяўленняў, рухальных узбуджэнняў.*
**Дельтовидная** – дэльтападо/бная – *якая мае форму дэльты.*
**Деменция** – дэме/нцыя (ж.р.) – *набытая форма прыдуркаватасці, якая звязана з паслабленнем інтэлектуальных здольнасцей, цяжкасцямі выкарыстання мінулага вопыту.*
**Дендрит** – дэндры/т (м.р.) – *галінчаты адростак нервовай каморкі, які ўспрымае сігналы ад іншых нейронаў.*
**Дентин** – дэнці/н (м.р.) – *цвёрдая тканка зуба, якая складаецца з асноўнага матэрыялу, прапітанага салямі кальцыю і калагенавымі валокнамі.*
**Деонтология** – дэантало/гія (ж.р.) – *вучэнне аб праблемах маралі і маральнасці; раздзел этыкі.*
Деперсонализация – дэперсаналіза/цыя (ж.р.) – *стан, які суправаджаецца змяненнем або стратай адчування свайго "Я".*
**Депрессия** – патлуме/нне (н.р.), дэпрэ/сія (ж.р.) – *прыгнечаны псіхічны стан чалавека.*
**Дератизация** – дэратыза/цыя (ж.р.) – *комплексныя меры па знішчэнні грызуноў.*
**Дерма** – дэ/рма (ж.р.) – *тканкавая частка скуры ў хрыбетных жывёл і чалавека.*
**Дермани**т – дэрматы/т (м.р.) – *асобая група запаленчых хвароб скуры.*
**Дерматоз** – дэрмато/з (м.р.) – *агульны тэрмін для абазначэння хвароб скуры і яе прыдаткаў (валасоў, пазногцяў).*
**Дерматолог** – дэрмато/лаг (м.р.) – *спецыяліст у галіне дэрматалогіі.*
**Дерматология** – дэрматало/гія (ж.р.) – *галіна медыцыны, якая вывучае хваробы скуры.*
**Дерматомикоз** – дэрматаміко/з (м.р.) – *група мікозаў, пры якіх у асноўным паражаюцца скура і яе прыдаткі.*
**Дерматомиозит** – дэрматаміязі/т (м.р.) – *хвароба з групы калагенозаў, якая характарызуецца сістэмным*

*паражэннем папярэчна-паласатай і гладкай мускулатуры з парушэннем рухальнай функцыі, а таксама паражэннем скуры ў выглядзе эрытэлы і ацёка, пераважна на адкрытых участках цела.*
**Десенсибилизатор** – дэсенсібіліза/тар (м.р.) – *лекавы сродак, які папярэджвае ці паслабляе алергічныя рэакцыі, выклікаючы дэсенсібілізацыю.*
**Десенсибилизация** – дэсенсібіліза/цыя (ж.р.) – *паніжэнне адчувальнасці арганізма да іншачынніка.*
**Десмология** – жылаве/данне (н.р), дэсмало/гія (ж.р.) – *навука пра шчапу.*
**Десмургия** – дэсмургі/я (ж.р.) – *частка хірургіі, якая распрацоўвае метады накладання павязак.*
**Десна** – дзясна/ (ж.р.) – *слізістая абалонка паражніны рота, якая пакрывае зубныя адросткі сківіц.*
**Десневой (периодонт)** – дзеснявы/ (перыядо/нт) – *запаленне дзясны.*
**Детский** – дзіця/чы – *які мае адносіны да дзіцяці.*
**Детский церебральный паралич (ДЦП)** – дзіця/чы цэрэбра/льны паляру/ш (ДЦП) (м.р.) – *збіральны тэрмін, які аб'ядноўвае групу непрагрэсіруючых, але якія часта змяняюцца сіндромаў маторных парушэнняў, другасных у адносінах да паражэння ці анамаліям галаўнога мозгу, якія ўзнікаюць на ранніх стадыях яго развіцця.*
**Детство** – дзяці/нства (н.р.) – *1) дзіцячая пара; дзіцячыя гады; 2) па-дзіцячаму легкадумныя паводзіны, учынкі.*
**Дефекация** – дэфека/цыя (ж.р.) – *складанаадсветны акт вывядзення калавых мас з ануса.*
**Дефект** – дэфе/кт (м.р.) – *недахоп, загана.*
**Дефективный** – дэфекты/ўны – *які мае фізічныя або псіхічныя недахопы; ненармальны.*
**Дефицит** – няста/ча (ж.р.), дэфіцы/т (м.р.) – *1) перавышэнне расходаў над даходамі; 2) недахоп чаго-н., няхватка ў чым-н.*

**Деформация** – дэфарма/цыя (ж.р.) – (чаго) – *змяненне формы, аб'ёму, памеру чаго-н. пад уздзеяннем знешняй сілы.*
**Деятельность** – дзе/йнасць (ж.р.) – *1) праца, занятак у якой-н. галіне; 2) сукупнасць дзеянняў, мерапрыемстваў якога-н. прадпрыемства, установы, арганізацыі.; 3) работа, функцыянаванне якіх-н. органаў, арганізма.*
**Диабет** – дыябе/т (м.р.) – *назва шэрагу хвароб, выкліканых парушэннем абмену рэчываў.* Цукровы дыябет – *хвароба, якая характарызуецца павелічэннем цукру ў крыві і ў мачы.*
**Диагноз** – дыя/гназ (м.р.) – *урачэбнае заключэнне аб хваробе на падставе абследавання хворага.*
**Диагностика** – дыягно/стыка (ж.р.) – *галіна медыцыны, якая вывучае метады і прынцыпы вызначэння дыягназу.*
**Диагональ** – дыягана/ль (ж.р.) – *1) шчыльная бавоўняная або шарсцяная тканіна з палямі рубчыкам; 2) прамая лінія, якая злучае два несумежныя вуглы многавугольніка або дзве вяршыні шматгранніка, якія не ляжаць у адной грані.*
**Диаграмма** – вырысо/ўка (ж.р.), дыягра/ма (ж.р.) – *графічны малюнак, які наглядна паказвае суадносіны якіх-н. велічынь.*
**Диализ** – дыя/ліз (м.р.) – *вызваленне калоідных раствораў і раствораў высокамалекулярных рэчываў ад распушчаных у іх солей і іншых нізкамалекулярных рэчываў.*
**Диаметр** – пярэ/чнік (м.р.), дыя/метр (м.р.) – *адрэзак прамой, які злучае два пункты акружнасці і праходзіць праз яе цэнтр.*
**Диарея** – ля/ксы (мн.л), дыярэ/я (ж.р.) – *паталагічны стан, пры якім у хворага назіраецца пачашчаная дэфекацыя, пры гэтым стул становіцца вадзяністым.*
**Диастема** – праме/жак (паміж зубамі), дыястэ/ма (ж.р.) – *прастора паміж чым-н.*

**Диастола** – дыя/стала (ж.р.) – *адзін са станаў сэрцавай цягліцы пры сэрцабіцці, менавіта расслаблены стан паміж сісталамі.*
**Диатез** – дыятэ/з (м.р.) – *гэта стан чалавечага арганізма, які перадаецца ў спадчыну і характарызуецца схільнасцю да ўзнікнення пэўных хвароб.*
**Диатермия** – дыятэрмі/я (ж.р.) – *глыбокае праграванне тканак і органаў цела электрычным токам высокай частаты з лячэбнымі мэтамі.*
**Диафиз** – дыя/фіз (м.р.) – *сярэдняя частка трубчастай косці.*
**Диафрагма** – запо/на (ж.р), дыяфра/гма (ж.р.) – *цяглічная перагародка, якая аддзяляе грудную паражніну ад брухавіннай.*
**Дивертикул** – вы/вараць (ж.р), дыве/ртыкул (м.р.) – *выпукленне, утворанае ў слабых участках сценкі стрававальнага тракту.*
**Диета** – дые/та (ж.р.) – *спецыяльна распрацаваны рэжым харчавання ў адносінах да колькасці, хімічнага складу, фізічных уласцівасцей і інтэрвалу ў прыёме ежы.*
**Диетолог** – дыето/лаг (м.р.) – *спецыяліст у галіне дыеталогіі.*
**Диетотерапия** – дыетатэрапі/я (ж.р.) – *метад лячэння, заснаваны на ўжыванні вызначанай дыеты.*
**Диетпитание** – дыетхарчава/нне (н.р.) – *гэта збалансаваная дыета, дыета з прапарцыянальным спалучэннем пажыўных элементаў (рэчываў).*
**Дизартрия** – дызартры/я (ж.р.) – *праблемнасць артыкуляцыі; праяўляецца ў невыразнасці вымаўлення, запаволенасці ці перарыўнасці маўлення.*
**Дизентерийный** – крыва/ўкавы, дызентэры/йны – *уласцівы для дызентэрыі.*
**Дизентерия** – крыва/ўка (ж.р), дызентэры/я (ж.р.) – *вострае інфекцыйнае захворванне, якое суправаджаецца пашкоджаннем кішачніка; крывавыя ляксы.*

**Дизурия** – дызуры/я (ж.р.) – *агульная назва цяжкасцей з мачаспускам.*
**Дилататор** – пашыра/льнік (м.р.), дылата/тар (м.р.) – *прылада для пашырэння звужаных прасветаў натуральных каналаў шляхам рассоўвання райналежных планак або раздзіманні эластычнага балона.*
**Дилатация** – дылата/цыя (ж.р.) – (чаго) – *устойлівае дыфузнае пашырэнне якога-н. судзіннага органа.*
**Динамика** – дына/міка (ж.р.) – *1) раздзел механікі, у якім вывучаецца рух цела пад уздзеяннем прыкладзеных сіл; 2) ход развіцця якіх-н. працэсаў; 3) рух, дзеянне, развіццё.*
**Динамометр** – дынамо/метр (м.р.) – *прылада для вымярэння цяглічнай сілы чалавека.*
**Динамометрия** – дынамаме/трыя (ж.р.) – *вымярэнне сілы некалькіх цяглічных груп чалавека пры дапамозе спецыяльных прылад – медыцынскіх дынамометраў.*
**Диоптрия** – дыяптры/я (ж.р.) – *адзінка вымярэння аптычнай сілы лінз.*
**Диплопия** – дыплапі/я (ж.р.) – *парушэнне зроку, выражанае ў дваенні бачных прадметаў.*
**Диплоэ** – наздраві/ца пло/скай ко/сці (ж.р.), дыплоэ (н.р.) – *губчатая частка, размешчаная паміж унутранымі і вонкавымі слаямі чэрапа.*
**Дипсомания** – дыпсамані/я (ж.р.) – *від запою, з'яўленне якога звязваюць з дэпрэсіяй.*
**Дисбаланс** – дысбала/нс (м.р.) – *адхіленне ад аптымальных суадносін біялагічна важных пажыўных рэчываў у складзе рацыёну харчавання.*
**Дисграфия** – дысграфі/я (ж.р.) – *гэта няздольнасць валодаць пісьмом пры нармальным развіцці інтэлекту.*
**Дислексия** – дыслексі/я (ж.р.) – *парушэнне здольнасці да авалодання навыкамі чытання пры нармальным развіцці інтэлекту.*

**Дисменорея** – дысменарэ/я (ж.р.) – *паталагічны працэс, пры якім у дні менструальнага цыклу з'яўляюцца адчувальныя болі ў нізе жывата.*
**Диспансер** – дыспансе/р (м.р.) – *медыцынская ўстанова па лячэнні і папярэджванні хвароб.*
**Диспепсия** – дыспепсі/я (ж.р.) – *парушэнне нармальнай дзейнасці страўніка і кішачніка.*
**Диспептический** – дыспепты/чны – *які мае адносіны да дыспепсіі.*
**Диспноэ** – разла/джанне ды/ху (н.р.), дыспно/э (н.р.) – *цяжкае дыханне, разлад яго рытму і глыбіні.*
**Диссеминация** – дысеміна/цыя (ж.р.) – *распаўсюджванне ўзбуджальніка з інфекцыйнага і ізаляванага ачагу ці каморак пухліны з асноўнага вузла ў межах органа ці па ўсім арганізме праз крывяносную і лімфатычную сістэмы.*
**Диссимиляция** – дысіміля/цыя (ж.р.) – *распад складаных арганічных рэчываў на больш простыя ў працэсе жыццядзейнасці арганізма.*
**Диссоциация** – дысацыя/цыя (ж.р.) – *1) распад малекул на састаўныя часткі; 2) парушэнне звязанасці псіхічных працэсаў.*
**Дистальный** – дале/йшы, дыста/льны – *які з'яўляецца працягам чаго-н. папярэдняга; наступны.*
**Дистилированная вода** – перагна/ная вада/ (ж.р.), дыстылірава/я вада/ (ж.р.) – *ачышчаная перагонкай.*
**Дистрофический** – дыстрафі/чны – *які мае дачыненне да дыстрафіі.*
**Дистрофия** – дыстрафі/я (ж.р.) – *парушэнне абмену, жыўлення тканак, органаў або цэлага арганізма.*
**Диурез** – дыўрэ/з (м.р.) – *аб'ём мачы, якая ўтвараецца за пэўны прамежак часу.*
**Дифтерия** – дыфцяры/к (м.р.), дыфтэры/я (ж.р.) – *заразная пераважня дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца паражэннем зева, слізніц носа і дыхніцы.*
**Длинный** – до/ўгі – *1) працяглы ў прасторы; 2) працяглы ў часе.*

**Длительность** – праця/гласць (м.р.) – *1) адлегласць у прасторы, занятая чым-н.; 2) час, на працягу якога што-н. дзейнічае, адбываецца.*
**Добавочный** –дадатко/вы – *які з'яўляецца дадаткам, дабаўкай да чаго-н. асноўнага.*
**Доброкачественный** – дабрая/касны – *1) добры, прыдатны па якасці; 2) які не пашыраецца і паддаецца лячэнню.*
**Доверие** – даве/р (м.р.) – *пераканананасць у чыёй-н. шчырасці, сумленнасці і заснаваныя на іх адносіны да каго-, чаго-н.*
**Доза** – ме/рка (ж.р.), до/за (ж.р.) – *дакладна адмераная колькасць чаго-н. (якога-н. рэчыва, лякарства, а таксама энергіі выпрамянення).*
**Дозиметрия** – дазіме/трыя (ж.р.) – *сукупнасць метадаў вымярэння дозы радыеактыўнага выпраменьвання, а таксама вывучэнне яго ўздзеяння на арганізм чалавека.*
**Дозревать** – даспява/ць – *станавіцца зусім спелым.*
**Доктор** – до/ктар (м.р.) – *1) тое, што і ўрач, лекар; 2) вышэйшая вучоная ступень, а таксама асоба, якой прысуджана гэта ступень.*
**Долевые** – до/левыя – *звязаныя з дзяленнем чаго-н. на долі, часткі.*
**Долька** – до/лька (ж.р.) – *частка плода цытрусавых раслін у выглядзе сегмента.*
**Доля** – до/ля (ж.р.) – *1) частка чаго-н.; 2) лёс.*
**Доминанта** – перава/жны чы/ннік (м.р.), даміна/нта (ж.р.) – *асноўная пераважаючая ідэя; асноўная прыкмета або важнейшая састаўная частка чаго-н.*
**Донор** – дона/р (м.р.) – *чалавек, які дае сваю кроў для пералівання хворым; чалавек, у якога бярэцца які-н. орган для перасадкі другому.*
**Допинг** – до/пінг (м.р.) – *1) узбуджальныя сродкі, якія пры ўвядзенні ў арганізм стымулююць фізічную і нервовую дзейнасць; 2) пра ўсё, што стымулюе творчую актыўнасць, павышае працаздольнасць.*
**Допинговый** – допі/нгавы – *які адносіцца да допінгу.*

**Дородовой** – даро/давы – *перыяд, які працягваецца до родаў.*
**Дорсальный** – дарса/льны – *размешчаны з боку спіны; спінны;*
**Достоверный** – пэ/ўны – *1) дакладна вызначаны, прызначаны; 2) ясны, несумненны.*
**Драже** – дражэ/ (н.р.) – *1) сорт дробных цукерак акруглай формы; 2) дазіраваныя лекі, вітаміны ў форме такіх цукерак.*
**Дремота** – дрымо/ты (мн.л.) – *паўсонны стан; стан спакою, бяздзейнасці, нерухомасці.*
**Дренаж** – сцёк (м.р.), дрэна/ж (м.р.) – *1) асушэнне глебы пры дапамозе сістэмы траншэй ці труб, а таксама сама сістэма такіх траншэй, труб; 2) вывядзенне з раны гною, вадкасці з дапамогай спецыяльнай трубкі або палосак нітніцы; 3) гумавая ці шкляная трубка з адтулінамі, якая ўводзіцца ў рану для адтоку гною, вадкасці.*
**Дренировать** – дрэнава/ць – *рабіць дрэнаж.*
**Дрожание** – дрыжа/нне (н.р.) – *дзеянне і стан паводле дзеяслова* <u>*дрыжаць.*</u>
**Дрожательный паралич** – дрыжа/льны паляру/ш (м.р.), паралі/ч (м.р.) – *паралюш, які суправаджаецца дрыжаннем, дрыжыкамі.*
**Дрожать** – дрыжа/ць – *трэсціся, калаціцца.*
**Дрожь** – дры/жыкі (мн.л.) – *частае сутаргавае ўздрыгванне цела (ад холаду, хваравітага стану і пад.).*
**Дряхлеть** – друзле/ць, драхле/ць – *станавіцца друзлым.*
**Дряхлый** – дру/злы, дра/хлы – *1) слабы, нядужы ад старасці; 2) які стаў трухлявым ад часу, ператварыўся ў пацяруху (аб прадметах).*
**Дуга** – лука/ (ж.р.), дуга/ (ж.р.) – *частка акружнасці або што-н. іншае, што мае форму крывой выгнутай лініі.*
**Душ** – душ (м.р.) – *прылада для аблівання цела тонкімі вадзянымі струменьчыкамі.*

**Душа** – душа/ (ж.р.) – *1) унутраны псіхічны стан чалавека, яго свядомасць; 2) тая ці іншая ўласцівасць характару, а таксама чалавек з тымі ці іншымі ўласцівасцямі; 3) натхніцель, арганізатар чаго-н.; 4) пра чалавека; 5) сяброўскі фамільярны зварот да каго-н.; 6) самае галоўнае, сутнасць чаго-н.*
**Душевнобольной** – псіхічнахво/ры (ж.р.) - *стан чалавека, які знаходзіцца не ў стане псіхічнай раўнавагі.*
**Дым** – дым (м.р.) – *лятучыя прадукты гарэння з дробнымі часцінкамі вугалю, што ўзнімаюцца ў паветра ў выглядзе цёмных клубоў.*
**Дыхание** – дыха/нне (н.р.) – *працэс паглынання кіслароду і выдзялення вуглекіслаты жывымі арганізмамі.*
**Дыхательное горло** – дыхні/ца (ж.р.) – *орган, які ўдзельнічае ў дыханні.*
**Дыхательный** – ды/хальны – *які служыць для дыхання, удзельнічае ў дыханні.*
**Дышать** – ды/хаць – *1) паглынаць спецыяльнымі органамі кісларод, неабходны для жыццядзейнасці арганізма; 2) вылучаць, распаўсюджваць што-н.; 3) бачыць у кім-, чым-н. мэту свайго існавання; поўнасцю аддавацца каму-, чаму-н.*

# -Е-

**Евгеника** – еўге/ніка (ж.р.) – *вучэнне аб спадчынным здароўі людзей і шляхах паляпшэння іх спадчынных уласцівасцей.*
**Евстахиева труба** – еўста/хіева труба/ (ж.р.) – *косцева-храстковы канал, які звязвае бубенную паражніну з носавай часткай глоткі.*
**Еда** – е/жа (ж.р.) – *тое, што ядуць і п’юць; прадукты харчавання.*

**Единица** – адзі/нка (ж.р.) – *1) першы, найменшы цэлы лік, а таксама яго лічбавы знак “1”; 2) самая нізкая адзнака паспяховасці ў дзесяцібальнай сістэме, якая азначае “вельмі дрэнна”; 3) у спалучэнні з назоўнікамі або прыметнікамі азначае велічыню, якая прынята для вымярэння аднародных велічынь; 4) кожная асобная істота, прадмет, паасобнік; 5) самастойная частка нечага цэлага; 6) асобны чалавек, асоба, індывідуум.*

**Ежевика** – ажы/на (ж.р.) – *1) кустовая калючая ягадная расліна сямейства ружакветных; 2) чорна-шызыя ядомыя ягады гэтай расліны, падобныя на ягады малін.*

**Ежедневный** – штодзё/нны – *1) які бывае кожны дзень; 2) звычайны, будзённы.*

**Естественные условия** – натура/льныя ўмо/вы (мн.л.) – *уласцівыя прыродзе, створаныя прыродай; не штучныя.*

# -Ж-

**Жажда** – сма/га (ж.р) – *1) неабходнасць, жаданне піць; 2) моцнае жаданне чаго-н.*

**Жалоба** – ска/рга (ж.р.) – *1) выражэнне незадавальнення, наракання; 2) афіцыйная заява аб чым-н. незаконным або няправільным.*

**Жане шприц** – жанэ/ шпрыц – *медыцынскі інструмент, які выкарыстоўваецца для прамывання і які адрозніваецца значнай умяшчальнасцю (100 – 200 мл.).*

**Жар** – гара/чка (ж.р) – *1) хвароба, якая суправаджаецца высокай тэмпературай цела; 2) азарт, спешка ў працы, мітуслівая дзейнасць.*

**Жаропонижающее** – гарачкапаніжа/льнае – *лекі, якія зніжаюць тэмпературу цела.*

**Жгут** – пы/лка (ж.р), жгут (м.р) – *гумавая трубка, бінт ці іншы падобны прадмет, якім перавязваюць канцавіны, каб спыніць крывацёк.*
**Жевание** – жава/нне (н.р.) – *расціранне зубамі і рухамі языка чаго-н. у роце.*
**Желание** – жада/нне (н.р.) – *імкненне да здзяйснення чаго-н.; валодання чым-н.*
**Желвак** – жаўла/к (м.р.) – *цвёрдая, у выглядзе гуза, пухліна на целе чалавека, жывёлы.*
**Железа** – зало/за (ж.р.) – *орган у чалавека і жывёлы, які выпрацоўвае рэчывы, неабходныя для арганізма.*
**Железистый** – зало/зісты – *які адносіцца да залозы.*
**Желтуха** – жаўта/чка (ж.р.), жаўту/ха (ж.р.) – *1) жоўтая афарбоўка скуры і слізніцы, што назіраецца пры захворванні печані, жоўцевых шляхоў, а таксама крыві; 2) тое, што і вірусны гепатыт.*
**Желудок** – стра/ўнік (м.р.) – *орган стрававання ў выглядзе цяглічнага меха.*
**Желудочек** – шлу/начак (м.р.), жалу/дачак (м.р.) – *частка сэрца, якая рэгулюе рух крыві па крывяноснай сістэме.*
**Желудочный** – стра/ўнікавы – *які адносіцца да страўніка.*
**Желчегонный** – жаўцяго/нны – *які ўзмацняе ўтварэнне жоўці або аблягчае яе выдзяленне ў прасвет кішачніку.*
**Желчеотделение** – жоўцевыдзяле/нне (н.р.) – *працэс утварэння жоўці гіпатацытамі.*
**Желчнокаменная (болезнь)** – жоўцекамянё/вая хваро/ба (ж.р.) – *звязана з утварэннем у жаўцяку і жоўцевых пратоках камянёў з халестэрыну.*
**Желчный** – жо/ўцевы – *які адносіцца да жоўці.*
**Желчный пузырь** – жаўця/к (м.р.), жо/ўцевы пузыр (м.р.) – *парожні орган у хрыбетнікавых жывёл і чалавека, у якім змешчана жоўць.*
**Желчь** – жо/ўць (ж.р.) – *1) жоўта-зялёная горкая вадкасць, якую выдзяляе печань у кішачнік; 2) злосць, раздражненне.*

**Женский** – жано/чы – *які прыналежыць жанчыне.*
**Жест** – жэст (м.р.) – *рух рукі, галавы для пацвярджэння сказанага, падачы якіх-н. сігналаў; учынак, зроблены з якой-н. паказной мэтай.*
**Живот** – жывот (м.р.) – *частка цела, у якой размешчаны органы стрававання.*
**Жидкий** – ва/дкі – *які мае здольнасць цячы.*
**Жидкость** – ва/дкасць (ж.р.) – *рэчыва, якое мае ўласцівасць цячы і набываць форму таго посуду, дзе яно знаходзіцца.*
**Жизненная емкость легких** – жыццё/вая ё/містасць лё/гкага – *аб'ём паветра, неабходнага для падтрымкі жыццяздольнасці чалавека.*
**Жизненный** – жыццё/вы – *блізкі да жыцця, да сапраўднасці; рэальны.*
**Жир** – тлу/шч (м.р.) – *нераспушчальная ў вадзе алеістае рэчыва, якое ўтрымліваецца ў жывёльных і раслінных тканках.*
**Жировик** – тлушча/к (м.р.) – *тлушчавая падскурная пухліна.*
**Жирообразование** – тлушчаўтварэ/нне (н.р.) – *працэс утварэння тлушчу.*
**Жироотложение** – тлушчаўклада/нне (н.р.) – *выдзяленне і адкладанне тлушчу ў целе жывёльных арганізмаў.*

# -З-

**Заболевание** – захво/рванне (н.р.) – *узнікненне хваробы.*
**Заболеть** – захварэ/ць – *стаць хворым.*
**Забрюшинный** – забрухаві/нны – *частка брухавіннай паражніны, размешчаная паміж прысеначнай брухавінай і ўнутрыбрухавіннай фасцыяй, якая працягваецца ад запоны да малога лагва.*

**Забывание** – забыва/нне (н.р.) – *страта ўспамінаў аб кім-, чым-н.*
**Зависть** – за/йздрасць (ж.р.) – *пачуццё незадаволенасці і раздражнення, выклiканае перавагамі, поспехамі, дабрабытам іншых, жаданне мець тое, што маюць іншыя.*
**Заворот** – заваро/т (м.р.) – *рэзкая змена напрамку руху; месца, дзе змяняецца напрамак.*
**Завтрак** – сне/данне (н.р.) – *ранішняя яда.*
**Заднепроходной** – заднепрахадны/ - *задняя частка вобласці прамежжа, размешчаная паміж анусам і ампулай кутніцы.*
**Задний** – за/дні – *які знаходзіцца ззаду, накіраваны назад.*
**Задыхаться** – душы/цца, задыха/цца – *1) пачаць цяжка і часта дыхаць (ад хвалявання, бегу і пад.); 2) паміраць ад недахопу паветра, ад дыму, удушлівых газаў.*
**Задышать** – зады/хаць – *пачаць дыхаць.*
**Заживание** – заго/йванне (н.р.) – *зацягванне, зашнарванне.*
**Заживить** – загаі/ць – (што) – *залячыць, зажывіць ( пашкоджанне, рану на целе).*
**Зажим** – заціска/чка (м.р.) – *прыстасаванне для заціскання чаго-н.*
**Заземление** – зазямле/нне (н.р.) – *1) дзеянне паводле значэння дзеясловаў <u>зазямляць – зазямліць</u> і стан паводле значэння дзеясловаў <u>зазямляцца – зазямліцца</u>; 2) прыстасаванне для электрычнага злучэння з зямлёй электрычных машын, радыёпрыёмнікаў і інш., каб палепшыць іх работу, засцерагчы ад электрычнага току.*
**Заикание** – заіка/нне (н.р.) – *недахоп у мове, які праяўляецца ў міжвольным паўтарэнні асобных гукаў, складоў або ў затрымцы іх вымаўлення.*
**Закаливание** – загарто/ўванне (н.р) – *дзеянне паводле значэння дзеясловаў <u>загартоўваць – загартаваць</u> і*

*стан паводле дзеясловаў загартоўвацца – загартавацца.*

**Закупорить** – захло/пнуць, закупо/рыць – (каго-што) – *1) заткнуць шчыльна (адтуліну ў чым-н.); 2) прымусіць сядзець у памяшканні.*

**Закупорка** – захло/п (м.р), закупо/рка (ж.р.) – *дзеянне паводле значэння дзеясловаў закупорваць – закупорыць і стан паводле значэння дзеясловаў закупорвацца – закупорыцца.*

**Замечание** – заўва/га (ж.р) – *1) кароткае меркаванне, думка пра што-н.; 2) указанне на памылку, вымова.*

**Замкнуться** – замкну/цца – *1) зачыніцца (пра замок) або зачыніцца на замок, ключ; 2) злучыцца канцамі; 3) адасобіцца, перастаць мець зносіны з іншымі.*

**Замыкание** – замыка/нне (н.р.) – *працэс дзеяння па значэнні дзеяслова замыкаць, замыкацца.*

**Занавес** – засло/на (ж.р) – *1) перашкода; прылада, якая абараняе; 2) тое ж, што і прыкрыццё; 3) супрацьдзеянне.*

**Занемогать** – заняду/жваць – *стаць хворым, захварэць.*

**Заноза** – стрэ/мка (ж.р.) – *1) тонкі, востры кавалачак дрэва, металу пад скурай; 2) той (тая), хто дакучае.*

**Занозить** – застрамі/ць – *усадзіць стрэмку ў што-н.*

**Западение** – запада/нне (н.р.) – *уцягненне сценкі грудной клеткі ў вобласць праекцыі сэрца.*

**Запас** – прыпа/с (м.р.) – *1) тое, што прыгатавана, сабрана для чаго-н.; 2) загнуты за шво лішак тканіны, які пакідаюць на выпадак, калі спатрэбіцца павялічыць у шырыню або даўжыню якую-н. частку адзення; 3) катэгорыя грамадзян, якія прайшлі вайсковую службу і прызываюцца зноў у войска ў выпадку неабходнасці.*

*Запах* – пах (м.р.) – *уласцівасць рэчываў, якая ўспрымаецца органамі нюху.*

**Заплечье** – запле/чча (н.р.) – *частка спіны каля плячэй.*

**Запломбированный** – запламбава/ны – *які з пломбай.*

**Запоминание** – запаміна/нне (н.р.) – *актыўны працэс, пасродкам якога адбываецца адбор інфармацыі для наступнага аднаўлення.*
**Запор** – за/цвердзь (ж.р.) – *стан, пры якім адыходы стрававання застойваюцца ў кішачніку або адбываецца іх затрымка ў кутніцы.*
**Запрещенный** – забаро/нены – *які падвергнуўся забароне.*
**Запрос** – за/пыт (м.р.) – *афіцыйны зварот з патрабаваннем, просьбай паведаміць пра якія-н. звесткі, даць тлумачэнні і г.д.*
**Запястный** – прыдало/нны, запя/сцевы – *1) звязаны з прыдалоннем; 2) уласцівы прыдалонню.*
**Запястье** – прыдало/нне (н.р.), запя/сце (н.р.) – *частка верхняй (пярэдняй) пяціпальцавай канцавіны хрыбетнікаў, размешчаная паміж локвіцай і пясцю.*
**Заражаемость** – заража/льнасць (ж.р.) – *схільнасць падвяргацца заражэнню.*
**Заразный** – зара/зны – *1) выкліканы заразай, інфекцыйны; 2) заражаны заразнай хваробай; 3) прызначаны для заразных хворых.*
**Зародыш** – заро/дак (м.р.) – *1) арганізм на ранняй стадыі свайго развіцця; 2) зачаткавы стан чаго-н., здольнага развівацца ў далейшым.*
**Заряд** – ладу/нак (м.р.), зара/д (м.р.) – *1) пэўная колькасць выбуховага рэчыва, шроту, карцечы, якая змяшчаецца ў снарадзе, патроне, стрэльбе; 2) колькасць электрычнасці ў якім-н. целе.*
**Заслонка** – за/сланка (ж.р.) – *1) прыстасаванне, якім засланяюць топку печы; 2) прыстасаванне для закрывання якіх-н. адтулін.*
**Засорить** – запарушыць – (што) –*1) забрудзіць, пашкодзіць чым-н., што трапіла ў сярэдзіну; 2) прысыпаць, зацерушыць.*
**Заспиртовать** –заспіртава/ць – (каго-што) – *палажыць у спірт для засцярогі ад гніення.*

**Застой** – засто/й (м.р.) – *1) адсутнасць руху, нерухомасць; 2) адсутнасць развіцця, удасканальвання.*
**Затылок** – паты/ліца (ж.р.) – *задняя частка галавы.*
**Затылочный** – паты/лічны – *які мае адносіны да патыліцы.*
**Заусеница** – *(на пальцы)* жыві/ца, заву/сеніца – *1) задраная скурка каля пазногця; 2) востры выступ на паверхні металу.*
**Захватываць** – захо/пліваць – (каго-што) –*1) узяць, схапіць якую-н. колькасць; 2) узяць, прыхапіць з сабой; 3) узяць, авалодаць сілай; 4) ахапіць сабой што-н., распаўсюдзіць што-н.; 5) вельмі зацікавіць, прымусіць поўнасцю аддацца якой-н. справе.*
**Зачатие** – зача/цце (н.р.) – *зараджэнне плода, пачатак цяжарнасці.*
**Зашеек** – ка/рак (м.р.) – *задняя частка шыі.*
**Защита** – абаро/на (ж.р.) – *спосаб зменшыць уздзеянне шкодных фактараў на арганізм.*
**Звено** – луча/к (м.р.), звяно/ (н.р.) – *адно з кольцаў, якія складаюць ланцуг. Частка чаго-н. цэлага.*
**Зверобой** – святая/ннік (м.р.) – *лекавая расліна сямейства святаяннікавых з жоўтымі кветкамі.*
**Звук** – гук (м.р.) – *пругкія хвалі, якія распаўсюджваюцца ў газах, вадкасцях і цвёрдых рэчывах і ўспрымаюцца вухам чалавека і жывёл.*
**Здоровье** – здаро/ўе (н.р.) – *1) правільная, нармальная дзейнасць арганізма; 2) той або іншы стан арганізма.*
**Здравница** – здра/ўніца (ж.р.) – *месца для лячэння і адпачынку.*
**Здравоохранение** – ахо/ва здаро/ўя – *сістэма сацыяльна-эканамічных і медыцынскіх мерапрыемстваў, якія накіраваны на павышэнне ўзроўню здароўя насельніцтва.*
**Зев** – зеў (м.р.) – *1) адтуліна, якая злучае паражніны рота з глоткай. Слізніца; 2) тое, што і* *пашча.*

**Зевать** – пазяха/ць – *глыбока, з адкрытым ротам міжволі ўдыхаць і адразу выдыхаць паветра.*
**Зевота** – пазяханне (н.р.) – *міжвольныя глыбокія ўдохі і выдыхі пры пазяханні.*
**Земляника** – суні/цы (мн.л.) – *шматгадовая травяністая расліна сямейства ружакветных, якая дае салодкія ягады чырвонага колеру, а таксама яе ягады.*
**Зеркало** – люстэ/рка (н.р.) – *1) прадмет са шкляной або металічнай адпаліраванай паверхняй, прызначаны для адлюстравання таго, што знаходзіцца перад ім; 2) спакойная паверхня вады; 3) плошча вод.*
**Зловонный** – смярдзю/чы – *які выдае смурод.*
**Злокачественный** – злая/касны – *вельмі небяспечны для жыцця.*
**Знак** – знак (м.р.) – *1) адмеціна, выява, прадмет, які адзначае, пазначае што-н.; 2) знешняя выява, прыкмета чаго-н.; 3) жэст, рух, якім сігналізуюць, паведамляюць; 4) ордэны, медалі, нагрудныя знакі, якімі ўзнагароджваюцца вайскоўцы.*
**Знания** – ве/ды (мн.л.) – *1) вынікі пазнання, навуковыя звесткі; 2) сукупнасць звестак у якой-н. галіне.*
**Значимость** – зна/чнасць (ж.р.) – *валоданне значэннем.*
**Зоб** – валля/к (м.р.) – *павелічэнне шчытападобнай залозы.*
**Золотуха** – шкро/фул (м.р.), залату/ха (ж.р.) – *дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца агульным знясіленнем, высыпкай на целе і пад.*
**Зонд** – шчу/пень (м.р.), зонд (м.р.) – *1) назва розных інструментаў і прыбораў у выглядзе стрыжня, трубкі, якія ўжываюцца для даследавання ўнутранай паражніны арганізма; 2) паветраны шар з самапісным прыборам для метэаралагічных назіранняў.*
**Зрачок** – зрэ/нка (ж.р.) – *адтуліна ў радужнай абалонцы, праз якую ў вока пранікае святло.*

**Зрение** – зрок (м.р.) – *адно з пяці знешніх пачуццяў, органам якога з'яўляюцца вочы; здольнасць бачыць.*
**Зрительное восприятие** – зро/кавае ўспрыма/нне (н.р.) – *гэта форма пачуццёвага адлюстравання рэчаіснасці ў свядомасці.*
**Зрячий** – віду/шчы (м.р.) – *той, хто мае зрок.*
**Зуд** – сверб (м.р.) – *адчуванне непрыемнага раздражнення скуры.*

# -И-

**Игла** – іго/лка (ж.р.) – *швейная прыналежнасць, завостраны металічны стрыжань з вушкам для ніткі.*
**Иглодержатель** – іголкатрыма/льнік (м.р.) – *прыстасаванне для замацавання іголкі.*
**Иглотерапия** – іголкатэрапі/я (ж.р.) – *лячэнне ўколамі спецыяльных іголак у вызначаныя ўчасткі цела.*
**Иглоукалывание** – іголкаўко/лванне (н.р.) – *лячэнне ці абязбольванне ўколамі спецыяльных іголак у вызначаныя кропкі цела.*
**Игольчатый** – іглі/сты – *які складаецца з іголак.*
**Идентификация** – ідэнтыфіка/цыя (ж.р.) – (каго-чаго) – *устанаўленне супадзення.*
**Идеография** – ідэаграфі/я (ж.р.) – *найстаражытны спосаб пісьма, які выкарыстоўваўся ў Егіпце.*
**Идиосинкразия** – ідыясінкразі/я (ж.р.) – *непераноснасць – хваравітая рэакцыя, якая ўзнікае ў некаторых людзей у адказ на вызначаныя неспецыфічныя раздражняльнікі.*
**Идиотия** – ідыяты/я (ж.р.) – *самая глыбокая ступень разумовай адсталасці, якая характарызуецца амаль поўнай адсутнасцю мовы і мыслення.*
**Избегать** – пазбяга/ць – (каго-чаго) – *пазбегнуць, цурацца і ўхіляцца ад чаго-, каго-н.*

**Избыточный** – залі/шні – *які выходзіць за межы неабходнага.*
**Извилина** – лукаві/на (ж.р), зві/ліна (ж.р.) – *хвалістае скрыўленне, выгін.*
**Извращение** – вычварэ/нне (н.р.), скажэ/нне (н.р.) – *1) ненатуральныя паводзіны, плоцевая ненармальнасць; 2) ілжывыя тлумачэнні, скажэнне праўды.*
**Изгиб** – вы/гіб (м.р) – *дугападобнае скрыўленне.*
**Изжога** – пяко/тка (ж.р) – *адчуванне пякучага болю ў страваводзе.*
**Излучение** – выпрамяне/нне (н.р.) – *распаўсюджванне адкуль-н. прамянёў.*
**Измерение** – вымярэ/нне (н.р.) – *працяжнасць вымяральнай велічыні ў якім-н. кірунку.*
**Изнасилование** – згвалтава/нне (н.р.) – *сілавы прымус да плоцевай сувязі.*
**Изнасилованный** – згвалтава/ны – *якога прымусілі да плоцевай сувязі.*
**Изнасиловать** – згва/лтаваць – (каго) – *сілай прымусіць да плоцевай сувязі.*
**Изнурение** – змо/ранасць (ж.р.) – *стан зморанага чалавека, бяссілле, стома.*
**Изображение** – выя/ва (ж.р.) – *узнаўленне сродкамі мастацтва вонкавага, пачуццёва-канкрэтнага выгляду з'яў рэчаіснасці.*
**Изолятор** – ізаля/тар (м.р.) – *асобае, спецыяльна прыстасаванае памяшканне (у бальніцах, санаторыях і пад.) для хворых на нераспазнаныя ці заразныя хваробы.*
**Изотоп** – ізато/п (м.р.) – *атам хімічнага элемента, які адрозніваецца ад другога атама таго ж хімічнага элемента сваёй масай.*
**Изотопный** – ізато/пны – *які адносіцца да ізатопа.*
**Изоэлектрический** – раўнаэлектры/чны, ізаэлектры/чны – *велічыня вадароднага паказальніка асяроддзя.*

**Икота** – і/каўка (ж.р.) – *міжвольныя дыхальныя рухі, якія выклікаюцца сутаргавым скарачэннем запоны, а таксама адрывістыя гукі, якія ўтвараюцца горлам пры іканні.*
**Икра** – лы/тка (ж.р.) – *акруглая частка нагі ад каленкі да ступні.*
**Икроножный** – лы/ткавы – *які мае адносіны да лыткі.*
**Иллюзия** – мі/краць (ж.р.), ілю/зія (ж.р.) – *1) скажонае ўяўленне, уражанне, заснаванае на падмане пачуццяў, прыняцце ўяўнага за сапраўднае; 2) уражанне, бачнасць чаго-н.; 3) памылковае ўяўленне аб чым-н., надзея на што-н.*
**Иммобилизация** – імабіліза/цыя (ж.р.) – *дзеянне паводле значэння дзеяслова імабілізаваць.*
**Иммобилизировать** – імабілізава/ць – *стварыць нерухомасць (спакой) пашкоджанай ці хворай часткі цела, каб пазбегнуць паўторнага пашкоджання або з лячэбнай мэтай.*
**Иммунизационный** – імунізацы/йны – *які мае адносіны да імунізацыі.*
**Иммунизация** – імуніза/цыя (ж.р.) – *дзеянне паводле дзеяслова імунізаваць.*
**Иммунизировать** – імунізава/ць – (каго) – *зрабіць неўспрымальным да інфекцыйных захворванняў.*
**Иммунитет** – імунітэт (м.р.) – *неўспрымальнасць арганізма да інфекцыйных хвароб.*
**Иммунолог** – імуналаг (м.р.) – *спецыяліст у галіне імуналогіі*
**Иммунология** – імунало/гія (ж.р.) – *раздзел медыцыны – навука аб неўспрымальнасці арганізма да інфекцыйных захворванняў, аб яго іншых засцерагальных рэакцыях.*
**Имплантировать** – імплантава/ць –(*што, каму, у што*) – *правесці хірургічную аперацыю ўжыўлення ў тканкі чужых арганізму матэрыялаў (біялагічна неактыўных металаў, пластмас і пад.) або перасадкі*

*органа, тканкі, а таксама аперацыя ўкараненне зародка ў мацiцу.*
**Имплантация** – імпланта/цыя (ж.р.) – (чаго, у што, каму) – *укараненне зародка чалавека і вышэйшых сысуноў жывёл у слізістую абалонку мацiцы.*
**Импотент** – імпатэ/нт (м.р.) – *чалавек, які пакутуе на імпатэнцыю.*
**Импотентный** – імпатэ/нтны – *які пакутуе ад імпатэнцыі.*
**Импотенция** – імпатэ/нцыя (ж.р.) – *плоцевая немач.*
**Импульс** – штуршо/к (м.р.), і/мпульс (м.р.) – *кароткачасовая змена электрычнай напругі або сілы току; кароткачасовы сігнал.*
**Импульсивность** – імпульсі/ўнасць (ж.р.) – *рыса характару, якая выяўляецца ў схільнасці дзейнічаць без дастатковага свядомага кантролю, пад уплывам вонкавых акалічнасцей або эмацыянальных перажыванняў.*
**Инвазия** – інва/зія (ж.р.) – *заражэнне арганізма чалавека або жывёлы глістамі, казуркамі і інш.*
**Инвалид** – інвалі/д (м.р.) – *той, хто часова або цалкам згубіў працаздольнасць з прычыны калецтва, хваробы.*
**Инвалидность** – інвалі/днасць (ж.р.) – *часткова або поўная страта працаздольнасці.*
**Инвалидный** – інвалі/дны – *які адносіцца да інваліднасці, да стану інваліда.*
**Инволюция** – інвалю/цыя (ж.р.) – *1) рэдукцыя або страта ў эвалюцыі асобных органаў, спрашчэнне іх будовы і функцый; 2) "зваротнае развіццё" органаў, тканак, каморак; 3)атрафія органаў пры паталогіі і старэнні.*
**Ингалятор** – інгаля/тар (ж.р.) – *апарат, які распыляе лекавыя растворы.*
**Ингаляторий** – інгалято/рый (м.р.) – *памяшканне, абсталяванае апаратурай для правядзення інгаляцый.*

**Ингаляционный** – інгаляцы/йны – *1) які суадносіцца па значэнні з назоўнікам* *<u>інгаляцыя</u>; звязаны з ім; 2)уласцівы інгаляцыі, характэрны для яе.*
**Ингаляция** – інгаля/цыя (ж.р.) – *лячэнне ўдыханнем распыленых лекавых рэчываў; пары, насычаныя лекавымі рэчывамі.*
**Ингибитор** – патлумля/льнік (м.р.), інгібі/тар (м.р.) – *рэчывы, якія замаруджваюць абмен рэчываў у жывых арганізмах.*
**Индивидуальный** – асабі/сты, індывідуа/льны – *асабісты, уласцівы дадзенаму індывідууму, які адрозніваецца характэрнымі адзнакамі ад іншых.*
**Индикатор** – указа/льнік (м.р.), індыка/тар (м.р.) – *1) прыбор, які адлюстроўвае які-н. працэс, стан назіраемага аб'екта; 2) рэчывы, якія з'яўляюцца хімічным рэактывам.*
**Индифферентный** – індыферэ/нтны – *абыякавы, безудзельны.*
**Индуцированный** – індукава/ны – *наводзячы, які выклікае хваляванні.*
**Инертный** – няру/хавы, іне/ртны – *бяздзейны, безыніцыятыўны.*
**Инжектор** – інжэ/ктар (м.р.) – *помпа для нагнятання вадкасці і сціскання газу.*
**Инкубационный** – інкубацы/йны – *перыяд хваробы ад заражэння да з'яўлення першых яе адзнак.*
**Иннервация** – інерва/цыя (ж.р.) – *забеспячэнне органаў нервамі, якія, у сваю чаргу, забяспечваюць сувязь з цэнтральнай нервовай сістэмай.*
**Инспекция** – інспе/кцыя (ж.р.) – *установа, арганізацыя, якая інспектуе каго-н.*
**Инстинкт** – інсты/нкт (м.р.) – *1) прыроджаная здольнасць рабіць бессвядомыя мэтанакіраваныя дзеянні ў адказ на змены ўнутранага або знешняга асяроддзя; 2) падсвядомае прадчуванне чаго-н., унутранае чуццё.*
**Инстинктивный** – інстынкты/ўны – *абумоўлены інстынктам, адвольны.*

**Инструмент** – інструме/нт (м.р.) – *1) прылада для выканання якой-н. работы; 2) сукупнасць такіх прылад; 3) тое, што і музычны інструмент; 4) сродак для дасягнення чаго-н.*
**Инструментальный** – інструмента/льны – *які мае адносіны да інструментаў.*
**Инсулин** – інсулі/н (м.р.) – *бялковы гармон, які выпрацоўвае падстраўнікавая залоза, а таксама прэпарат гэтага гармона, што выкарыстоўваецца як лекавы сродак.*
**Инсульт** – інсу/льт (м.р.) – *вострае парушэнне мазгавога кровазвароту, якое суправаджаецца раптоўнай стратай прытомнасці і паралюшам.*
**Интеграция** – збіра/нне (н.р.), інтэгра/цыя (ж.р.) – *аб'яднанне ў адно цэлае якіх-н. частак.*
**Интеллект** – інтэле/кт (м.р.) – *1) розум, здольнасць чалавека думаць, разважаць; 2) узровень разумовага развіцця.*
**Интенция** – імкне/нне (н.р.), інтэ/нцыя (ж.р.) – *настойлівая цяга, парыў, рашучая мэтанакіраванасць да чаго-н.*
**Интеракционизм** – узаемадзе/йнасць (ж.р.), інтэракцыяні/зм (м.р.) – *1) узаемная сувязь з'яў, прадметаў паміж сабой; 2) узгодненасць дзеянняў, узаемная падтрымка.*
**Интерацептивный** – інтэрацэпты/ўны – *які адносіцца да інтэрарэцэптараў, што ўспрымаюць раздражненне з унутранага асяроддзя арганізма.*
**Интерес** – ціка/васць (ж.р.) – *1) уласцівасць цікавага; 2)павышаная пільная ўвага да каго-, чаго-н.*
**Интермиттирующий** – інтэрміту/ючы – *тып хваробы характарызуецца перыядычнымі пад'ёмамі і спадамі (інтэрмісіямі).*
**Интерн** – інтэ/рн (м.р.) – *выпускнік медыцынскага ўніверсітэта, які праходзіць інтэрнатуру.*
**Интернатура** – інтэрнату/ра (ж.р.) – *першасная паслядыпломная спецыялізацыя выпускнікоў медыцынскіх універсітэтаў па адной з урачэбных*

*прафесій, якая праводзіцца пасля здачы дзяржаўных экзаменаў на базе лячэбна-прафілактычных устаноў пад наглядам і кіраўніцтвам адпаведнай кафедры.*
**Интерорецептивный** – інтэрарэцэпты/ўны – *які адносіцца да інтэрарэцэптараў.*
**Интерорецептор** – інтэрарэцэ/птар (м.р.) – *рэцэптар, які ўспрымае раздражненні з унутранага асяроддзя арганізма.*
**Интерорецепция** – інтэрарэцэ/пцыя (ж.р.) – *узнікненне, правядзенне і ўспрыманне цэнтральнай нервовай сістэмай штуршкоў, якія з'яўляюцца з прычыны ўзбуджэння адчувальных канчаткаў, што рассеяны ва ўнутраных органах.*
**Интестинальный** – інтэстына/льны – *які адносіцца да кішачніка.*
**Интерференция** – інтэрферэ/нцыя (ж.р.) – *з'ява ўзаемадзеяння гукавых, светлавых або іншых хваль, якія выходзяць з розных крыніц пры накладанні адной на другую.*
**Интерферон** – інтэрферо/н (м.р.) – *ахоўны бялок, які выпрацоўваюць каморкі чалавека,сысуноў і птушак у адказ на заражэнне іх вірусамі.*
**Интоксикационный** – інтаксікацы/йны – *выкліканы інтаксікацыяй.*
**Интоксикация** – інтаксіка/цыя (ж.р.) – *атручванне арганізма атрутным рэчывам.*
**Интубация** – інтуба/цыя (ж.р.) – *увядзенне трубкі ў якую-н.частку цела з дыягнастычнай або лячэбнай мэтай.*
**Интуиция** – інтуі/цыя (ж.р.) – *1) чуццё, тонкае разуменне, пранікненне ў самую сутнасць чаго-н.; 2) непасрэднае пазнанне ісціны без дапамогі вопыту і лагічных высноў.*
**Инулин** – інулі/н (м.р.) – *поліфруктазан, які можа быць атрыманы ў выглядзе аморфнага парашку ці крысталаў. Лёгка распушчаецца ў цёплай вадзе, але дрэнна ў халоднай.*

**Инулиновый** – інулі/навы (тэст) – *метад даследавання фільтрацыі шляхам увядзення ў арганізм інуліну і вызначэнне яго колькасці ў сыроватцы крыві.*
**Инфантилизм** – інфантылі/зм (м.р.) – *паталагічны стан часу, які характарызуецца затрыманнем фізічнага і псіхічнага развіцця з захаваннем рыс, уласцівых дзіцячаму ці падлеткаваму ўзросту.*
**Инфантильный** – інфанты/льны – *які валодае рысамі, уласцівымі дзіцячаму ўзросту.*
**Инфаркт** – інфа/ркт (м.р.) – *амярцвенне органа ці тканкі ў выніку недахопу кровазабеспячэння.*
**Инфекционный** – інфекцы/йны (працэс) – *1) прызначаны для заразных хворых; 2) узнікае ў макраарганізме ў выніку ўкаранення і размнажэння ў ім патагенных мікраарганізмаў.*
**Инфекция** – інфе/кцыя (ж.р.) – *біялагічная з'ява, сутнасць якой заключаецца ва ўкараненні і размнажэнні мікраарганізмаў у макраарганізме з наступным развіццём розных форм іх узаемадзеяння да выражанай хваробы.*
**Инфильтрат** – інфільтра/т (м.р.) – *скапленне ў тканках арганізма клеткавых элементаў з прымессю крыві і лімфы.*
**Инфицирование** – інфіцы/раванне (н.р.) – (каго-чаго, чым) – *заражэнне інфекцыяй.*
**Инфузия** – інфу/зія (ж.р.) – *парэнтэральнае ўвядзенне ў арганізм вялікай колькасці вадкасці (крыві, кровазамяняльнікаў).*
**Инцизура** – вы/скепка (ж.р.), інцызу/ра (ж.р.) – *выразна; паглыбленне паверхні.*
**Инъекция** – улівa/нне (н.р.), ін'е/кцыя (ж.р.) – *увядзенне ў арганізм вадкасці з дапамогай шпрыца.*
**Ион** – іо/н (м.р.) – *электрычна зараджаная часцінка, якая ўтвараецца ў выніку страты ці набыцця электронаў атамамі.*
**Иридоциклит** – ірыдацыклі/т (м.р.) – *запаленне радужнай абалонкі вока і вейкавага цела.*

**Ирит** – іры/т (м.р.) – *запаленне радужнай абалонкі вока.*
**Иррадиация** – адбіва/нне (н.р.), ірадыя/цыя (ж.р.) – *распаўсюджванне болю за межамі пашкоджанага месца.*
**Искажение** – скажэ/нне (н.р.) – *1) змяненне, перайначванне, выстаўленне ў няправільным, памылковым святле; 2) моцнае змяненне, наданне ненармальнага, ненатуральнага выгляду (пра твар).*
**Искусственный** – шту/чны – *не прыродны, зроблены на манер сапраўднага.*
**Испражнение** – спаражне/нне (н.р.) – *змесціва кішачніка; працэс дзеяння паводле значэння дзеяслова* <u>*спражняцца.*</u>
**Испуг** – зляка/нне (н.р.) – *раптоўнае пачуццё страху; стан таго, хто спалохаўся.*
**Испытание** – выпрабава/нне (н.р.) – *1) праверачны допыт ці іспыт; 2) цяжкае перажыванне, няшчасце.*
**Испытуемый** – падыспы/тны – *той, каго выпрабоўваюць.*
**Исследователь** – дасле/дчык (м.р.) – *той, хто вывучае, даследуе што-н. з навуковымі мэтамі.*
**Исследовательский** – дасле/дчы – *тое, што адносіцца да навуковых даследаванняў.*
**Истерия** – істэры/я (ж.р.) – *1) нервовае захворванне, якое выражаецца ў прыпадках, павышанай злаславасці, сутаргавым смеху са слязьмі; 2) (перан.) нервозная ліхаманкавая дзейнасць.*
**Истинный** – сапра/ўдны – *1) які сапраўды існуе; 2) які захоўвае сваю сілу, дзейнічае; 3 (перан.) несумненны, не фальшывы.*
**Источник** – крыні/ца (ж.р.) – *1) водны струмень, які выходзіць на паверхню з-пад зямлі; 2) тое, што дае пачатак чаму-н., адкуль ідзе што-н.; 3) пісьмовы помнік, дакумент, на аснове якога робяць навуковае даследаванне.*
**Исходный** – зыхо/дны – *пачатковы, першасны, стартавы.*

**Исцеление** – вылячэ/нне (н.р.) – *ачуньванне, зыход хваробы, процілеглы смерці.*
**Исцелять** – выле/чваць – *лячыць, вызваляць ад хваробы, вяртаць здароўе.*
**Ихтиоз** – іхтыё/з (м.р.) – *спадчынная хвароба скуры: запаволенае адрыванне рэчавага пласту, утварэнне масіўных рагавых пласцінак, падобных да рыб'ей лускі, сухасць усяго скурнага покрыву.*
**Ихтиол** – іхтыё/л (м.р.) – *алеепадобныя лекі, якія з'яўляюцца прадуктам перагонкі смольных горных парод і якія ўтрымліваюць рэшткі выкапневых рыб. Для дэзынфекцыі і лячэння надскурнага покрыву.*
**Ихтиоловый** – іхтыё/лавы – *які ўтрымлівае іхтыёл, звязаны, характэрны для іхтыёлу.*
Ишемия – ішэмі/я (ж.р.) – *парушэнне кровазабеспячэння якой-н. часткі цела, выкліканае звужэннем ці непраходнасцю крываносных судзін.*
**Ишиас** – ішыя/с (м.р.) – *захворванне сядалішчнага нерва, часцей пры астэахандрозе міжхрыбеткавых дыскаў, вызначаецца болем у галах, сцягне, галёнцы і інш.*

# -Й-

**Йод** – ёд (м.р.) – *хімічны элемент, крышталічнае рэчыва цёмна-шэрага колеру, якое здабываецца галоўным чынам з марскіх водарасцей; 2) спіртавы раствор гэтага рэчыва, ужыв. у медыцыне.*
**Йодизм** – ёды/зм (м.р.) – *атручэнне ёдам.*
**Йодированный** – ёдава/ны – *які змяшчае ёд.*
**Йодистый** – ё/дзісты – *акіслены ёдам.*
**Йодобромистый** – ёдабро/місты – *рэчыва з высокім утрыманнем ёду і брому.*
**Йодобромный** – ёдабро/мны – *рэчыва, якое мае ў сваім складзе хімічныя элементы бром і ёд.*

**Йодоформ** – ёдафо/рм (м.р.) – *прэпарат ёду – крышталічны жоўты парашок, які выкарыстоўваецца ў медыцыне як антысептычны сродак.*

# -К-

**Каверна** – каве/рна (ж.р.) – *паражніна, якая ўтвараецца ў органах цела ў выніку разбурэння арганічнай тканкі хваробай.*
**Кавернит** – каверні/т (м.р.) – *запаленне пячорыстых цел чэляса.*
**Кавернозный** – каверно/зны – *які мае каверну.*
**Кадык** – ко/ўцік (м.р.) – *выгнутая храстковая частка дыхніцы ў мужчын.*
**Казуальный** – выпадко/вы, казуа/льны – *выпадковы, які здараецца ў залежнасці ад выпадку.*
**Кал** – лайно/ (н.р.), кал (м.р.) – *змесціва кішачніка, якое выдзяляецца пры спражненні.*
**Колориметр** – цепламе/р (м.р.), каларыме/тр (м.р.) – *прыбор для вымярэння колькасці цеплыні (у калорыях), якая вылучаецца або паглынаецца целам.*
**Калькулезный** – калькулё/зны – *які адносіцца да канкрыментаў, які характарызуе камнеўтварэнне.*
**Кальций** – ка/льцый (м.р.) – *хімічны элемент, метал серабрыста-белага колеру, які ўваходзіць у склад вапнякоў, мармуру і інш.*
**Камень** – ка/мень (м.р.) – *усякая цвёрдая горная парода (за выключэннем металу) у выглядзе суцэльнай масы або асобных кавалкаў; 2) абломак такой пароды рознай велічыні і формы.*
**Камера** – ка/мера (ж.р.) – *1) ізаляванае памяшканне спецыяльнага прызначэння ў некаторых установах; 2) ізаляваная, пустая ў сярэдзіне частка якога-н. прыбора, машыны, збудавання, якая прызначаецца*

*для пэўнай аперацыі; 3) унутраная гумавая абалонка шыны, мяча, якая напаўняецца паветрам.*
**Камнеобразование** – камнеўтварэ/нне (н.р.) – *працэс утварэння канкрыментаў.*
**Камнесечение** – камнесячэ/нне (н.р.) – *аперацыя раздрабнення камянёў у мачавіку з мэтай іх выдалення.*
**Камфора** – кампо/ра (ж.р.) – *бясколернае пахучае крышталічнае рэчыва, якое ўваходзіць састаўной часткай у эфірныя алеі некаторых раслін або здабываецца сінтэтычна.*
**Канал** – право/д (м.р.), ход (м.р.), кана/л (м.р.) – *у арганізме чалавека і жывёлы – звілістая трубка, праз якую праходзяць тыя ці іншыя рэчывы.*
**Каналец** – кана/лец (м.р.) – *ход у пірамідзе скроневай косці, які звязвае перылімфатычную прастору смоўжа з субарахнаідальнай прасторай.*
**Канатик (спинного мозга)** – кно/цік (м.р.) – *агульная назва пары ўчаснаў белага рэчыва млечы, абмежаваных яго шчылінамі і барознамі.*
**Кандидамикоз** – кандыдаміко/з (м.р.) - *сінонім кандыдозу.*
**Кандидоз** – кандыдо/з (м.р.) - *мікоз, выкліканы дрожджападобнымі грыбамі роду Candida.*
**Канцер** – канцэ/р (м.р.) – *адносіцца да злаякаснай пухліны, да раку.*
**Канцерогенез** – канцэрагенэ/з (м.р.) – *здольнасць дадзенага фактара выклікаць онкагенэз.*
**Канюля** – каню/ля (ж.р.) – *кароткая трубка з затупленым канцом, прызначаная для ўвядзення ў парожніны і каналы цела чалавека або жывёлы з дыягнастычнай, лячэбнай або даследчай мэтай.*
**Капельница** – кро/пальніца (ж.р.) – *1) прыстасаванне для дазіравання хуткасці паступлення вадкасці ў арганізм пры кропельным уліванні; 2) прыстасаванне для адмервання лекавага сродку, рэактыву або іншай вадкасці па колькасці кропель, вырабляемага разам з флаконам або далучаны да яго.*

**Капилляр** – капіля/р (м.р.) – *самая тонкая крывяная судзіна.*
**Капиллярность** – капіля/рнасць (ж.р.) – *здольнасць вадкасцей паднімацца і апускацца па капілярах.*
**Капиллярный** – капіля/рны – *які мае адносіны да капіляра, з'яўляецца капілярам.*
**Капилляроскопия** – капіляраскапі/я (ж.р.) – *агляд унутраных сценак капіляра пры дапамозе спецыяльнай эндаскапічнай тэхнікі.*
**Капля** – кро/пля (ж.р.) – *невялікая акруглая часцінка якой-н. вадкасці.*
**Капсула** – ка/псула (ж.р.) – *тонкая абалонка або сумка, якая абвалаквае розныя органы, а таксама і паталагічныя ўтварэнні ў арганізме.*
**Карантин** – каранці/н (м.р.) – *часовая ізаляцыя заразна хворых і асоб, якія сутыкаліся з імі, з мэтай прадухіліць распаўсюджванне інфекцыі.*
**Карбункул** – карбу/нкул (м.р.) – *вострае гнойна-некратычнае запаленне некалькіх тлушчавых залоз і валасяных фалікулаў, распаўсюджванне на скуру і падскурную клятчатку.*
**Карбункулезный** – карбу/нкулёзны – *прысутнасць на скуры вялікай колькасці карбункулаў.*
**Кардиоваскулярный** – кардыёваскуля/рны – *сэрцава-крывяносны, які адносіцца да сэрца і крывяноснай судзіны.*
**Кардиограмма** – кардыягра/ма (ж.р.) – *крывая, якая паказвае якое-н. змяненне ў сэрцавым рытме.*
**Кардиограф** – кардыё/граф (м.р.) – *агульная назва прыбораў, якія рэгіструюць якую-н. функцыю сэрца.*
**Кардиография** – кардыяграфі/я (ж.р.) – *графічная рэгістрацыя змяненняў якога-н. паказальніка функцыі сэрца.*
**Кардиолог** – кардыё/лаг (м.р.) – *урач-спецыяліст, які атрымаў адукацыю па дыягностыцы, прафілактыцы і лячэнні хвароб сэрцава-судзіннай сістэмы.*
**Кардиологический** – кардыялагі/чны – *які мае адносіны да кардыялогіі.*

**Кардиология** – кардыяло/гія (ж.р.) – *раздзел медыцыны, які займаецца хваробамі сэрцава-судзіннай сістэмы і іх лячэннем.*
**Кардиохирургический** – кардыяхірургі/чны – *які адносіцца да кардыяхірургіі.*
**Кардиохирургия** – кардыяхірургі/я (ж.р.) – *галіна кардыялогіі і хірургіі, якая ліквідуе паталогіі сэрцава-судзіннай сістэмы.*
**Кардит** – карды/т (м.р.) – *сэрцавая хвароба.*
**Кардия** – карды/я (ж.р) – *дзірка ў кардыяльнай частцы страўніка, якая звязана са страваводам.*
**Кариес** – ка/рыес (м.р.) – *паталагічная з'ява, якая мае месца пасля прарэзвання зубоў, пры якой адбываецца дэмінералізацыя тканак і размякчэнне цвёрдых тканак з наступным стварэннем паражніны.*
**Кариозный** – карыё/зны – *пашкоджаны карыесам.*
**Кариология** – карыяло/гія (ж.р.) – *раздзел цыталогіі, які вывучае будову і функцыі клеткавага ядра ў цэлым і яго структуру*
**Картавить** – карта/віць – *не выгаворваць чыста гукі "л" і "р".*
**Картавость** – карта/васць (ж.р.) – *няздольнасць выгаворваць чыста гукі "л" і "р".*
**Кастрат** – лягча/нец (м.р), кастра/т (м.р.) – *мужчына, які падвергнуты кастрацыі ва ўзросце , што папярэднічае плоцеваму даспяванню.*
**Кастрация** – кастра/цыя (ж.р.) – *аперацыя, якая заключаецца ў выдаленні плоцевых залоз у жывёл ці чалавека з мэтай прадухілення ад звычайнага апладнення.*
**Катар** – ка/тар (м.р.) – *запаленне слізніцы якога-н. органа.*
**Катаракта** – катара/кта (ж.р.) – *памутненне крышталіка вока.*
**Катетер** – катэ/тар (м.р.) – *медыцынскі інструмент у выглядзе трубкі, прызначанай для злучэння натуральных каналаў, паражнін цела, сасудаў з вонкавым асяроддзем з мэтай іх спаражнення,*

*увядзення ў іх вадкасці, прамывання або правядзення праз іх хірургічных інструментаў.*
**Катетеризация** – катэтарыза/цыя (ж.р.) – *увядзенне катэтара ў каналы і парожніны цела з лячэбнай мэтай.*
**Катетеризированный** – катэтарызава/ны – *які мае дачыненне да катэтарызацыі.*
**Катетеризировать** – катэтарызава/ць – *уводзіць катэтар.*
**Каудальный** – хво/ставы, каўда/льны – *які размяшчаецца каля хваста.*
**Каузальный** – прычы/нны, каўза/льны – *які мае генетычную сувязь паміж асобнымі відамі і формамі матэрыі ў працэсах яе руху і развіцця.*
**Кахексия** – кахексі/я (ж.р.) – *знясіленне арганізма, якое характарызуецца млявасцю, зніжэннем вагі, зменай псіхічнсга стану хворага.*
**Кашель** – ка/шаль (м.р.) – *раптоўныя сутаргавыя выдыхі, якія суправаджаюцца хропамі і шумам.*
**Кератин** – кераты/н (м.р.) – *бялок, які валодае механічнай трываласцю, з'яўляецца асновай, напрыклад, пазногцяў.*
**Кесарево сечение** – ке/сарава сячэ/нне (н.р.) – *хірургічная аперацыя па вывядзенні плода последу з паражніны маціцы праз разрэз у яе сценцы.*
**Кетгут** –ке/тгут (м.р.) – *ніці, якія атрымліваюць з кішак дробнай рагатай жывёлы (скарыстоўваюцца пры хірургічных аперацыях для ўнутраных швоў).*
**Кислород** – тлен (м.р.), кісларо/д (м.р.) – *хімічны элемент, празрысты бясколерны газ, які ўваходзіць у склад паветра і неабходны для дыхання, гарэння.*
**Кислородный** – тле/навы, кісларо/дны – *1) які мае адносіны да тлену; 2) які прызначаны для вырабу тлену.*
**Кислотность** – кісло/тнасць (ж.р.) – *ступень утрымання кіслаты.*
**Киста** – кіста/ (ж.р.) – *полая пухліна, напоўненая вадкай масай.*

**Кисть (руки)** – ручы/ца (ж.р.), кісць (ж.р.) – *частка рукі, якая складаецца з прыдалоння, пясця, пальцаў.*
**Кифоз** –кіфо/з (м.р.) – *скрыўленасць хрыбетніка ў сагітальнай роўніцы з утварэннем выпукліны, якая накіравана назад.*
**Кишечник** – кі/шачнік (м.р.) – *частка стрававальнага апарата чалавека і жывёл, якая пачынаецца за страўнікам і заканчваецца кутніцай.*
**Кишечный** – кі/шачны – *які мае адносіны да кішак, кішачніка.*
**Кишка** – кі/шка (ж.р.) – *эластычная трубка – частка стрававальнай сістэмы чалавека і жывёл.*
**Клапан** – за/тамка (ж.р.), кла/пан (м.р.) – *частка полага органа, якая ўтворана складкай яго ўнутранай абалонкі і засланяе які-н. праход, адтуліну.*
**Клептоман** – клептама/н (м.р.) – *чалавек, які пакутуе на клептаманію.*
**Клептомания** – клептама/нія (ж.р.) – *неадольнае хваравітае імкненне да крадзяжу.*
**Клетка** – камо/рка (ж.р.), кле/тка (ж.р.) – *найпрасцейшая адзінка будовы жывога арганізма.*
**Клетчатка** – абало/міна (ж.р.), клятча/тка (ж.р.) – *галоўная састаўная частка абалонкі расліннай каморкі.*
**Клизма** – клі/зма (ж.р.) – *медыцынская працэдура – увядзенне вадкасці ў кішачнік праз задні праход у лячэбных або дыягнастычных мэтах.*
**Климакс** – запо/рышча (н.р), клі/макс (м.р.) – *перыяд угасання функцый плоцевай сістэмы з набліжэннем старасці.*
**Климактерий** – клімактэ/рый (м.р.) – *перыяд угасання функцый плоцевай сістэмы з набліжэннем старасці.*
**Климат** – клі/мат (м.р.) – *характар надвор'я, уласцівы для той ці іншай мясцовасці.*
**Клиника** – клі/ніка (ж.р.) – *стацыянарная лячэбная ўстанова, у якой лячэнне хворых спалучаецца з навукова-даследчай і вучэбнай работай.*

**Клитор** – ласкаце/нь (м.р.), клі/тар (м.р.) – *гэта жаночы орган, які мае форму лацінскай літары Y або «рагаткі», крыху сплюснуты з бакоў і складаецца з парных пячорыстых цел.*
**Клык** – іко/л (м.р.) – *зуб, які знаходзіцца непасрэдна за разцамі.*
**Клюква** – жураві/ны (мн.л.) – *ягадная вечназялёная расліна, што расце на мохавых балотах, а таксама ягады гэтай расліны.*
**Ключица** – раме/нніца (ж.р.), ключы/ца (ж.р.) – *першая трубчастая косць плечавога пояса чалавека і хрыбетных жывёл, якая злучае лапатку з грудной косцю.*
**Коагуляция** –(о крови) – каагуля/цыя (ж.р.) – *працэс згортвання, асядання часцінак рэчыва ў калоідным растворы.*
**Кожа** – ску/ра (ж.р.) – *верхняе покрыва цела чалавека і жывёлы.*
**Кожный** – ску/рны – *які мае адносіны да скуры.*
**Коитус** – сукупле/нне (н.р.), ко/ітус (м.р.) – *генітальны кантакт двух індывідаў з мэтай прадаўжэння роду і/або для атрымання плоцевага задавальнення.*
**Койка** – ло/жак (м.р.) – *прадмет мэблі, прызначаны для сну.*
**Коклюш** – ко/хлік (м.р.), ко/клюш (м.р.) – *інфекцыйная хвароба, пераважна ў дзяцей, якая выражаецца ў прыступах сутаргавага кашлю.*
**Кокаин** – какаі/н (м.р.) – *трутнае рэчыва, якое здабываецца з лісця какаінавага куста і выкарыстоўваецца як мясцовы абязбольваючы або наркатычны сродак.*
**Коксит** – каксі/т (м.р.) – *запаленне талагвосцегнавога суставу.*
**Колба** – ко/лба (ж.р.) – *шарападобны або канічны шкляны посуд з доўгім горлам для хімічных работ.*
**Колебание** –хіста/нне (н.р.), вага/нне (н.р.) – *які паўтараецца ў той або іншай ступені ў часе, працэс.*

**Колено** – кале/нка (н.р.), кале/на (н.р.) – *сустаў, які злучае сцегнавую і галёнкавую косці; месца згібу нагі.*
**Коленный** –кале/нкавы, кале/нны – *які адносіцца да каленкі.*
**Колика** – ко/лька (ж.р.), ко/ліка (ж.р.) – *рэзкі востры боль, рэзь у жываце або ў баку.*
**Колтун** – каўту/н (м.р.) – *хвароба скуры на галаве, пры якой валасы зблытваюцца і зліпаюцца.*
**Кольпит** – кальпі/т (м.р.) – *запаленне слізніцы похвы.*
**Кольпоспазм** – кальпаспа/зма (м.р.) – *сутаргавае скарачэнне цягліц похвы.*
**Кома** – ко/ма (ж.р.) – *стан, пры якім адсутнічаюць адказы на знешнія раздражненні; адсутнасць руху.*
**Комиссура** – камісу/ра (ж.р.) – *злучэнне, спайка.*
**Компенсация** – кампенса/цыя (ж.р.) – *пакрыццё страт, выдаткаў.*
**Комплекс** – ко/мплекс (м.р.) – *1) сукупнасць, спалучэнне чаго-н., што складае адно цэлае; 2) група пабудоў адзінага прызначэння.*
**Комплемент** – камплеме/нт (м.р.) – *бялковае рэчыва ў сыроватцы крыві чалавека і жывёл.*
**Компресс** – кампрэ/с (м.р.) – *лячэбная павязка з нітніцы, палатна, якая накладаецца пры перавязцы ран і іншых хваробах.*
**Компрессия** – сціска/нне (н.р.), кампрэ/сія (ж.р.) – *сцісканне газу пад уздзеяннем знешніх сіл для забеспячэння яго аб'ёму, павышэння ціску і тэмпературы.*
**Компульсивность** – кампульсі/ўнасць (ж.р.) – *навязлівы стан, які прымае форму якой-н. рухальнай актыўнасці, напрыклад, перыядычнага мыцця рук, заснаваная на страху заражэння якім-н. захворваннем.*
**Конвульсия** – су/тарга (ж.р) – *рэзкае неадвольнае скарачэнне цяглíц, якое звычайна суправаджаецца вострым болем.*

**Конгестия** – за/хлань (ж.р.), кангесты/я (ж.р.) – *прылíў крыві ці іншых жывых сокаў да адной часткі цела.*
**Конденсация** – сашчыльне/нне (н.р.), кандэнса/цыя (ж.р.) – *пераход рэчыва з газападобнага стану ў вадкі або цвёрды. Сашчыльненне магчыма толькі пры тэмпературах, ніжэйшых за крытычную тэмпературу.*
**Кондилома** – кандыло/ма (ж.р.) – *барадаўкавае разрастанне, якое выступае над паверхняй скуры. Часцей за ўсё сустракаецца востраканцовая кандылома, якая ўзнікае на скуры жолуда чэляса або вакол анальнай адтуліны.*
**Кондиционер** – кандыцыянер (м.р.) – *апарат для апрацоўкі і перамяшчэння паветра ў сістэмах кандыцыянавання.*
**Конечность** – канцаві/на (ж.р), кане/чнасць (ж.р.) – *рука і нага ў чалавека, а таксама асобны орган руху ў жывёл.*
**Конечный** – канча/тны, кане/чны – *1) які мае канец, мяжу (у прасторы і часе); 2) які знаходзіцца на канцы чаго-н., з'яўляецца канцом.*
**Консервант** – кансерва/нт (м.р.) – *хімічнае рэчыва, якое забяспечвае працяглае захоўванне (кансервацыю) харчовых прадуктаў і некаторых матэрыялаў.*
**Консервативный** – кансерваты/ўны – *варожы новаму, прагрэсіўнаму, прыхільны да старога, аджылага.*
**Консилиум** – кансі/ліум (м.р.) – *нарада некалькіх урачоў для абмеркавання стану хворага, удакладнення дыягназу і спосабаў лячэння.*
**Конский** – ко/нскі – *1) які мае адносіны да каня, належыць яму; 2) разм. "Вялікі, моцны"; 3) як састаўная частка некаторых батанічных назваў (конскі боб, конская цыбуля).*
**Консолидация** – кансаліда/цыя (ж.р.) – *яднанне, згуртаванне.*

**Конституциональный** – канстытуцыяна/льны – *які мае адносіны да канстытуцыі, заснаваны на канстытуцыі.*
**Конституция** – канстыту/цыя (ж.р.) – *будова, структура арганізма.*
**Консультация** – кансульта/цыя (ж.р.) – *1) парада спецыяліста па якім-н. пытанні; 2) установа, якая дае такія парады; 3) дадатковыя заняткі выкладчыка з навучэнцамі для дапамогі ім у засваенні матэрыялу.*
**Контрастный** – кантра/сны – *1) рэзка процілеглы; 2) з рэзкай розніцай паміж светлымі і цёмнымі часткамі.*
**Контрацептивы** – кантрацэпты/вы (мн.л.) – *процізачаткавыя сродкі.*
**Контузия** – канту/зія (ж.р.) – *пашкоджанне тканак і органаў без парушэння цэласнасці скуры.*
**Конус** – стажо/к (м.р.) – *геаметрычнае цела, якое ўтвараецца вярчэннем прамавугольнага трохкутніка вакол аднаго з яго катэтаў.*
**Конфликт** – канфлі/кт (м.р.) – *сутыкненне процілеглых бакоў, поглядаў, сіл; сур'ёзная спрэчка, нязгода.*
**Конфронтация** – канфранта/цыя (ж.р.) – *проціпастаўленне, сутыкненне.*
**Концевой** – канцавы/ – *які знаходзіцца на канцы чаго-н.; з'яўляецца канцом.*
**Концентрация** – канцэнтра/цыя (ж.р.) – *колькасць распушчанага рэчыва, якое змяшчаецца ў пэўнай колькасці раствору.*
**Коньюгата** – злу/чніца (ж.р.), кан'юга/та (ж.р.) – *агульная назва некаторых лінейных памераў жаночага лагва, якія ўлічваюцца ў акушэрскай практыцы.*
**Коньюгация** – злу/чнасць (ж.р.), кан'юга/цыя (ж.р.) – *папарнае злучэнне храмасом.*
**Конъюнктива** – злуча/льніца (ж.р.), кан'юнкты/ва (ж.р.) – *вонкавая абалонка вока, якая складаецца з эпітэліяльнага пласта і злучальнатканкавай асновы.*

**Коньюктивальные** – злуча/льныя (мн.л.), кан'юктыва/льныя (мн.л.) – *якія служаць для злучэння чаго-н., прызначаныя для злучэння.*
**Коньюктивит** – кан'юктыві/т (м.р.) – *запаленне кан'юктывы.*
**Координация** – сула/ддзе (н.р.), каардына/цыя (ж.р.) – *мэтазгодная адпаведнасць, узгодненасць (дзеянняў, учынкаў).*
**Копуляция** – капуля/цыя (ж.р.) – *плоцевы працэс у самых ніжніх арганізмаў (грыбоў, водарасцяў).*
**Копчик** – хвасце/ц (м.р.) – *ніжняя частка хрыбетніцы чалавека.*
**Копчиковый** – хвасцо/вы – *які мае адносіны да хвастца.*
**Кора** – кара/ (ж.р.) – *1) паверхневая частка ствала, галін і кораня дрэвавых раслін; 2) верхні цвёрды слой на чым-н.*
**Коренные (зубы)** – кутні/я – *карэнныя (малыя і вялікія).*
**Корень** – ко/рань (м.р.) – *1) падземная частка расліны, пры дапамозе якой яна замацоўваецца ў зямлі і атрымлівае пажыўныя рэчывы; 2) унутраная частка зуба,ногця, валаса і пад., якая знаходзіцца ў целе; 3) пачатак, аснова чаго-н.; 4) у граматыцы: асноўная частка слова без суфікса і прыстаўкі; 5) у матэматыцы: лік, які пры ўзвядзенні ў пэўную ступень дае дадзены лік.*
**Корешковый** – карэ/ньчыкавы – *які мае адносіны да слова* ***карэньчык****.*
**Корешок** – карэ/ньчык (м.р.) – *памяншальнае ад слова* ***корань****.*
**Корковый** – ко/ркавы – *які мае адносіны да* ***корка****.*
**Корневище** – карэ/нішча (н.р) – *падземнае сцябло многіх шматгадовых травяных раслін, якое адрозніваецца ад кораня наяўнасцю недаразвітага лісця.*
**Коронар(о)** – карана/р(а) – *які адносіцца да вянечных лутніц сэрца.*

**Коронарный** – карана/рны – *які мае адносіны да вянечных лутніц сэрца.*
**Короткий** – каро/ткі – *1) меншы па даўжыні, чым патрэбна; 2) невялікі ў даўжыню; 3) недаўгачасна, невялікі па часе; 4) блізкі, дружалюбны.*
**Корсет** – гарсэ/т (м.р.) – *цвёрды і шырокі артапедычны пояс, які прымяняюць пры хваробе хрыбетніцы.*
**Корь** – адзё/р (м.р.) – *заразная дзіцячая хвароба з высыпкай на целе.*
**Косметика** – касме/тыка (ж.р.) – *1) вучэнне аб сродках і метадах паляпшэння знешняга выгляду чалавека; 2) сродкі і спосабы догляду скуры, якія выкарыстоўваюцца з мэтай падтрымання здаровага стану і прыемнага выгляду; 3) рэчывы, якія ўжываюцца для надання свежасці і прыгожасці твару і целу.*
**Косметический** – касметы/чны – *які паляпшае знешні выгляд, знешні бок.*
**Косноязычие** – косназы/ковасць (ж.р.) – *невыразнае, няправільнае вымаўленне, разлад мовы.*
**Косоглазие** – касаво/касць (ж.р.), касаву/расць (ж.р.) – *разлад каардынацыі руху вачэй, неаднолькавае накіраванне зрэнак.*
**Косоглазый** – касаво/кі, касаву/ры – *які пакутуе на касавокасць.*
**Косолапость** – касала/пасць (ж.р.) – *які ступае пяткамі ў розныя бакі, наскамі ўнутр.*
**Косорукость** – касару/касць (ж.р.) – *нязграбны, з няспрытнымі рухамі рук.*
**Костномозговая полость** – шпікаві/шча (н.р), косцевамазгава/я по/ласць (ж.р.) – *прастора ў дыяфізе трубчатай косці, запоўненая касцявым мозгам.*
**Костный** – касцявы/ - *утвораны з косці.*
**Костыль** – мы/ліца (ж.р.) – *палка з папярочынамі ў версе і ў сярэдзіне, на якую рукой апіраецца хворы на нозі.*

**Кость** – косць (ж.р.) – *1) асобная састаўная частка шкілета хрыбетных жывёл і чалавека; 2) астанкі цела нябожчыка; 3) іклы, біўні некаторых жывёл, якія скарыстоўваюцца для дробных вырабаў; 4) кубікі або пласцінкі з рознага матэрыяла для гульні 5) пра сацыяльнае паходжанне.*
**Кофе** – ка/ва (ж.р.) – *1) зярняты трапічнай расліны – кававага дрэва; 2) напітак, прыгатаваны з такіх молатых зярнят, а таксама заменнік такога напітку.*
**Крайняя плоть** – скураві/нка (ж.р.), кра/йняя плоць (ж.р.) – *гэта скура, якая збіраецца ў вобласці шыйкі чэляса.*
**Крапива** – крапіва/ (ж.р.) – *карысная расліна (род Кветкавыя расліны, сямейства Крапіўныя), лісты якой пакрыты пякучымі валаскамі*
**Крапивница** – крапі/ўніца (ж.р.) – *захворванне, якое праяўляецца на скуры або на слізістых у выглядзе свярбячых вадыроў, падобных да тых, што ўзнікаюць пры кантакце з крапівой.*
**Краснуха** – чырво/нка (ж.р.) – *вострая вірусная інфекцыя, якая суправаджаецца плямістым сыпам, генералізаваным лімфагенна на целе, ліхаманкай і нязначным атручэннем, зрэдку – энцэфалітам.*
**Кремация** – крэма/цыя (ж.р.) – *спальванне трупаў у спецыяльных печах.*
**Кремний** – крэ/мній (м.р.) – *хімічны элемент, які ўваходзіць у склад большасці горных парод.*
**Крепитация** – крэпіта/цыя (ж.р.) – *адчуванне пахруствання або патрэсквання, якое ўзнікае пры пальпацыі або аўскультацыі.*
**Кресло-носилки** – крэ/сла-насі/лкі (мн.л.) – *прылада для транспартавання хворых у сядзячым становішчы па вузкіх месцах.*
**Крестец** – крыж (м.р.) – *месца спалучэння касцей лагва з хрыбетнікам.*
**Крестцовый** – кры/жавы - *які мае адносіны да крыжа.*

**Кретинизм** – крэціні/зм (м.р.) – *прыродная разумовая адсталасць і фізічная недаразвітасць, абумоўленыя парушэннем функцыі шчытападобнай залозы і галаўнога мозгу.*
**Кривая** – крыва/я – *ускосная лінія; лінія, якая выяўляе рост ці падзенне чаго-н. у развіцці якога-н. працэсу.*
**Кривошея** – крывашы/я (ж.р.) – *дэфармацыя шыі, якая характарызуецца няправільным становішчам галавы ( яе адхіленнем ад сярэдзіннай лініі цела).*
**Криз** – крыз (м.р.) – *востры прыступ хваробы, які настаў раптоўна.*
**Кризис** – кры/зіс (м.р.) *-1) рэзкі пералом, пераходны стан, абвастрэнне становішча; 2) пераломны момант у ходзе хваробы, які вядзе да паляпшэння або пагаршэння стану хворага.*
**Криотерапия** – крыятэрапі/я (ж.р.) – *агульная назва метадаў лячэння, заснаваных на прымяненні нізкіх тэмператур для ахаладжэння тканак, органаў ці ўсяго арганізма.*
**Криохирургия** –крыяхірургі/я (ж.р.) – *сукупнасць хірургічных метадаў лячэння, заснаваных на лакальным замарожванні тканак.*
**Кровезаменитель** – кровезамяня/льнік (м.р.) – *сродкі, якія выкарыстоўваюцца з лячэбнай мэтай у якасці замяняльнікаў крыві ці для карэкцыі яе складу.*
**Кровеносный** – крывяно/сны – *які мае адносіны да кровазвароту.*
**Кроветворение** – крывятво/р (м.р.) – *працэс утварэння, развіцця і даспявання каморак.*
**Кровоизлияние** – кровазліццё/ (н.р.) – *зліццё крыві з пашкоджаных судзін у органы і тканкі.*
**Кровообращение** – кровазваро/т (м.р.) – *цыркуляцыя крыві па арганізме.*
**Кровоостанавливающий** – кроваспыня/льны – *уяўляе з сябе комплекс мер, накіраваных на спыненне страты крыві з крывяноснага рэчышча.*

**Кровопотеря** – стра/та крыві/ (ж.р.) – *паталагічны працэс, што развіваецца з прычыны крывацёку, які характарызуецца комплексам паталагічных і прыстасавальных рэакцый на паніжэнне аб'ёму цыркуляцыі.*
**Кровотечение** – крывацё/к (м.р.) – *страта крыві ў крывяноснай сістэме.*
**Круп** – круп (м.р.) – *ускладненае рэспіраторнае захворванне, найбольш распаўсюджанае сярод дзяцей дашкольнага ўзросту.*
**Культя** – ку/кса (ж.р.) – *частка канцавіны, якая застаецца пасля адняцця, траўмы або абумоўленая прыроджанай заганай развіцця.*
**Курорт** – куро/рт (м.р.) – *мясцовасць з прыроднымі лекавымі сродкамі (мінеральнымі крыніцамі, гразямі і пад.) і з санаторыямі для лячэння і адпачынку.*
**Кюри** – кюры/ – *адзінка вымярэння радыёактыўнасці.*

# -Л-

**Лабильность** – лабі/льнасць (ж.р.) – *1) функцыянальная нерухомасць нервовай і цяглічнай тканак; 2) рухомасць, няўстойлівасць псіхікі, фізіялагічнага стану, тэмпературы цела і інш.*
**Ладонь** – дало/нь (ж.р) – *унутраны бок ручыцы.*
**Лазарет** –лазарэт (м.р.) – *1) лячэбная ўстанова пры вайсковай частцы для стацыянарнага лячэння хворых, якім патрэбна шпіталізацыя; 2) лякарня пры якім-н. інтэрнаце.*
**Лактация** – лактацыя (ж.р.) – *1) працэс утварэння і выдзялення малака ў малочных залозах у жанчын і ў самак сысуной; 2) перыяд часу, на працягу якога адбываецца такое выдзяленне малака.*
**Лапаротомия** – лапаратамі/я (ж.р.) – *ускрыццё брухавіны.*

**Ларингит** – ларынгі/т (м.р.) – *запаленне слізніцы дыхніцы.*
**Латентный** – латэ/нтны – *утоены, вонкава не праяўлены.*
**Латеральный** – бакавы/, латэра/льны – *размешчаны ўбаку ад сярэдняй падоўжанай роўніцы цела.*
**Лезвие** – лязо/ (н.р.) – *тонкая сталёвая пласцінка з вострымі краямі для бяспечнай брытвы.*
**Лейкемия** – лейкемі/я (ж.р.) – *тое, што і лейкоз.*
**Лейкоз** –лейко/з (м.р.) – *захворванне крыві, пры якім рэзка павялічваецца колькасць непаўнавартасных лейкацытаў; белакроўе.*
**Лейкоцит** – лейкацы/т (м.р.) – *белыя крывяныя цельцы – складнікавая частка крыві.*
**Лейкоцитоз** – лейкацыто/з (м.р.) – *павелічэнне колькасці лейкацытаў у адзінцы аб'ёму крыві.*
**Лекарство** – ле/кі (мн.л.), ляка/рства (н.р.) – *медыцынскі сродак для лячэння ці папярэджвання хваробы.*
**Летальность** – лята/льнасць (ж.р.) – *смяротнасць, г.зн. паказчык медыцынскай статыстыкі. Ён разлічваецца: адносіны колькасці памерлых ад якога-н. захворвання, ранення і г.д. да колькасці перахварэўшых на гэтую ж хваробу за пэўны перыяд часу.*
**Летаргия** – апо/мерць (ж.р.), летаргі/я (ж.р.) – *хваравіты стан, падобны на сон.*
**Либидо** – лібі/да (н.р.) – *плоцевая схільнасць, узровень якой звязаны са стадыяй плоцевага даспявання, працай дыэнцыфальнага аддзела мозгу і залоз унутранай сакрэцыі, са спадчыннасцю і з індывідуальным вопытам.*
**Лигатура** – лігату/ра (ж.р.) – *нітка, якой перавязваюць крывяносныя судзіны пры аперацыі.*
**Лимфа** – па/сака (ж.р.), лі/мфа (ж.р.) — *разнавіднасць спалучальнай тканкі. Уяўляе сабой празрыстую, грузкую, бясколерную вадкасць, у якой няма*

*эрытрацытаў і трамбацытаў, але шмат лімфацытаў.*
**Лимфотичный** – паса/кавы, лімфаты/чны – *які мае адносіны да пасакі.*
**Липемия** – ліпемі/я (ж.р.) – *наяўнасць у крыві свабодных нейтральных тлушчаў і нейтральных тлушчаў, якія знаходзяцца ў комплексе з бялкамі, г.з. у складзе ліпапратэінаў.*
**Лихорадка** – ліхама/нка (ж.р.) – *1) хваравіты стан, які суправаджаецца гарачкай і трасцай; 2) узбуджаны, трывожны стан, празмерна паспешлівая дзейнасць.*
**Лицо** – твар (м.р.) – *1) пярэдняя частка галавы чалавека; 2) індывідуальнае аблічча, выгляд, характэрныя рысы каго-, чаго-н.*
**Личность** – асо/ба (ж.р.) – *1) асобны чалавек як член грамадства; 2) чалавек як носьбіт пэўных уласцівасцей, якасцей, рыс; 3) пра важнага або ганарлівага чалавека; 4) граматычная катэгорыя, якая паказвае на таго, хто гаворыць (першая асоба), з кім гавораць (другая асоба), пра каго гавораць (трэцяя асоба).*
**Лишай** – кругі, пархі, шалуды – *назва некаторых хвароб скуры.*

**л. сухой** – кругі/ (мн.л.)
**л. мокрый и гнойный** – па/рхі (мн.л.)
**л. зудящий** – шалуды/ (мн.л.)

**Логопедия** – лагапеды/я (ж.р.) – *навука аб недахопах вымаўлення і іх лячэнні.*
**Лодыжка** – шчы/калатка (ж.р.) – *сучляненне касцей галёнкі з касцямі ступні, якое выдаецца па баках нагі.*
**Локализация** – лакаліза/цыя (ж.р.) – *абмежаванне дзеяння той ці іншай з'явы пэўнай прасторай.*
**Локальный** – лака/льны – *які не выходзіць за межы пэўнай тэрыторыі; мясцовы, абмежаваны.*
**Локомоция** – лакамо/цыя (ж.р.) – *змяненне месца знаходжання ў прасторы, абумоўленае актыўнымі рухамі асобных частак цела.*

**Локтевая кость** – жбі/ца (ж.р.) – *парная косць локвіцы.*
**Лордоз** – лардо/з (м.р.) – *выгіб хрыбетніцы, які звернуты выпуклінай наперад.*
**Лоханка** – мі/сачка (ж.р.) – *частка ныркі, якая служыць для збірання мачы і пераходзіць непасрэдна ў мачацечнік.*
**Лук** – цыбу/ля (ж.р.) – *1) агароднінная расліна сямейства лілейных з цыбулінай у падземнай частцы і трубчастымі лістамі зверху; 2) ядомыя трубчастыя лісты або падземныя галоўкі гэтай расліны; 3) назва некаторых травяністых цыбульных раслін сямейства лілейных.*
**Луковица** – цыбу/ліна (ж.р.) – *1) патоўшчаная частка (звычайна падземная) сцябла некаторых раслін; 2) галоўка цыбулі; 3) расшыраная частка некаторых органаў, частка арганізма.*
**Лучевая кость** – прамянё/вая косць (ж.р.) – *адна з дзвюх касцей прадплечча, ад локця да прыдалоння.*
**Люмб(о)** –лю/мб(а) – *частка складаных слоў, якая азначае," што адносіцца да паясічнай вобласці, да паяснічнага аддзела хрыбетніка або спіннага мозгу".*
**Люмбаго** – люмба/га (м.р.) – *прыступ раптоўнага рэзкага болю і напружання цяглiц у паяснічнай вобласці, які ўзнікае пры фізічным напружанні або няўдалым руху тулава.*
**Люэс** – лю/эс (м.р.) – *сур'ёзнае інфекцыйнае захворванне ( пранцы).*

# -М-

**Мазок** – зма/зак (м.р.), мазо/к (м.р.) – *слой вадкага выдзялення, нанесены на шкло для мікраскапічнага* ***даследавання***.
**Мазохизм** – мазахі/зм (м.р.) – *атрыманне сексуальнага задавальнення ад адчутага болю.*

*Дадзены тэрмін ужываецца больш адвольна для назвы ўсіх форм паводзін, якія суправаджаюцца болем і зневажэннем.*
**Мазь** – мазь (ж.р.) – *мяккая лекавая форма для вонкавага ўжывання, мае клейкую кансістэнцыю, здольная ўтварыць на паверхні скуры і слізніцах суцэльную плёнку.*
**Макропсия** – макрапсі/я (ж.р.) – *разлад зроку, пры якім прадметы здаюцца большымі, чым на самой справе.*
**Макроскопический** – макраскапі/чны – *бачны простым вокам // які праводзіцца, робіцца без мікраскопа.*
**Макроскопия** – макраскапі/я (ж.р.) – *вывучэнне абъекта простым вокам.*
**Малоберцовый** – ма/лагалё/нкавы (блок) – *невялікі адростак на патэральнай паверхні пяткавай косці, пад якім знаходзіцца баразна шчапы адной малагалёнкавай цяглiцы.*
**Малокровие** – недакро/ўнасць (ж.р.) – *хваравіты стан з прычыны памяншэння колькасці чырвоных крывяных каморак.*
**Малютка** – малю/та (ж.р.) – *маленькае дзіця.*
**Малярия** – маляры/я (ж.р.) – *інфекцыйнае захворванне, для якога характэрны прыступы ліхаманкі.*
**Манипуляция** – маніпуля/цыя (ж.р.) – *1) складаны прыём, складанае дзеянне, якія патрабуюць спрыту, умення; 2) спрытнае махлярства, махінацыя.*
**Мания** – ма/нія (ж.р.) – *1) псіхічны стан, пры якім свядомасць і пачуцці сканцэнтроўваюцца на якой-н. адной ідэі; 2) незвычайная цяга, слабасць да чаго-н.*
**Манометр** – ціскаме/р (м.р.), мано/метр (м.р.) – *прылада для вымярэння ціску вадкасці або газу ў замкнёнай прасторы.*
**Маразм** – мара/зм (м.р.) – *стан поўнага ўпадку псіхічнай і фізічнай дзейнасці чалавека ў сувязі са старасцю або працяглай хваробай.*

**Марля** – ні/тніца (ж.р.) – *тонкая бавайняная тканіна з рэдка пераплеценых нітак.*
**Маслянистость** – але/істасць – *знаходжанне тлушчавых кропель (для вадкасці).*
**Масса** – ма/са (ж.р.) – *цела ва ўсім сваім аб'ёме; колькасць матэрыі, якая складае цела.*
**Массаж** – прыціра/нне (н.р.), маса/ж (м.р.) – *расціранне цела з мэтай паляпшэння кровазвароту, абмену рэчываў у тканках.*
**Мастит** – масты/т (м.р.) – *запаленне малочнай залозы.*
**Мастурбация** – мастурба/цыя (ж.р.) — *форма задавальнення індывідам плоцевай цягі шляхам раздражнення ўласных эрагенных зон ці эрагенных зон партнёра.*
**Материнство** – мацяры/нства (ж.р.) – *1) стан жанчыны-маці ў пярыяд цяжарнасці, родаў і кармлення дзіцяці;2) уласцівае маці пачуццё да дзяцей, усведамленне кроўнай сувязі яе з дзецьмі.*
**Матка** – ма/ціца (ж.р.), ма/тка (ж.р.) – *унутраны плоцевы орган жанчын і самак жывародзячых жывёл, у якім развіваецца зародак.*
**Маточный** – ма/цічны, ма/тачны – *які адносіцца да маціцы.*
**Маточная труба** – ма/цічная труба/ (ж.р.) – *парны трубчаты орган, адзін канец якога злучаецца з паражнінай маціцы, а другі, пашыраны ў выглядзе сулейкі, адкрываецца ў брухавінную паражніну каля паверхні яечніка.*
**Медиальный** – медыя/льны – *які знаходзіцца ў сярэдзіне чаго-н.*
**Медиатр** – медыя/тр (м.р.) – *рэчыва, якое перадае нервовы штуршок з нервовых камарак да рабочых органаў жывёльнага арганізма.*
**Медикаменты** – медыкаме/нты (мн.л.) – *лячэбныя сродкі, лекі*
**Медико** – биологический – ме/дыка-біялагі/чны – *той, які мае дачыненне да медыцыны і біялогіі.*

**Медико** – санитарный – ме/дыка-саніта/рны – *той, які мае дачыненне да медыцыны і санітарыі.*
**Мединститут** – медінстыту/т (м.р.) – *медыцынскі інстытут.*
**Медицина** – медыцы/на (ж.р.) – *сукупнасць навук аб хваробах і іх лячэнні.*
**Медицинская помощь** – медыцы/нская дапамо/га (ж.р.) – *дапамога, якую аказваюць медыцынскія работнікі.*
**Медицинская сестра** – медыцы/нская сястра/ (ж.р.) – *асоба сярэдняга медыцынскага персаналу ў лячэбнай установе.*
**Медицинская служба гражданской обороны (МСГО)** – медыцы/нская слу/жба грамадзя/нскай абаро/ны (МСГА) – *служба, якая звязана з абаронаю грамадзян.*
**Медицинский** – медыцы/нскі – *звязаны з медыцынай; звязаны з дзейнасцю ўрача; які выкарыстоўваецца ў медыцыне.*
**Медленный** – паво/льны – *няспешны, марудны, спакойны, размераны.*
**Медосмотр** – медагля/д (м.р.) – *медыцынскі агляд.*
**Медработник** – медработнік (м.р.) – *медыцынскі работнік.*
**Медсестра** – медсястра/ (ж.р.) – *медыцынская сястра.*
**Медуниверситет** – медуніверсітэ/т (м.р.) – *медыцынскі ўніверсітэт.*
**Межвенный** – міжжы/льны, міжве/нны – *які знаходзіцца між жыламі.*
**Межрёберный** – міжрэ/бравы – *які знаходзіцца паміж рэбрамі.*
**Межуточный** – праме/жкавы – *1) які ўтварае сабой прамежак; 2) які займае сярэдняе становішча паміж чым-н.*
**Меланома** – мелано/ма (ж.р.) – *злаякасная пухліна, якая развіваецца з мелапацытаў – пігментных каморак, якія выпрацоўваюць меланін.*

**Меланхолик** – хамо/рнік (м.р.), меланхо/лік (м.р.) – *чалавек, хворы на меланхалію, схільны да суму, нуды.*
**Меланхолия** – хамо/рлівасць (ж.р.), меланхо/лія (ж.р.) – *хваравіта-прыгнечаны стан, туга, хандра.*
**Мелкий** – дро/бны – *1) які складаецца з невялікіх па велічыні аднародных часцінак; 2) нязначны па велічыні, памеру, вартасці; 3) невялікі, маламоцны і малазначны ў эканамічных і грамадскіх адносінах; 4) неістотны, які не мае вялікага значэння; 5) мізэрны, нікчэмны, нізкі.*
**Менингит** – менінгі/т (м.р.) – *хвароба – запаленне абалонкі галаўнога мозгу.*
**Мениск** – сярпо/к суста/ўны (м.р.), мені/ск (м.р.) – *1) унутрысудзінныя звязкі ў каленным суставе; 2) скрыўленая вольная паверхня вадкасці ў месцы яе сутыкнення з паверхняй цвёрдага цела.*
**Менисковый** – сярпко/вы, мені/скавы – *1) які суадносіцца па значэнні з назоўнікам* ***меніск****, звязаны з ім; 2) уласцівы меніску, характэрны для яго.*
**Менопауза** – менапа/ўза (ж.р.) – *гэта поўнае спыненне аплаваў у жанчыны ў выніку спынення функцый яечнікаў.*
**Менструальный** – апла/ўны, менструа/льны – *1) які суадносіцца па значэнні з назоўнікам* ***менструацыя****, звязаны з ім; 2) уласцівы менструацыі, характэрны для яе.*
**Менструация** – апла/вы (мн.л.), менструа/цыя (ж.р.) – *штомесячны мацічны крывацёк у жанчын.*
**Мертвец** – мярцвя/к (м.р.) – *мёртвы чалавек, нябожчык.*
**Мертворожденный** – мертванаро/джаны – *народжаны змярцвелым.*
**Мерцательный** – мігатлі/вы – *які мільгаціць: свеціць, блішчыць няроўным бляскам.*
**Метаболизм** – паме/на рэ/чаў (ж.р.), метабалі/зм (м.р.) – *памена рэчываў у арганізме.*
**Метаболит** – метабалі/т (м.р.) – *прадукт, які ўзнік у выніку памены рэчываў у арганізме.*

**Метаболический** – метабалі/чны – *які ўзнік у выніку памены рэчываў у арганізме.*
**Метаплазма** – метапла/зма (ж.р.) – *вадкая частка арганізма бесхрыбетных.*
**Метастаз** – метаста/з (м.р.) – *1) перамяшчэнне ўзбуджальніка хваробы ў арганізме з аднаго месца на другое; 2) месца захворвання, якое ўзнікла ў выніку перамяшчэння такога ўзбуджальніка.*
**Метаталамус** – зазро/чча (н.р.), метатала/мус (м.р.) – *аддзел прамежнага мозга.*
**Метеоризм** – метэары/зм (м.р.) – *залішняя колькасць газаў у кішачніку.*
**Метод** – ме/тад (м.р.) – *сістэматызаваная сукупнасць крокаў, дзеянняў, якія неабходна распачаць, каб вырашыць вызначаную задачу або дасягнуць вызначанай мэты.*
**Механотерапия** – механатэрапі/я (ж.р.) – *метад лячэння, які заключаецца ў выкананні фізічных практыкаванняў на апаратах, адмыслова сканструяваных для развіцця рухаў у асобных суставах.*
**Мешочек** – мяшэ/чак (валасяны/) (м.р.) – *сукупнасць покрыўнай і злучальнай тканак абалонак кораня воласа.*
**Миазм** – мія/зм (м.р.) – *сукупнасць схільнасцей арганізма ў яго рэагаванні на фактары вонкавага асяроддзя, якія перадаюцца спадчыннай выявай альбо набываюцца на працягу жыцця.*
**Миальгия** – міяльгі/я (ж.р.) – *цяглічны боль, які ўзнікае ў стане спакою або пры нагрузцы цягліц.*
**Миалогия** – міяло/гія (ж.р.) – *вучэнне аб цягліцах, галоўнай уласцівасцю якіх з'яўляецца іх здольнасць да скарачэння і расслаблення.*
**Миастения** – міястэні/я (ж.р.) – *нервова-цяглічнае захворванне, якое характарызуецца паталагічнай, хуткай стамляльнасцю папярочна-паласатых цягліц.*
**Мигать** – міга/ць – *міжвольна паднімаць і апускаць павекі; 2) падаваць знак рухам павек; 3) свяціцца*

*слабым няроўным святлом; 4) хутка праносіцца перад вачыма, мільгаць.*
**Мигрень** – мігрэ/нь (м.р.) – *прыступ болю ў адной палавіне галавы.*
**Мидриаз** – мідрыя/з (м.р.) – *пашырэнне зрэнак.*
**Мизинец** – мязя/нік (м.р.) – *пяты (вонкавы) палец рукі або нагі чалавека ці жывёлы.*
**Микоз** – міко/з (м.р.) – *хвароба чалавека і жывёл, выкліканая паразітычнымі грыбамі.*
**Микроб** – мікро/б (м.р.) – *назва зборнай групы жывых арганізмаў, якія занадта малыя для таго, каб быць бачнымі няўзброеным вокам.*
**Микробиолог** – мікрабіё/лаг (м.р.) – *чалавек, які займаецца мікрабіялогіяй.*
**Микробиологический** – мікрабіялагі/чны – *аб'ект, які адносіцца да мікрабіялогіі.*
**Микробиология** – мікрабіяло/гія (ж.р.) – *раздзел навукі, які вывучае мікраарганізмы.*
**Микроинсульт** – мікраінсу/льт (м.р.) – *клінічны сіндром, які развіваецца лакальна, нясе за сабою частковае парушэнне функцый мозгу, што доўжыцца больш за 24 гадзіны, або прыводзіць да смерці.*
**Микроинфаркт** – мікраінфа/ркт (м.р.) – *інфаркт якога-н. органа з паразай малаістотных памераў.*
**Микрооперация** – мікраапера/цыя (ж.р.) – *аперацыя на аднакаморкавым арганізме ці на асобнай каморцы шматкаморкавага арганізма, якая ажыццяўляецца пад кантролем мікраскопа з дапамогай мікраманіпулятара.*
**Микроорганизм** – мікраарганi/зм (м.р.) – *любы арганізм, які мае занадта малыя памеры для таго, каб яго можна было адрозніць няўзброеным вокам.*
**Микропсия** – мікрапсі/я (ж.р.) – *стан, пры якім навакольныя прадметы здаюцца меншымі, чым яны ёсць у рэчаіснасці.*
**Микроскоп** – мікраско/п (м.р.) – *аптычны прыбор для разглядвання прадметаў, якія нельга ўбачыць простым вокам.*

**Микроспория** – мікраспары/я (ж.р.) – *грыбковае захворванне чалавека і жывёл.*
**Микрофлора** – свет драбнаі/стаў, мікрафло/ра (ж.р.) – *сукупнасць мікраарганізмаў, якія жывуць у глебе, вадзе, паветры, харчовых прадуктах, у арганізме чалавека, жывёл і раслін.*
**Микрохирургия** – мікрахірургі/я (ж.р.) – *накірунак у хірургіі, у якім аператыўныя ўмяшанні выконваюцца з дапамогай аперацыйных мікраскопаў з высокай ступенню дазволу і мініяцюрных хірургічных прылад.*
**Микроцефалия** – мікрацэфалі/я (ж.р.) – *вельмі малы памер галавы ў параўнанні з тулавам.*
**Микроциркуляция** – мікрацыркуля/цыя (ж.р.) – *транспарт біялагічных вадкасцей на тканкавым узроўні.*
**Микроцит** – мікрацы/т (м.р.) – *анамальна маленькі эрытрацыт.*
**Микроэлемент** – мікраэлеме/нт (м.р.) – *элемент, які неабходны арганізму ў мінімальнай канцэнтрацыі для яго звычайнага росту і развіцця.*
**Микстура** – міксту/ра (ж.р.) – *лекавае рэчыва ў сумесі з сіропам.*
**Милосердие** – літасці/васць (ж.р), міласэ/рнаць (ж.р.) – *спачувальная любоў, сардэчны ўдзел у жыцці нямоглых ( хворых, параненых, састарэлых і інш.).*
**Мимика** –ківамі/гі (мн.л.), мі/міка (ж.р.) – *рухі цяглiц на твары, якія выражаюць пачуцці, настрой.*
**Миндалина** – мігда/ліна (ж.р.) – *сукупнасць лімфоіднай тканкі ў вобласці паднябення, кораня языка і насаглоткі.*
**Миоглобин** – міяглабі/н (м.р.) – *кісларод-звязваючы бялок шкілетных цяглiц і цяглiц сэрца.*
**Миограмма** – цягляры/с (м.р.), міягра/ма (ж.р.) – *запіс, атрыманы ў выніку рэгістрацыі цяглічных скарачэнняў.*
**Миограф** – цяглапіса/льнік (м.р.), міё/граф (м.р.) – *прыбор для рэгістрацыі цяглічных скарачэнняў.*

**Миоз** – міё/з (м.р.) *–працэс у эўкарыятычнай каморцы, які характарызуецца памяншэннем колькасці храмасом у два разы.*
**Миозин** – міязі/н (м.р.) – *гэта фібрылярны бялок, адзін з галоўных кампанентаў скарачальных валокнаў цягліц-міяфібрыл. Складае 40-60% агульнай колькасці цяглічных бялкоў.*
**Миозит** – міязі/т (м.р.) – *запаленне шкілетнай мускулатуры.*
**Миокард** – міяка/рд (м.р.) – *назва цяглічнага сярэдняга пласта сэрца, які складае асноўную частку яго масы.*
**Миокардиодистрофия** – міякардыядыстрафі/я (ж.р.) – *незапаленчая параза сэрцавай цягліцы ў выглядзе парушэнняў у яе метабалізме пад уплывам падсэрцавых фактараў.*
**Миокардит** – міякарды/т (м.р.) – *параза сэрцававай цягліцы, міякардыя. Звычайна паразы носяць запаленчы характар.*
**Миома** – міё/ма (ж.р.) – *паталагічныя з'яўленні, якія ўзнікаюць з прычыны парушэння механізмаў кантролю дзялення, росту і дыферэнцыянавання каморак.*
**Миопатия** – міяпаты/я (ж.р.) – *хранічныя прагрэсавальныя спадчынныя захворванні цяглiц, злучаныя з парушэннем абмену рэчываў у цяглічнай тканцы. Характэрны цяглічная слабасць і атрафія цягліц.*
**Миотония** – міятані/я (ж.р.) – *рэдкае спадчыннае нервова-цяглічнае захворванне, якое характарызуецца працяглымі танічнымі спазмамі цягліц, што ўзнікаюць услед за пачатковымі адвольнымі рухамі.*
**Митоз** – міто/з (м.р.) – *дзяленне каморак з папярэднім павелічэннем колькасці храмасом у два разы.*
**Митральный** – мітра/льны (клапан) – *знаходзіцца паміж левым прысэрцкам і левым шлуначкам і з'яўляецца ўпускам, які забяспечвае паступленне крыві ў левы шлуначак.*

**Младенец** – дзіця/, дзіцё/ (н.р.) – *1) зусім маленькі хлопчык або дзяўчынка; 2) пра чалавека, які набыў яркія рысы свайго асяроддзя, часу.*
**Млекопитающееся** – сысу/н (м.р.), млекако/рмячае (н.р.) – *вышэйшая хрыбетная жывёліна, якая корміць дзяцей сваім малаком.*
**Мнимый** – уя/ўны – *які існуе ва ўяўленні або магчымы тэарэтычна.*
**Мнительность** – падазро/насць (ж.р), недаве/рлівасць (ж.р.) – *схільнасць падазраваць, недавяраць.*
**Мозг** – мозг (м.р.) – *1) цэнтральны аддзел нервовай сістэмы чалавека і жывёл – нервовая тканка, якая запаўняе чэрап і канал хрыбетніка; 2) мяккая тканка, якая запаўняе паражніны касцей у чалавека і хрыбетных жывёл; 3) розум, разумовыя здольнасці; 4) ежа, прыгатаваная з мазгоў свойскіх жывёл.*
**Мозжечок** – мо/зачак (м.р.), мазжачо/к (м.р.) – *участак ствала галаўнога мозга, які знаходзіцца ў задняй частцы чэрапа.*
**Мозоль** – муля/к (м.р.), мазо/ль (м.р.) – *патаўшчэнне скуры ад працяглага трэння.*
**Мокрота** – харко/ціна (ж.р.), макро/та (ж.р.) – *слізістыя выдзяленні з лёгкіх або дыхальных шляхоў.*
**Молочная железа** – грудзіна/ (ж.р), мало/чная зало/за (ж.р.) – *парны орган, які адносіцца да тыпу апакрынных залоз скуры.*
**Молочница** – мало/ чніца (ж.р.) – *грыбковае захворванне слізніцы паражніны рота ў грудных дзяцей.*
**Мономания** – монамані/я (ж.р.) – *у псіхіятрыі: дакучлівая ці празмерная захопленасць адной ідэяй ці суб'ектам.*
**Моноплегия** – монаплегі/я (ж.р.) – *паралюш адной канцавіны.*
**Монотония** – монатані/я (ж.р.) – *функцыянальны стан арганізма, які развіваецца пры працоўнай нагрузцы.*

**Моноцитоз** – монацыто/з (м.р.) – *павялічанае ўтрыманне манацытаў у перыферычнай крыві.*
**Морг** – морг (м.р.) – *абсталяванае памяшканне бальніцы, судова-медыцынскай установы для захоўвання, апазнання і выдачы трупаў для пахавання.*
**Моргание** – мірга/нне (н.р.) – *адкрыванне і закрыванне вочных павекаў.*
**Морфинизм** – марфіні/зм (м.р.) – *прыхільнасць да ўжывання морфію.*
**Морфогенез** – морфагене/з (м.р.) – *дыферэнцыянаванне каморак і тканак.*
**Морщина** – зму/рачка (ж.р), маршчы/на (ж.р.) – *складка, згіб на скуры твару, а таксама на паверхні чаго-н.*
**Мотивация** – матыва/цыя (ж.р.) – *сістэма довадаў, аргументаў на карысць чаго-н., матывіроўка.*
**Моча** – мача/ (ж.р.) – *вадкасць, што выдзяляецца ныркамі як прадукт абмену рэчываў.*
**Мочевой пузырь** – мачаві/к (м.р.) — *парожні цяглічны орган выдзяляльнай сістэмы хрыбетных жывёл і чалавека, размешчаны ў малым лагве; служыць для накаплення мачы, што адцякае з нырак, і перыядычнага вывядзення яе праз мачаспуск.*
**Мочегонный** – мачаго/нны – *які ўзмацняе выдзяленне мачы.*
**Мочеизнурение** – мочазнясі/ленне (н.р.) – *хвароба парушэння абмену рэчываў, якая суправаджаецца вялікім выдзяленнем мачы, якое знясільвае хворага.*
**Мочеиспускание** – мочаспуска/нне (н.р.) – *працэс выдзялення мачы з арганізма.*
**Мочеточник** – мачаце/чнік (м.р.) – *парожні трубчаты орган, які спалучае нырку з мачавым пузыром.*
**Мочка** – мо/чка (ж.р.) – *ніжняя мясістая частка вуха.*
**Мошкара** – за/едзь (ж.р), машкара/ (ж.р.) – *мошкі.*

**Мошонка** – машна/ (ж.р), машо/нка (ж.р.) – *скурна-цяглічны мяшочак, у якім знаходзяцца мужчынскія плоцевыя залозы.*
**Мумификация** – муміфіка/цыя (ж.р.) – *працэс перайтварэння ў мумію, падвяржэнне амярцвенню.*
**Мускул** – му/скул (м.р.) – *тканка жывога арганізма, здольная скарачацца і забяспечваць функцыю руху частак цела.*
**Мускулатура** – мускулату/ра (ж.р.) – *сукупнасць цягліц у арганізме.*
**Мутация** – мута/цыя (ж.р.) – *1) скачкападобнае змяненне з'яў; 2) у біялогіі – рэзкае змяненне спадчыннай асновы ў жывёл або раслін; 3) змена, пералом голасу ў падлеткаў з наступленнем плоцевай сталасці.*
**Мутизм** – муты/зм (м.р.) – *часовае знікненне мовы пад уздзеяннем розных фактараў (часцей за ўсё неспрыяльных псіхічных уздзеянняў).*
**Муть** – каламу/та (ж.р) – *дробныя часцінкі, якія не распушчаюцца ў вадкасці і робяць яе непразрыстай, мутнай.*
**Мучение** – мучэ/нне (н.р.) – *1) фізічная або маральная пакута; 2) фізічны здзек, катаванне.*
**Мысль** – ду/мка (ж.р.) – *1) тое, што з'явілася ў выніку разваг, меркавання, прадукт мыслення; 2) мысліцельны працэс; 3) думка, разважанне, роздум; 4) сістэма перакананняў, поглядаў, уяўленняў.*
**Мышечный** – цяглі/чны, мы/шачны – *які мае адносіны да цягліцы, цягліц.*
**Мышление** – мы/сленне (н.р.) – *здольнасць чалавека разважаць, якая ўяўляе сабой працэс адлюстравання аб'ектыўнай рэчаіснасці ва ўяўленнях, паняццях.*
**Мышца** – цяглі/ца (ж.р), мы/шца (ж.р.) – *орган цела чалавека, жывёлы, здольны скарачацца і забяспечваць функцыю руху частак цела.*
**Мышьяк** – мыш'я/к (м.р.) – *хімічны элемент, цвёрдае рэчыва, што ўваходзіць у склад некаторых мінералаў,*

*а таксама прэпараты з гэтага рэчыва, якія выкарыстоўваюцца ў медыцыне і тэхніцы.*
**Мышьячный** – мыш'яко/вы – *які мае адносіны да мыш'яку.*
**Мыщелок** – узгу/з (м.р.) — *патаўшчэнне ці выступ касцявога эпіфізу, які служыць для прымацавання цяглiцы ці які ўваходзіць у склад спалучэння.*

# -Н-

**Наблюдение** – назіра/нне (н.р.) – *тое, што заўважана ў працэсе вывучэння, разгляду чаго-н., нагляданняў за кім-, чым-н.*
**Надглазничный** – надво/чны – *які знаходзіцца над вокам, вачамі.*
**Надгортанник** – надды/хніца (ж.р.), надгарта/ннік (м.р.) – *храсток над уваходам у дыхавіцу.*
**Надключичный** – надраме/ннічны, надключы/чны – *які знаходзіцца над раменніцай, раменніцамі.*
**Надкожица** – надску/рка (ж.р.) – *верхні пласт скуры.*
**Надкостница** – надко/сніца (ж.р.) – *злучальная тканка, якая пакрывае звонку паверхню касцей у чалавека і хрыбетных жывёл.*
**Надлабковый** – надлабко/вы – *які знаходзіцца над лабком.*
**Надлопаточный** – надлапа/тачны – *які знаходзіцца над лапаткай, лапаткамі.*
**Надплечье** – надпле/чча (н.р.) – *які знаходзіцца над плячом, плячыма.*
**Надпочечники** – надны/рачнікі (мн.л.) – *залоза ўнутранай сакрэцыі ў чалавека і вышэйшых хрыбетных жывёл, якія знаходзяцца на верхнім баку нырак.*
**Надпяточный** – надпя/тачны – *які знаходзіцца над пяткай.*

**Надреберный** – надрэ/берны – *які ляжыць над рэбрамі.*
**Надхрящница** – надхрасто/чніца (ж.р.) – *знешні пласт злучальнай тканкі храстка ў хрыбетных жывёл і чалавека.*
**Надчелюстной** – надскі/вічны – *які размешчаны, знаходзіцца над сківіцай.*
**Надчерепной** – надчарапны/ – *які знаходзіцца над чэрапам.*
**Надчревный** – надчэ/раўны – *які знаходзіцца ў верхняй частцы або над верхняй часткай жывата.*
**Надъязычный** – над'языко/вы – *які знаходзіцца ў паражніне рота над языком.*
**Назначение** – прызначэ/нне (н.р.) – *1) дзеянне паводле дзеяслова* ***прызначаць – прызначыць****; 2) рашэнне аб залічэнні на якую-н. пасаду, работу, а таксама дакумент з такім рашэннем; 3) роля, функцыя каго-, чаго-н.*
**Накал** – напа/л (м.р) – *1) дзеянне паводле значэння дзеяслова* ***напаліць****; 2) ступень свячэння напаленага цела; 3) стан вялікага ўзбуджэння, хвалявання, напружання.*
**Накапливаць** – збіраць, набыва/ць, нако/пліваць – *атрымліваць, засвойваць; 2) атрымліваць, здабываць што-н.*
**Напряжение** – напру/жанне (н.р.) (псіхі/чнае) – *стан у чаканні ўзнікнення негатыўных эмоцый.*
**Наркоз** – нарко/з (м.р.) – *штучна выкліканая страта адчувальнасці ў якога-н. органа (мясцовы наркоз) або ўсыпленне са стратай болевай адчувальнасці (агульны наркоз).*
**Наркоман** – наркама/н (м.р.) – *чалавек, які пакутуе наркаманіяй.*
**Наркомания** – наркама/нія (ж.р.) – *хвароба, звязаная з неадольнай цягай да наркотыкаў.*
**Наркотик** – нарко/тык (м.р.) – *моцнадзейнае рэчыва, звычайна расліннага паходжання, якое выклікае*

*ўзбуджэнне і паралізуе дзейнасць цэнтральнай нервовай сістэмы.*
**Наружный** – во/нкавы – *1) знешні, знадворны; 2) які праяўляецца толькі са знешняга боку, не закранаючы сутнасці чаго-н.; 3) паказны, павархневы, пазбаўлены глыбіні.*
**Нарушение** – парушэ/нне (н.р.) – *працэс дзеяння паводле значэння дзеяслова* ***парушаць-парушыць***.
**Нарушить** – пару/шыць – *1* ) (што.) *Перашкодзіць нармальнаму стану, развіццю чаго-н., перарваць; 2)* (што). *Не захаваць чаго-н., пераступіць што-н.; 3)* (каго-што) *Скрануць, разварушыць.*
**Нарыв (гнойный)** – валасе/нь (м.р.), нары/ў (м.р.) – *абмежаванае гнойнае запаленне тканкі.*
**Насильственный** – прымусо/вы, насі/льны, гвалто/ўны – *які ажыццяўляецца шляхам гвалту, прыгнёту.*
**Наследственность** – спа/дчыннасць (ж.р.) – *уласцівасць арганізма паўтараць у шэрагу пакаленняў падобныя тыпы абмену рэчываў і індывідуальнага развіцця ў цэлым.*
**Насморк** – ката/р (м.р.) , на/смарк (м.р.) – *запаленне слізніцы носа ў выніку пераахаладжэння, інфекцыі, алергіі.*
**Настой** – насто/й (м.р.) – *вадкая лекавая форма, воднае выцягненне з раслiннай сыравіны – для ўнутранага або вонкавага ўжывання.*
**Настроение** – настро/й (м.р.) – *цэласная форма жыццеадчування чалавека, агульны стан яго перажыванняў.*
**Натальный** – ната/льны – *прыроджаны.*
**Натощак** – на/шча – *не еўшы нічога.*
**Нашатырь** – сальмя/к (м.р.), нашаты/р (м.р.) – *хлорысты амоній.*
**Небо** – паднябе/нне (н.р.) – *верхняя сценка ротавай паражніны ў хрыбетных жывёл і чалавека. Складаецца з касцявога паднябення і цяглічнага.*

**Невесомость** – бязва/жкасць (ж.р.) *–стан, калі сіла ўзаемадзеяння цела з апорай (вага цела), якая ўзнікае ў сувязі з гравітацыйным прыцягненнем, дзеяннем іншых сіл, у прыватнасці сілы інерцыі, што ўзнікае пры паскораным руху цела.*
**Невосприимчивость** – неўспрыма/льнасць (ж.р.) – *нясхільнасць да якога-н. захворвання, мае імунітэт да яго.*
**Невралгия** – неўралгі/я (ж.р.) – *нервовы лятучы боль, які выяўляецца ў перыядычных пакутлівых параксізмах.*
**Неврит** – неўры/т (м.р.) – *запаленне перыферычных нерваў з прычыны інфекцыйных захворванняў, траўм, парушэнні кровазвароту і інш.*
**Невроз** – неўро/з (м.р.) – *форма псіхічнага захворвання, выкліканая разладам дзейнасці цэнтральнай нервовай сістэмы.*
**Невролог** – неўро/лаг (м.р.) – *спецыяліст па неўралогіі.*
**Неврология** – неўрало/гія (ж.р.) – *медыка-біялагічная навука аб будове і функцыях нервовай сістэмы ў норме і паталогіі, заканамернасцях яе філагенезу і антагенезу.*
**Неврома** – неўро/ма (ж.р.) – *пухліна на нерве, якая суправаджаецца павышанай адчувальнасцю да болю.*
**Неврон** – неўро/н (м.р.) – *нервовая каморка з яе нервовым адросткам, разглядаецца як адзінка нервовага рэчыва.*
**Невропатия** – неўрапаты/я (ж.р.) – *агульная назва пашкоджанняў перыферычных нерваў з прычыны інтаксікацыі, вітамінная недастатковасці, аўтаімунных працэсаў.*
**Невропатология** – неўрапатало/гія (ж.р.) – *парушэнне функцыі нервовай сістэмы.*
**Невростения** – неўрастэні/я (ж.р.) – *шэраг псіхалагічных і фізічных сімптомаў, у тым ліку павышаная стамляемасць, галаўны боль, заварот галавы.*

**Невротический** – неўраты/чны – *поўнасцю звязаны з нервовай сістэмай, з парушэннямі нервовай сістэмы.*
**Невротом** – неўрато/м (м.р.) – *структурная адзінка, з якой развіваецца нервовая сістэма.*
**Невус** – не/вус (м.р.) – *прыроджаная пляма; выразна вылучаецца на скуры, прысутнічае з нараджэння.*
**Неделя** – ты/дзень (м.р.) – *шэраг дзён, якія яе складаюць; адзінка часу, якая прадстаўляе 7 дзён.*
**Недержание** – нетрыма/нне (н.р.) – *цяжкасць кантролю за выдзяленнямі фізіялагічных прадуктаў распаду арганізма.*
**Недомогание** – хі/ра (ж.р.), недамага/нне (н.р.) – *хваравіты стан, нездароўе.*
**Недоношенность** – недано/шанасць (ж.р.) – *узровень развіцця плода, які нараджаецца раней за заканчэнне нармальнага перыяду ўнутрыўлоннага развіцця.*
**Недоношенный** – недано/шаны – *які нарадзіўся раней за заканчэнне нармальнага перыяду ўнутрыўлоннага развіцця.*
**Недостаточный** – недастатко/вы – *1) невялікі па колькасці, які не адпавядае якія-н. патрэбам; слабы, малы; 2) няпоўны, нездавальняючы//наз.* недастатко/васць (ж.р.).
**Незаменимые аминокислоты** – незаме/нныя амінакісло/ты – *кіслоты, якія не выраблюе арганізм і якія цяжка альбо нельга замяніць; выключна патрэбныя кіслоты.*
**Незаменимый** – незаме/нны - *такі, якога цяжка або нельга замяніць; вельмі патрэбны.*
**Нейровирус** – нейраві/рус (м.р.) – *агульная назва вірусаў, якія рэпрадуцыруюць выключна ў ЦНС або паражаюць яе.*
**Нейрогормон** – нейрагармо/н (м.р.) – *біялагічна актыўнае рэчыва, што выпрацоўваецца нейрасакраторнымі каморкамі.*
**Нейродермит** – нейрадэрмі/т (м.р.) – *захворванне скуры нервова-алергічнага характару.*

**Нейролептические (средства)** – нейралепты/чныя (сродкі) – *лекі, якія аказваюць запаволены ўплыў на функцыі ЦНС, не парушаючы пры гэтым свядомасці.*
**Нейрон** – нейро/н (м.р.) – *каморка, здольная выпрацоўваць нервовыя штуршкі і перадаваць іх іншым каморкам.*
**Нейрон аферентный** – нейро/н аферэ/нтавы – *нейрон, які прымае і перадае ўзбуджэнне.*
**Нейрон биополярный** – нейро/н двускра/йні – *нейрон, які мае 1 аксон і 1 дэндрыт.*
**Нейрон вставочный** –нейро/н злуча/льны – *нейрон, які ажыццяўляе сувязь паміж нейронамі ў рэфлектарнай дузе.*
**Нейрон звездчатый** – нейро/н зо/рчаты – *нейрон, які мае доўгі разгалінаваны аксон (дэндрыт).*
**Нейронография** – нейранаграфі/я (ж.р.) – *метад даследаванняў функцый нервовай сістэмы, які заснаваны на рэгістрацыі палёў электрычных патэнцыялаў, якія ўзнікаюць у адказ на ўздзеянне на пэўныя групы нейронаў.*
**Нейрохимия** – нейрахі/мія (ж.р.) – *раздзел біялагічнай хіміі, што вывучае хімічныя працэсы ў органах і тканках нервовай сістэмы.*
**Нейрохирург** – нейрахіру/рг (м.р.) – *спецыяліст па нейрахірургіі.*
**Нейрохирургия** – нейрахірургі/я (ж.р.) – *раздзел медыцыны, які займаецца захворваннямі нервовай сістэмы і іх хірургічным лячэннем.*
**Нейроцит** – нейрацы/т (м.р.) – *нейрон-каморка, здольная ўспрымаць раздражненне, прыходзіць у стан узбуджэння, выпрацоўваць нервовыя штуршкі і перадаваць іх іншым каморкам; з'яўляецца структурнай і функцыянальнай адзінкай нервовай сістэмы.*
**Нейроэндокринология** – нейраэндакрынало/гія (ж.р.) – *раздзел эндакрыналогіі, які вывучае ўзаемадзеянне цэнтральнай нервовай сістэмы і эндакрыннай сістэмы ў рэгуляцыі працэсаў жыццядзейнасці.*

**Некробиоз** – некрабіё/з (м.р.) – *больш ці менш працяглы працэс незваротнага парушэння жыццядзейнасці тканкі, папярэднічае іх гібелі.*
**Некроз –** некро/з (м.р.) – *амярцвенне групы каморак, органа або яго часткі ў жывым арганізме.*
**Некромания** – некрама/нія (ж.р.) – *паталагічная цяга да апаганьвання трупаў.*
**Нематода** – немато/да (ж.р.) – *клас круглых чарвей, які аб'ядноўвае раздзельнаполыя арганізмы з акруглым у сячэнні целам, пакрытыя куцікулай; уключае шматлікія паразітычныя і вольнажывучыя віды, у тым ліку ўзбуджальнікаў нематодаў чалавека.*
**Неметь** – няме/ць – *1) станавіцца нямым, траціць здольнасць гаварыць; 2) траціць адчувальнасць (ад холаду, стомы).*
**Немой** – нямко/ (м.р.), нямы/ - *1) пазбаўдены здольнасці гаварыць; 2) маўклівы, ціхі; 3) скрыты, затоены.*
**Немота** – немата/ (ж.р.) – *1) адсутнасць дару мовы; 2) нямая цішыня; 3) бяспраўе.*
**Ненормальность** – ненарма/льнасць (ж.р.) – *ненармальная з'ява.*
**Необратимость** – незваро/тнасць (ж.р.) – *немагчымасць вярнуцца, паўтарыцца.*
**Неонатолог** – неанато/лаг (м.р.) – *урач, які аказвае дапамогу нованароджаным дзецям.*
**Неонатология** – неанатало/гія (ж.р.) – *раздзел медыцыны, які вывучае нованароджаных, іх рост і развіццё, іх захворванні і паталагічныя станы.*
**Непереносимость** – непрыма/нне (н.р.) – *няздольнасць хворага пераносіць якое-н. лекавае рэчыва, якое выяўляецца ў яго праявай розных алергічных рэакцый.*
**Неподвижный** – нерухо/мы – *1) які не рухаецца, застаецца ўвесь час на адным месцы; 2) які не змяняе свайго выразу.*

**Непроизвольный** – неадво/льны –*які ўзнікае, адбываецца бескантрольна, незалежна ад волі і свядомасці.*
**Непрямой** – няпро/сты, уско/сны – *які ўзнікае не прама, а цераз шэраг іншых дзеянняў.*
**Нетрудоспособность** – непрацаздо/льнасць (ж.р.) – *часовая або сталая страта працаздольнасці з прычыны хваробы, няшчаснага выпадку або іншых чыннікаў.*
**Неравновесие** – нераўнава/га (ж.р.) – *становішча, калі нейкі прадмет або з'ява пазбаўлены раўнавагі.*
**Нерв** – нерв (м.р.) – *тонкае валакно, якое ў выглядзе адростка адыходзіць ад галаўнога і спіннога мозга і з'яўляецца састаўной часткай разгалінаванай сістэмы, здольнай служыць сродкам кіравання дзейнасці арганізма.*
**Нерв блоковый** – нерв кружа/льны (м.р.) – *чацвёртая пара чэрапных нерваў, якая пачынаецца ад ядра кружальнага нерва, інервуе верхнюю касую цягліцу вочнага яблыка.*
**Нерв блуждающий** – нерв блукальны (м.р.) – *дзясятая пара чэрапных нерваў у хрыбетных жывёл і чалавека. Інервуе органы галавы, шыі, грудны і брухавінны аддзелы. Удзельнічае ў рэгуляцыі рэфлекторных актаў, крывяного ціску.*
**Нерв вестибулярный** – нерв прысе/начны (м.р.) – *пара нерваў, якая інарвуе орган пачуцця – вестыбулярны апарат, з дапамогай якога чалавек і жывёлы ўспрымаюць змены становішча галавы і цела ў прасторы, а таксама кірунак руху.*
**Нерв добавочный** – нерв дадатко/вы (м.р.) – *адзінаццатая пара чэрапных нерваў, якая пачынаецца ад ядра адводнага нерва, інарвуе латэральную касую цягліцу вочнага яблыка.*
**Нерв зрительный** – нерв зро/кавы (м.р.) – *другая пара чэрапна-мазгавых нерваў, па якіх зрокавыя раздражненні, успрынятыя адчувальнымі каморкамі, перадаюцца ў галаўны мозг.*

**Нерв лицевой** –нерв тва/равы (м.р.) – *сёмы з дванаццаці чэрапна-мазгавых нерваў.*
**Нерв обонятельный** – нерв ню/хальны (м.р.) – *першая пара чэрапна-мазгавых нерваў. Нерв нюхальны ў чалавека пачынаецца на ніжнім баку галаўнога мозгу на ўнутраным канцы вялікай ямкі.*
**Нерв отводящий** – нерв адво/дны (м.р.) – *шостая пара чэрапна-мазгавых нерваў. Прыводзіць да абмежавання рухавасці, анамаліі ў вобласці вочнага яблыка.*
**Нерв седалищный** – нерв сяда/льны (м.р.) – *найбольш буйны нерв ніжняй канцавіны. Ён спускаецца па задняй паверхні сцягна паблізу падкаленнай ямкі.*
**Нервизм** – аднерво/васць (ж.р.), нерві/зм (м.р.) – *ідэя аб пераважным значэнні нервовай сістэмы ў рэгуляванні фізіялагічных функцый і працэсаў, якія здзяйсняюцца ў арганізме чалавека і жывёл.*
**Нервная система** – нерво/вая сістэ/ма (ж.р.) – *складаная сетка структур, якая пранізвае ўвесь арганізм і забяспечвае самарэгуляцыю яго жыццядзейнасці, дзякуючы здольнасці рэагаваць на вонкавыя і ўнутраныя ўздзеянні.*
**Нервная ткань** – нерво/вая тка/нка (ж.р.) – *эктадэрмальнага паходжання, уяўляе з сябе сістэму спецыялізаваных структур, якія ўтвараюць аснову нервовай сістэмы і якія ствараюць умовы для рэалізацыі яе функцый.*
**Нервный** –нерво/вы – *1) той, хто мае адносіны да нерва; 2) неспакойны, лёгка ўзбуджальны чалавек.*
**Несварение** – нястра/ўнасць (ж.р.) – *хвароба страўніка, пры якой ускладняецца ператраўленне і засваенне ежы.*
**Несовершеннолетие** – непаўнале/ццe (н.р.) – *узрост чалавека, які не дасягнуў паўналеццця.*
**Несовместимость** – несумяшча/льнасць (ж.р.) – *які не можа існаваць, спалучацца з чым-н.*

**Неспецифический** – шыракася/жны, неспецыфі/чны – *неадметная ўласцівасць; тое, што не ўласціва пэўнаму прадмету ці з'яве.*
**Нефрит** – нефры/т (м.р.) – *запаленчае захворванне, якое характарызуецца паражэннем судзін нуркавых клубочкаў.*
**Нефроз** – нефро/з (м.р.) – *агульная назва паражэння нырак з паталагічнымі змяненнямі пераважна нуркавых канальцаў, якія праяўляюцца нефратычным сіндромам.*
**Нефролитиаз** – нефралітыя/з (м.р.) – *(ныркавакаменная хвароба) працэс фарміравання камянёў.*
**Нефролог** – нефро/лаг (м.р.) – *урач – спецыяліст, які падрыхтаваны па пытаннях дыягностыкі, лячэння і прафілактыкі хвароб нырак.*
**Нефрон** – ны/ркавае це/лка (н.р.), нефро/н (м.р.) – *пачатковая частка нефрона, якая знаходзіцца ў коркавым рэчыве ныркі і складаецца з клубочка крывяносных капіляраў і капсулы, дзе ўтвараецца першасная мача.*
**Нефропотия** – нефрапаты/я (ж.р.) – *агульная назва некаторых відаў паражэння нырак.*
**Нефроптоз** – нефрапто/з (м.р.) – *паталагічны стан, які характарызуецца празмернай рухавасцю ныркі з парушэннем гемадынамікі і з'яўляецца вынікам слабасці звязачнага апарата ныркі.*
**Нижнечелюстная (ямка)** – ніжняскі/вічная (ямка) – *ямка на скроневай касці, у якую ўваходзіць галоўка ніжняй сківіцы, утвараючы ніжнясківічны сустаў.*
**Никотин** – нікаці/н (м.р.) – рэчыва з *тытуня, якое валодае слабым узбуджальным уздзеяннем на цэнтральную і перыферычную нервовую сістэму, павышае крывяносны ціск, пачашчае дыханне.*
**Нимфомания** – німфама/нія (ж.р.) – *паталагічнае павышэнне плоцевай цягі ў жанчын.*
**Нистагма** – ніста/гма (ж.р.) – *міжвольны рытмічны двухфазны рух вочных яблыкаў.*

**Новокаин** – навакаі/н (м.р.) – *прэпарат, які ўжываецца для мясцовага абязбольвання і для лячэння некаторых захворванняў.*
**Новорожденный** – наваро/дны, наро/дзінец (м.р.) – *дзіця з моманту нараджэння да 28 дзён.*
**Нога** – нага/ (ж.р.) – *адна з дзвюх ніжніх канцавін чалавека, а таксама адна з канцавін жывёл.*
**Ноготь** – но/гаць (м.р.), пазно/гаць (м.р.) – *прыдатак скуры пальца нагі і рукі, асноўная частка якога – рагавая пласцінка.*
**Ногтевой** – но/гцевы, пазно/гцевы – *які адносіцца да пазногця.*
**Ножницы** – нажні/цы (мн.л.) – *прылада для рэзання, якая складаецца з двух лязо з кольцападобнымі канцамі, злучаных шрубкай.*
**Ноздря** – наздра/ (ж.р.) – *адна з парных вонкавых адтулін носа.*
**Норма** – но/рма (ж.р.) – *1) устаноўленая мера, сярэдняя велічыня чаго-н.; 2) агульнапрынятыя, узаконеныя ў пэўным асяроддзі правілы паводзін людзей у грамадстве, агульнапрынятае правіла ў мове, літаратуры; 3) загаловак кнігі, звычайна скарочаны, які даецца дробным шрыфтам на першай старонцы кожнага друкаванага аркуша ўнізе з левага боку.*
**Нос** – нос (м.р.) – *1) орган нюху, які знаходзіцца на твары чалавека або мордзе жывёл; 2) дзюба ў птушкі; 3) пярэдняя чатка судна, лодкі, самалёта і пад.; 4) аб выступаючай пярэдняй частцы якога-н. прадмета; 5) тое, што і насок.*
**Носилки** – насі/лкі (мн.л.) – *прыстасаванне для пераноскі цяжараў або людзей (хворых, параненых), якое складаецца з пасцілкі і 2-х паралельных палак.*
**Носоглотка** – насагло/тка (ж.р.) – *адзін з дыхальных шляхоў, верхняя частка глоткі.*
**Ностальгия** – настальгі/я (ж.р.) – *туга па Радзіме.*

**Нуклеиновый** – нуклеі/навы – *у жывых арганізмах: высокамалекулярныя арганічныя злучэнні, якія захоўваюць і перадаюць генетычную інфармацыю.*
**Нуклеотид** – нуклеаты/д (м.р.) – *структурная адзінка ДНК.*

# -О-

**Обессоливание** – абяссо/льванне (н.р.) – *вывядзенне солі з чаго-н.*
**Обитаемость** – засе/ленасць (ж.р.) – *1) населенасць людзьмі на якой-н. тэрыторыі; 2) пэўная колькасць насельніцтва на пэўнай тэрыторыі.*
**Облегчение** – палё/гка (ж.р.), аблягчэ/нне (н.р.) – *стан лёгкасці, вызваленне ад чаго-н.*
**Облигатный** – абавязко/вы, абліга/тны – *1) які безумоўна трэба выконваць; 2) які заўсёды павінен быць, які заўсёды прысутнічае.*
**Облитерация** – аблітэра/цыя (ж.р.) – *паступовае зрастанне чэрапных швоў.*
**Облучение** – апраме/ньванне (н.р.) – *успрыманне арганізмам хімікатаў або апрамяняльных промняў.*
**Обмен** – абме/н (м.р.) – *1) абмяняць; 2) аддаць адно што-н. і атрымаць замест яго другое.*
**Обморок** – амле/ласць (ж.р.), непрыто/мнасць (ж.р.) – *1) страта прытомнасці, выкліканая хваравітым станам або душэўным узрушэннем; 2) крайняя ступень душэўнага ўзрушэння, пры якой трацішца здольнасць валодаць сабой.*
**Обморочный** – непрыто/мны – *1) які страціў прытомнасць, знаходзіцца ў стане падучай хваробы; 2) які нічога не памятае, душэўна ўзрушаны.*
**Обоняние** – нюх (м.р) – *успрыманне арганізмам паху пры дапамозе органа нюху.*
**Оборонительный** – абаро/нчы – *падрыхтаваны для абароны.*

**Оборудование** – абсталява/нне (н.р.) – *сукупнасць прылад, механізмаў, машын і пад., неабходных для чаго-н.*
**Обострить** – абвастры/ць – *1) зрабіць больш вострым, успрымальным; 2) зрабіць больш моцным, цяжкім; 3) зрабіць больш напружаным.*
**Обработка** – апрацо/ўка (ж.р.) – *аддзелка, аналіз, выдзелка чаго-н.*
**Образование** – утварэ/нне (н.р.) – *тое, што ўтварылася з чаго-н.*
**Образовываться** – утвара/цца – *атрымацца, узнікнуць (узнікаць).*
**Обратимый** – абарача/льны – *здольны вяртацца ў свой першапачатковы, зыходны стан.*
**Обратный** – зваро/тны – *скіраваны ў бок, процілеглы якому-н. руху; які вядзе назад.*
**Обсервация** – абсерва/цыя (ж.р.) – *медыцынскае назіранне за тварамі часова ізаляваных хворых у сувязі з каранціннымі інфекцыйнымі хваробамі.*
**Обследование** –абсле/даванне (н.р.) – *дзеянне паводле дзеяслова* ***абследаваць****.*
**Обследовать** – абсле/даваць – *праводзіць агляд, праверку чаго-н.*
**Обтурация** – абтура/цыя (ж.р.) – *закрыццё прасвету парожняга органа ў выніку аператыўнага ўмяшальніцтва ці пры паталогіі.*
**Обусловливание** – абумо/ўліванне (н.р.) – *абмяжоўванне якімі-н. умовамі.*
**Обучение** – навуча/нне (н.р.) – *1) перадача каму-н. уменняў, навыкаў і г.д.; 2) настаўленне каму-н., пабуджэнне; 3) выказванні думак; 4) засваенне, запамінанне.*
**Общеукрепляющие средства** – агульнаўмацава/льныя сро/дкі (мн.л.) – *лекавыя сродкі, якія дзейнічаюць на некалькі сістэм чалавечага арганізма.*
**Общеукрепляющий** – агульнаўмацава/льны – *той, які ўмацоўвае па некалькіх крытэрыях.*

**Общий** – агу/льны – *1) які належыць, датычыцца ўсіх; 2) які выкарыстоўваецца ўсеагульна; 3) характэрны каму-н. адначасова; 4) цэлы, увесь; 5) які датычыцца асноў чаго-н.; 6) які датычыцца самага важнага.*
**Объект** – аб'е/кт (м.р.) – *1) прадмет, на які накіравана якая-н. дзейнасць; 2) прадпрыемства, месца якой-н. дзейнасці.*
**Объём** – аб'ё/м (м.р.) – *1) памер чаго-н. у даўжыню, шырыню і вышыню, што вымяраецца ў кубічных адзінках; 2) увогуле памер, колькасць.*
**Объем циркулирущей крови (ОЦК)** – аб'ё/м цыркуляцы/йнай крыві/ (АЦК)
**Объяснение** – тлумачэ/нне (н.р) – *тое, што тлумачыць што-н., дапамагае зразумець прычыну чаго-н.*
**Овуляция** – авуля/цыя (ж.р.) – *з'ява, якая ўяўляе сабой выхад яйцаклеткі з яечніка ў паражніну цела ў выніку разрыву сталага фалікула.*
**Одышка** – уду/шша (н.р.) – *стан, пры якім спіраецца дыханне ў грудзях, не хапае паветра для дыхання.*
**Ожирение** – атлусце/нне (н.р.) – *стан тлустасці.*
**Ожог** – апё/к (м.р.) – *пашкоджанне тканак арганізма, выклікане дзеяннем высокай тэмпературы ці дзеяннем некаторых хімічных рэчываў (кіслот, солей цяжкіх металаў і інш.).*
**Озноб** – дры/жыкі (мн.л.) – *частае сутаргавае ўздрыгванне цела (ад холаду, хваравітага стану і пад.).*
**Озонатор** – азана/тар (м.р.) – *прылада для атрымання азону, для азанавання паветра.*
**Окисление** – акісле/нне (н.р.) – *рэакцыя, пры якой адбываецца злучэнне якога-н. рэчыва з кіслародам.*
**Окись** – во/кіс (м.р.) – *сярэдняя ступень акіслення рэчыва (у адрозненне ад закісу – ніжэйшай і перакісу – вышэйшай).*
**Окклюзия** – закаркава/нне (н.р.), аклюзі/я (ж.р.) – *1) закупорка якога-н. аргана або яго часткі; 2) у*

*стаматалогіі – узаемаадносіны пры кантакце прыкусных паверхняў зубоў верхняй і ніжняй сківіц.*
**Окологлоточный** – калягло/ткавы – *які знаходзіцца каля глоткі.*
**Околоплодный** – каляпло/дны – *які акружае плод.*
**Околосердечный** – калясэ/рцавы – *які акружае ці знаходзіцца каля сэрца.*
**Околошейный** – каляшы/йны – *які знаходзіцца каля шыі.*
**Околощитовидный** – каляшчытападо/бны – *які знаходзіцца каля шчытападобнай залозы.*
**Окостенение** – акасцяне/нне (н.р.) – *фізіялагічны працэс зацвярдзення міжкаморкавага рэчыва храстковай тканкі мінеральнымі салямі.*
**Окраска** – афарбо/ўка (ж.р.) – *колер, спектральныя і інш. колеры, узоры колераў.*
**Окружающая среда** – навако/льная асяро/ддзе (н.р.) – *комплекс прыродных цел і з'яў, з якімі арганізм знаходзіцца ў пэўных узаемаадносінах.*
**Оксигемометрия** – аксігемаметры/я (ж.р.) – *вымярэнне насычанасці крыві кіслародам па яе аптычнай шчыльнасці.*
**Окулист** – акулі/ст (м.р.) – *урач, які займаецца выяўленнем і лячэннем хвароб органа зроку.*
**Окуляр** – акуля/р (м.р.) – *набор лінзаў у верхняй частцы мікраскопа, з дапамогай якога факусіруецца выява мікрааб'екта.*
**Окуривание** – аку/рванне (н.р.) – *уздзеянне дымам.*
**Олива** – алі/ва (ж.р.) – *вечназялёнае дрэва, масліна, а таксама яго плод.*
**Олиг(о)** – алі/г (а) – *частка складаных слоў, якая азначае "малы", "недастатковы".*
**Олигемия** – алігемі/я (ж.р.) – *зменшаная колькасць крыві.*
**Олигодактилия** – алігадактылі/я (ж.р.) – *анамалія развіцця: няпоўная колькасць пальцаў ручыцы і ступні.*

**Олигодентия** – алігадэнты/я (ж.р.) – *наяўнасць недастатковай колькасці зубоў.*
**Олигофрения** – алігафрэні/я (ж.р.) – *прыроджанае або набытае недаразвіццё псіхічнай дзейнасці.*
**Олигурия** – алігуры/я (ж.р.) – *зменшанае выдзяленне мачы.*
**Оментит** – аменты/т (м.р.) – *запаленне сальніка.*
**Омертветь** – змярцве/ць – *апынуцца на некаторы час у стане мёртвага.*
**Омфалит** – амфалі/т (м.р.) – *запаленне скуры, скурнай клятчаткі каля пупка.*
**Онанизм** – збруд (м.р), анані/зм (м.р.) – *ненармальнае (без плоцевага акта) задавальненне плоцевага пачуцця шляхам раздражнення плоцевых оргаў.*
**Онихия** – аніхі/я (ж.р.) – *агульная назва захворванняў пазногцяў.*
**Онихомикоз** – аніхаміко/з (м.р.) – *грыбковае захворванне пазногцяў.*
**Онихорексис** – аніхарэ/ксіс (м.р.)- *ломкасць пазногцяў.*
**Онихофагия** – аніхафагі/я (ж.р.) – *псіхічны разлад, які выяўляецца ў абкусванні пазногцяў.*
**Онкогенез** – онкагене/з (м.р.) – *працэс пераўтварэння нармальных каморак у ракавыя.*
**Онкогенный** – анкаге/нны – *гэты тэрмін прымяняецца для апісання рэчываў, арганізмаў ці вонкавага асяроддзя, якія могуць з'явіцца прычынай узнікнення пухліны.*
**Онкограмма** – анкагра/ма (ж.р.) – *крывая, якая паказвае змену аб'ёма органа ці тканкі.*
**Онколог** – анко/лаг (м.р.) – *урач, які займаецца ранняй дыягностыкай і лячэннем анкалагічных захворванняў.*
**Онкология** – анкало/гія (ж.р.) – *раздзел медыцыны, які вывучае пухліны, іх этыялогію і патагенез, механізмы і заканамернасці ўзнікнення.*
**Онтогенез** – антагене/з (м.р.) – *індывідуальнае развіццё арганізмаў ад апладнення да смерці.*

**Оогамия** – аагамі/я (ж.р.) – *від плоцевага працэсу, пры якім зліваюцца плоцевыя каморкі, што адрозніваюцца адна ад адной.*
**Оофорит** – аафары/т (м.р.) – *запаленне яйца.*
**Опасность** – небяспе/ка (ж.р.) – *магчымасць узнікнення акалічнасцей, пры якіх матэрыя, поле, інфармацыя або іх сукупнасць такім чынам можа паўплываць на сістэму, што гэта прывядзе да пагаршэння або немагчымасці яе функцыянавання і развіцця.*
**Оперативный** – аператы/ўны – *вельмі хуткі.*
**Операционная** – аперацы/йная – *памяшканне, у якім праводзяць аперацыі.*
**Операция** – апера/цыя (ж.р.) – *комплекс уздзеяння на тканкі або органы чалавека, праводзімыя ўрачом з мэтай лячэння, дыягностыкі функцый арганізма, выкананы з дапамогай розных метадаў раз'яднання і злучэння тканак.*
**Оперирование** – аперы/раванне (н.р.) – *дзеянні, праводзімыя пад час аперацыі.*
**Описторхоз** – апістархо/з (м.р.) – *гельмінтоз, які паражае жоўцевую пратоку, жоўцевы пузыр і пратокі падстраўніцы.*
**Опистотонус** – апістато/нус (м.р.) – *сутаргавы стан, пры якім спіна выгінаецца ўперад, галава закідваецца назад, рукі і ногі выцягваюцца.*
**Оплодотворение** – запладне/нне (н.р.) – *зліццё мужчынскіх і жаночых плоцевых каморак.*
**Опорожнение** – апаражне/нне (н.р.) – *вызваленне ад чаго-н.*
**Оппонент** – апане/нт (м.р.) – *той, хто апаніруе каму-н.*
**Определение** – выяўле/нне (н.р.) – *устанаўленне з дакладнасцю.*
**Опрелость** – прэ/ласць (ж.р.) – *запаленчая з'ява на скурных складках, якая ўзнікае пры трэнні адной паверхні аб другую.*
**Опрос** – апыта/нне (н.р.) – *збор адказаў на пытанні.*

**Опрыскивание** – апы/рсканне (н.р.) – *абдаванне з усіх бакоў кроплямі чаго-н.*
**Опсонин** – апсані/н (м.р.) – *рэчывы, якія спрыяюць прыліпанню бактэрый да фагацытаў.*
**Оптика** – о/птыка (ж.р.) – *1) раздзел фізікі; 2) прыборы, праца якіх заснавана на законах аптычнай фізікі.*
**Оптимальный** – аптыма/льны – *найбольш спрыяльны, зручны, найлепшы.*
**Опухолевый** – пухлі/нны – *які мае адносіны да пухліны.*
**Опухоль** – пухлі/на (ж.р.) – *хваравітае ўздуццё тканак арганізма.*
**Опухший** – апу/хлы – *які апух, ацёк.*
**Опыт** – до/след – *1) вывучэнне з'яў аб'ектыўнага свету ва ўмовах, набліжаных да натуральных; эксперымент; 2) дзеянне паводле дзеяслова **даследаваць** (рабіць навуковы разгляд з мэтай пазнання, высвятлення чаго-н.).*
**Опьянение** – ап'яне/нне (н.р.) – *стан паводле значэння дзеяслова **п'янець** (стаць п'яным, упіцца).*
**Оральный** – ро/тавы, ара/льны – *які мае адносіны да ротавай паражніны.*
**Орган** – о/рган (м.р.) – *1) частка арганізма, якая выконвае пэўную функцыю; 2) установа, якая выконвае пэўныя задачы ў якой-н. галіне грамадскага жыцця; 3) газета або часопіс, якія выдаюцца якой-н. арганізацыяй.*
**Организм** – аргані/зм (м.р.) – *1) усялякая жывая істота, расліна; 2) сукупнасць фізічных і душэўных якасцей якога-н. чалавека; 3) тое, што нагадвае сабой складанае арганізаванае адзінства.*
**Органоид** – аргано/ід (м.р.) – *пастаянная частка жывёльнай або раслiннай каморкі, якая выконвае пэўныя функцыі ў яе жыццядзейнасці.*
**Органометрия** – арганаметры/я (ж.р.) – *сукупнасць метадаў колькаснай ацэнкі памераў, масы, колеру і іншых параметраў органаў.*

**Органопластика** – арганапла/стыка (ж.р.) – *штучнае стварэнне хірургічнымі метадамі органаў пры іх прыроджанай адсутнасці, пашкоджанні і страце.*
**Органотерапия** – арганатэрапі/я (ж.р.) – *лячэнне лекамі, прыгатаванымі з органаў і тканак.*
**Ординатор** – ардына/тар (м.р.) – *доктар бальніцы, клінікі, які лечыць пад кіраўніцтвам загадчыка аддзялення.*
**Ориентировочный** – арыенціро/вачны – *1) які служыць для арыенціроўкі; 2) прыблізны, папярэдні.*
**Орнитин** – арніці/н (м.р.) – *1) аліфатычная амінакіслата, прысутнічае ў арганізмах, уваходзіць у склад некаторых антыбіётыкаў. Удзельнічае ў біясінтэзе мачавіны; 2) амінакіслата, якая выпрацоўваецца ў печані і з'яўляецца пабочным прадуктам у ходзе пераўтварэння аміяку ў мачавіну.*
**Оротовая кислота** – аро/тавая кіслата/ (ж.р.) – *вітамін B13, B2, B4 дыюксіпірымідзін. Прысутнічае ў тканках жывёл, раслін і мікраарганізмаў.*
**Ортогения** – артаге/нія (ж.р.) – *прыкус, пры якім верхнія і ніжнія пярэднія зубы знаходзяцца ў адной франтальнай роўніцы.*
**Ортодентин** – артадэнты/н (м.р.) – *пранізаны канальцамі дэнтын, які не ўтрымлівае каморак і крывяносных судзін, характэрны для зубоў чалавека і большасці жывёл.*
**Ортодиаграфия** – артадыяграфі/я (ж.р.) – *метад вызначэння палажэнняў і памераў унутраных органаў (гал. чынам сэрца і тутніцы) шляхам замалёўкі іх контураў пры рэнтгенаўскім прасвячэнні з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў.*
**Ортодонтия** – артаданты/я (ж.р.) – *раздзел стаматалогіі, што вывучае дыягностыку, прафілактыку і лячэнне анатоміі развіцця і дэфармацыі зубоў, зубных радоў і сківіц.*
**Ортопедия** – артапеды/я (ж.р.) – *галіна клінічнай медыцыны, якая вывучае хваробы і дэфармацыі*

*апорна-рухальнага апарата і распрацоўвае метады іх дыягностыкі, лячэння і прафілактыкі.*
**Ортоптика** – арто/птыка (ж.р.) – *сукупнасць кансерватыўных метадаў аднаўлення бінакулярнага зроку пры касавурасці.*
**Ортоскопия** – артаскапі/я (ж.р.) – *метад даследавання дыхніцы, які заключаецца ў яе аглядзе з дапамогай спецыяльных інструментаў.*
**Ортофория** – артафары/я (ж.р.) – *праблемны стан рухальнага апарата вачэй, які характарызуецца тым, што пры выключэнні ўмоў для бінакулярнага зроку не адбываецца адхілення вочных яблык ад правільнага (сіметрычнага) становішча.*
**Орхит** – архі/т (м.р.) – *запаленне яйца.*
**Осанка** – паста/ва (ж.р.) – *звычайнае становішча цела пры стаянні, хадзе і сядзенні.*
**Освещённость** – асве/тленасць (ж.р.) – *уласцівасць асветленага.*
**Осевой** – во/севы – *які мае дачыненні да восі. Які з'яўляецца воссю.*
**Осиплый** – сіпа/ты – *які страціў чысціню і гучнасць (пра голас, гукі), які гаворыць прыглушана-хрыплым голасам.*
**Оскал** – вы/скал (м.р.) – *прыадкрыты рот з вышчаранымі зубамі.*
**Осколок** – аске/пак (м.р.) – *адколаты ад чаго-н. кавалак.*
**Оскомина** – аско/ма (ж.р.) – *непрыемнае вяжучае адчуванне ў роце; абвостранае адчуванне на зубах ад чаго-н. кіслага.*
**Осложнение** – ускладне/нне (н.р.) – *з'ява, падзея, якая ўскладняе ход справы.*
**Осмотр** – агля/д (м.р) – *дзеянне паводле дзеяслова* ***агледзець****.*
**Основной** – асно/ўны – *найбольш важны, істотны, галоўны.*
**Основываться** – грунтава/цца – *сцвярджаць, умацоўваць, усталёўваць, ладзіць трывала, класці*

*аснову; тое, на чым павінна стаяць, трымацца будова.*
**Особенности** – асаблі/васці, адме/тнасці – *характэрныя, вельмі адметныя рысы чаго-н. або каго-н.*
**Оспа** – во/спа (ж.р.) – *1) востразаразная вірусная хвароба, якая суправаджаецца гнойным сыпам на скуры і слізніцы; 2) блізны і ямкі, якія застаюцца на скуры пасля гэтай хваробы або на месцы яе прышчэплівання.*
**Остаточный** – рэ/штавы – *звязаны з рэштай, належыць ёй.*
**Остеоартрит** – астэаартры/т (м.р.) – *дэфармірующы артрыт, запаленне сустава з паразай суставных касцей.*
**Остеобласт** – астэабла/ст (м.р.) – *маладыя каморкі косцевай тканкі, якія сінтэзуюць кампаненты міжкаморкавага рэчыва і вылучаюць іх праз усю паверхню, што прыводзіць да з'яўлення лакун.*
**Остеография** – астэаграфі/я (ж.р.) – *апісанне касцей шкілета.*
**Остеодистрофия** – астэадыстрафі/я (ж.р.) – *агульнае захворванне касцей, звязанае з парушэннем абмену рэчываў у арганізме.*
**Остеолог** – астэо/лаг (м.р.) – *анатам, які вывучае касцявы шкілет.*
**Остеома** – астэо/ма (ж.р.) – *дабраякасная касцявая пухліна.*
**Остеомаляция** – астэамаля/цыя (ж.р.) – *размякчэнне касцей і іх дэфармацыя праз недахоп у арганізме солей кальцыя і фосфарнай кіслаты.*
**Остеомиелит** – астэаміялі/т (м.р.) – *запаленне касцявога мозга, звычайна з распаўсюджваннем на ўсе пласты косці.*
**Остеомикоз** – астэаміко/з (м.р.) – *мікоз косці; характарызуецца спалучэннем дэструктыўных і праліфератыўных працэсаў.*

**Остеон** – астэо/н (м.р.) – *структурная адзінка кампактнага рэчыва касцей у хрыбетных жывёл і чалавека. Астэон складаецца з касцявых пласцінак, размешчаных канцэнтрычна вакол гаверсавых каналаў, што надае косці пэўную трываласць.*
**Остеонекроз** – астэанекро/з (м.р.) – *змярцвенне ўчастка косці.*
**Остеопатия** – астэапаты/я (ж.р.) – *адзін з метадаў бязлекавай медыцыны, які заключаецца ў ручным уздзеянні на анатамічныя структуры цела з мэтай іх вызвалення ад функцыянальных блокаў і аднаўленні цыркуляцыі вадкасці для стварэння аптымальнага рухальнага стану чалавека.*
**Остеопороз** – астэапаро/з (м.р.) – *захворванне, звязанае з пашкоджаннем (станчэннем) касцявой тканкі, якое вядзе да пераломаў і дэфармацыі касцей.*
**Остеосаркома** – астэасарко/ма (ж.р.) – *гэта пухліна касці, якая складаецца са злаякасных каморак, якія прадуцыруюць няспелую касцявую тканку.*
**Остеосинтез** – астэасі/нтэз (м.р.) – *хірургічны метад злучэння касцявых абломкаў і ліквідацыя іх рухомасці з дапамогай умацавальных прыбораў.*
**Остеотомия** –астэатамі/я (ж.р.) – *аперацыя рассячэння косці з мэтай выпраўлення яе або падаўжэння.*
**Остеофиты** –астэафі/ты (мл.н.) – *паталагічнае касцявое нарастанне на паверхні косці.*
**Остит** – асты/т (м.р.) – *запаленне косці.*
**Острота** – вастрыня/ (ж.р.) – *1) уласцівасць вострага; 2) надзённасць, актуальнасць.*
**Острый** – во/стры – *1) добра навостраны або з завостраным канцом ці краем; 2) які звужаецца пад канец; 3) праніклівы, які добра ўспрымае; 4) які вызначаецца дасціпнасцю; 5) які выразна і моцна праяўляецца, адчуваецца; 6) які моцна дзейнічае на смак ці нюх; 7) моцна, ясна выражаны; напружаны.*
**Ость** – асцю/к (м.р.) – *тонкі, доўгі вусік на каласах жыта, ячменю, пшаніцы.*

**Осциллограф** – хвалярысо/ўнік (м.р.), асцыло/граф (м.р.) – *прыбор, які ўжываецца ў тэхніцы, медыцыне для назірання і запісу электрычных працэсаў.*
**Осязание** – до/тык (м.р.) – *1) дзеянне паводле дзеяслова* датыкацца – даткнуцца*; 2) адно з пяці знешніх пачуццяў – успрыманне, адчуванне, якія ўзнікаюць пры дакрананні да чаго-н.*
**Отвердение** – зацвярдзе/нне (н.р.) – *1) цвярдзець; 2) хваравітае ўшчыльненне цяглічнай тканкі.*
**Отверстие** – адтуліна (ж.р.) – *дзірка, шчыліна, праход у чым-н.*
**Ответ** – адка/з (м.р.) – *1) выкліканыя пытаннем або зваротам словы, выказаныя вусна або пісьмова; 2) расказванне вучнем урока; 3) выклад матэрыялу на пастаўленае пытанне.*
**Отвлекать** – адвярта/ць, адця/гваць – *1) перастаць займацца чым-н.; 2) адкласці на пазнейшы час.*
**Отвращение** – агі/да (ж.р.) – *вельмі непрыемнае пачуццё, якое выклікаецца кім- або чым-н.*
**Отграничить** – абмежава/ць – *аддзяліць, адасобіць адну з'яву ад другой.*
**Отдаленный** – адда/лены – *1) які знаходзіцца на вялікай адлегласці ад чаго-н., далёка; 2) аддзелены вялікім прамежкам часу.*
**Отдел** – аддзе/л (м.р.) – *1) падраздзяленне ў структуры якой-н. установы або прадпрыемства; 2) састаўная частка чаго-н.; 3) адна з частак, на якія падзяляецца што-н.*
**Отделение** – аддзяле/нне (н.р.) – *1) аддзяліцца; 2) тое, што і аддзел (у 1 знач.); 3) самастойная частка канцэрта, тэатральнага паказу; 4) ніжэйшае вайсковае падраздзяленне; 5) асобная, адасобленая частка памяшкання, партфеля і пад.*
**Отдельный** – асо/бны – *1) які вылучаны з шэрагу іншых, існуе асобна, побач з іншымі; 2) які з'яўляецца самастойнай тактычнай адзінкай, што не ўваходзіць у склад буйнога вайсковага падраздзялення.*

**Отдых** – адпачы/нак (м.р.) – *правядзенне некаторага часу без звычайных заняткаў, працы для аднаўлення сіл.*
**Отек** – ацё/к (м.р.) – *пухліна, якая ўзнікае па прычыне лішняй вадкасці ў тканках.*
**Отец** – ба/цька (м.р.) – *мужчына ў адносінах да сваіх дзяцей, тата.*
**Отит** – аты/т (м.р.) – *запаленне вуха.*
**Отклонение** – адхіле/нне (н.р) – *несупадзенне з чым-н., адход ад тыповага.*
**Отличие** – адро/зненне (н.р.) – *непадобнасц, розніца паміж кім-, чым-н.*
**Отложение** – адкла/ды (мн.л.) *1) асадак арганічных і неарганічных рэчываў у выніку іх паступовага намнажэння; 2) намнажэнні якіх-н. рэчываў.*
**Отодвинутый** – адсу/нуты – *перасунуты на нейкую адлегласць што-н. ад каго-, чаго-н.*
**Оториноларингология** – отарыналарынгало/гія (ж.р.) – *раздзел медыцыны, што займаецца захворваннямі вуха, горла, носа і іх лячэннем.*
**Оториноларинголог** – отарыналарынго/лаг (м.р.) – *урач – спецыяліст па отарыналарынгало/гіі.*
**Ошибка** – памы/лка (ж.р.) – *1) няправільнасць у дзеяннях, учынках, выказваннях, думках і г.д.; 2) няправільнае напісанне слова.*
**Ощущение** – адчува/нне (н.р.) – *1) псіхічны працэс успрымання асобных уласцівасцей прадметаў і з'яў аб'ектыўнага свету пры іх непасрэдным уздзеянні на органы пачуццяў; 2) перажыванне, уражанне, прадчуванне; 3) самаадчуванне, стан.*

# -П-

**Падение** – падзе/нне (н.р.) – *1) страта добрага імя жанчынай, страта дзявоцтва; 2) нахіленасць у*

*адносінах да гарызантальнай паверхні (пра зямлю, горныя пароды).*
**Пазуха** – суло/нь (ж.р.), па/зуха (ж.р.) – *паражніна ў асобных органах цела.*
**Палата** – пала/та (ж.р.) – *асобны пакой у лячэбных установах,*
*дзе ляжаць хворыя.*
**Палатка** – пала/тка (ж.р.) – *часовае, звычайна летняе памяшканне з непрамакальнай тканіны або скуры.*
**Палеоантропология** – палеаантрапало/гія (ж.р.) – *раздзел антрапалогіі, які вывучае фізічны тып і эвалюцыю выкапневага чалавека.*
**Палец** – па/лец (м.р.) – *1) адна з пяці канцавых рухавых частак ручыцы або ступні ў чалавека; 2) канечны член на лапах жывёл і птушак; 3) валік або стрыжань у машынах, які служыць звычайна для захвату іншых частак механізма.*
**Паллиатив** – паліяты/ў (м.р.) – *1) лекі або іншы сродак, які дае часовую палёгку хвораму, але не вылечвае хваробу; 2) сродак, які ўяўляе з сябе частковае вырашэнне задачы, які дае часовы выхад з цяжкага становішча.*
**Паллиативный** – паліяты/ўны – *які з'яўляецца паліятывам.*
**Палочка** – па/лачка (ж.р.) – *1) бактэрыя, падобная па форме на прадаўгаватую выску; бацыла; 2) светлачуллівыя каморкі сеткавіцы вока хрыбетнікавых жывёл і чалавека, падобныя па форме на прадаўгаватую рыску.*
**Пальпация** – пальпа/цыя (ж.р.) – *абмацванне якой-н. часткі цела ў час медыцынскага агляду.*
**Память** – па/мяць (ж.р.) – *1) здольнасць захоўваць і аднаўляць у свядомасці ранейшыя ўражанні, а таксама запас гэтых уражанняў; 2) успамін аб кім-, чым-н.; 3) здольнасць успрымаць навакольнае, свядомасць.*
**Панариций** – панары/цый (м.р.) – *гнойнае запаленне тканак пальца.*

**Пандемия** – пандэмі/я (ж.р.) – *павальная эпідэмія, што ахоплівае вялікія рэгёны, цэлыя краіны.*
**Панкреатит** – панкрэаты/т (м.р.) – *вострае або хранічнае запаленне падстраўнікавай залозы.*
**Панкреатический** – панкрэаты/чны (сок) – *стрававальны сок, выпрацоўваемы падстраўнікавай залозай.*
**Персеверация** – персевера/цыя (ж.р.) – *стэрэатыпны паўтор якой-н. псіхічнай выявы, дзеяння, выказвання.*
**Питание** – харчава/нне (н.р.) – *паступленне ў арганізм раслін, жывёл і чалавека і засваенне імі рэчываў, неабходных для папаўнення энергетычных выдаткаў, пабудовы і аднаўлення тканак.*
**Питательная (среда)** – пажы/ўнае (асяроддзе) – *вадкія або цвёрдыя сумесі рэчываў, на якіх выгадоўваюцца мікраарганізмы ў лабараторных або прамысловых умовах.*
**Питьевой** – пі/тны – *прыгодны для піцця, які мае адносіны да піцця.*
**Пиурия** – піўры/я (ж.р.) – *выдзяленне гною з мачой пры запаленчых захворваннях нырак, мачавых шляхоў або чалясніцы.*
**Пища** – е/жа (ж.р.) – *сукупнасць неарганічных і арганічных рэчываў, якія атрымлівае арганізм з навакольнага асяроддзя і выкарыстоўвае іх для сілкавання.*
**Пищеварение** – стравава/нне (н.р.) – *перапрацоўка, пераварванне і засваенне ежы арганізмам.*
**Пищевод** – страваво/д (м.р.) – *частка кішачніка ў выглядзе трубкі, якая злучае паражніну рота са страўнікам.*
**Пиявка** – п’я/ўка (ж.р.) – *чарвяк, паразіт, які жыве ў прэснай вадзе, прысмоктваецца да цела жывёл і сілкуецца іх крывёю. Медыцынскія п’яўкі – для адсмоктвання крыві пры яе прылівах да галавы, кровазліцці.*

**Плазма** – пла/зма (ж.р.) – *1) вадкая частка крыві; 2) іанізаваны газ з роўнай канцэнтрацыяй дадатных і адмоўных зарадаў.*
**Плазмоген** – плазмаге/н (м.р.) – *носьбіт цытаплазматычнай спадчыны.*
**Плазмозаменитель** – плазмазаме/ннік (м.р.) – *раствор, які з'яўляецца замянняльнікам плазмы, нармалізуе гемадынаміку.*
**Плазмолиз** – плазмо/ліз (м.р.) – *аддзяленне пратапласта ад абалонкі ў той час, калі дзейнічаюць на каморку гіпертанічным растворам.*
**Плазмотерапия** – плазматэрапі/я (ж.р.) – *лячэнне хвароб з дапамогай нутравенных увядзенняў прэпаратаў плазмы крыві.*
**Плазмоцитогенез** – плазмацытагене/з (м.р.) – *з'яўленне ў імунаграме значнай колькасці плазматычных каморак.*
**Плазмоцитоз** – плазмацыто/з (м.р.) – *з'яўленне ў імунагенезе значнай колькасці плазматычных каморак.*
**Пластырь** – пла/стыр (м.р.) – *наклееная на тканіну ліпкая лекавая маса, якая прыкладваецца да ран, нарываў і пад.*
**Плева** – бало/на (ж.р.), плява/ (ж.р.) – *тонкая скурка, перапонка ў жывёльным або раслінным свеце.*
**Плевра** – пле/ўра (ж.р.) – *абалонка, якая пакрывае лёгкія і сценкі грудной паражніны ў вышэйшых хрыбетных жывёл і чалавека*
**Плеврит** – плеўры/т (м.р.) – *запаленне плеўры.*
**Плесень** – цвіль (ж.р.) – *плесневы налёт на чым-н., які ўзнікае ад сырасці, гніення і пад.*
**Плессиметр** – плесі/метр (м.р.) – *прыстасаванне для перкусіі ў выглядзе прыкладаемай да скуры даследуемага пласцінкі, па якой робіцца пастукванне.*
**Плетизмограф** – плецізмо/граф (м.р.) – *прыбор для рэгістрацыі змены аб'ёму ўсяго цела чалавека, часткі цела або органа, галоўным чынам тутнавых калыханняў аб'ёму канцавін.*

**Плетора** – плето/ра (ж.р.) – *наяўнасць у судзінным рэчышчы павялічанага аб'ёму крыві.*
**Плечевая кость** – рамё/нак (м.р.) – *доўгая трубчастая косць, шкілетная аснова пляча.*
**Плечевой** – плечавы/ – *які адносіцца да пляча.*
**Плечо** – плячо/ (н.р.) – *праксімальная частка верхняй канцавіны, абмежаваная зверху лініяй, якая злучае ніжнія краі вялікай грудзіннай цяглiцы і самай шырокай цяглiцы спіны, а знізу – лініяй, якая праходзіць на 2 папярочныя пальцы вышэй надузгуза рамёнка.*
**Плешивость** – лы/сасць (ж.р.) – *трывалае або часовае, поўнае ці частковае выпадзенне (або адсутнасць) валасоў.*
**Плешь** – лы/сіна (ж.р.) – *месца на скуры галавы, на якім адсутнічаюць валасы.*
**Плод** – плод (м.р.) – *чалавечы зародак з 9 тыдня ўнутрыўлоннага развіцця да моманту нараджэння.*
**Плодогонный** – пладаго/нны – *які служыць для выгнання плода, зародка.*
**Плодоизгнание** – плодавыгна/нне (н.р.) – *выгнанне плода, знішчэнне плода, зародка.*
**Пломба** – пло/мба (ж.р.) – *пластычны, здольны цвярдзець матэрыял (амальгама, цэмент, пластмаса і інш.), якім запаўняюць паражніну ў зубе для ўзнаўлення яго анатамічнай формы і фізіялагічнай функцыі.*
**Плоскостопие** – плоскаступнё/васць (ж.р.) – *фізічны недахоп нагі – плоская, без выгіну форма ступні.*
**Плоскость** – ро/ўніца (ж.р.), пло/скасць (ж.р.) – *1) у геаметрыі: паверхня, якая мае два вымярэнні; 2) роўная, гладкая паверхня.*
**Плотность** – шчы/льнасць (ж.р.) – *маса цела, заключаная ў адзінцы яго аб'ёму.*
**Плутоний** – плуто/ній (м.р.) – *штучны радыёактыўны хімічны элемент III групы перыядычнай сістэмы, атамны нумар 94, атамная маса 244,0642.*

**Пневмография** – дыхапіса/нне (н.р.), пнеўмаграфі/я (ж.р.) – *запіс дыхальных рухаў грудной клеткі адмысловым прыборам пнеўмографам.*
**Пневмококк** – пнеўмако/к (м.р.) – *бактэрыі крупянога запалення лёгкіх.*
**Пневмокониоз** – пнеўмаканіё/з (м.р.) – *група хранічных прафесійных захворванняў лёгкіх, абумоўленых доўгім удыханнем вытворчага пылу: кварцавага – сілікоз, вугальнага – антракоз, аксіду жалеза – сідэроз.*
**Подагра** – пада/гра (ж.р.) – *хвароба суставаў і тканак, якая выклікаецца парушэннем абмену рэчываў у арганізме.*
**Подбородок** – падгардзё/лак (м.р.), падбаро/дак (м.р.) – *круглявасць, якая закрывае на твары пярэднюю частку ніжняй сківіцы.*
**Подвижный** – руха/вы – *жвавы, хуткі ў рухах; напоўнены рухамі.*
**Поджелудочная железа** – падстра/ўніца (ж.р.), падстра/ўнікавая зало/за (ж.р.) – *залоза, якая выдзяляе стрававальны (падстаўнікавы) сок і гармоны.*
**Подкожный** – падску/рны – *які знаходзіцца пад скурай.*
**Подкорка** – падко/рка (ж.р.) – *скапленне нервовых каморак пад карой паўшар'яў галаўнога мозга.*
**Подкрепление** – падмацава/нне (н.р.) – *тое, што падмацоўвае, надае сілы, бадзёрыць.*
**Подлёгочный** – падлё/гкавы – *які знаходзіцца пад лёгкімі.*
**Подложечковая часть груди** – падузду/хі (мн.л.), падлы/жачкавая ча/стка грудзе/й (мн.л.) – *частка грудзей пад лыжачкай.*
**Подложечный** – падлы/жачны – *які знаходзіцца пад ніжнім канцом грудной клеткі, пад лыжачкай.*
**Подмышечный** – падпа/хавы – *які мае адносіны да пахі.*

**Подмышка** – падпа/ха (ж.р.) – *унутраная частка плечавога згіну.*
**Подногтевой** – падпазно/гцевы – *які знаходзіцца пад пазногцем.*
**Подометрия** – падаметры/я (ж.р.) – *вымярэнне памера ступні; выкарыстоўваецца пры дыягностыцы плоскаступнёвасці.*
**Подошва** – падэ/шва (ж.р.) – *1) ступня; 2) ніжняя частка абутку пад ступнёй; 3) ніжняя частка, аснова чаго-н.*
**Подпочечный** – падны/ркавы – *які знаходзіцца пад ныркай.*
**Подражание** – перайма/нне (н.р.) – *калькаванне чужых рухаў, учынкаў, дзеянняў.*
**Подреберье** – падрабры/нне (н.р.) – *участак цела, які знаходзіцца пад рэбрамі.*
**Подросток** – падле/так (м.р.) – *хлопчык ці дзяўчынка ва ўзросце ад 12 да 16-17 гадоў.*
**Подслизистый** – падслі/зісты – *які знаходзіцца пад слізніцай.*
**Подсознательный** – падсвядо/мы – *які кантралюе ўнутраны духоўны стан чалавека, з'яўляецца галоўнай часткай унутранага стану.*
**Подсолнечник** – слане/чнік (м.р.) – *высокая расліна з буйным жоўтым суквеццем на высокім сцябле, якая вырошчваецца ў асноўным дзеля атрымання алею з насення, а таксама насення гэтай расліны.*
**Подчелюстной** – падскі/вічны – *які знаходзіцца пад сківіцай.*
**Позвонок** – хрыбе/тка (ж.р.), пазвано/к (м.р.) – *асобная косць (або храсток) хрыбетніка.*
**Позвоночник** – хрыбе/тнік (м.р.), пазвано/чнік (м.р.) – *у чалавека і хрыбетных жывёл: спінны хрыбет, які складаецца з шэрагу касцей (або храсткоў), што ідуць уздоўж спіны і ўтрымліваюць у сабе спінны мозг.*
**Показание** – паказа/нне (н.р.) – *велічыня чаго-н., якая паказваецца вымяральным прыборам.*

**Покой** – спако/й (м.р.) – *1) стан цішыні, адсутнасць трывогі, хваляванняў, шуму; 2) ураўнаважанасць, фізічнае і духоўнае заспакаенне.*
**Покров** – по/крыва (н.р.) – *1) верхні пласт, які пакрывае што-н.; 2) тое, што пакрывае, ахутвае сабой што-н.*
**Пол** – плоць (ж.р.), пол (м.р.) – *кожны з двух генетычна і фізіялагічна супрацьпастаўленых разрадаў жывых істот (мужчын і жанчын, самцоў і самак).*
**Полиартрит** – поліартры/т (м.р.) – *адначасовае ці паслядоўнае запаленне некалькіх суставаў.*
**Полидипсия** – хвараві/тая сма/га (ж.р.), полідыпсі/я (ж.р.) – *моцная смага, у выніку якой чалавек выпівае вялікую колькасць вады; з'яўляецца тыповым сімптомам дыябету.*
**Полиестезия** – поліэстэзі/я (ж.р.) – *парушэнне паверхневай чуллівасці, пры якой раздражненне адной кропкі ўспрымаецца як раздражненне шматлікіх кропак.*
**Поликистоз** – полікісто/з (м.р.) – *захворванне, пры якім адбываецца ўтварэнне шматлікіх кіст унутры і звонку арганізма.*
**Поликлиника** – паліклі/ніка (ж.р.) – *лячэбная ўстанова з урачамі розных спецыяльнасцей для хворых, якія лечацца на даму.*
**Полимастия** – полімасты/я (ж.р.) – *наяўнасць дадатковых малочных залоз ці музкоў.*
**Полиморфизм** – шматста/йнасць (ж.р.), полімарфі/зм (м.р.) – *стан, пры якім храмасома ці якая-н. генетычная прыкмета існуе ў арганізме ў некалькіх формах, што прыводзіць да існавання больш за адзін марфалагічны тып.*
**Полиморфный** – шматста/йны, палімо/рфны – *які валодае прыкметамі шматстайнасці.*
**Полиневрит** – полінеўры/т (м.р.) – *захворванне, пры якім пашкоджваюцца перыферычныя нервы.*
**Полиома** – паліё/ма (ж.р.) – *эксперыментальная пухліна, выкліканая вірусам, здольным выклікаць*

*развіццё шматлікіх пухлін разнастайнай гісталагічнай будовы.*

**Полиомиелит** – поліеміелі/т (м.р.) – *вірусная хвароба нервовай сістэмы, якая часта суправаджаецца паралюшам.*

**Полиоэнцефалит** – поліяэнцэфалі/т (м.р.) – *запаленне шэрага рэчыва галаўнога мозгу .*

**Полип** – склі/зень (м.р.), палі/п (м.р.) – *паталагічнае ўтварэнне, якое выступае над паверхняй органа і звязана з ім ніткай або сваёй асновай.*

**Полипептид** – поліпепты/д (м.р.) – *ланцужок амінакіслотных рэшткаў, злучаных пептыднай сувяззю.*

**Полисахарид** – поліцукры/д (м.р.) – *назва вугляродаў, якія змяшчаюць больш за 10 монацукрыдных рэшткаў.*

**Полиурия** – поліўры/я (ж.р.) – *павышанае выдзяленне мачы.*

**Полифагия** – поліфагі/я (ж.р.) – *празмернае спажыванне ежы.*

**Полифекалия** – поліфекалі/я (ж.р.) – *выдзяленне значна павялічанай колькасці лайна.*

**Полихромазия** – поліхрамазі/я (ж.р.) – *здольнасць каморкі афарбоўвацца як асноўнымі, так і кіслымі фарбамі.*

**Полиэмбриония** – поліэмбрыяні/я (ж.р.) – *развіццё некалькіх зародкаў з адной зіготы.*

**Поллакиурия** – палакіўры/я (ж.р.) – *пачашчанае мочаспусканне.*

**Поллиноз** – паліно/з (м.р.) – *захворванне, якое ўзнікае ў асоб са схільнасцю да іншачыннасці.*

**Поллюция** – палю/цыя (ж.р.) – *неадвольнае семявывяржэнне ў мужчын.*

**Полнокровие** – паўнакро/ўе (н.р.) – *павялічаная супраць нормы колькасць крыві.*

**Полноценный** – паўнава/ртасны – *які захоўвае свае каштоўнасці або які валодае патрэбнымі якасцямі.*

**Половой** – пло/цевы, палавы/ – *тэрмін, які адносіцца да плоцевай сістэмы.*
**Положение** – стано/вішча (н.р.) – *стан, у якім знаходзіцца хто-н.*
**Положительный** – стано/ўчы – *які выражае адабрэнне.*
**Полоний** – пало/ній (м.р.) – *хімічны элемент з атамным нумарам 84 у перыядычнай сістэме.*
**Полоса** – паласа/ (ж.р.) – *мяжа чаго-н.*
**Полоскание** – паласка/нне (н.р.) – *1) дзеянне паводле дзеяслова* ***паласкаць****; 2) лекавы раствор, настой або адвар для дэзынфекцыі рота або горла.*
**Полость** – паражні/на (ж.р.), по/ласць (ж.р.) – *у жывёльным арганізме: прастора, парожняя або запоўненая чым-н., абмежаваная ўнутранымі паверхнямі сценак цела.*
**Полость рта** – падзь (ж.р.), по/ласць ро/та (ж.р.) – *адтуліна ў целе жывёлы ці чалавека, праз якую прымаецца ежа, а ў таго, хто дыхае лёгкімі, выдаецца гук.*
**Полость таза** – ло/гвішча (н.р.), по/ласць та/за (ж.р.) – *анатамічная прастора, абмежаваная касцямі таза. Змяшчае рэпрадуктыўныя і інш. органы.*
**Полотенце** – ручні/к (м.р.) – *вузкі прадаўгаваты кавалак кужэльнай ці баваўнянай тканіны, прызначаны для выцірання цела, посуду.*
**Полукоронка** – паўкаро/нка (ж.р.) – *1) апорныя элементы мастападобнага пратэза, якія не пакрываюць вестыбулярныя паверхні апорнага зуба; 2) самастойныя пратэзы з кампамера або керамікі для abліцоўкі пашкоджаных пярэдніх зубоў.*
**Полулунный** – паўме/сяцавы – *паўмесяцавыя засланкі затамкі.*
**Полушарие** – паўша/р'е (н.р.) – *палова шара, а таксама прадмет такой формы.*
**Полый** – паро/жні – *пусты ўнутры.*
**Помеха** – перашко/да (ж.р.) – *1) тое, што затрымлівае якія-н. дзеянні або развіццё чаго-н, стаіць*

*на шляху ажыццяўлення чаго-н.; 2) тое, што перагароджвае шлях, затрымлівае перамяшчэнне.*

**Помощь** – дапамо/га (ж.р.) – *садзейнічанне, падтрымка ў чым-н.*

**Понизить** – зні/зіць, пані/зіць – *зменшыць вышыню чаго-н., апусціць уніз.*

**Понос** – ля/кса (ж.р.), пано/с (м.р.) – *расстройства дзейнасці кішачніка з частымі вадкімі экскрэментамі.*

**Понятие** – азначэ/нне (н.р.), разуме/нне (н.р.) – *1) здольнасць разумець, спасцігаць розумам змест, сэнс, значэнне чаго-н.; 2) пэўны пункт погляду на што-н., пэўнае вытлумачэнне чаго-н.; 3) уяўленне аб чым-н., погляд на што-н.*

**Поперечный** - папяро/чны – *які праходзіць, размяшчаецца ўпоперак чаго-н.*

**Популяция** – папуля/цыя (ж.р.) – *сукупнасць асобін аднаго віду, якая доўга існуе дзе-н.*

**Пора** – кі/пра (ж.р.), по/ра (ж.р.) – *1) вельмі дробная адтуліна потавай залозы на скуры; 2) вельмі дробная шчыліна, прамежак паміж часцінкамі рэчыва.*

**Поражение** – пашко/джанне (н.р.) – *пашкоджанае месца, паломка.*

**Порок** – паро/к (сэрца) (м.р.) – *устойлівыя няправільнасці ў будове сэрца, якія парушаюць яго функцыянаванне.*

**Послед** – пасле/д (м.р.) – *орган, які ўтвараецца ў цяжарнай жанчыны і самкі сысуноў для абмену рэчываў і кармлення зародка ў час выношвання плода і які выходзіць услед за плодам.*

**Последействие** – паслядзе/янне (н.р.) – *з'ява, якая заключаецца ў тым, што ўздзеянне чаго-н. выяўляецца не толькі ў момант прымянення, але і ў наступных стадыях.*

**Последовательный** – паслядо/ўны – *1) які бесперапынна наступае, ідзе адзін за адным; 2) які заканамерна вынікае з чаго-н., лагічна абгрунтаваны.*

**Послезародышевый** – паслязаро/дкавы – *перыяд развіцця плода цяжарнай жанчыны ці самкі сысуной, які ідзе пасля стадыі зародка на мяжы 9-ці тыдняў.*
**Послеоперационный** – пасляаперацы/йны – *які бывае, адбываецца пасля аперацый; прызначаны для хворых пасля аперацыі.*
**Послеродовый** – пасляро/давы – *які бывае, адбываецца пасля родаў.*
**Посмертный** – пасмяро/тны – *які мае адносіны да перыяду пасля смерці каго-н., які ўзнікае пасля смерці каго-н.*
**Постадаптация** – постадапта/цыя (ж.р.) – *перыяд, які бывае, адбываецца пасля адаптацыі чаго-н. (каго-н.) да новых абставін.*
**Постинфарктный** – постінфа/рктны – *які бывае, адбываецца пасля інфарктнага стану.*
**Постоянная** – нязме/нная – *1) такі, які не змяняецца, не можа быць зменены; пастаянны; 2) заўсёды, звычайны для каго-, чаго-н., заўсёды аднолькавы; 3) у граматыцы – часціны мовы, якія не маюць форм скланення і спражэння.*
**Поступление** – паступле/нне (н.р.) – *1) пранікненне чаго-н. у арганізм; 2) уваход куды-н.*
**Постэмбриональный** – постэмбрыяна/льны – *развіццё арганізма пасля нараджэння.*
**Пот** – пот (м.р.) – *вадкасць, вылучаемая скурнымі залозамі.*
**Потенциальный** – магчы/мы, патэнцыя/льны – *1) такі, які можа адбыцца; здзяйсняльны, дапушчальны; 2) выяўляе няўпэўненае пацвярджэнне.*
**Потёртость** – пацё/ртасць (ж.р.) – *раздражнёнае месца на скуры, слізніцы.*
**Потеря** – стра/та (ж.р.) – *тое, што страчана, згублена.*
**Потеть** – патне/ць – *1) пакрывацца потам; 2) пад уздзеяннем вонкавага холаду пакрывацца вільготным налётам.*

**Потливость** – патлі/васць (ж.р.) – *моцна і часта патнеючы.*
**Потница** – патні/ца (ж.р.) – *хвароба скуры, якая праяўляецца ў з'яўленні дробных пухірыкаў пры ўзмоцненым вылучэнні поту.*
**Почка** – ны/рка (ж.р.) – *парны орган мочавыдзяляльнай сістэмы хрыбетных жывёл і чалавека.*
**Поясница** – паясні/ца (ж.р.) – *ніжняя частка спіны да пояса.*
**Поясничный** – паясні/чны – *прыналежны да паясніцы.*
**Правый** – пра/вы – *процілеглы левай.*
**Праксис** – пра/ксіс (м.р.) – *здольнасць да выканання мэтанакіраваных рухальных актаў, якая можа парушацца пры паражэнні галаўнога мозга.*
**Превентивный** – прэвенты/ўны – *які прадухільвае, засцерагае.*
**Превосходить** – перавыша/ць – *перасягаць каго-н. у чым-н.*
**Прегнантность** – прагна/нтнасць (ж.р.) – *праніклівасць, лаканічнасць. У псіхалогіі прагнантнай называюць такую структуру, дзякуючы якой сутнасць пэўнага дадзенага ўвасоблена ў найбольш чыстай і неабходнай форме.*
**Предболезнь** – перадхваро/ба (ж.р.) – *стан арганізма на мяжы здароўя і хваробы, які можа перайсці ў выяўленую форму хваробы ці становіцца нармальнай функцыяй арганізма.*
**Преддверие** – прысе/нак (м.р.) – *паражніна, размешчаная каля ўвахода ў нейкую частку полага органа.*
**Предельный** – ме/жавы – *крайні, які даходзіць да мяжы.*
**Предлежание** – перадляжа/нне (н.р.) – *становішча плода ў родах, класіфікаванае па частцы цела, якое знаходзіцца бліжэй да верхняй апертуры малога лагва і першым апускаецца ў малое лагво.*

**Предоперационный** – перадаперацы/йны – *перыяд знаходжання хворага ў стацыянары ад моманту шпіталізацыі для хірургічнай аперацыі да яе пачатку, які выкарыстоўваецца для дыягнастычных даследаванняў і падрыхтоўкі хворага да аператыўнага ўмешвання.*
**Предплечевой** – ло/квічны, перадплечавы/ – *які знаходзіцца перад локвіцай.*
**Предплечье** – ло/квіца (ж.р.), перадпле/чча (н.р.) – *частка рукі, якая ўтворана жбіцай і прамянёвай косцю.*
**Предплюсна** – перадплю/сна (ж.р.) – *частка цела, якая ўтворана сямю кароткімі губчатымі касцямі, якія ляжаць у два рады.*
**Предпозвоночный** – перадхрыбе/тнічны – *той, які знаходзіцца перад хрыбетніцай.*
**Предрак** – перадкарбу/нка (ж.р.), перадра/к (м.р.) – *агульная назва прыроджаных або набытых дыспластычных змен, на аснове якіх узнікаюць пухліны.*
**Предрасположенность** – схі/льнасць – *наяўнасць індывідуальных прыроджаных або набытых асаблівасцей будовы і функцый арганізма, якія садзейнічаюць захворванню.*
**Предродовый** – перадро/давы – *перыяд перад родамі.*
**Предсердие** – прысэ/рцак (м.р.) – *кожная з дзвюх сэрцавых паражнін, у адну з якіх уліваецца зваротная кроў з усяго цела, а ў другую – з лёгкіх.*
**Предсердечный** – перадсэ/рцавы – *які знаходзіцца спераду ад сэрца.*
**Предсмертный** – перадсмяро/тны – *які бывае перад смерцю, папярэднічае смерці; напісаны, сказаны перад смерцю.*
**Предстарческий** – перадстарэ/чы – *які папярэднічае старасці.*
**Предстательная железа** – чаля/сніца (ж.р.) – *эндакрынная трубчаста-альвэалярная залоза мужчын, якая знаходзіцца ніжэй за мачавік.*

**Предупредить** – папярэ/дзіць – *загадзя паведаміць каму-н. пра што-н.*
**Предупреждение** – папярэ/джванне (н.р.) – *дзеянне паводле значэння дзеяслова **папярэджваць-папярэдзіць.***
**Предынфарктный** – перадынфа/рктны – *які папярэднічае інфаркту міякарда і характарызуецца з'яўленнем ці пачашчэннем прыступаў стэнакардыі.*
**Презерватив** – прэзерваты/ў (м.р.) – *1) засцерагальны сродак ад чаго-н.; 2) прыстасаванне, якое прымяняецца для засцеражэння ад цяжарнасці і венерычных хвароб.*
**Преимущество** – перава/га (ж.р.) – *асаблівасць, якая выгадна адрознівае каго-, што-н. ад каго-, чаго-н.*
**Препарат** – прэпара/т (м.р.) – *1) частка жывёльнага або расліннага арганізма, прыгатаваная для лабараторнага даследавання або дэманстрацыі; 2) хімічны або фармацэўтычны прадукт.*
**Препаратор** – прэпара/тар (м.р.) – *спецыяліст, які вырабляе прэпараты.*
**Преципитация** – прэцыпіта/цыя (ж.р.) – *імуналагічная рэакцыя з раствору нераспушчальнага комплексу антыген-антыцела, утворанага ў выніку злучэння распушчальнага антыгена са спецыфічнымі целамі.*
**Прививка** – прышчэ/пка (ж.р.) – *увядзенне ў арганізм вакцыны для папярэджвання або лячэння якой-н. хваробы; працэс прышчэпкі.*
**Привратник** – прываро/тнік (м.р.) – *выхад са страўніка ў кішачнік.*
**Привыкание** – прызвычае/нне (н.р.) – *стан псіхалагічнай залежнасці ад лекавага рэчыва, які ўзнікае ў выніку яго паўторнасці.*
**Привычка** – звы/чка (ж.р.) – *здольнасць жывых істот захоўваць і аднаўляць раней прыдбаныя змяненні.*
**Пригодность** – прыда/тнасць (ж.р.) – *здатнасць да чаго-н.*

**Придаток** – прыве/сак (м.р.) – *1) дадатак да чаго-н., што не існуе самастойна; 2) дадатковая частка пры чым-н.; 3) назва некаторых утварэнняў у жывым арганізме.*
**Приём** – прыё/м (м.р.) – *1) асобнае дзеянне, рух; 2) спосаб ажыццяўлення чаго-н.*
**Приёмный** – прыё/мны – *1) усынаўлёны або той, хто ўсынавіў каго-н; 2) пакой для наведвальнікаў; які служыць для прыёму.*
**Прижигание** – прыпяка/нне (н.р.) – *разбурэнне тканкі шляхам аказання на яе непасрэдна цеплавога ўплыву.*
**Признак** – прыме/та (ж.р.) – *адметная рыса, па якой пазнаецца прадмет.*
**Прикус** – прыку/с (м.р.) – *становішча зубоў пры сціснутых сківіцах.*
**Примочка** – прымо/чка (ж.р.) – *вадкія лекі, якія змочваюць вату, нітніцу для прыкладання да хворага месца.*
**Приобрести** – набы/ць – *стаць уладальнікам чаго-н.*
**Приобретённый** – набы/ты – *які адносіцца да дзеяслова* ***набыць****.*
**Припадок** – прыпа/дак (м.р.), абмо/р (м.р.) – *раптоўная ці звычайна паўтаральная, вострая праява якой-н. хваробы (страта прытомнасці).*
**Припарка** – прыпа/рка (ж.р.) – *лячэбная працэдура – праграванне хворага месца сыпкім або размякчэлым рэчывам; сам лячэбны сродак.*
**Природно-очаговый** – прыро/дна-ачаго/вы – *месца ўтварэння ачагоў пры інфекцыйных хваробах.*
**Приступ** – пры/ступ (м.р.) – *вострая і раптоўная праява прыкмет хваробы.*
**Присыпка** – прысы/пка (ж.р.) – *лекавы парашок, якім пасыпаюць хворае месца.*
**Причина** – прычы/на (ж.р.) *1) з'ява, якая выклікае, абумоўлівае ўзнікненне другой з'явы; 2) падстава, зачэпка для якіх-н. дзеянняў.*

**Проба** – про/ба (ж.р.) – *1) выпрабаванне, праверка; 2) частка матэрыялу, ежы, узятая для праверкі, вызначэння якасці.*
**Прободение** – праніка/нне (н.р.), прабадзе/нне (н.р.) – *утварэнне навылётнай адтуліны ў сценцы парожняга органа.*
**Прогрессировать** – прагрэсі/раваць – *паступова узмацняцца, павялічвацца.*
**Продольный** – уздо/ўжны – *размешчаны па даўжыні, уздоўж чаго-н.*
**Продромальный** – прадрама/льны – *адносіцца да перыяду, які папярэднічае з'яўленню сімптомаў якога-н. інфекцыйнага захворвання.*
**Продувание** – прадзіма/нне (н.р.) – *прапусканне паветра пад ціскам праз што-н.*
**Прожилка** – про/жылак (м.р.) – *тое самае, што жылка (маленькая крывяносная судзіна).*
**Проказа** – стру/пля (ж.р.), прака/за (ж.р.) – *хранічная і інфекцыйная хвароба, якая ўздзейнічае на скуру, вочы, нервовую сістэму і некаторыя ўнутраныя органы.*
**Проксимальный** – праксіма/льны – *размешчаны каля месца далучэння канцавіны да тулава.*
**Проктит** – практы/т (м.р.) – *запаленне слізніцы кутніцы.*
**Проктология** – практало/гія (ж.р.) – *раздзел медыцыны, які вывучае захворванні кутніцы.*
**Пролактин** – пралакты/н (м.р.) – *гармон пярэдняй долі гіпофіза (па хімічнай будове з'яўляецца пептыдным гармонам).*
**Пролапс** – прала/пс (м.р.) – *выпадзенне напаверх якога-н. унутранага органа.*
**Пролежень** – про/лежань (м.р.) – *амярцвенне скурных тканак цела ў выніку доўгага і нерухомага ляжання.*
**Пролепсис** – прале/псіс (м.р.) – *згадванне будучых падзей або ўласцівасцей як загадзя чакаемых.*
**Пролин** – пралі/н (м.р.) – *гетэрацыклічная кіслата.*

**Пролиферация** – праліфера/цыя (ж.р.) – *разрастанне тканак цела шляхам наватвораў і размнажэння каморак.*
**Промежностный** – праме/жжавы – *які адносіцца да прамежжа.*
**Промежность** – праме/жжа (н.р.) – *частка цела паміж заднепраходнай адтулінай і знешнімі плоцевымі органамі (у чалавека і хрыбетных жывёл).*
**Промежуточный** – прамежкавы – *1) які ўтварае з сябе прамежак, прастору паміж чым-н.; 2) які займае сярэдняе становішча паміж процілеглымі з'явамі.*
**Промиферация** – праміфера/цыя (ж.р.) – *цыталагічнае даследаванне.*
**Промывание** – прамыва/нне (н.р.) – *дзеянне паводле дзеяслова* ***прамываць – прамыць.***
**Промыть** – прамы/ць – *чыста абмыць вадой ці якой-н. вадкасцю.*
**Проникаемость** – праніка/льнасць (ж.р.) – *уласцівасць пранікальнага.*
**Пропедевтика** – прапедэ/ўтыка – *папярэдняе кола ведаў пра што-н.*
Прорезание – прараза/нне (н.р.) – *які адносіцца да дзеяслова* ***прарезаць***.
**Прорезать** – прараза/ць – *зрабіць (чым-н. рэжучым) адтуліну ў чым-н.*
**Просвет** – прасве/т (м.р.) – *адтуліна, шчыліна ў чым-н.*
**Простата** – праста/та (ж.р.) – *экзакрынная трубчата-альвэлевая залоза мужчынскага арганізма, няпарны андрагеназалежны орган, размешчаны ніжэй за мачавік.*
**Простатин** – прастаты/н (м.р.) – *гомеапатычны сродак, які ўжываецца пры захворваннях чаляснiцы.*
**Простатит** – прастаты/т (м.р.) – *запаленне чаляснiцы, звычайна інфекцыйнай прыроды, з пачашчаным хваравітым мачаспускам, затрымкай мачы.*
**Простой** – про/сты – *аднастайны па складзе, нескладаны.*

**Пространство** – прасто/ра (ж.р.) – *1)адна з форм матэрыі, якая характарызуецца працягласцю і аб’ёмам; 2) свабодны прамежак паміж чым-н.*
**Простуда** – празя/ба (ж.р.), прасту/да (ж.р.) – *1) ахаладжэнне, рэзкая змена тэмпературы, якой быў падвергнуты арганізм; 2) хвароба, выкліканая ахаладжэннем арганізма, рэзкай змены тэмпературы.*
**Протез** – пратэ/з (м.р.) – *штучная частка цела, зробленая ўзамен страчанай прыроджанай.*
**Протеин** – пратэі/н (м.р.) – *1) хімічнае рэчыва, адкрытае ў жывёльных целах; 2) просты бялок, які складаецца з амінакіслотных рэшткаў.*
**Протеолитический** – пратэаліты/чны – *які расшчапляе бялкі; адносіцца да працэсу расшчаплення бялкоў.*
**Противогнилостный** – процігні/льны – *служыць для барацьбы з гнільнымі бактэрыямі.*
**Противоположный** – процілеглы – *1) размешчаны насупраць; 2) які супярэчыць чаму-н., карэнным чынам адрозніваецца ад чаго-н.*
**Проток** – прато/ка (ж.р.) – *вузкая злучальная паражніна, канал.*
**Профилактика** – прафіла/ктыка (ж.р.) – *сукупнасць папераджальных мерапрыемстваў ( у медыцыне, тэхніцы і інш. галінах).*
**Профиль** – по/верць (ж.р.), про/філь (м.р.) – *1) выгляд твару або рэчы з бакоў; 2) вертыкальны разрэз, сячэнне якога-н. участка, паверхні, рэчы; 3) сукупнасць асноўных тыповых рыс, якія характарызуюць гаспадарку, прафесію, спецыяльнасць.*
**Профузный** – прафу/зны – *моцны (аб крывацёку).*
**Проходимость** – прахо/днасць – *1) даступнасць чаго-н. для праходу, праезду, пераправы; 2) здольнасць прапускаць што-н. (пра органы чалавека ці жывёлы); 3) здольнасць транспартных сродкаў пераадольваць дарожныя перашкоды.*

**Процедура** – працэду/ра (ж.р.) – *афіцыйны парадак дзеянняў пры ажыццяўленні ці выкананні чаго-н; 2) лячэбнае мерапрыемства, прапісанае ўрачом (ванна, масаж і пад.).*

**Процесс** – працэ/с (м.р.) – *1) паслядоўная змена якіх-н. з'яў, ход развіцця чаго-н.; 2) актыўнае развіццё хваробы; 3) парадак разбору судовых спраў.*

**Прыщ** – бо/лька (ж.р.) – *невялікі запаленчы бугарок на скуры.*

**Прямая кишка** – ку/тніца (ж.р.), прама/я кішка/ (ж.р.) – *апошняя частка кішачнага тракта ў выглядзе кароткай прамой трубкі.*

**Псевдо**- – псе/ўда- – *першая састаўная частка складаных слоў, якая мае значэнне: несапраўдны, надуманы, ілжывы.*

**Психиатр** – псіхія/тр (м.р.) – *урач, спецыяліст па псіхічных захворваннях.*

**Психиатрия** – псіхіятры/я (ж.р.) – *навука аб псіхічных захворваннях і іх лячэнні.*

**Психика** – псі/хіка (ж.р.) – *гэта функцыя мозга, якая заключаецца ў адлюстраванні аб’ектыўнай рэальнасці, вобразах, на аснове якіх рэгулюецца жыццядзейнасць арганізма.*

**Психоанализ** – псіхаана/ліз (м.р.) – *метад вывучэння неўсвядомленых псіхічных працэсаў шляхам аналізу.*

**Психоаналитик** – псіхааналі/тык (м.р.) – *чалавек, які займаецца псіхічна хворымі.*

**Психогигиена** – псіхагігіе/на (ж.р.) – *галіна гігіены і псіхіятрыі, якая вывучае фактары і ўмовы навакольнага асяроддзя, якія ўплываюць на псіхічнае развіццё і псіхічны стан чалавека.*

**Психодиагностика** – псіхадыягно/стыка (ж.р.) – *ацэнка псіхічнага стану хворага з дапамогай эксперыментальна-псіхалагічнага тэста.*

**Психоз** – псіхо/з (м.р.) – *расстройства псіхікі, якое праяўляецца поўнасцю або пераважна неадэкватным адлюстраваннем рэальнага свету з парушэннем паводзін.*

**Психолог** – псіхо/лаг (м.р.) – *гэта чалавек, які атрымаў прафесійную адукацыю, пацверджаную дыпломам. Ён працуе з людзьмі, праблемы якіх носяць часовы характар.*
**Психология** – псіхало/гія (ж.р.) – *1) навука, якая вывучае працэсы і заканамернасці псіхалагічнай дзейнасці; 2) сукупнасць псіхалагічных працэсаў, што абумоўліваюць пэўны род дзейнасці; 3) душэўны склад, псіхіка.*
**Психомоторный** – псіхамато/рны – *які адносіцца да цяглічнай і псіхічнай актыўнасці.*
**Психоневроз** – псіханеўро/з (м.р.) – *зваротнае псіхічнае расстройства з перавагай афектыўнай лабільнасці, страху, трывогі і з’яў назойлівасці.*
**Психоневролог** – псіханеўро/лаг (м.р.) – *урач-спецыяліст па псіханеўралогіі.*
**Психопат** – псіхапа/т (м.р.) – *чалавек з хворай псіхікай.*
**Психопатология** – псіхапатало/гія (ж.р.) – *раздзел медыцыны, які вывучае агульныя заканамернасці праяўлення расстройстваў псіхічнай дзейнасці.*
**Психопатия** – псіхапа/тыя (ж.р.) – *псіхічная ненармальнасць, звычайна спадчыннага паходжання.*
**Психостения** – псіхастэні/я (ж.р.) – *нервовае захворванне, якое праяўляецца ў павышанай уражлівасці, няўпэўненасці ў сабе, пастаянных сумненнях, назойлівых думках і пад.*
**Психотерапия** – псіхатэрапі/я (ж.р.) – *метад лячэння хворага сродкамі псіхічнага ўздзеяння.*
**Псориаз** – псарыя/з (м.р.) – *хранічнае неінфекцыйнае захворванне, дэрматоз, які паражае ў асноўным скуру.*
**Пудендальный** – сарама/тны, пудэнда/льны – *гэта прастора паміж двума ліскамі плённіцы нутраной збіральнай цяглiцы.*
**Пузырь** – (волдырь) пухі/р (м.р.) – *балючае ўздутае месца на скуры.*

**Пульмонолог** – пульмано/лаг (м.р.) – *урач, які дыягнастуе хваробы лёгкіх, дыхнікаў і плеўры.*
**Пульмонология** – пульманало/гія (ж.р.) – *раздзел клінічнай медыцыны, які вывучае хваробы лёгкіх, дыхнікаў і плеўры і які распрацоўвае метады іх дыягностыкі, лячэння і прафілактыкі.*
**Пульпа** – пу/льпа (ж.р.) – *рыхлая злучальная тканка, якая запаўняе паражніну зуба.*
**Пульс** – тутно/ (н.р.), пульс (м.р.) – *хвалепадобны рытмічны рух сценак крывяносных судзін, які выклікаецца выштурхваннем крыві з сэрца.*
**Пульсация** – ту/тнасць (ж.р.), пульса/цыя (ж.р.) – *рытмічнае біенне, наяўнасць тутна.*
**Пункт** – пункт (м.р.) – *тэмпературная мяжа, пры якой рэчыва змяняе свой агрэгатны стан.*
**Пункция** – пу/нкцыя (ж.р.) – *пракол (тканкі, паражніны) з лячэбнымі або дыягнастычнымі мэтамі.*
**Пуповина** – пупаві/на (ж.р.) – *трубкападобны орган, які злучае зародак жывёл або чалавека з целам маці і служыць каналам для жыўлення зародка.*
**Пуп** – пуп (м.р.) – *1) упадзіна з сярэдзіне жывата пасля адпадзення пупавіны; 2) страўнік у птушак.*
**Пупочный** – пу/павы – *які мае адносіны да пупа.*

# - Р –

**Работа** – пра/ца (ж.р.) – *1) чалавечая дзейнасць, накіраваная на стварэнне пры дапамозе прылад вытворчасці матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, неабходных для жыцця людзей; 2) кола заняткаў, абавязкаў; 3) вынік разумовай дзейнасці, твор; 4) тое, што і работа.*
**Работоспособность** – працаздо/льнасць (ж.р.) – *1) фізічная здольнасць да працы, дзейнасці; 2) здольнасць многа і прадуктыўна працаваць.*

**Равновесие** – раўнава/га (ж.р.) – *стан нерухомасці, спакою, у якім знаходзіцца цела.*
**Радиационный** – радыяцы/йны – *які звязаны з радыяцыяй і мае адносіны да яе.*
**Радиация** – радыя/цыя (ж.р.) – *1) выпраменьванне, якое ідзе ад якога-н. цела; 2) праменнепадобнае распаўсюджванне чаго-н. ад цэнтра да акружнасці.*
**Радиевый** – ра/дыевы – *1) суадносны па значэнні з назоўнікам* ***радый****, звязаны з ім; 2) уласцівы радыю, характэрны для яго; 3) у якім ёсць радый.*
**Радикальный** – радыка/льны – *рашучы, карэнны, які прытрымліваецца крайніх поглядаў.*
**Радикулит** – радыкулі/т (м.р.) – *захворванне карэньчыкаў спінназмазгавых нерваў.*
**Радиоактивационный** – радыеактывацы/йны (аналіз) – *метад вызначэння якаснага і колькаснага складу рэчыва, заснаваны на актывацыі атамных ядраў і вымярэнні іх радыёактыўнага выпраменьвання.*
**Радиоактивность** – радыеакты/ўнасць (ж.р.) – *радыёактыўны распад, працэс, шляхам якога нестабільныя ядры некаторых атамаў распадаюцца з выпраменьваннем альфа-, бэта- ці гама-промняў або спантанна дзеляцца.*
**Радиобиолог** – радыебіё/лаг (м.р.) – *чалавек, які звязаны і працуе ў галіне радыёбіялогіі.*
**Радиобиология** – радыебіяло/гія (ж.р.) – *навука аб уздзеянні ўсіх відаў іанізацыйных выпраменьванняў на жывыя арганізмы, іх згуртаванні і біясферу ў цэлым.*
**Радиоизотопная** – радыеізато/пная (дыягностыка)– *раздзел радыялогіі, прадмет вывучэння якога – выкарыстанне радыёактыўных ізатопаў і мечаных імі спалучэнняў для распазнавання захворванняў.*
**Радиолечение** – радыёлячэ/нне (н.р.) – *лячэнне захворванняў з дапамогай радыёактыўнага выпраменьвання.*
**Радиолиз** –радыё/ліз (м.р.) – *раскладанне хімічных спалучэнняў пад уздзеяннем іанізацыйных*

*выпраменьванняў з утварэннем свабодных радыкалаў.*
**Радиолог** – радыё/лаг (м.р.) – *урач, які займаецца дыягностыкай захворванняў метадамі рэнтгенаграфіі.*
**Радиология** –радыяло/гія (ж.р.) – *навука, прадметам вывучэння якой з'яўляецца тэорыя і практыка выкарыстання крыніц іанізуючых выпраменьванняў для дыягностыкі і лячэння захворванняў.*
**Радон** – радо/н (м.р.) – *прыродны радыёактыўны хімічны элемент, газ, прадукт распаду радыю.*
**Радужка** – раё/к (м.р.) – *радужная абалонка вока.*
**Разветвление** – разгалінава/нне (н.р.) – *месца, дзе што-н. разгаліноўваецца ў розныя бакі.*
**Развитие** – развіццё/ (н.р.) – *працэс пераходу з аднаго стану ў другі, болей дасканалы.*
**Разгибатель** – разгіна/льнік (м.р.) – *служыць для разгінання суставаў.*
**Раздвоение** – двая/містасць (ж.р.), раздвае/нне (н.р.) – *які праяўляецца ў двух розных відах, формах.*
**Раздражение** – раздражне/нне (н.р.) – *рэакцыя арганізма або асобнага органа на ўздзеянне раздражняльніка.*
**Раздражимость** – раздражня/льнасць (ж.р.) – *уласцівасць раздражняльнага.*
**Разлитие** – разліццё/ (н.р.) – *выліванне часткова або поўнасцю, выплюхванне.*
**Различие** – адро/зненне (н.р.) – *непадобнасць паміж чымсьці.*
**Размер** – паме/р (м.р.) – *велічыня чагосьці, у якімсьці вымярэнні.*
**Размножение** – размнажэ/нне (н.р.) – *павелічэнне ў колькасці (асобін).*
**Разнородный** – разнаста/йны – *якія адрозніваюцца па сваіх прыкметах і якасцях.*
**Разрез** – разрэ/з (м.р.) – *разрэзанае месца, прарэзаная адтуліна.*

**Разрезать** – разраза/ць – *раздзяляць на часткі чым-н. вострым.*
**Разрыв** – разры/ў (м.р.) – *месца, дзе штосьці разарвана; прамежак, утвораны паміж чымсьці.*
**Разряд (электрический)** – распрыжа/нне (н.р.), разра/д (м.р.) – *страта электрычнасці якім-н. целам.*
**Рак** – рак (м.р.) – *род злаякаснай пухліны.*
**Распад** – распа/д (м.р.) – *дзеянне і стан паводле значэння дзеяслова* ***распадацца.***
**Распознавание** – распазнава/нне (н.р.) – дзеянне паводле дзеяслова ***распазнаваць****.*
**Расположение** – размяшчэ/нне (н.р.) – *1) дзеянне паводле значэння дзеяслова* ***размяшчаць****; 2) парадак, сістэма месцазнаходжання каго-н., чаго-н.*
**Распределение** – размеркава/нне (н.р.) – *1) дзеянне паводле значэння дзеяслова* ***размеркаваць****; 2) працэс размяшчэння, раздзялення гатовага прадукта ў грамадстве, які вызначаецца вытворчымі адносінамі.*
**Распределить** – размеркава/ць – *1) раздзяліць, падзяліць паміж кім-, чым-н., прадставіўшы кожнаму пэўную частку; 2) вызначыць паслядоўнасць, размясціць у якой-н. паслядоўнасці; 3) мяркуючы, падлічыць, вырашыць.*
**Распространение** – распаўсю/джванне (н.р.) – *дзеянне паводле значэння дзеяслова* ***распаўсюджваць.***
**Распространять** – распаўсю/джваць – *1) пашыраць сферу дзейнасці на каго-, што-н; 2) раздаць, прадаць многім.*
**Расстройство** – расстро/йства (н.р.) – *1) захворванне, выклікане парушэннем дзейнасці якіх-н. органаў; 2) дрэнны настрой, страта душэўнай раўнавагі.*
**Раствор** – раство/р (м.р.) – *1) вадкасць, атрыманая распушчэннем якога-н. рэчыва ў вадзе або іншай вадкасці; 2) у будаўнічай справе: вязкая цестападобная сумесь цэменту, пяску і вады.*
**Растворение** – распушча/нне (н.р.) – *працэс, пры якім прымушаюць распукацца ў якой-н. вадкасці.*

**Растворимый** – распушча/льны – *які паддаецца распушчэнню.*
**Растирание** – расціра/нне (н.р.) – *шараваннем зрабіць дробным, ператварыць у парашок.*
**Растормаживание** – разгальмо/ўванне (н.р.) – *часовае знішчэнне тармазнога стану ў некаторых участках ЦНС за кошт распаўсюджвання ўзбуджэння.*
**Растяжение** – расця/г (м.р.) – *падаўжэнне злучальнай тканкі з прычыны моцнага напружання, штуршка.*
**Растяжимость** – расця/гласць (ж.р.) – *уласцівасць расцягвацца.*
**Расход** – выда/так (м.р.) – *затраты на што-н., расходная сума.*
**Расходование** – выдаткава/нне (н.р.) – *працэс затрачвання на што-н.*
**Расходовать** – выдаткава/ць – *затрачваць на што-н.*
**Рахит** – анге/лька (ж.р.), рахі/т (м.р.) – *дзіцячая хвароба – парушэнне развіцця касцей у выніку недахопу ў арганізме неабходных вітамінаў.*
**Рахитизм** – анге/лькасць (ж.р.), рахіты/зм (м.р.) – *сукупнасць прымет рахіту.*
**Рацион** – рацыё/н (м.р.) – *норма харчовага забеспячэння для людзей і корму для жывёл на пэўны тэрмін.*
**Рвота** – ванi/ты (мн.л.), ірво/та (ж.р.) – *адвольнае вывяржэнне змесціва страўніка цераз рот, а таксама тое, што вывергнута такім чынам.*
**Рвотное** – ванi/тнае, ірво/тнае – *лекі, якія выклікаюць ваніты.*
**Реабилитация** – рэабіліта/цыя (ж.р.) – *устраненне вынікаў якой-н. цяжкай хваробы або траўмы.*
**Реабсорбация** – зноўусмо/ктванне (н.р.), рэабсарба/цыя (ж.р.) – *працэс зваротнага ўсмоктвання.*
**Реагировать** – рэагава/ць – *1) паступаць нейкім чынам у адказ на што-н., праяўляючы свае адносіны да чаго-н.; 2) адказваць якімі-н. рухамі, адсветамі на*

*тое ці іншае раздражненне; 3) уступаць у хімічную рэакцыю.*

**Реактивность** – рэакты/ўнасць (ж.р.) – *1) здольнасць выклікаць рэакцыю, быць рэактывам; 2) здольнасць рэагаваць на знешнія раздражненні.*

**Реакция** – рэа/кцыя (ж.р.) – *дзеянне або ўчынак, які з'яўляецца адказам на якое-н. уздзеянне; 2) адказ арганізма на тое ці іншае знешняе раздражненне або ўздзеянне; 3) фізіка-хімічнае ўзаемадзеянне паміж двума або некалькімі рэчывамі.*

**Реаниматолог** – рэаніматo/лаг (м.р.) – *спецыяліст, які займаецца падтрыманнем і ўзнаўленнем жыццёва-важных функцый арганізма пры захворваннях, якія пагражаюць жыццю.*

**Реанимация** – рэаніма/цыя (ж.р.) – *сукупнасць мерапрыемстваў па ажыўленні чалавека, які знаходзіцца ў стане клінічнай смерці, аднаўленне ратпоўна страчаных або парушаных у выніку няшчасных выпадкаў, захворванняў і ўскладненняў функцый жыццёва важных органаў.*

**Ребёнок** – дзіця/ (н.р.) – *1) маленькі хлопчык або дзяўчынка (ад нараджэння да падлеткавага ўзросту); пра наіўнага, нявопытнага чалавека; 2) сын або дачка (незалежна ад узросту); дзіцяня ў жывёл, птушак; 3) пра чалавека, які засвоіў характэрныя рысы свайго асяроддзя, эпохі.*

**Ребро** – рабро/ (н.р.) – *1) дугападобная вузкая косць, якая ідзе ад хрыбетніка да грудной косці; 2) частка каркаса якога-н. збудавання, прадмета, часцей выгнутая; 3) лінія перасячэння дзвюх роўніц.*

**Ревакцинация** – рэвакцына/цыя (ж.р.) – *паўторная вакцынацыя.*

**Реверсия** – рэве/рсія (ж.р.) – *1) з'яўленне ў арганізмаў прыкмет, уласцівых толькі іх далёкім продкам; атавізм.*

**Ревматизм** – рамату/с (м.р.) – *хвароба сэрцава-судзіннай сістэмы, суставаў з вострым болем, ламотай.*

**Ревмотолог** – раўмато/лаг (м.р.) – *урач-спецыяліст па рэўматалогіі.*
**Ревмокардит** – рэўмакарды/т (м.р.) – *запаленчае паражэнне сэрца пры раматусе.*
**Регенерационный** – аднаўле/нчы, рэгенерацы/йны – *які мае адносіны да аднаўлення і які служыць аднаўленню.*
**Регенерация** – аднаўле/нне (н.р.), рэгенера/цыя (ж.р.) – *аднаўленне жывёльнымі і расліннымі арганізмамі страчаных або пашкоджаных органаў тканак і таксама цэлага арганізма з частак.*
**Регистрация** – пазначэ/нне (н.р.), рэгістра/цыя (ж.р.) – *1) запіс у кнігу, у спіс, у рэгістр; 2) юрыдычнае афармленне з мэтай уліку або надання каму-н. законнай сілы.*
**Регуляция** – рэгуля/цыя (ж.р.) – *упарадкаванне, нармалізацыя, рэгуляванне.*
**Редкий** – рэ/дкі – *1) недастаткова густы, вадзяністы; 2) які складаецца з аднародных прадметаў, часцінак, размешчаных не блізка адзін ад другога; 3) не густы (пра туман і пад.), не насычаны, разрэджаны (пра паветра, святло і пад.); 4) які адбываецца праз вялікія прамежкі часу, бывае не часта; 5) які не часта сустракаецца, незвычайны.*
**Режим** – пара/дак (м.р.) – *1) правільна наладжаная сістэма размяшчэння чаго-н., належны стан чаго-н.; 2) устаноўлены лад, план, сістэма кіравання; 3) расклад, распарадак; спосаб; 4) пэўная паслядоўнасць, устаноўлены ход чаго-н., чарговасць; 5) спосаб, метад, правілы ажыццяўлення чаго-н.; 6) разнавіднасць, род, тып чаго-н.; 7) група блізкароднасных сямей у сістэматыцы жывёл і раслін.*
**Резекция** – рэзе/кцыя (ж.р.) – *аперацыя выдалення органа ці часткі органа.*
**Резерв** – захо/ў (м.р.), рэзе/рв (м.р.) – *запас, адкуль чэрпаюцца новыя сілы, рэсурсы.*
**Резина** – гу/ма (ж.р.) – *эластычны матэрыял, які атрымліваецца шляхам вулканізацыі каўчуку.*

**Резиновый** – гу/мавы – *які складаецца з гумы.*
**Резистентность** – адпо/рнасць (ж.р.), рэзістэ/нтнасць (ж.р.) – *устойлівасць арганізма, неўспрымальнасць да якіх-н. фактараў вонкавага ўздзеяння.*
**Резистентный** – адпо/рны, рэзістэ/нтны – *які валодае адпорнасцю.*
**Резонанс** – ро/згалас (м.р.), рэзана/нс (м.р.) – *рэзкае ўзрастанне амплітуды змушаных ваганняў, якое ўтварылася пры набліжэнні частасці вонкавага гарманічнага ўздзеяння да частасці аднаго з уласных ваганняў сістэмы.*
**Резонатор** – рэзана/тар (м.р.) – *вагальная сістэма з рэзка выяўленымі розгаласнымі ўласцівасцямі.*
**Резорбтивный** – рэзарбты/ўны – *які існуе ці змяняецца дзякуючы рэзорбцыі.*
**Резорбция** – рэзо/рбцыя (ж.р.) – *1) фізіялогія: паўторнае паглынанне; 2) паталогія: рассмоктванне некратычных мас, іншародных цел, запаленчага экскудату пры ўдзеле макрафагаў шляхам усмоктвання ў кроў і лімфу.*
**Рентген** – рэнтге/н (м.р.) – *прамяні, прасвечванне рэнтгенаўскімі прамянямі.*
**Рентгеновское излучение** – рэнтге/наўскае выпраме/ньванне (н.р.) – *электрамагнітныя хвалі, энергія фатонаў, якія ляжаць на электрычнай шкале паміж ультрафіялетавым выпраменьваннем, што адпавядае даўжыні хваль ад 10-4 да 10-2 A.*
**Рентгенограмма** – рэнтге/напіс (м.р.), рэнтгенагра/ма (ж.р.) – *адбітак на фотапласцінцы або плёнцы, атрыманы пры дапамозе рэнтгенаўскіх прамянёў.*
**Рентгенодиагностика** – рэнтгенадыягно/стыка (ж.р.) – *распазнанне пашкоджанняў і захворванняў розных органаў і сістэм чалавека з дапамогай рэнтгенаўскага даследавання.*
**Рентгенолог** – рэнтгено/лаг (м.р.) – *урач-спецыяліст па рэнтгеналогіі і рэнтгенатэрапіі.*

**Рентгеноскопический** – рэнтгенаскапі/чны – *які мае адносіны да рэнтгенаскапіі.*
**Рентгеноскопия** – рэнтгенаскапі/я (ж.р.) – *прасвечванне, даследаванне непразрыстых цел пры дапамозе рэнтгенаўскіх прамянёў.*
**Рентгеноспектральный** – рэнтгенаспектра/льны (аналіз) – *інструментальны метад элементнага аналізу, заснаваны на вывучэнні спектра рэнтгенаўскіх промняў, якія прайшлі скрозь выпраменьванне.*
**Рентгенотерапия** – рэнтгенатэрапія (ж.р.) – *1) раздзел прамянёвай тэрапіі, які вывучае ўжыванне рэнтгенаўскіх прамянёў у медыцыне; 2) прымяненне рэнтгенаўскіх прамянёў з мэтай лячэння.*
**Рентгенотехник** – рэнтгенатэ/хнік (м.р.) – *чалавек, які абслугоўвае і сочыць за працай рэнтгена.*
**Реобаза** – рэаба/за (ж.р.) – *мінімальная велічыня напружанасці электрычнага тока, здольная выклікаць узбуджэнне пры ўздзеянні на ўзбуджаную тканку на працягу доўгага часу.*
**Реография** – рэаграфі/я (ж.р.) – *метад даследавання штуршковых ваганняў крованапаўнення судзін розных органаў і тканак, заснаваны на графічнай рэгістрацыі замярэння поўнага электрычнага супраціўлення тканак.*
**Реометр** – супараме/р (м.р.), рэаме/тр (м.р.) – *прыстасаванне для вымярэння аб'ёмнай хуткасці газу, які праходзіць па трубаправоду; прымяняецца ў гігіенічных даследаваннях; уваходзіць у склад некаторых апаратаў і прыстасаванняў медыцынскага прызначэння.*
**Реоэнцефалография** – рэаэнцэфалаграфі/я (ж.р.) – *рэнтгеналагічнае даследаванне мазгоў.*
**Репица** – ма/каўка (ж.р.) – *верхняя частка галавы.*
**Реплантация** – рэпланта/цыя (ж.р.) – *пластычная аперацыя, якая праводзіцца для прыжыўлення аддзеленага пры траўме кавалка тканкі.*

**Репозиция** – рэпазі/цыя (ж.р.) – *упрайка зрушанай канцавіны ці органа пры пераломе, а таксама ўпрайка выкручанай канцавіны на ранейшае месца.*
**Реполяризация** – рэпалярыза/цыя (ж.р.) – *вяртанне рознасці патэнцыялаў на мембране жывой каморкі да ўзроўню, які папярэднічаў яе дэпалярызацыі.*
**Ресница** – ве/йка (н.р.) – *валаскі на краю павек.*
**Респиратор** – рэспіра/тар (м.р.) – *прылада ў выглядзе маскі або паўмаскі з фільтрам для аховы органаў дыхання, вачэй, вушэй ад пылу, газаў і пад.*
**Респирация** – рэспіра/цыя (ж.р.) – *дыханне.*
**Респирометр** – дыхаме/р (м.р.), рэспіро/метр (м.р.) – *прыбор для змярэння інтэнсіўнасці газаабмену ў каморках і тканках пры іх культываванні.*
**Ретикулин** – рэтыкулі/н (м.р.) – *бялок рэтыкулярных валокнаў па складу блізкі да калагену.*
**Ретикулосаркома** – рэтыкуласарко/ма (ж.р.) – *злаякасная пухліна з каморак рэтыкулярнай тканкі.*
**Ретин** – рэці/н (м.р.) – *святлоадчувальная абалонка вока, сятчатка.*
**Ретинит** – рэціні/т (м.р.) – *запаленне сеткавай абалонкі вока.*
**Ретрансплантация** – рэтрансплантa/цыя (ж.р.) – *паўторная трансплантацыя.*
**Рефлекс** – адсве/т (м.р.), рэфле/кс (м.р.) – *міжвольная рэакцыя арганізма ў адказ на тыя ці іншыя знешнія раздражненні.*
**Рефлексометрия** – адсветаметры/я (ж.р.), рэфлексаметры/я (ж.р.) – *гэта метад вызначэння часу рухальнай рэакцыі.*
**Рефлекторный** – адсве/тны, рэфлекто/рны – *той, які несвядома рэагуе на вонкавыя раздражненні.*
**Рефлюкс** – рэфлю/кс (м.р.) – *зваротны бег вадкасці ў параўнанні са звычайным яе рухам.*
**Рецепт** – рэцэ/пт (м.р.) – *1) прадпісанне ўрача пра склад лекаў, іх выраб і спосаб ужывання; 2) спосаб вырабу чаго-н.; 3) парада, рэкамендацыя як трэба паступаць у тым ці іншым выпадку.*

**Рецептивный** – успрыма/льны, рэцэпты/ўны – *які адносіцца да ўспрымання, атрымання чаго-н.: анатамічнае – які мае ўспрымальнікі – органы ўспрымання;*
*псіхалагічнае – арыентаваны на атрыманне выгод з навакольнага асяроддзя.*
**Рецепторы** – успрыма/льнікі (мн.л.), рэцэ/птары (мн.л.) – *адчувальныя органы, якія ўспрымаюць вонкавыя і ўнутраныя раздражненні і пératвараюць іх у нервовыя ўзбуджэнні, якія перадаюцца ў ЦНС.*
**Рецептура** – рэцэпту/ра (ж.р.) – *1) частка фармацыі, якая займаецца правіламі выпісвання рэцэптаў; 2) спосаб вырабу лекавых рэчываў.*
**Рецепция** – успрыма/нне (н.р.), рэцэ/пцыя (ж.р.) – *успрыманне і пераўтварэнне (трансфармацыя) механічных, тэрмічных, электрамагнітных, хімічных і інш. раздражняльнікаў у нервовыя сігналы.*
**Рецидив** – рэцыды/ў (м.р.) – *1) вяртанне хваробы пасля яе ўяўнага спынення; 2) паўторнае праяўленне чаго-н.*
**Реципиент** – рэцыпіе/нт (м.р.) – *1) хворы, якому пераліваюць кроў, перасаджваюць органы; 2) чалавек, які ўспрымае знешняе раздражненне.*
**Речевой** – маўле/нчы – *суадносны па значэнні з назоўнікам* маўленне*, характэрны маўленню, уласцівы яму.*
**Речь** – маўле/нне (н.р.), мо/ва (ж.р.) – *1) здольнасць размаўляць; 2) стыль мовы і яе разнавіднасць; 3) размовы, бяседа.*
**Ржаной** – жы/тні – *1) суадносны па значэнні са словам* жыта, *звязаны з ім; 2) характэрны для жыта; 3) зроблены з жыта; 4) колер, падобны да саломы ці жытняга збожжа, залаціста-жоўты колер.*
**Рибофлавин** – рыбафлаві/н (м.р.) – *водараспушчальны вітамін, які ўваходзіць у склад флавапратэідаў; знаходзіцца ў зернебабовых прадуктах, агародніне, а таксама ў прадуктах жывёльнага паходжання.*

**Ригидность** – рыгі/днасць (ж.р.) – *піхапаталагічнае становішча, калі зніжана рухомасць і прыстасаванасць псіхічных працэсаў да розных умоў асяроддзя.*
**Риккетсиоз** – рыкетсіё/з (м.р.) – *агульная назва вострых інфекцыйных хвароб, якія выклікаюцца рыкетсіямі і якія перадаюцца пераважна трансмісійным, а таксама паветрана-кропельным шляхам.*
**Ринит** – рыні/т (м.р.) – *запаленне слізніцы паражніны носа.*
**Ринология** – рынало/гія (ж.р.) – *агляд паражніны носа.*
**Ринопластика** – рынапла/стыка (ж.р.) – *пластычная аперацыя на носе.*
**Риносклерома** – рынасклеро/ма (ж.р.) – *інфекцыйная хвароба, якая характарызуецца ўтварэннем ў паражніне носа гранул, якія прыводзяць да стэназіравання паражніны носа.*
**Риноскоп** – рынаско/п (м.р.) – *люстра для агляду паражніны носа.*
**Риск** – ры/зыка (ж.р.) – *1) магчымая небяспека, пагроза чаму-н; 2) дзеянне на ўдачу ў якой-н. справе з надзеяй на шчаслівы канец.*
**Ритм** – рытм (м.р.) – *паўнамернае чаргаванне якіх-н. элементаў (гукавых, рухальных і пад.), уласцівых дзеянню, цячэнню, развіццю чаго-н.*
**Роговица** – празаро/ка (ж.р.), рагаві/ца (ж.р.) – *пярэдняя найбольш выпуклая празрыстая частка вочнага яблыка.*
**Родильный** – радзі/льны – *прызначаны для аказання медыцынскай дапамогі пры родах.*
**Родимка** – радзі/мка (ж.р.) – *прыродная плямка на скуры чалавека.*
**Родители** – бацькі/ (мн.л.) – *1) тое ж, што і бацька, маці; 2) той, які дае жыццё камусьці.*
**Родительский** – бацько/ўскі – *які адносіцца да бацькоў.*

**Родить** – нарадзі/ць – *выradзіць на свет немаўля ці дзіцяня.*
**Родничок** – це/мечка (н.р.) – *верхняя частка галавы, а таксама верх чэрапа паміж лобнай, патылічнай і скроневымі касцямі.*
**Родовой** – ро/давы – *1) які мае адносіны да родаў, бывае пры іх; 2) які належыць роду, перадаецца з пакалення ў пакаленне.*
**Родовспомогательный** – рададапамо/жны – *які служыць для аказання медыцынскай дапамогі пры цяжарнасці і родах.*
**Родопсин** – радапсі/н (м.р.) – *святлоадчува/льны пігмент фотарэцэптараў чалавека і вялікай колькасці жывёл.*
**Родственник** – свая/к (м.р.) – *той, хто знаходзіцца ў сваяцтве з кім-н.*
**Роды** – ро/ды (мн.л.) – *фізіялагічны працэс выхаду плода з цела маці.*
**Рожа** – ро/жа (ж.р.) – *інфекцыйная хвароба, якая характарызуецца запаленнем скуры або слізніцы.*
**Рожать** – нараджа/ць – *1) каго (што). Даваць жыццё каму-н., пускаць на свет; 2) што. Даваць пачатак чаму-н., ствараць што-н., быць прычынай з'яўлення чаго-н.*
**Роженица** – парадзі/ха (ж.р.) – *жанчына, якая ражае або толькі што нарадзіла дзіця.*
**Рожистый** – ро/жысты – *які мае адносіны да рожы.*
**Розеола** – разео/ла (ж.р.) – *невялікая ярка-чырвоная пляма на скуры, якая з'яўляецца пры інфекцыйных захворваннях (адзёр, чырвонка, тыф).*
**Ромашка** – рамо/нак (м.р.) – *травяністая расліна сямейства складанакветных з адзіночнымі кветкамі, у якіх пялёсткі звычайна белыя.*
**Рост** – рост (м.р.) – *павелічэнне колькасці; вышыня чалавека або жывёлы.*
**Рот** – рот (м.р.) – *паражніна паміж верхняй і ніжняй сківіцамі і шчакамі да глоткі.*
**Ротовый** – ро/тавы – *які мае адносіны да рота.*

**Рубец** – шнар (м.р.), рубе/ц (м.р.) – *след на скуры ад раны ў выглядзе паласы.*
**Рудиментарный** – рудымента/рны – *які з’яўляецца рудыментам, знаходзіцца ў недаразвітым стане.*
**Рука** – рука/ (ж.р.) – *верхняя канцавіна чалавека ад плечавога сустава да канца пальцаў.*
**Румянец** – ірдзе/нь (м.р.) – *чырвань, чырвонае ззянне, гарэнне.*

# - С-

**Садомазохизм** – садамазахі/зм (м.р.) – *сексуальнае адхіленне, сутнасць якога ў дасягненні плоцевага задавальнення праз душэўныя ці фізічныя пакуты ў адносінах да партнёра ці самога сябе ў працэсе партнёрскіх узаемаадносін.*
**Сало (кожное)** – клуст (м.р.), са/ла (н.р.) – *алеістае рэчыва, якое сакратуецца клуснымі залозамі.*
**Сальмонеллез** – сальманеле/з (м.р.) – *вострая кішачная інфекцыя жывёл і чалавека, выклікаемая сальманэламі.*
**Сальник** – чапе/ц (м.р.), са/льнік (м.р.) – *шырокая і працяглая па даўжыні складка вісцэральнай брухавіны.*
**Самец** – саме/ц (м.р.) – *форма жывога арганізма, якая ўтварае дробныя, рухомыя гаметы – сперматазоіды.*
**Самка** – самі/ца (ж.р.), са/мка (ж.р.) – *форма жывога арганізма, якая валодае жаночымі плоцевымі прыметамі свайго выду і адрозніваецца ад мужчынскай формы плоцевым дымарфізмам.*
**Самоубийство** – самагу/бства (н.р.) – *мэтанакіраванае пазбаўленне сябе жыцця, як правіла, добраахвотнае і самастойнае.*
**Самочувствие** – самаадчува/нне (н.р.) – *сістэма суб’ектыўных адчуванняў, якія сведчаць пра тую ці*

*іншую ступень фізіялагічнай і псіхалагічнай камфортнасці.*

**Санаторий** – санато/рый (м.р.) – *лячэбна-прафілактычная ўстанова для лячэння пераважна прыроднымі і фізіятэрапеўтычнымі сродкамі, дыетай і рэжымам.*

**Санация** – сана/цыя (ж.р.) – *лячэбна-прафілактычныя меры па аздараўленні арганізма.*

**Сангвиник** – запа/льчывы, сангві/нік (м.р.) – *тэмперамент у класіфікацыі Гіпакрата.*

**Санинструктор** – санінстру/ктар (м.р.) – *малодшы медыцынскі работнік у арміі, які мае спецыяльную падрыхтоўку.*

**Санитар** – саніта/р (м.р.) – *малодшы медыцынскі работнік, які выконвае дапаможныя функцыі ў медыцынскай практыцы.*

**Санитария** – санітары/я (ж.р.) – *сістэма мерапрыемстваў, якія забяспечваюць ахову здароўя і прафілактыку розных захворванняў, а таксама комплекс мер па практычным прымяненні распрацаваных гігіенічнай навукай нарматываў, санітарных правіл і рэкамендацый, што забяспечваюць аптымізацыю ўмоў выхавання і навучання, быту, працы, адпачынку і харчавання людзей з мэтай умацавання і захавання іх здароўя.*

**Санитарный пост** – саніта/рны пост (м.р.) – *месца знаходжання і працы санітара, пастаўленага для выканання пэўных функцый.*

**Санчасть** – санчасць (ж.р.) – *санітарная частка ў войску, на заводах.*

**Санэпидстанция** – санэпідста/нцыя (ж.р.) – *установа, якая ажыццяўляе санітарны нагляд і санітарна-супрацьэпідэмічнае абслугоўванне.*

**Сап** – сап (м.р.) – *кантагіёзнае заанознае бактэрыяльнае хранічнае інфекцыйнае захворванне, якое выклікаецца бактэрыяй Burkholderia mallei і праходзіць па тыпу септыкапіеміі з утварэннем спецыфічных гранулём і абсцэсаў і праяўляецца*

*раскелінным рынітам і лімфадэнітам, гнойна-некратычнымі паразамі скуры.*

**Саркома** – сарко/ма (ж.р.) – *група злаякасных пухлін, якія складаюцца з няспелай спалучальнай тканкі; мае ружавата-белы колер, які нагадвае рыбіна мяса.группа злокачественных опухолей, состоящих из незрелой соединительной ткани; имеет на разрезе розовато-белый цвет, напоминающая рыбье мясо.*

**Сахар** – цу/кар (м.р.) – *бытавая назва цукрозы.*

**Сахароза** – цукро/за (ж.р.) – *ці бураковы цукар, цукровы трыснёг, у быце проста цукар – дыцукрыд, які складаецца з двух монацукрыдаў — а-глюкозы і β-фруктозы.*

**Сверление** – свідрава/нне (н.р.) – *від механічнай апрацоўкі матэрыялаў рэзаннем, пры якім з дапамогай спецыяльнага рэжучага інструмента, які круціцца, атрымліваюць адтуліны рознага дыяметра і глыбіні, ці шматгранныя адтуліны рознага сячэння і глыбіні.*

**Свет** – святло/ (н.р.) – *электрамагнітнае выпраменьванне, выпускаемае нагрэтым рэчывам ці ў стане ўзбуджэння, успрымаемае чалавечым вокам.*

**Светобоязнь** – бо/язь святла/ – *хваравітая адчувальнасць вока да святла, пры якім яго трапленне выклікае ў чалавека непрыемныя адчуванні ў вачах і прымушае моцна жмурыць вочы.*

**Свёртываться** – згуса/цца – *загусцяваць, утвараць камячкі.*

**Свинка** – заву/шніца (ж.р.) – *вострае дабраякаснае інфекцыйнае захворванне с нягнойным паражэннем залозістых органаў і ЦНС, выклікаиае параміксавірусам.*

**Свищ** – свішч (м.р.) – *паталагічны канал, які яднае кропку хваробы з паверхняй цела і органы паміж сабой. Можа ўзнікнуць у выніку запалення.*

**Свищевой** – свi/шчавы – *які з'явiўся на месцы свішча.*

**Свод** – звод (м.р.) – *верхняя ўнутраная частка чаго-н., якая нагадвае перакрыццё.*

**Своевре/менный** – своечасо/вы – *здзейснены ў патрэбны момант часу (своечасовая дапамога).*
**Свойство** – уласці/васць (ж.р.) – *якасць чагосьці, асаблівасць рэчы.*
**Связка** – вяз (м.р.), звя/зка (ж.р.) – *тканкавае ўтварэнне, звязвае асобныя часткі шкілета чалавека, асобныя органы.*
**Связывание** – звя/званне (н.р.) – *аб'яднанне з чым-н.*
**Связь** – су/вязь (ж.р.) – *адносіны ўзаемнай залежнасці паміж кім-, чым-н.*
**Сгибатель** – згіна/льнік (м.р.) – *утварэнне, якое згінае што-н. (згінальнік нагі).*
**Сгусток** – згу/стак (м.р.) – *камяк вадкасці, які згус.*
**Сдавление** – сціска/нне (н.р.), зду/шванне (н.р.) – *пашкоджанне органаў ці тканак, выклікане ціскам звонку або з боку суседніх органаў ці тканак.*
**Сдвиг** – зрух (м.р.) – *змяшчэнне ўбок або нейкі прагрэс ці вынік дзеяння.*
**Себорея** – себарэ/я (ж.р.) – *паталагічнае змяненне скуры. абумоўленае парушэннем функцыі сальных залоз.*
**Сегмент** – сегме/нт (м.р.) – *1) частка круга, абмежаваная дугой і яе хордай, а таксама частка шара, аддзеленая сякучай паражнінай; 2) адзін з аднародных участкаў, з якіх складаецца цела некаторых жывёл; 3) адзін з некалькіх аднародных участкаў, з якіх складаюцца некаторыя органы, часткі цела і падобнае.*
**Сегментарный** – сегмента/рны – *які складаецца з сегментаў.*
**Седалищная кость** – сяда/льніца (ж.р.) – *адна з касцей лагва, якая зрастаецца разам з іншымі касцямі лагва ў вобласці вяртлужнай яміны.*
**Седалищный** – сяда/льны – *які адносіцца або знаходзіцца каля сядальніцы.*
**Седативный** – седаты/ўны – *які аказвае заспакаяльнае дзеянне.*

**Седой** – сі/вы – *шэры, колер валасоў у старых людзей.*
**Сейсмокардиограмма** – сейсмакардыягра/ма (ж.р.) – *вынік сейсмакардыяграфіі.*
**Секвестр** – секве/стр (м.р.) – *1) забарона ці абмежаванне, якое накладаецца дзяржавай на карыстанне якой-н маёмасцю; 2) участак амярцвелай тканкі, які аддзяліўся ад здаровай.*
**Секрет** – вытво/р (м.р.), сакрэ/т (м.р.) – *спецыфічны прадукт жыццядзейнасці залозы, які выконвае ў арганізме пэўную функцыю.*
**Секретин** – сакра/цін (м.р.) – *гармон, які выпрацоўвае слізніца парожняй кішкі і які стымулюе знешнесакраторную дзейнасць падстраўніцы.*
**Секреторный** – вытвара/льны, сакрато/рны – *каморкі, якія выпрацоўваюць вытвор.*
**Секреция** – вытварэ/нне, сакрэ/цыя (ж.р.) – *працэс выпрацоўкі залознай каморкай вытвору і выдзяленне яго на паверхню эпітэлія або ва ўнутранае асяроддзе.*
**Секс** – секс (м.р.) – *сукупнасць псіхічных рэакцый, перажыванняў і ўчынкаў, звязаных з праяўленнем і задавальненнем плоцевых пачуццяў.*
**Сексолог** – сексо/лаг (м.р.) – *спецыяліст у галіне сексалогіі.*
**Сексология** – сексало/гія (ж.р.) – *навука, якая вывучае плоцевае жыццё ў яго фізіялагічным, псіхічным і сацыяльным праяўленнях.*
**Сексопатолог** – сексапато/лаг (м.р.) – *спецыяліст у галіне сексапаталогіі.*
**Сексопатология** – сексапатало/гія (ж.р.) – *раздзел медыцыны, які займаецца вывучэннем і лячэннем захворванняў, звязаных з парушэннем плоцевага жыцця і паводзін.*
**Сексуальность** – сексуа/льнасць (ж.р.) – *сукупнасць псіхічных рэакцый, перажыванняў і ўчынкаў, звязаных з праяўленнем плоцевых пачуццяў.*
**Сексуальный** – сексуа/льны – *звязаны з плоцевымі адносінамі; плоцевы.*

**Секция** – се/кцыя (ж.р.) – *анатаміраванне, рассячэнне.*
**Селезёнка** – селязё/нка (ж.р.) – *крывятворны орган хрыбетнікавых жывёл і чалавека, які таксама выконвае ахоўныя функцыі і ўдзельнічае ў абмене рэчываў.*
**Селективный** – селекты/ўны – *здольны рабіць адбор; выбіральны; заснаваны на здольнасці рабіць адбор.*
**Семейный** – сяме/йны – *які мае сям'ю, не адзінокі; які мае адносіны да сям'і; які грунтуецца на сямейнасці.*
**Семенная железа** – ядро/ (н.р.), семянна/я залоза (ж.р.) – *залоза, якая ўтварае семя.*
**Семиотика** – семіё/тыка (ж.р.) – *вучэнне аб прыкметах хваробы.*
**Семяизвержение** – семявывяржэ/нне (н.р.) – *выхад, зліццё семені, спермы.*
**Сепсис** – се/псіс (м.р.) – *цяжкі з медыцынскага пункту гледжання стан, выклікаемы пападаннем у кроў і тканкі ўзбуджальнікаў інфекцыі чалавека і жывёл, напрыклад, гноеродных мікраарганізмаў і прадуктаў іх жыццядзейнасці – таксінаў.*
**Септический** – септы/чны – *які мае адносіны да сепсісу, звязаны з захворваннем на сепсіс.*
**Сера (ушная)** – се/ра (ж.р.) – *жоўтае тлустае рэчыва, якое ўтвараецца на сценках вушнога канала.*
**Сердечно-сосудистый** – сэ/рцава-су/дзінны, сардэ/чна-сасу/дзісты – *які мае адносіны да сэрца і крываносных судзін.*
**Сердечный** – сардэ/чны – *1) які мае адносіны да сэрца. Звязаны з хваробай сэрца; 2) які мае адносіны да сэрца, звязаны з пачуццямі, настроем, перажываннямі чалавека; 3) спагадлівы, чулы чалавек.*
**Сердце** – сэ/рца (н.р.) – *цэнтральны орган кровазвароту, які мае выгляд цяглічнага мяшка; 2) гэты орган як сімвал перажыванняў, настрояў, пачуццяў.*
**Сердцебиение** – сэрцабіццё/ (н.р.) – *пачашчанае біццё сэрца.*

**Серология** – серало/гія (ж.р.) – *вучэнне аб ўласцівасцях сыроваткі крыві жывёл і людзей.*
**Серотерапия** – сератэрапі/я (ж.р.) – *метад лячэння, заснаваны на ўвядзенні хвораму прэпаратаў, якія змяшчаюць антыцелы да ўзбуджальніка хваробы ці яго таксінаў.*
**Серотонин** –сератані/н (м.р.) – *біялагічна актыўнае рэчыва з групы біягенных амінаў; утрымліваецца ва ўсіх тканках, пераважна страваваальнага тракту і цэнтральнай нервовай сістэмы, а таксама ў трамбацытах; адыгрывае ролю медыятара ў некаторых сінапсах і ў развіцці некаторых іншачынных рэакцый.*
**Серум** – се/рум (м.р.) – *сыроватка крыві, атрыманая ад чалавека ці жывёлы, імунізаванага якім-н. антыгенам, і якая ўтрымлівае антыцелы да гэтага антыгена; ужываецца ў якасці лячэбнага ці дыягнастычнага сродка.*
**Сетчатка** – сеткаві/ца (ж.р.) – *унутраная абалонка вочнага яблыка, якая змяшчае фотасэнсорныя каморкі і з'яўляецца перыферычнай часткай зрокавага раскладальніка.*
**Сеть** – се/тка (ж.р.) – *тканіна, сплеценая са шнуркоў ці ніцей, якая мае розныя па велічыні, але добра бачныя прасветы.*
**Сжимаемость** – сціска/льнасць (ж.р.) – *гэта здольнасць якога-н. рэчыва змяншаць аб'ём пад уплывам ціску.*
**Сигнал** – сігна/л (м.р.) – *стан ці працэс фізічнай ці хімічнай прыроды, які нясе паведамленне.*
**Сигнализация** – сігналіза/цыя (ж.р.) – *1) прылада для падачы сігналаў; 2) сістэма сігналаў, якая ўжываецца дзе-н.*
– сігна/льны – *1) сістэма ўмоўна-адсветных сувязяў, якія фарміруюцца ў жывёл і чалавека пры ўздзеянні пэўных раздражняльнікаў; 2) уласцівая чалавеку сістэма ўмоўна-адсветных сувязяў, якія фарміруюцца пры ўдзеле маўленчых сігналаў.*

**Сигнатура** – сігнату/ра (ж.р.) – *частка рэцэпта з указаннем способу ўжывання лекаў, а таксама копія рэцэпта, прыкладаемая аптэкай да выробленых лекаў.*
**Силикон** – сіліко/н (м.р.) – *кіслародазмяшчальнае высокамалекулярнае крэмнійарганічнае спалучэнне.*
**Симпатическая** – сімпацы/йная (нервовая сістэма) – *аддзел нервовай сістэмы, які ўдзельнічае ў рэгуляванні кровазвароту, абмену рэчываў і іншых функцыях арганізма.*
**Симптом** – сімпто/м (м.р.) – *прымета паталагічнага стану ці хваробы.*
**Симптоматика** – сімптама/тыка (ж.р.) – *сукупнасць прымет вызначанай хваробы ці групы хвароб.*
**Симптоматология** – сімптаматало/гія (ж.р.) – *вучэнне аб прыметах (сімптомах) хвароб і паталагічнага стану.*
**Симптоматический** – сімптаматы/чны – *такі, які выклікае сімптом.*
**Симуляция** – сімуля/цыя (ж.р.) – *імітацыя чалавекам сімптомаў хваробы, якой у яго няма.*
**Симфиз** – сі/мфіз (м.р.) – *злучэнне касцей пры дапамозе храстка, у якім ёсць шчылінападобная паражніна.*
**Синапс** – лучно/ (н.р.), сі/напс (м.р.) – *спецыялізаваная структура, якая забяспечвае перадачу нервовага штуршка з нервовага валакна на якую-н. каморку ці цяглічнае валакно, а таксама з рэцэптарнай каморкі на нервовае валакно.*
**Синдактилия** – сіндактылі/я (ж.р.) – *анамалія развіцця: поўнае ці частковае зрашчэнне суседніх пальцаў ручыцы ці ступні.*
**Синдесмология** – сіндэсмало/гія (ж.р.) – *раздзел анатоміі, які вывучае злучэнні касцей.*
**Синдром** – сіндро/м (м.р.) – *комплекс сімптомаў, характэрных для якога-н. захворвання.*
**Синергист** – спрыя/льнік (м.р.), сінергі/ст (м.р.) – *той, хто спрыяе чаму-н.*

**Синергия** – спрыя/нне (н.р.), сінергі/я (ж.р.) – *сумеснае дзеянне якіх-н. органаў ці сістэм.*
**Синовиальный** – сінавія/льны – *які мае адносіны да сіновіі.*
**Синовия** – сіно/вія (ж.р.) – *вязкая празрыстая вадкасць, якая выдзяляецца абалонкай суставаў і служыць іх змазкай.*
**Синтез** – сукла/д (м.р.), сі/нтэз (м.р.) – *атрыманне складаных рэчываў з больш простых.*
**Синус** – сі/нус (м.р.) – *паражніна, сулонь у якім-н. органе цела.*
**Синусит** – сінусі/т (м.р.) – *запаленне слізніцы адной ці некалькіх каляносавых сулоней.*
**Синхронизация** – уваднача/сненне (н.р.), сінхраніза/цыя (ж.р.) – *адбыццё якой-н. з'явы ў адзін час.*
**Синюха** – сіню/ха (ж.р.) – *шматгадовая травяністая расліна сямейства сінюхавых.*
**Синюшность** – сіню/шнасць (ж.р.) – *сіняватая афарбоўка скуры пры некаторых захворваннях.*
**Система** – сістэ/ма (ж.р.) – *1) пэўны парадак у правільным размяшчэнні і сувязі частак чаго-н., у дзеяннях; 2) форма арганізацыі чаго-н.; 3) спалучэнне заканамерна звязаных паміж сабой элементаў (прадметаў, з'яў, ведаў і пад.), якія складаюць нешта цэласнае, адзінае; 4) сукупнасць арганізацый, блізкіх па сваіх задачах, або ўстаноў, арганізацый, аб'яднаных у адзінае цэлае; 5) устройства, канструкцыя; 6) тое, што стала звычайным, рэгулярным заняткам.*
**Сифилис** – пра/нцы (мн.л.), сі/філіс (м.р.) – *заразная венерычная хвароба.*
**Сифилитик** – пране/ц (м.р.), сіфілі/тык (м.р.) – *чалавек, хворы на пранцы.*
**Скальпель** – ска/льпаль (м.р.) – *суцэльнаметалічны хірургічны нож.*

**Скальпирование** – скальпава/нне (н.р.) – *адкрытае механічнае пашкоджанне, якое суправаджаецца адрывам значнай часткі скуры.*
**Сканер** – ска/нер (м.р.) – *прыбор для атрымання графічнага малюнка размеркавання радыеактыўнага ізатопа, уведзенага ў арганізм чалавека з дыягнастычнай, лячэбнай або даследчай мэтай.*
**Сканирование** – скані/раванне (н.р.) – *кіраванае прасторавае перамяшчэнне пучка выпраменьвання з мэтай паслядоўнага даследавання розных участкаў нейкага аб'екта.*
**Сканограмма** – сканагра/ма (ж.р.) – *малюнак размеркавання ў органе, частцы органа або ва ўсім целе ўведзенага ў арганізм радыефармацэптычнага прэпарата, які атрымліваецца пры радыеізатопным сканіраванні.*
**Скарлатина** – шкарляты/на (ж.р.) – *вострая інфекцыйная хвароба, якая перадаецца паветрана-кропельным шляхам.*
**Скат** – схіл (м.р.) – *долька чарвяка мозачка, якая пераходзіць у простую дольку паўшар'я мозга.*
**Скелет** – шкіле/т (м.р.) – *сістэма шчыльных, касцявых утварэнняў, якія складаюць остаў чалавека і жывёлы і выконваюць функцыі апоры і аховы ўнутраных органаў ад механічных пашкоджванняў.*
**Склера** – цвердаві/ца (ж.р.), скле/ра (ж.р.) – *непразрыстая частка фібрознай абалонкі вочнага яблыка.*
**Склерит** – склеры/т (м.р.) – *запаленне цвердавіцы.*
**Склеродермия** – склерадэрмі/я (ж.р.) – *паражэнне скуры, якое характарызуецца яе дыфузным ці арганічным ушчыльненнем, наступным развіццём фіброзы і атрафіяй паражонага ўчастка.*
**Склероз** – склеро/з (м.р.) – *хвароба: зацвярдзенне сценак сасудаў і інш., якое выклікае старэнне і адміранне каморак і заменай іх злучальнай тканкай.*
**Склеротомия** – склератамі/я (ж.р.) – *хірургічная аперацыя: рассячэнне склеры.*

**Сколиоз** – скаліё/з (м.р.) – *дугападобнае скрыўленне хрыбетніка ў франтальнай роўніцы.*
**Скула** – ску/ла (ж.р.) – *выпуклая косць чэрапа ніжэй вачэй, над верхняй часткай сківіцы.*
**Скуловой –** ску/лавы – *які мае адносіны да скулы.*
**Слабительное** – слабі/цельнае (н.р.) – *лекавы сродак, які ўзмацняе перастальтыку кішачніка і паскарае яго апаражненне.*
**Слабокислый** – слабакі/слы – *рэчыва з невялікай колькасцю кіслаты.*
**Слаборадиоактивный** – слабарадыёакты/ўны – *рэчыва з невялікай радыёактыўнасцю.*
**Слабость** – сла/басць (ж.р.) – *недахоп фізічнай сілы, стан фізічна слабага чалавека.*
**Следование** – прытры/мліванне (н.р.) – *1) прытрымлівацца асобнага напрамку; 2) прытрымлівацца новай моды; 3) прытрымлівацца правіл.*
**Слеза** – сляза/ (ж.р.) – *саленаватая вадкасць, якая абвалоквае вочны яблык і перасцерагае яго ад высыхання.*
**Слёзоотделение** – слёзавыдзяле/нне (н.р.) – *выдзяленне саленаватай вадкасці, слёз.*
**Слепнуть** – сле/пнуць – *1) страчваць зрок; 2) станавіцца сляпым; 3) бачыць дрэнна.*
**Слепоглухонемой** – слепаглуханямы/ - *чалавек, які страціў зрок, слых і здольнасць размаўляць.*
**Слепой** – сляпы/ - *1) пазбаўлены зроку, магчымасці бачыць; 2) няясны, дрэнна бачны; 3) зробленае слепа, без ўроку, без бачных арыенціраў.*
**Слепорождённый** – слепанаро/джаны – *сляпы ад нараджэння.*
**Слепота** – слепата/ (ж.р.) – *1) адсутнасць зроку; 2) немагчымасць разумець, разбірацца ў чым-н., правільна разважаць над чым-н.*
**Слизистая оболочка** – слі/зніца (ж.р.), слі/зістая абало/нка (ж.р.) – *пакрыты слізззю тонкі пласт*

*злучальнай тканкі, які пакрывае ўнутраныя часткі некаторых органаў чалавека, хрыбетных жывёл.*
**Слизистый** – слі/зісты – *пакрыты сліззю, які выдзяляе або змяшчае слізь.*
**Слизь** – слізь (ж.р.) – *1) грузкая маса, выдзяляемая некаторымі каморкамі жывых арганізмаў, слізістымі залозамі; 2) скользкі налёт на чым-н.*
**Слияние** – зліццё/ (н.р.) – *аб'яднанне ў адно цэлае.*
**Сложный** – склада/ны – *1) складзены з некалькіх частак, разнастайны па зместу частак і сувязей паміж імі; 2) цяжкі, запутаны.*
**Слой** – пласт (м.р.) – *1) плоская маса рэчыва, якая ляжыць паміж або паверх іншых падобных; 2) тая ці іншая група людзей, насельніцтва, агульнасці.*
**Слоновость** – слано/васць (ж.р.) – *хваравітае патаўшчэнне скуры і надскурнай абалонкі, выклікане эндапаразітамі роду філярый.*
**Слух** – слых (м.р.) – *адно з пяці знешніх пачуццяў, якое дае магчымасць успрымаць гукі; 2) здольнасць правільна ўспрымаць і аднаўляць музычныя гукі; 3) вестка, гаворка пра каго-н., звычайна нічым не падмацаваная.*
**Слышать** – чуць – *1) (каго-што.) Успрымаць што-н. на слых, пры дапамозе органаў слыху; 2) мець слых; 3)( што, аб кім-чым, пра каго-што і з дадан. сказам.) Атрымаць якія-н. звесткі; 4) (каго-то і з дадан. сказам.) Успрымаць, пазнаваць шляхам адчування; адчуваць; 5) (са словам "сябе"). Мець пэўныя (фізічныя, псіхічныя) адчуванні; адчуваць.*
**Слюна** – слі/на (ж.р.) – *цягучая вадкасць, якая выдзяляецца ў паражніне рота чалавека і жывёлы і садзейнічае змочванню і пераварванню ежы.*
**Слюнный** – слі/нны – *гл. сліна.*
**Слюноотделение** – слінавыдзяле/нне (н.р.) – *выдзяленне сліны слінными залозамі.*
**Слюнотечение** – слінацё/к (м.р.) – *узмоцненае выдзяленне сліны.*

**Смерть** – смерць (ж.р.) – *1) спыненне жыццяздольнасці, гібель арганізма;2) спыненне біялагічнага абмену рэчываў у арганізме або ў яго частцы; 3) спыненне існавання чалавека ці жывёлы.*
**Смета** – каштары/с (м.р.) – *разлік прыбыткаў і выдаткаў.*
**Смешанный** – зме/шаны – *уяўляе сабой сумесь чагосьці, складае ў сабе элементы чагосьці рознага.*
**Смещение** – со/ступ (м.р.), зрушэ/нне (н.р.) – *змена прасторавага становішча, месца знаходжання каго-, чаго-н. у прасторы, змена паставы цела або яго часткі.*
**Сновидение** – сне/нне (н.р.) – *фізіялагічны стан спакою арганізма, пры якім поўнасцю або часткова спыняецца праца свядомасці і аслабляюцца некаторыя фізіялагічныя працэсы.*
**Снижение** – зніжэ/нне (н.р.) – *спусціцца ніжэй, заняць нізкае становішча.*
**Снотворное** – насо/ннае (н.р.) – *1) якое выклікае сон, хіліць на сон;2) лекі, якія выклікаюць сон.*
**Собирательный** – збіра/льны – *1) які служыць для збірання чаго-н.; 2) які аб'ядноўвае ў сабе характэрныя прыкметы, некалькі аднародных з'яў, прадметаў, асоб і пад.; абагульнены.*
**Собственный** – ула/сны – *які належыць каму-, чаму-н. як уласнасць; 2) свой асабісты; 3) літаральна сапраўдны; 4) уласцівы толькі каму-, чаму-н., без дамешак, дабавак.*
**Совместимость** – сумяшча/льнасць (ж.р.) – *уласцівасць сумяшчальнага; здольнасць сумяшчацца.* Сумяшча/льнасць кры/ві – *уласцівасць чалавечага арганізма прымаць і засвойваць пры пераліванні кроў пэўнай біялагічнай групы.*
**Совпадать** – супа/сці – *1) адбыцца адначасова з чым-н.; 2) аказацца агульным, аднолькавым; выявіць падабенства, адпаведнасць.*

**Содержание** – змест (м.р.) – *1) тое, пра што расказваецца, што выкладаецца, адлюстроўваецца дзе-н.; тэма; 2) сэнс, сутнасць чаго-н.*
**Содержимое** – зме/сціва (н.р.) – *тое, што змяшчаецца, знаходзіцца дзе-н.*
**Соединительный** – злуча/льны – *1) які служыць для злучэння чаго-н.; прызначаны для злучэння; 2) які служыць для злучэння частак складанага слова.*
**Сознание** – свядо/масць (ж.р.), прыто/мнасць (ж.р.) – *1) працэс адлюстравання рэчаіснасці мозгам чалавека, што ўключае ўсе формы псіхічнай дзейнасці чалавека; 2) успрыманне і разуменне навакольнага, уласціваe чалавеку; 3) здольнасць правільна разумець і ацэньваць з'явы жыцця, вызначаць свае адносіны да рэчаіснасці.*
**Созревание** – саспява/нне (н.р.) – *дзеянне паводле значэння дзеяслова* ***саспяваць – саспець.***
**Сок** – сок (м.р.) – *1) вадкасць, якая знаходзіцца ў каморках, тканках і паражнінах раслінных і жывёльных арганізмаў; 2) вільгаць і рэчывы, якія знаходзяцца ў глебе і ўсмоктваюцца раслінамі; 3) пра лепшых прадстаўнікоў грамадства.*
**Сомнамбул** – самна/мбул (м.р.) – *парушэнне стану ў форме блукання ў сне.*
**Сон** – сон (м.р.) – *фізіялагічны стан спакою арганізма, пры якім поўнасцю або часткова спыняецца праца свядомасці і аслабляюцца некаторыя фізіялагічныя працэсы.*
**Сонливость** – аспа/ласць (ж.р.), санлі/васць (ж.р.) – *неабходнасць у сне, звязаная са зніжэннем актыўнасці і затарможанасцю цячэння псіхічных працэсаў.*
**Сопля** – сапе/ль (ж.р.) – *слізь, якая выцякае з носа.*
**Сопор** – со/пар (м.р.) – *глыбокі стан аглушэння, пры якім няма адказу на словы.*
**Соринка** – парушы/нка (ж.р.) – *маленькая часцінка смецця.*

**Сосание** – смакта/нне (н.р.) – *дзеянне паводле дзеяслова* ***смактаць****: рухамі вуснаў і языка ўцягваць у рот вадкасць праз вузкую адтуліну.*
**Сосательный** – смакта/льны – *які мае адносіны да смактання.*
**Сосать** – смакта/ць – *1) рухамі вуснаў і языка ўцягваць у рот вадкасць праз вузкую адтуліну; 2) уцягваць, усмоктваць у сябе якую-н. вадкасць пры дапамозе спецыяльных органаў.*
**Соска** – смо/чак (м.р.), со/ска (ж.р.) – *парожні гумавы наканечнік у выглядзе музка, праз які дзіця ссе з бутэлькі малако.*
**Соскоб** – саскрэ/б (м.р.) – *тое, што саскрэбена з чаго-н.; месца, з якога што-н. саскрэбена.*
**Сосок** – музо/к (м.р.), сасо/к (м.р.) – *знешняя частка малочнай залозы сысуноў і чалавека ў выглядзе шышачкі, з якой дзіцяня ссе малако.*
**Состав** – склад (м.р.), зме/сціва (н.р.) – *сукупнасць частак, якія ўтвараюць адзінае цэлае; структура.*
**Состояние** – стан (м.р.) – *становішча, у якім хто-н. знаходзіцца.*
**Сострадание** – спага/да (ж.р.) – *1) спачуванне каму-н. у сувязі з чым-н., добразычлівыя адносіны да каго-н.; 2) літасць да каго-н. з чыйго-н. боку.*
**Сосуд** – су/дзіна (ж.р.), сасу/д (м.р.) – *трубчасты орган ( у целе чалавека, жывёлы, у раслінных арганізмах), па якім цячэ вадкае рэчыва.*
**Сосудистый** – су/дзінны, сасу/дзісты – *які складаецца з судзін, мае адносіны да іх.*
**Спазм** – спа/зма (ж.р.) – *сутарга, сутаргавае скарачэнне цягліц.*
**Спайка** – спа/йка (ж.р.) – *месца спайвання, злучэння частак чаго-н.*
**Спасать** – ратава/ць – *(каго-што.) Даваць ратунак, дапамогу ў цяжкім выпадку; пазбаўляць ад небяспекі.*
**Сперма** – спе/рма (ж.р.) – *рэчыва, якое выпрацоўваюць мужчынскія плоцевыя залозы і якое ўтрымлівае плоцевыя каморкі.*

**Сперматозоид** – сперматазо/ід (м.р.) – *мужчынская плоцевая каморка чалавека, жывёл і некаторых раслін.*
**Спермин** – спермі/н (м.р.) – *выцяжка з семявых залоз жывёл, якая ўжываецца як лекавы сродак.*
**Специальный** – адмысло/вы – *своеасаблівы, адметны, непаўторны; спецыяльны, асобага прызначэння.*
**Специфический** – спецыфі/чны – *характэрны толькі для каго-, чаго-н., уласцівы толькі каму-, чаму-н., своеасаблівы.*
**Спина** – спі/на (ж.р.) – *верхняя частка тулава ад шыі да крыжа.*
**Спинной** – спі/нны – *які мае адносіны да спіны, які знаходзіцца на спіне, у вобласці спіны.*
**Спирография** – спіраграфі/я (ж.р.) – *запіс работы лёгкіх пры дапамозе спецыяльнага прыбора.*
**Спирометрия** – спіраметры/я (ж.р.) – *вымярэнне жыццёвай ёмістасці лёгкіх з дапамогай спірометра.*
**Спирометр** – спіро/метр (м.р.) – *прыбор для вымярэння ёмістасці лёгкіх шляхам вызначэння аб'ёму паветра, якое выштурхоўваецца пры выдыху.*
**Спирт** – спірт (м.р.) – *гаручая, з высокім працэнтам алкаголю вадкасць, якая атрымліваецца перагонкай некаторых прадуктаў, што змяшчаюць у сабе крухмал і цукар, або вырабляецца з вуглявадародаў (газ, нафта).*
**Сплошной** – суцэ/льны – *які цягнецца без прамежкаў, перапынкаў; цалкам займае сабой якую-н. прастору.*
**Спондилёз** – спандылё/з (м.р.) – *хвароба косцева-цяглічнай сістэмы і злучальнай тканкі.*
**Спондилит** – спандылі/т (м.р.) – *хвароба, звязаная са зменай структуры хрыбетак.*
**Спондилоартроз** – спандылаартро/з (м.р.) – *працэс абвапнавання храсткоў, вязаў і касцей хрыбетніка.*
**Спонтанный** – самачы/нны – *які ўзнік праз унутраныя прычыны без прамога вонкавага ўплыву.*

**Спринцевание** – спрынцо/ўка (ж.р.) – *гл. спрынцаваць.*
**Спринцевать** – спрынцава/ць – *прамываць струменьчыкамі вады або лякарства з асобага прыстасавання.*
**Спора** – спо/ра (ж.р.) – *аднаклеткавыя зародкі ці мікраскапічныя зачаткі некаторых раслін або прасцейшых арганізмаў.*
**Способ** – спо/саб (м.р.) – *прыём, дзеянне, метад ужывання пры якой-н. працы.*
**Способность** – здо/льнасць (ж.р.) – *1) талент; 2) уменне, а таксама магчымасць выконваць якія-н. дзеянні.*
**Сравнительный** – параўна/льны – *заснаваны на параўнанні, які служыць для параўнання.*
**Срастание** – зраста/нне (н.р.) – *працэс злучэння для ўтварэння адзінага цэлага ў час росту.*
**Сращение** – зрашчэ/нне (н.р.) – *1) ад дзеяслова* ***зрасціся****; 2) месца, на якім адбылося злучэнне, зрастанне чаго-н.*
**Среда** – асяро/ддзе (н.р.) – *1) сукупнасць прыродных або сацыяльных умоў, у якіх існуюць якія-н. арганізмы, жывуць і дзейнічаюць людзі; 2) група людзей, звязаных агульнасцю ўмоў існавання, заняткаў і пад.*
**Средний** – сярэ/дні – *1) які знаходзіцца ў сярэдзіне, паміж якімі-н. крайнімі пунктамі, велічынямі і пад.; 2) які ўяўляе з сябе велічыню, атрыманую дзяленнем сумы некалькіх велічынь на іх колькасць; 3) пасрэдны: ні добры, ні благі; 4) не вышэй за звычайны ўзровень, норму.*
**Средний палец** – сярэ/днік (м.р.) – *палец на руцэ паміж паказнікам і пярсцёнкам.*
**Средостение** – міжсце/нне (н.р.) – *месца ў сярэдняй частцы грудзіны, дзе знаходзіцца сэрца, дыхха, страўнік.*
**Средство** – сро/дак (м.р.) – *1) прыём, спосаб дзеяння для дасягнення, ажыццяўлення чаго-н.; 2) прадмет, сукупнасць прыстасаванняў, неабходных для*

*ажыццяўлення якой-н. мэты; 3) тое, што служыць якой-н. мэце, неабходнай для дасягнення чаго-н.; 4) лекі, медыцынскія прэпараты, неабходныя пры лячэнні; 5) грошы, матэрыяльныя каштоўнасці.*
**Срочно** – тэрміно/ва – *1) неадкладнае, хуткае выкананне, вырашэнне; 2) абмежаваны пэўным тэрмінам, разлічаны на пэўны тэрмін.*
**Срыв** – зрыў (м.р.) – *1) дзеянне паводле значэння дзеяслова **зрываць**; 2) няўдача ў чым-н., правал у якой-н. справе.*
**Ссадина** – сіня/к (м.р.) – *1) пасінелае месца на целе, твары як след ад удару; 2) меданосная ядавітая расліна сямейства бурачніковых.*
**Стабильный** – усто/йлівы – *1) здольны цвёрда стаяць, трымацца, не хістаючыся, не падаючы; 2) які не паддаецца зменам, хістанням; пастаянны; 3) які не паддаецца пабочнаму ўплыву, змяненню, стойкі.*
**Стадия** – ста/дыя (ж.р.) – *перыяд, этап у развіцці чаго-н., які мае свае якасныя асаблівасці.*
**Станция** – ста/нцыя (ж.р.) – *1) месца прыпынку цягнікоў і іншых транспартных сродкаў, якія курсіруюць па пэўнаму маршруту; будынак на прыпынках, спецыяльна абсталяваны для пасажыраў; адлегласць паміж двума такімі прыпынкамі; 2) спецыяльная ўстанова, якая абслугоўвае ў якіх-н. адносінах насельніцтва, арганізацыі раёна, тэрыторыі; 3) серыя гідралагічных, метэаралагічных і пад. назіранняў, атрыманых на моры, на пэўнай тэрыторыі зямной паверхні.*
**Старение** – старэ/нне (н.р.) – *стан паводле дзеяслова* старэць – *станавіцца старым або больш старым.*
**Старость** – ста/расць (ж.р.) – *перыяд жыцця пасля сталасці, калі паступова адбываецца аслабленне дзейнасці арганізма.*
**Статический** – статы/чны – *які мае адносіны да статыкі; звязаны са станам раўнавагі, нерухомасці.*
**Статья** – арты/кул (м.р.) – *1) навуковы або публіцыстычны твор невялікага памеру ў зборніку,*

*часопісе або газеце; 2) асобы раздзел, параграф у розных юрыдычных дакументах; 3) раздзел фінансавага плана, каштарыс, які вызначае крыніцу даходаў або мэту расходаў; 4) раздзел чаго-н.; 5) тып вырабу, умоўнае абазначэнне тавару.*

**Стафилодермия** – стафіладэрмі/я (ж.р.) – *піядэрмія, выкліканая стафілакокамі, знаходзіцца ў валасяных цыбулінах і залозах.*

**Стафилококк** – стафілако/к (м.р.) – *род хваробных бактэрый, якія пры размнажэнні ўтвараюць аб'яднанні шарападобных кісцей, накшталт вінаградных гронак.*

**Стационар** – стацыяна/р (м.р.) – *1) установа пастаяннага тыпу; бальніца; дзённае аддзяленне ў ВНУ; 2) нерухомы фундамент якой-н. машыны, збудавання.*

**Ствол** – галаме/нь (м.р.), ствол (м.р.) – *назва некаторых органаў або тканкавых утварэнняў у арганізме, якія маюць выгляд трубы.*

**Стекло** – шкло (н.р.) – *1) празрысты цвёрды матэрыял, які атрымліваецца шляхам плаўлення і спецыяльнай хімічнай апрацоўкі кварцавага пяску з дабаўленнем некаторых іншых рэчываў; 2) тонкі ліст ці выраб, прадмет іншай формы з гэтага матэрыялу.*

**Стекловидный** – шклопадо/бны – *падобны да шкла, які нагадвае шкло.*

**Стенка** – сце/нка (ж.р.) – *1) сцяна; 2) бок якога-н. пустога прадмета; 3) шчыльны, самкнуты рад байцоў у кулачнай бойцы; 4) прадмет мэблі.*

**Стеноз** – стэно/з (м.р.) – *звужэнне якога-н. трубчастага органа або адтуліны ў паражнінным органе, якое перашкаджае іх фунцыянаванню.*

**Стенокардия** – стэнакарды/я (ж.р.) – *прыступ рэзкага болю ў паражніне сэрца з прычыны спазмы судзін сэрца.*

**Стереорентгенография** – стэрэарэнтгенаграфі/я (ж.р.) – *метад рэнтгенаграфіі, які забяспечвае атрыманне аб'ёмнай рэнтгенаўскай выявы.*

**Стереотаксический** – стэрэатаксі/чны (метад) – *метад увядзення мікраінструментаў у строга зададзенай структуры мозга.*
**Степень** – ступе/нь (ж.р.) – *1) гарызантальны выступ лесвіцы, на які наступаюць пры пад'ёме або спуску; 2) вучонае званне; 3) этап у развіцці, здзяйсненне чаго-н.*
**Стерилизация** – стэрыяліза/цыя (ж.р.) – *поўнае ачышчэнне якога-н. рэчыва шляхам уздзеяння на іх фізічнымі або хімічнымі фактарамі.*
**Стерильный** – стэры/льны – *ачышчаны ад мікраарганізмаў, абеззаражаны.*
**Стетоскоп** – стэтаско/п (м.р.) – *медыцынскі інструмент у выглядзе трубкі для выслухвання сэрца і лёгкіх.*
**Стимул** – заахво/чванне (н.р.), сты/мул (м.р.) – *тое, што заахвочвае каго-н. да чаго-н.; пахвала, узнагарода.*
**Стойкий** – трыва/лы – *1) моцны, які з цяжкасцю паддаецца разбурэнню, псаванню; 2) які не мяняецца, надзейны, устойлівы; 3) здольны многае вынесці, перажыць; 4) сытны, пажыўны (пра ежу).*
**Стойкость** – трыва/ласць (ж.р.) – *1) уласцівасць трывалага; 2) устойлівы, надзейны.*
**Столб** – слуп (м.р.) – *1) бервяно або тоўсты брус, умацаваны вертыкальна, стаўма; 2) маса чаго-н., што рухаецца, ляціць, падымаецца ўверх; пра тое, што мае вертыкальна-падоўжаную форму.*
**Столбняк** – слупня/к (м.р.) – *вострая інфекцыйная хвароба, якая прыводзіць да сутаргі цягліц.*
**Стоматит** – стаматы/т (м.р.) – *запаленне слізніцы паражніны рота.*
**Стоматолог** – стамато/лаг (м.р.) – *урач-спецыяліст па стаматалогіі.*
**Стон** – енк (м.р.), стогн (м.р.) – *працяглыя жаласлівыя гукі, выкліканыя болем ці вялікім горам.*
**Стопа** – ступня/ (ж.р.) – *ніжняя частка нагі, якая мае форму плоскага скляпення.*
**Сторона** – бок (м.р.) – *прастор або мясцовасць, размешчаныя ў якім-н. напрамку ад чаго-н.*

**Стошнить** – зну/дзіць – *аб ірвоце ў каго-н. пасля млоснасці.*
**Стояние** – стая/нне (н.р.) – *знаходжанне на месцы ў стаячым становішчы.*
**Страбизм** – касаво/касць (ж.р.), страбі/зм (м.р.) – *неаднолькавы напрамак зрэнак.*
**Страдать** – паку/таваць – *адчуваць цяжкія, непрыемныя адчуванні ад болю (фізічнага ці душэўнага).*
**Страх** – страх (м.р.) – *адмоўныя эмоцыі ў сітуацыі рэальнай ці ўяўнай небяспекі, якая пагражае жыццю арганізма, асобы, каштоўнасцям.*
**Стремечко** – страмяно/ (н.р.) – *костачка, якая прымыкае да авальнай атворыны сярэдняга вуха.*
**Стрептококк** – стрэптако/к (м.р.) – *род бактэрый шарападобнай формы, якія ўтвараюць характэрныя ланцужкі.*
**Стресс** – стрэс (м.р.) – *стан крайняй напружанасці арганізма, які ўзнікае як ахоўная рэакцыя ў адказ на ўздзеянне неспрыяльных фактараў.*
**Стриктура** – стрыкту/ра (ж.р.) – *звужэнне якога-н. трубчатага органа або адтуліны поласцевага органа ў выніку запалення.*
**Строение** – будо/ва (ж.р.) – *узаемнае размяшчэнне частак у складзе чаго-н.; структура.*
**Стронций** – стро/нцый (м.р.) – *хімічны элемент, лёгкі серабрыста-белы метал, радыеактыўныя ізатопы якога выкарыстоўваюцца ў тэхніцы і лабараторных работах.*
**Структура** – структу/ра (ж.р.) – *будова, склад, арганізацыя чаго-н.*
**Струп** – струп (м.р.) – *корка, якая зацягвае паверхню або краі раны; ранкі пры іх загойванні.*
**Студенистое вещество** – дрыгні/стае рэ/чыва (н.р.) – *тое, з чаго складаецца фізічнае цела, якое мае жэлепадобны стан.*

**Стул (жидкий)** – прысе/дак (м.р.), стул (ва/дкі) (м.р.) – *частая дэфекацыя, пры якой кал мае вадкую кансістэнцыю.*
**Ступор** – сту/пар (м.р.) – *стан прыгнечанасці пры некаторых псіхозах, які выяўляецца ў маўклівасці і поўнай нерухомасці хворага.*
**Субтильный** – субты/льны – *кволы, слабы (пра склад цела); далікатны, тонкі.*
**Суггестия** – сугесты/я (ж.р.) – *уздзеянне на волю чалавека з мэтай унушыць яму якія-н. думкі, перакананні, пачуцці.*
**Судебно-медицинский** – судо/ва-медыцы/нскі – *які мае адносіны да судовай медыцыны.*
**Судебно-психиатрический** – судо/ва-псіхіятры/чны – *які мае адносіны да судовай псіхіятрыі.*
**Судебный** – судо/вы – *які мае адносіны да суда, судаводства.*
**Судорога** – су/тарага (ж.р.) – *рэзкае неадвольнае скарачэнне цяглiц (ад болю, холаду, пры некаторых захворваннях або душэўных пакутах).*
**Судорожный** – су/таргавы – *1) які выклікаецца сутаргай, з'яўляецца ёю; 2) які суправаджаецца сутаргамі, неадвольны, моцны.*
**Сужение** – звужэ/нне (н.р.) – *звужэнне, вузкае месца.*
**Суицид** – самазабо/йства (н.р.), суіцы/д (м.р.) – *наўмыснае пазбаўленне сябе жыцця; самагубства.*
**Сукровица** – мусы/ка (ж.р.), су/кравіца (ж.р.) – *жаўтаватая вадкасць з дамешкам крыві, якая выдзяляецца з пашкоджаных тканак.*
**Сулема** – сулема/ (ж.р.) – *ядавіты белы парашок хлорыстай ртуці, ужываецца як сродак для дэзынфекцыі.*
**Сумасшедший** – вар'ят (м.р.) – *1) псіхічна хворы чалавек; 2) пра таго, хто дзейнічае безразважна; шалёны.*
**Сумасшествие** – вар'яцтва (н.р.) – *1) страта розуму, стан псіхічнага расстройства; 2) безразважнасць, неразумны ўчынак.*

**Супинатор** – супіна/тар (м.р.) – *тоўстая вусцілка з патаўшчэннем пад сярэдняй часткай ступні, якая ўжываецца пры плоскаступнёвасці.*
**Супраспинальный** – надхрыбе/тны, супраспіна/льны – *нешта, што знаходзіцца над хрыбетніцай.*
**Сурдологический** – сурдалагі/чны – *які мае адносіны да сурдалогіі.*
**Суспензорий** – суспензо/рый (м.р.) – *павязка ў выглядзе мяшэчка для падтрымкі машні.*
**Сустав** – суста/ў (м.р.) – *рухомае злучэнне касцей або храсткоў у арганізме чалавека, жывёлы.*
**Сутулый** – нахі/лы – *згорблены з прыўзнятымі плячамі і крыху выгнутай спінай.*
**Сухожилие** – шчапа/ (ж.р.), сухажы/лле (н.р.) – *уключае пучкі калагенавых валокнаў часткі папярэчна-паласатай цягліцы, пры дапамозе якой яна мацуецца да касцей або іншых анатамічных утварэнняў.*
**Сухожильный** – шча/павы, сухажы/льны – *нешта, што ўключае пучкі калагенавых валокнаў часткі папярэчнапаласатай цягліцы і прымацоўваецца да касцей або іншых анатамічных утварэнняў.*
**Сфигмограмма** – сфігмагра/ма (ж.р.) – *крывая, якая з'яўляецца графічным адбіткам біцця тутна.*
**Сфигмограф** – сфігмо/граф (м.р.) – *прыбор для графічнай рэгістрацыі біцця тутна.*
**Сфигмография** – сфігмаграфі/я (ж.р.) – *графічны запіс біцця тутна з дапамогай сфігмографа.*
**Сыворотка** – сыро/ватка (ж.р.) – *вадкасць, якая атрымліваецца пры адтопліванні, адстойванні кіслага малака.*
**Сыпной тиф** – сыпна/я гару/чка (ж.р.), сыпны/ тыф (м.р.) – *заразная хвароба, суправаджаецца з'яўленнем на целе хворага сыпу, плям.*
**Сыпь** – сып (м.р.) – *дробныя плямкі ці прышчыкі, якія з'яўляюцца на целе пры некаторых хваробах.*

# -Т-

**Табак** – ты/тунь (м.р.) – *1) травяністая расліна сямейства паслёнавых, лісце якой багата нікацінам; 2) высушанае і дробна парэзанае або расцёртае лісце гэтай расліны, ужыв. для курэння, нюхання.*
**Табес** – та/бес (м.р.) – *хранічнае захворванне нервовай сістэмы, позняя праява пранцаў.*
**Таблетка** – табле/тка (ж.р.) – *маленькі круглы прадмет з прасаванага лекавага парашку.*
**Таз** – лагво/ (н.р.), таз (м.р.) – *частка шкілета, касцявы пояс з ніжняй часткі тулава чалавека.*
**Тазобедренный** – лагвосцегнавы/, тазасцегнавы/ – *які злучае сцягно з лагвовою косцю.*
**Тазовая кость** – клуб (м.р.), та/завая косць (ж.р.) – *косць, утвораная зрашчэннем трох касцей.*
**Тазовый** – лагво/вы, та/завы – *які мае адносіны да паражніны лагва.*
**Таксис** – скірава/насць (ж.р.), та/ксіс (м.р.) – *накіраванасць на што-н., засяроджанасць на чым-н.*
**Таксон** – таксо/н (м.р.) – *група аб'ектаў, звязаных агульнасцю якасцей і прыкмет.*
**Тактильный** – до/тыкавы, такты/льны – *скурная чуллівасць, звязаная з механічнымі раздражняльнікамі.*
**Таламический** – таламі/чны – *які адносіцца да таламуса.*
**Таламус** – зро/чны груд (м.р.) – *вобласць галаўнога мозга, якая адказвае за пераразмеркаванне інфармацыі ад органаў пачуццяў, за выключэннем нюху, да кары галаўнога мозга.*
**Тампон** – тампо/н (м.р.) – *кавалак стэрыльнай нітніцы або ваты, які ўводзіцца ў рану або паражніну для спынення крывацёку або для выдалення гною.*
**Тарелка** – тале/рка (ж.р.) – *сталовы посуд круглай формы з шырокім дном і прыўзнятымі краямі.*

**Тахикардия** – тахікарды/я (ж.р.) – *паскораны рытм сэрцавых скарачэнняў, абумоўлены рознымі фізіялагічнымі ўплывамі.*
**Телегаммааппарат** – тэлегамаапара/т (м.р.) – *апарат для прамянёвай тэрапіі або ўздзеяння іанізіруючым апраменьваннем.*
**Телегамматерапия** – тэлегаматэрапі/я (ж.р.) – *від прамянёвай тэрапіі, заснаваны на выкарыстанні гама-апраменьвання.*
**Телеметрия** – тэлеметры/я (ж.р.) – *вымярэнні на адлегласці фізічных велічынь, якія характарызуюць стан падкантрольных аб'ектаў.*
**Тело** – це/ла (н.р.) – *арганізм чалавека або жывёлы ў яго знешніх, фізічных формах і праяўленнях; матэрыял, рэчыва, што так ці інакш абмежавана ў прасторы.*
**Телосложение** – склад це/ла (м.р.) – *сукупнасць частак цела чалавека, якія ўтвараюць адзінае цэлае, постаць, фізічны выгляд, будова (чалавека).*
**Тельце** – це/лка (н.р.) – *групы канцэнтрычна наслоеных каморак.*
**Теменной** – цемянны/ – *які мае адносіны да цемя.*
**Темперамент** – тэмпера/мент (м.р.) – *1) харктарыстыка індывіда з боку дынамічных асаблівасцей яго псіхічнай дзейнасці (тэмпу, рытму, інтэнсіўнасці псіхічных працэсаў), якія ўтвараюць пэўны псіхалагічны тып; 2) жыццёвая энергія, здольнасць да ўнутранага ўздыму.*
**Температура** – тэмперату/ра (ж.р.) – *1) ступень нагрэтасці якога-н. цела, рэчыва; цеплавая характарыстыка; 2) ступень цеплыні чалавечага цела як паказчык стану здароўя.*
**Теплопродукция** – цеплапраду/кцыя (ж.р.) – *утварэнне цяпла ў працэсе жыццядзейнасці арганізма.*
**Терапевт** – тэрапе/ўт (м.р.) – *урач, спецыяліст па ўнутраных хваробах.*
**Терапия** – тэрапі/я (ж.р.) – *1) раздзел медыцыны, які вывучае метады распазнавання і лячэння ўнутраных*

*хвароб; 2) лячэнне ўнутраных хвароб лекамі, сыроваткамі, электрычнасцю і іншымі нехірургічнымі метадамі.*
**Тератолог** – тэрато/лаг (м.р.) – *спецыяліст, які вывучае анамаліі, заганы развіцця чалавека, жывёл, раслін.*
**Тератома** – тэрато/ма (ж.р.) – *дабраякасная пухліна, якая з'яўляецца вынікам парушэння эмбрыянальнага развіцця.*
**Терминальное состояние** – канчатко/вы стан (м.р.), тэрміна/льны стан (м.р.) – *фізіялагічны стан органа ці арганізма, пры якім рэгенерацыя немагчыма.*
**Терминальный** – канчатко/вы, тэрміна/льны – *1) які больш не будзе пераглядацца, змяняцца; 2) даведзены да канца, поўны.*
**Терминология** – тэрмінало/гія (ж.р.) – *1) сукупнасць тэрмінаў у якой-н. галіне навукі, мастацтва, грамадскага жыцця; 2) раздзел лексікалогіі, які займаецца вывучэннем тэрмінаў.*
**Термобарокамера** – тэрмабарака/мера (ж.р.) – *медыцынская ўстаноўка, якая выкарыстоўваецца для лячэння атмасферным ціскам.*
**Тест** – тэст (м.р.) – *1) стандартнае заданне, якое прымяняецца ў псіхалогіі і педагогіцы для вызначэння разумовых здольнасцей, схільнасцей, валявых якасцей чалавека і іншых бакоў яго асобы; 2) пробныя ўздзеянні на арганізм з мэтай вывучэння розных фізіялагічных працэсаў у ім, а таксама для вызначэння функцыянальнага стану асобных органаў, тканак і арганізма ў цэлым.*
**Тестостерон** – тэстастэро/н (м.р.) – *асноўны мужчынскі плоцевы гармон, андраген.*
**Тетания** – тэтані/я (ж.р.) – *захворванне, якое характарызуецца павышанай узбуджальнасцю, сутаргавымі прыпадкамі і расстройствамі нервовай сістэмы, звязанымі з нізкім утрыманнем кальцыю ў крыві.*

**Техника** – тэ/хніка (ж.р.) – *сукупнасць сродкаў чалавечай дзейнасці, якія ствараюцца для ажыццяўлення працэсаў вытворчасці і абслугоўвання невытворчых неабходнасцей грамадства.*
**Тик** – цік (м.р.) – *хуткія нерытмічныя стэрэатыпныя паторгванні цягліц, якія паўтараюцца і нагадваюць рэфлекторныя або мэтанакіраваныя рухі.*
**Тимус** – ты/мус (м.р.) – *лімфозны орган чалавека і шматлікіх відаў жывёл, у якім адбываецца дасяванне, дыферэнцоўка і імуналагічнае "навучанне" Т-каморак імуннай сістэмы.*
**Тимпанический** – тымпані/чны – *гучны, сярэдняй вышыні або высокі, які ўзнікае пры перкусіі над парожнім органам або паражнінай, якая ўтрымлівае паветра.*
**Тип** – тып (м.р.) – *1) характэрны фізічны склад, знешні выгляд чалавека, звязаны з яго этнічнай прыналежнасцю; 2) від, разнавіднасць чаго-н.*
**Тиреоидин** – тырэаіды/н (м.р.) – *сухі экстракт са шчытападобнай залозы розных жывёл, пераважна бараноў, кароў.*
**Тиреоидит** – тырэаіды/т (м.р.) – *запаленчае захворванне шчытападобнай залозы.*
**Тиреотоксикоз** – тырэатаксіко/з (м.р.) – *захворванне шчытападобнай залозы, пры якім характэрны павышаны ўзровень гармонаў шчытападобнай залозы ў крыві.*
**Тиреотропин** – тырэятрапі/н (м.р.) – *гармон, тропны гармон пярэдняй долі гіпофізу.*
**Тироксин** – тыраксі/н (м.р.) – *асноўная форма тыроідных гармонаў шчытападобнай залозы.*
**Титр** – тытр (м.р.) – *маса распушчанага рэчыва ў грамах, якая змяшчаецца ў 1 мл. рошчыны.*
**Тиф** – гару/чка (ж.р.), тыф (м.р.) – *зборная назва некаторых інфекцыйных захворванняў, якія суправаджаюцца парушэннямі псіхікі на фоне ліхаманкі і інтаксікацыі.*
**Тифлит** – тыфлі/т (м.р.) – *запаленне сляпой кішкі.*

**Тифозный** – гару/чкавы, тыфо/зны – *той, хто хворы на гаручку.*
**Тканевый** – тка/нкавы – *які адносіцца да групы аднародных, звязаных паміж сабою каморак, якія выконваюць адну і тую функцыю ў жывёльных і раслінных арганізмах.*
**Ткань** – тка/нка (ж.р.) – *група аднародных, звязаных паміж сабою каморак, якія выконваюць адну і тую функцыю ў жывёльных і раслінных арганізмах.*
**Ток** – ток (м.р.), бег (м.р.) – *імклівае перамяшчэнне чаго-н.; рух электрычнага зараду ў праваднiку; нервовае напружанне.*
**Ток крови** – крывябе/г (м.р.) – *перамяшчэнне крыві па крываносных судзінах.*
**Токсемия** – таксемі/я (ж.р.) – *атручванне арганізма таксінамі пры пападанні іх у крой.*
**Токсикодермия** – таксікадэрмі/я (ж.р.) – *хвароба, пры якой з'яўляюцца паразы скуры, якія ўзнікаюць як рэакцыя на трапленне ў арганізм таксічна-алергічных рэчываў.*
**Токсикоз** – таксіко/з (м.р.) – *нездаровы стан арганізма пры атручванні таксінамі.*
**Токсиколог** – таксіко/лаг (м.р.) – *спецыяліст у галіне таксікалогіі.*
**Токсикология** – таксікало/гія (ж.р.) – *навука, якая вывучае ўласцівасці ядаў і іх уздзеянне на арганізм.*
**Токсикомания** – таксікама/нія (ж.р.) – *хвароба, якая характарызуецца цягай да ўжывання некаторых таксічных для арганізма рэчываў, прэпаратаў.*
**Томография** – тамагра/фія (ж.р.) – *метад неразбуральнага папластовага даследавання ўнутранай структуры аб'екта праз яго шматразовае прасвечванне ў розных перасякальных накірунках.*
**Тонометр** – тано/метр (м.р.) – *прыбор для вымярэння артэрыяльнага ціску.*
**Тонус** – то/нус (м.р.) – *1) працяглае ўзбуджэнне нервовых цэнтраў і цяглічных тканак, якое не*

*суправаджаецца стомай і абумоўлівае пэўнае функцыянаванне органаў; 2) ступень жыццядзейнасці арганізма або асобных тканак.*
**Торакальный** – тарака/льны – *які адносіцца да грудзіннай паражніны*
**Торакоабдоминальный** – таракаабдаміна/льны – *які адносіцца да грудзіннай і брухавіннай паражніны аднaчасова.*
**Торакопластика** – таракапла/стыка (ж.р.) – *метад, які раней шырока ўжываўся для лячэння сухотаў лёгкіх.*
**Тошнота** – нудзь (ж.р.) – *прыгнечанае адчуванне ў падлыжачнай вобласці і глотцы, часта папярэднічае рвоце.*
**Тощая кишка** – паро/жняя кішка/ (ж.р.) – *сярэдні аддзел тонкай кішкі, які ідзе пасля дванасткі і перад падуздышнай кішкай.*
**Травма** – тра/ўма (ж.р.) – *пашкоджанне органа, тканкі знешнім уздзеяннем ( раненнем, ударам, апёкам і пад.), а таксама нервовае ўзрушэнне.*
**Травматолог** – траўмато/лаг (м.р.) – *урач – спецыяліст па траўматалогіі.*
**Травматология** – траўматало/гія (ж.р.) – *раздзел медыцыны, які займаецца траўмамі і іх лячэннем.*
**Траволечение** – травалячэ/нне (н.р.) – *лячэнне лекавымі травамі.*
**Тракт** – (страўнікава-кішачны) тракт (м.р.) – *стрававод, страўнік, тонкая і тоўстая кішка.*
**Транкливизатор** – транклівіза/тар (м.р.) – *лекавы прэпарат, які здымае нервовае напружанне, пачуццё трывогі, страху.*
**Транс** – транс (м.р.) – *форма псіхічнага расстройства, якая выяўляецца ў несвядомых учынках і дзеяннях.*
**Трансплантант** – трансплантa/нт (м.р.) – *орган, тканка, перасаджаныя ў іншы арганізм.*
**Трансплантация** – транспланта/цыя (ж.р.) – *перасадка і прыжыўленне тканак або органаў на іншае месца ці ў іншы орган.*

**Транспорт** – тра/нспарт (м.р.) – *1) галіна народнай гаспадаркі, звязаная з перавозкай людзей і грузаў; 2) перавоз чаго-н.*
**Транспортабельный** – транспарта/бельны – *такі, які можа быць транспартаваны, прыдатны для транспартавання.*
**Транспортировка** – транспартава/нне (н.р.) – *перавозка, дастаўка з аднаго месца ў іншае.*
**Транссудат** – транссуда/т (м.р.) – *азызлая вадкасць, якая назапашваецца ў паражнінах цела з прычыны парушэння крова- і лімфазвароту. Адбываецца без запаленчых змен тканак.*
**Трансформация** – пераўтварэ/нне (н.р.), трансфарма/цыя (ж.р.) – *змена выгляду, формы, істотных уласцівасцей чаго-н.*
**Трансфузия** – трансфу/зія (ж.р.) – *увядзенне з лячэбнай мэтай хвораму крыві донара ці яе кампанентаў для замяшчэння эрытрацытаў, часткова бялкоў плазмы крыві. Для аднаўлення аб'ёму цыркулюючай крыві, яе астматычнага цыклу.*
**Трахеит** – дырхаі/т (м.р.), трахе/іт (м.р.) – *запаленне слізніцы дырхі. Часта спадарожнічае запаленню верхніх шляхоў, інфекцыйнага, таксічнага ці іншага паходжання.*
**Трахейный** – ды/рхавы, трахе/йны – *які адносіцца да дырхі.*
**Трахеобронхит** – дырхабранхі/т (м.р.), трахеабранхі/т (м.р.) – *запаленне слізніцы дырхі і буйных дыхнікаў, якое ўзнікае часцей за ўсё на фоне вострай рэспіраторнай інфекцыі.*
**Трахеотомия** – дырхатамі/я (ж.р.), трахеатамі/я (ж.р.) – *хірургічная аперацыя, якая заключаецца ў разрэзе дырхі і ва ўвядзенні ў яе спецыяльнай трубкі, каб даць магчымасць хвораму дыхаць.*
**Трахея** – ды/рха (ж.р.), трахе/я (ж.р.) – *храсткаваты трубчаты орган, які размешчаны ніжэй за дыхніцу, пераходзіць ў галоўныя дыхнікі і здзяйсняе правядзенне ўдыхальнага і выдыхальнага паветра.*

**Трахома** – трахо/ма (ж.р.) – *хранічнае захворванне злучальнай абалонкі вока. На ёй з'яўляюцца маленькія зярняткі, фалікулы.*
**Тревога** – трыво/га (ж.р.) – *1) неспакой, моцнае душэўнае хваляванне, выкліканае страхам; 2) небяспечнае становішча, а таксама сігнал, які апавяшчае пра яго.*
**Трезвость** – цвяро/засць (ж.р.) – *устрыманне ад ужывання спіртных напіткаў.*
**Трематоды** – трэмато/ды (мн.л) – *клас пляскатых чарвей, асаблівасцю харчавання якіх з'яўляецца ўсмоктванне ежы праз ротавую адтуліну; смактуны.*
**Тремор** – дрыгаце/нне (н.р.), трэмо/р (м.р.) – *дрыжаць, трэсціся, калаціцца.*
**Тренажёр** – трэнажо/р (м.р.) – *вучэбна-трэніровачнае прыстасаванне для выпрацоўкі навыкаў удасканалення тэхнікі кіравання машынай пры падрыхтоўцы лётчыкаў, касманаўтаў, шафёраў.*
**Тренинг** – трэ/нінг (м.р.) – *трэніроўка, а таксама выкананне спецыяльнага трэнінгавага рэжыму.*
**Трепан** – трэпа/н (м.р.) – *інструмент для свідравання косці пры трэпанацыі.*
**Трепанация** – трэпана/цыя (ж.р.) – *хірургічная аперацыя, звязаная са свідраваннем, ускрыццём косці з мэтай пранікнення да ачага хваробы.*
**Трещина** – трэ/шчына (ж.р.) – *шчыліна на месцы разлому, разрыву, пашкоджання паверхні чаго-н.*
**Триггер** – тры/гер (м.р.) – *прылада, якая можа вельмі доўга знаходзіцца ў адным з двух станаў устойлівай раўнавагі і пераключацца з аднаго ў другі скачком па сігналу звонку.*
**Трипсин** – трыпсі/н (м.р.) – *фермент соку падстраўнікавай залозы, які ўдзельнічае ў расшчапленні бялкоў.*
**Трихинеллёз** – трыхінелё/з (ж.р.) – *хвароба, выкліканая трыхінамі.*
**Трихомоноз** – трыхамано/з (м.р.) – *хвароба, выкліканая трыхіманадамі.*

**Тромб** – тромб (м.р.) – *згортак крыві, які ўтвараецца ў крываносных судзінах.*
**Тромбоз** – трамбо/з (м.р.) – *працэс утварэння тромбаў у судзінах.*
**Тромбообразование** – тромбаўтварэ/нне (н.р.) – *працэс утварэння тромбаў.*
**Тромбопения** – тромбапені/я (ж.р.) – *паніжанае ўтрыманне трамбацытаў у перыферычнай крыві.*
**Тромбофлебит** – тромбафлебі/т (м.р.) – *запаленне сценкі жылы, якое вядзе да ўтварэння тромба.*
**Тромбоцит** – тромбацы/т (м.р.) – *форменны элемент, з'яўляецца цытаплазматычным аскепкам мегакарыяцыту коснага мозга.*
**Тромбоцитоз** – тромбацыто/з (м.р.) – *павялічанае ўтрыманне трамбацытаў у перыферычнай крыві.*
**Трофика** – тро/фіка (ж.р.) – *сукупнасць каморкавых працэсаў, якая забяспечвае структуры і функцыі тканак.*
**Трофоневроз** – трофанеўро/з (м.р.) – *агульная назва парушэнняў, якая абумоўлена паражэннем ВНС.*
**Труба** – труба/ (ж.р.) – *канал у арганізме для сувязі паміж асобнымі органамі.*
**Труд** – пра/ца (ж.р.) – *працэс уздзеяння чалавека на прыроду; чалавечая дзейнасць, накіраваная на стварэнне матэрыяльных і культурных каштоўнасцей.*
**Трудоспособность** – працаздо/льнасць (ж.р.) – *фізічная здольнасць да працы, дзейнасці.*
**Трудотерапия** – працатэрапі/я (ж.р.) – *выкарыстанне працоўных працэсаў з лячэбнай мэтай, выкарыстоўваецца ў псіхіятрыі.*
**Труп** – труп (м.р.) – *мёртвае цела чалавека або жывёлы.*
**Тряпка** – ану/ча (ж.р.) – *кавалак, абрэзак тканіны (звычайна такой, якая была ўжо ва ўжытку).*
**Туберкулёз** – сухо/ты (мн.л.), туберкулё/з (м.р.) – *інфекцыйная хвароба, пры якой пашкоджваюцца*

*лёгкія, кішачнік, косці, суставы і пад., выкліканая асобым мікробам – палачкай Коха.*
**Туберкулин** – туберкулі/н (м.р.) – *прэпарат для дыягностыкі сухот.*
**Туберкулинодиагностика** – туберкулінадыягно/стыка (ж.р.) – *дыягнастычны тэст на сухоты, выкарыстоўваецца для своечасовага выяўлення хворых на сухоты.*
**Тубус** – ту/бус (м.р.) – *труба ў аптычных прыборах.*
**Тугоухость** – тугаву/хасць (ж.р.) – *частковая страта слыху.*
**Туловище** – ту/лава (ж.р.) – *цела чалавека без галавы і канцавін.*
**Туляремия** – тулярэ/мія (ж.р.) – *вострае інфекцыйнае захворванне жывёл і чалавека.*
**Тургор** – турго/р (м.р.) – *напружанасць і эластычнасць тканкі, якая змяняецца ў залежнасці ад яе фізіялагічнага стану; ужываецца для характарыстыкі стану скуры.*
**Турунда** – туру/нда (ж.р.) – *невялікі вузкі марлевы тампон.*
**Тусклость** – цьмя/насць (ж.р.) – *невыразны, беспрыкметны, няяркі.*
**Тучность** – то/ўстаць (ж.р.) – *разлад абмену рэчываў, які характарызуецца залішнім дэпаніраваннем тлустасці ў падскурнай клятчатцы.*
**Тяжесть** – ця/жкасць (ж.р.) – *непрыемнае адчуванне чаго-небудзь цяжкага.*

# -У-

**Убеждение** – перакана/нне (н.р.) – *цвёрды, непахісны погляд; упэўненасць.*
**Увеличение** – павелічэ/нне (н.р.) – *вынік якога-н. дзеяння, колькасць, на якія што-н. павялічана.*

**Увечье** – кале/цтва (н.р.) – *пашкоджанне арганізма, якое робіць цяжкім або немагчымым яго нармальнае функцыянаванне.*

**Угар** – чад (м.р.) – *1) удушлівы атрутны газ, які ўтвараецца пры няпоўным згаранні вугалю ва ўмовах недастатковага прытоку паветра; 2) едкі, удушлівы дым, які ўзнікае пры гарэнні чаго-н. (тлушчу); 3) тое, што моцна ўздзейнічае на псіхіку чалавека, на яго свядомасць (пераноснае).*

**Угасание** – згаса/нне (н.р.) – *1) спыненне гарэння, свячэння; 2) знікненне, сканчэнне (пра пачуцці, падзеі і пад.); 3) страчэнне значэння, забыццё.*

**Угашение** – згашэ/нне (н.р.) – *1) спыненне гарэння, тушэнне; 2) забараненне развіцця чаго-н. (пераноснае); 3) зробленне чаго-н. несапраўдным; 4) памяншэнне ці ліквідацыя чаго-н., аслабленне дзеяння чаго-н.*

**Углевод** – вугляво/д (м.р.) – *група арганічных злучэнняў, у склад якіх уваходзяць вуглярод, кісларод і вадарод (цукар, крухмал).*

**Углеводный** – вугляво/дны – *які мае адносіны да вугляводаў.*

**Углерод** – вугляро/д (м.р.) – *хімічны элемент, які з'яўляецца асновай усіх арганічных рэчываў у прыродзе.*

**Уголь** – ву/галь (м.р.) – *1) цвёрдае гаручае выкапнёвае рэчыва арганічнага паходжання; 2) рэшткі няпоўнага згарання драўніны, кавалак абгарэлага дрэва.*

**Угри** – вугры/ (мн.л.) – *значныя зацвярдзеласці ў вусці тлушчавай залозы, выкліканыя запаленчым працэсам у тканках.*

**Угроза** – пагро/за (ж.р.) – *намер прычыніць фізічную, матэрыяльную ці іншую шкоду асобе ці грамадскім інтарэсам, выяўлены славесна, пісьмова, дзеяннямі або іншым спосабам.*

**Удаление** – выдале/нне (н.р.) – *працэс дзеяння пазначэнні дзеяслова выдаляць, выдаліць.*

**Удобный** – зру/чны – *1) такі, якім добра карыстацца; 2) спрыяльны.*

**Удовлетворённость** – задаво/ленасць (ж.р.) – *суб'ектыўная адзнака якасці тых ці іншых аб'ектаў, умоў жыцця і дзейнасці, жыцця ў цэлым, адносін з людзьмі, саміх людзей і самога сябе.*
**Удушье** – уду/шша (н.р.) – *стан вельмі цяжкага дыхання.*
**Уздечка** – абро/цька (ж.р.), вуздэ/чка (ж.р.) – *у анатоміі частка, якая абмяжоўвае рух якога-н. органа.*
**Узел** – ву/зел (м.р.) – *1) месца, дзе звязаны канцы вяроўкі, ніткі, або пятля, сцягнутая на вяроўцы, нітцы; 2) месца скрыжавання, сувязі чаго-н.; 3) частка механізма або тэхнічнае прыстасаванне, якое складаецца з дэталей, асобных частак; 4) частка сцябла, з якой вырастае адзін або некалькі лістоў.*
**Узнавание** – пазнава/нне (н.р.) – *успрыманне аб'екта як ужо вядомага па мінулым вопыце.*
**Указательный палец** – пака/znік (м.р.), указа/льны па/лец (м.р.) – *палец на руцэ, які знаходзіцца паміж адзінцом і сярэднікам.*
**Укол** – укол (м.р.) – *увядзенне лекавага рэчыва непасрэдна пад скуру, у цягліцу, у жылу.*
**Укроп** – кроп (м.р.) – *аднагадовая травяная расліна сямейства парасонавых з невялікімі ліcткамі і жоўтымі кветкамі.*
**Уксус** – во/цат (м.р.) – *воднае рэчыва воцатнай кіслаты – вадкасць з вельмі кіслым смакам.*
**Уксусный** – во/цатный – *які мае адносіны да воцату.*
**Улитка** – скру/так (м.р.), улі/тка (ж.р.) – *частка ўнутранага вуха, дзе знаходзіцца гукаўспрымальны апарат.*
**Ультрозвук** – ультрагу/к (м.р.) – *хвалі, якія не ўспрымае чалавек, частоты звыш 20 кГц.*
**Ум** – ро/зум (м.р.) – *здольнасць чалавека думаць, галоўнае ў свядомасці разумнага жыцця.*
**Умалишённый** – вар'я/т (м.р.) – *псіхічна хворы.*
**Умереть** – паме/рці – *спыніць жыццё, знікнуць, скончыцца.*

**Умирание** – кана/нне (н.р.) – *паслядоўнае развіццё працэсу заканчэння жыццядзейнасці арганізма ў тэрмінальным стане, які папярэднічае біялагічнай смерці.*
**Ундулирующий** – ундулі/руючы – *хвалепадобны.*
**Управление** – кірава/нне (н.р.) – *мэтанакіраваны працэс, заклікань забяспечыць функцыянаванне кіруемага аб'екта ў адпаведнасці з зададзенымі крытэрыямі.*
**Упражнение** – практыкава/нне (н.р.) – *паўторнае выкананне якіх-н. дзеянняў з мэтай умацавання і развіцця функцыянальных здольнасцей арганізма або лячэння захворванняў.*
**Упругость** – пру/гкасць (ж.р.) – *здольнасць вяртацца да зыходнага стану пасля выдалення сілы, якая выклікала дэфармацыю.*
**Уран** – ура/н (м.р.) – *хімічны элемент, метал, які валодае радыеактыўнымі ўласцівасцямі.*
**Ураты** – ура/ты (мн.л.) – *солі мачавой кіслаты.*
**Уремия** – урэмі/я (ж.р.) – *самаатручэнне арганізма рэчывамі, якія затрымліваюцца ў ім пры хваробе нырак.*
**Уретра** – цэ/ўка (ж.р.) – *мочаспускальны канал.*
**Уретрит** – урэтры/т (м.р.) – *запаленне слізніцы цэўкі.*
**Уровень** – узро/вень (м.р.) – *ступень, якая характарызуе якасць, вышыню, велічыню развіцця.*
**Урогинекалогия** – урагінекало/гія (ж.р.) – *навука пра сувязь паміж уралагічнымі і гінекалалагічнымі захворваннямі.*
**Урод** – вычва/ра (ж.р.) – *чалавек з прыроджанымі недахопамі.*
**Уродливость** – вычва/рнасць (ж.р.) – *гана развіцця, фізічны недахоп.*
**Уродливый** – вычва/рны – *той, які мае фізічны недахоп.*
**Уролог** – уро/лаг (м.р.) – *урач, які займаецца дыягностыкай і лячэннем уралагічных хвароб.*

**Урология** – урало/гія (ж.р.) – *галіна медыцыны, якая вывучае хваробы мачаплоцевых органаў.*
**Урометр** – уро/метр (м.р.) – *прыбор для вызначэння ўдзельнай масы мачы.*
**Урубилин** – урубілі/н (м.р.) – *жоўтае фарбавальнае рэчыва з групы жоўцевых пігментаў.*
**Усвояемость** – засвая/льнасць (ж.р.) – *здольнасць засвойвацца арганізмам або свядомасцю.*
**Усталый** – сто/млены – *абяссілены, змораны цяжкай работай ці якім-н. заняткам.*
**Устойчивый** – усто/йлівы – *1) які стаіць цвёрда, не хістаючыся, не падаючы; 2) які не паддаецца ваганням, пастаянны, стойкі, цвёрды.*
**Утка** – ву/тка (ж.р.) – *пасудзіна з доўгім носам для мачы, якая падаецца ляжачым хворым мужчынам.*
**Утомлённость** – змо/ранасць (ж.р.) – *стан зморанага чалавека, бяссілле, стома.*
**Утомляемость** – змо/рлівасць (ж.р.) – *стан зморанасці, бяссілле, стома ад цяжкай працы ці якога-н. занятку.*
**Утопленник** – тапе/лец (м.р.) – *чалавек, які ўтапіўся або топіцца.*
**Ухо** – ву/ха (н.р.) – *орган слыху і раўнавагі ў хрыбетнікавых жывёл і чалавека.*
**У. наружное** – знадво/рнае ву/ха – *вонкавая частка гэтага органа ў форме ракаўкі вакол вушной адтуліны.*
**У. среднее** – сярэ/дняе ву/ха – *частка органа слыху, праз які перадаецца слыхавы штуршок ва ўнутранае вуха.*
**Уход** – до/гляд (м.р.) – *нагляд, клопат,назіранне за кім-, чым-н. для аховы, кантролю, вывучэння і г.д.*
**Учащённый** – пача/шчаны – *больш часты, паскораны.*
**Учёт** – улі/к (м.р.) – *рэгістрацыя асоб, прадметаў і падзей з занясеннем іх у спісы, картатэку.*
**Ушиб** – садно/ (н.р.), уда/р (м.р.) – *пашкоджанне тканак і органаў цела тупым прадметам без*

*парушэння цэласнасці вонкавых покрываў (скуры, слізістай абалонкі), суправаджаецца разрывам дробных сасудаў і кровазліццём, парушэннем цэласнасці падскурнай клятчаткі, цягліц, унутраных органаў ( печані, селязёнкі і інш.)*
**Ушивание** – ушыва/нне (н.р.) – *медыцынскі тэрмін, аперацыя, напрыклад, ушыванне (звужванне, укарочванне) сэрца, кілы.*
**Ущемление** – ушчамле/нне (н.р.) – *сціскание органа ці іншага анатамічнага ўтварэння ў натуральных ці паталагічных каналах і адтулінах, паміж спайкамі, рубцамі і інш., якое парушае яго кровазабеспячэнне, інервацыю і (ці) праходнасць.*

# -Ф-

**Фавус** – фа/вус (м.р.) – *хранічнае грыбковае захворванне, выклiканае паразітычным грыбком.*
**Фагопрофилактика** – фагапрафіла/ктыка (ж.р.) – *папярэджанне бактэрыяльных інфекцый з дапамогай спецыяльных бактэрыяфагаў.*
**Фаготерапия** – фагатэрапі/я (ж.р.) – *лячэнне некаторых бактэрыяльных інфекцый (брушнога тыфу, крываўкі, халеры) спецыфічнымі бактэрыяфагамі.*
**Фагоцит** – фагацы/т (м.р.) – *каморка, здольная паглынаць бактэрыі, прасцейшых, іншыя каморкі і іх рэшткі, а таксама розныя дробныя часцінкі.*
**Фаланга** – фала/нга (ж.р.) – *кароткая трубчатая косць пальца.*
**Фантомная боль** – уя/ўны боль (м.р.), фанто/мны боль (м.р.) – *у канцавінах – адчуванне болю, якое ўзнікае ў страчанай канцавіне або ў канцавіне, якая не адчуваецца з дапамогай звычайных адчуванняў.*

**Фарингоскопия** – фарынгаскапі/я (ж.р.) – *агляд глоткі і зева пры дапамозе спецыяльнага люстэрка.*
**Фармакогнозия** – фармакагно/зія (ж.р.) – *навука аб рэчывах расліннага і жывёльнага паходжання, якія маюць лекавыя ўласцівасці і ўжываюцца ў медыцыне.*
**Фармаколог** – фармако/лаг (м.р.) – *спецыяліст у галіне фармакалогіі.*
**Фармакологический** – фармакалагі/чны – *які мае адносіны да фармакалогіі.*
**Фармакология** – фармакало/гія (ж.р.) - *навука аб уздзеянні лекавых рэчываў на арганізм.*
**Фармакопея** – фармакапе/я (ж.р.) – *афіцыйны звод правіл, якім кіруюцца фармацэўты пры падрыхтоўцы, праверцы, захоўванні, прызначэнні лекаў і пералік лекавых рэчываў, якія павінны знаходзіцца ў аптэцы.*
**Фармакохимия** – фармакахі/мія (ж.р.) – *вучэнне аб хімічным складзе і хімічных уласцівасцях лекавых рэчываў.*
**Фармацевт** – фармацэ/ўт (м.р.) – *спецыяліст з фармацэўтычнай адукацыяй.*
**Фармацевтика** – фармацэ/ўтыка (ж.р.) – *комплекс дысцыплін, якія вывучаюць пытанні атрымання, апрацоўкі, вырабу, захоўвання і выдачы лекавых сродкаў.*
**Фармацевтический** – фармацэўты/чны – *які мае адносіны да фармацэўтыкі, фармацэўта.*
**Фармация** – фарма/цыя (ж.р.) – *1) пэўная ступень, стадыя ў развіцці чалавечага грамадства, якая характарызуецца ўласцівым толькі ёй спосабам вытворчасці і адпаведнай гэтаму пабудовай; 2) комплекс генетычна звязаных горных парод аднаго часу і спосабу ўтварэння; 3) раслінныя згрупаванні, якія характарызуюцца адным або некалькімі агульна-біялагічнымі відамі.*
**Фасциолёз** – фасцыялё/з (м.р.) – *хранічнае захворванне чалавека або жывёл, якое выклікаецца*

*плоскімі чарвямі, што трапляюць у арганізм з ежай ці з вадою.*
**Фасция** – пялё/нніца (ж.р.), фа/сцыя (ж.р.) – *тонкая абалонка са злучальнай тканкі, якая пакрывае асобныя цяглiцы або групы іх, а таксама некаторыя органы.*
**Фекалии** – спражне/нні (мн.л.), фека/ліі (мн.л.) – *сумесь цвёрдых і вадкіх спражненняў у чалавека.*
**Фекальный** – спражня/льны, фека/льны – *які мае адносіны да спражненняў, з'яўляецца спражненнямі.*
**Фельдшер** – фе/льчар (м.р.) – *медыцынскі работнік, які мае сярэднюю медыцынскую адукацыю.*
**Фельдшерский** – фе/льчарскі – *які мае адносіны да фельчара; належыць фельчару.*
**Феногенетика** – фенагене/тыка (ж.р.) – *раздзел генетыкі, які вывучае праявы дзеяння генаў і іх сукупнасці ў працэсе развіцця асобіны.*
**Феномен** – выклю/чнік (м.р.), фено/мен (м.р.) – *1) незвычайная, асаблівая з'ява, рэдкі факт; 2) пра чалавека, які адрозніваецца выдатнымі здольнасцямі, талентам.*
**Фенотип** – фенаты/п (м.р.) – *сукупнасць уласцівасцей і прымет арганізма, якія склаліся ў працэсе яго індывідуальнага развіцця.*
**Фермент** – ферме/нт (м.р.) – *рэчыва бялковай прыроды, якое сінтэзуецца ў каморках жывых арганізмаў і ў мільёны разоў паскарае хімічныя рэакцыі, уласцівыя жывому арганізму.*
**Ферментативный** – ферментаты/ўны – *які мае адносіны да ферменту; з'яўляецца ферментам.*
**Ферментационный** – ферментацы/йны – *прызначаны для ферментацыі.*
**Ферментация** – фермента/цыя (ж.р.) – *працэс бражэння.*
**Ферментировать** – ферментава/ць – *знаходзіцца ў стане ферментацыі.*
**Ферментный** – ферме/нтны – *які мае адносіны да ферменту.*

**Ферментология** – ферментало/гія (ж.р.) – *навука аб ферментах, іх будове і ролі ў арганізме.*
**Фибрилла** – фібры/ла (ж.р.) – *ніткападобная структура цытаплазмы, якая выконвае ў каморцы рухальную або шкілетную функцыі.*
**Фибриллярный** – фібрыля/рны – *бялок, поліпептыдны ланцужок якога, размяшчаючыся ўпарадкавана адносна адной восі, утварае доўгае валакно (фібрылу).*
**Фибрилляция** – трымце/нне (н.р.), фібрыля/цыя (ж.р.) – *частыя некаардынаваныя скарачэнні цяглічных валокнаў.*
**Фибрин** – фібры/н (м.р.) – *бялок, які ўтвараецца з фібрынагену плазмы крыві пад уздзеяннем фермента трамбіну; канчатковы прадукт згусання крыві, структурная аснова тромба.*
**Фибриновый** – фібры/навы – *тое, што складаецца з фібрыну.*
**Фибринолиз** – фібрыно/ліз (м.р.) – *распушчэнне нутрасудзінных тромбаў і пазасудзінных згорткаў фібрыну пад уздзеяннем пратэалітычных ферментаў плазмы крыві і форменых элементаў.*
**Фибринолизин** – фібрыналізі/н (м.р.) – *фермент, спрыяльны фібрыналізу (разбурэнню фібрыну).*
**Фиброаденома** – фібраадэно/ма (ж.р.) – *дабраякасная пухліна са злучальнай тканкі залозы.*
**Фибробласт** – фібрабла/ст (м.р.) – *асноўная каморкавая форма злучальнай тканкі хрыбетнікавых жывёл і чалавека.*
**Фиброз** – фібро/з (м.р.) – *патаўшчэнне і з’яўленне рубцовых змяненняў у злучальнай тканцы.*
**Фиброма** – фібро/ма (ж.р.) – *дабраякасная пухліна з валакністай злучальнай тканкі.*
**Фибромиома** – фібраміё/ма (ж.р.) – *дабраякасная пухліна з цяглічнай тканкі з уключэннем элементаў злучальнай тканкі.*

**Фиброскоп** – фібраско/п (м.р.) – *эндаскоп, у якім для перадачы выявы знутры чалавечага цела выкарыстоўваецца валаконная оптыка.*
**Физиология** – фізіяло/гія (ж.р.) – *навука аб жыццядзейнасці арганізма, яго каморак, органаў, функцыянальных сістэм.*
**Физиотерапевт** – фізіятэрапе/ўт (м.р.) – *спецыяліст па фізіятэрапіі.*
**Физиотерапевтический** – фізіятэрапеўты/чны – *які суадносіцца па значэнні з назоўнікам фізіятэрапія, звязаны з ім.*
**Физиотерапия** – фізіятэрапі/я (ж.р.) – *1) раздзел медыцыны, які вывучае ўздзеянне на арганізм натуральных і штучных фізічных фактараў; 2) лячэбнае выкарыстанне фізічных сродкаў (руху, цяпла, вады, электрычнасці і інш.).*
**Фиксация** – фікса/цыя (ж.р.) – *замацаванне ў пэўным становішчы.*
**Фильтр** – цэ/даль (м.р.), фі/льтр (м.р.) – *1) прыбор для ачысткі вадкасцей, газаў; 2) прыбор, які затрымлівае праходжанне некаторых прамянёў, гукаў, электрамагнітных хваль.*
**Фистула** – свішч (м.р.) – *загана ў чым-н. у выглядзе адтуліны, сітавіны; 2) ненармальны канал, які ўтвараецца ў тканках арганізма з выхадам на паверхню цела.*
**Фитотерапия** – фітатэрапі/я (ж.р.) – *лячэнне лекавымі раслінамі.*
**Флавин** – флаві/н (м.р.) – *геперацыклічнае злучэнне жоўтага колеру.*
**Флебит** – флебі/т (м.р.) – *запаленне жылы.*
**Флегматизм** – флегматы/зм (м.р.) – *незвычайны спакой, амаль поўная абыякавасць да ўсяго, вяласць.*
**Флегматик** – флегма/тык (м.р.) – *чалавек флегматычнага тэмпераменту.*
**Флегмозный** – флегмо/зны – *які мае выгляд флегмоны.*

**Флегмона** – флегмо/на (ж.р.) – *гнойнае запаленне падскурнай або міжцяглічнай клятчаткі.*
**Флексор** – фле/ксар (м.р.) – *цягліца, пры дапамозе якой адбываецца згінанне сустава.*
**Флексорный** – флексо/рны – *які адносіцца да флексара.*
**Фликтена** – флікце/на (ж.р.) – *нарыў, пухір з белай абалонкай і мутным змесцівам, характэрны для стрэптадэрміі.*
**Флора** – раслі/ннасць (ж.р.), фло/ра (ж.р.) – *сукупнасць усіх відаў раслін якой-н. мясцовасці ці геалагічнага перыяду.*
**Флотарий** – флата/рый (м.р.) – *памяшканне, абсталяванае кварцавымі лямпамі ў шахцёрскіх гарадках і пасёлках.*
**Флуктуация** – зыба/нне (н.р.), флуктуа/цыя (ж.р.) – *пры пальпацыі адчуванне адной рукой калыханняў, выкліканых штуршкападобнымі рухамі пальцаў другой рукі над скапленнем вадкасці ў паражнінах.*
**Флюорография** – флюараграфі/я (ж.р.) – *метад рэнтгенадыягностыкі, які заключаецца ў фатаграфаванні рэнтгенаўскага адлюстравання органаў чалавечага цела з флюарэсцыруючага экрана на плёнку.*
**Флюороз** – флюаро/з (м.р.) – *хранічная хвароба зубоў і касцявой сістэмы, якая выклікаецца залішнім ужываннем фтору з вадой і харчовымі прадуктамі.*
**Флюс** – смярза/ (ж.р.), флюс (м.р.) – *нарыў над надкосніцай, выкліканы хворымі зубамі, у сувязі з чым падпухае шчака.*
**Фобия** – фабі/я (ж.р.) – *неадчэпны, надакучлівы стан пры некаторых псіхічных захворваннях.*
**Фолликул** – то/рбачка (ж.р.), фалі/кул (м.р.) – *круглае, авальнае ці грушападобнае ўтварэнне ў розных органах хрыбетных жывёл і чалавека, якое выконвае розныя функцыі.*
**Фолликулин** – фалікулі/н (м.р.) – *жаночы плоцевы гармон.*

**Фолликулит** – фалікулі/т (м.р.) – *недахоп фалікуліну.*
**Фон** – фон (м.р.) – *аснойны колер, тон, на якім пішацца карціна.*
**Фонастения** – фонастэні/я (ж.р.) – *незмыканне галасавых звязак.*
**Фонендоскоп** – фанендаскоп (м.р.) – *медыцынскі інструмент з рэзанатарам для выслухоўвання сэрца і лёгкіх.*
**Фонокардиограмма** – фонакардыягра/ма (ж.р.) – *графічная рэгістрацыя гукавых з'яў, выкліканых дзейнасцю сэрца.*
**Фонокадиограф** – фонакардыё/граф (м.р.) – *прыбор для выяўлення гукавых з'яў, выкліканых дзейнасцю сэрца.*
**Фонокардиография** – фонакардыяграфі/я (ж.р.) – *метад даследавання сэрцава-судзіннай сістэмы, які заключаецца ў графічнай рэгістрацыі гукавых з'яў, выкліканых дзейнасцю сэрца.*
**Форма** – фо/рма (ж.р.) – *1) знешні контур, вонкавы выгляд, знешняе аблічча прадмета; 2) від, тып, спосаб арганізацыі чаго-н.; структура чаго-н, абумоўленая пэўным зместам.*
**Формалин** – фармалі/н (м.р.) – *раствор фармальдэгіду з едкім удушлівым пахам як сродак для дэзынфекцыі.*
**Формалиновый** – фармалі/навы – *які мае адносіны да фармаліну.*
**Формальдегид** – фармальдэгі/д (м.р.) – *бясколерны газ з рэзкім пахам, які выкарыстоўваецца ў вытворчасці пластмас, смол, лекавых рэчываў, у папяровай і тэкстыльнай прамысловасці.*
**Формация** – утварэ/нне (н.р.), фарма/цыя (ж.р.) – *тое, што ўзнікла ў выніку якога-н. дзеяння, працэсу.*
**Формула** – фо/рмула (ж.р.) – *1) дакладнае вызначэнне якога-н. агульнага палажэння, закона і пад., якое мае дачыненне да ўсіх прыватных выпадкаў; 2) умоўнае абазначэнне адносін якіх-н. велічынь, элементаў і пад., якое складаецца з літар, лічбаў і знакаў.*

**Фосфен** – фасфе/н (м.р.) – *зрокавае адчуванне колеру, узнікае без уздзеяння святла на вока.*
**Фосфор** – фо/сфар (м.р.) – *адзін з самых распаўсюджаных элементаў зямной кары, яго колькасць складае 0,08 – 0,09% яго масы. У свабодным стане не сустракаецца праз высокую хімічную актыўнасць.*
**Фотарий** – фата/рый (м.р.) – *святлолячэбны кабінет для правядзення групавога светлавога і цеплавога апраменьвання лячэбнага і прафілактычнага характару.*
**Фотобактерия** – фотабактэ/рыя (ж.р.) – *бактэрыя, якая выдзяляе рэчыва, што свеціцца пры спалучэнні яго з кіслародам і служыць адной з прычын свячэння вады і рыб.*
**Фотосинтез** – фотасі/нтэз (м.р.) – *працэс утварэння зялёнымі раслінамі арганічнага рэчыва з вуглякіслага газу і вады пры дапамозе светлавой энэргіі, якая праглынаецца хларафілам.*
**Фототаксис** – фотата/ксіс (м.р.) – *рухальная рэакцыя раслінных і прасцейшых жывёльных арганізмаў у адказ на ўздзеянне святла.*
**Фототерапевтический** – фотатэрапеўты/чны – *які мае адносіны да фотатэрапіі.*
**Фототерапия** – фотатэрапі/я (ж.р.) – *лячэнне святлом.*
**Фототропизм** – фотатрапі/зм (м.р.) – *змена напрамку росту органаў раслін у адносінах да святла, якое падае з аднаго боку.*
**Фотофобия** – фотафабі/я (ж.р.) – *светлабоязь.*
**Фронтит** – франты/т (м.р.) – *запаленне лобнай сулоні.*
**Фрустрация** – фрустра/цыя (ж.р.) – *псіхічны стан, які ўзнікае ў сітуацыі рэальнай або дапушчальнай немагчымасці задавальнення тых ці іншых патрэб.*
**Фтизиатр** – фтызія/тр (м.р.) – *урач, спецыяліст па фтызіятрыі.*

**Фтизиатрия** – фтызіятры/я (ж.р.) – *раздзел медыцыны, які вывучае сухоты, метады яго лячэння і папярэджання.*
**Фтор** – фтор (м.р.) – *хімічны элемент – бледна-жоўты трутны газ з рэзкім пахам.*
**Функциональный** – функцыяна/льны – *які належыць да функцый чаго-н.*
**Функция** – фу/нкцыя (ж.р.) – *з'ява, якая залежыць ад другой аснойнай з'явы і змяняецца ў залежнасці ад змянення другой з'явы.*
**Фурункул** – фуру/нкул (м.р.) – *гнойнае запаленне валасянога мяшэчка і сальнай залозы скулы.*
**Фурункулёз** – фурункулё/з (м.р.) – *захворванне, пры якім на целе з'яўляецца шмат фурункул.*

# -Х –

**Характер** – хара/ктар (м.р.) – *сукупнасць устойлівых псіхічных уласцівасцей чалавека, яго асабістых рыс, якія праяўляюцца ў паводзінах і дзейнасці.*
**Характеристика** – характары/стыка (ж.р.) – *апісанне, вызначэнне істотных, адметных рыс, асаблівасцей, якасцей каго-, чаго-н.*
**Характеристический** – характарысты/чны – *які мае адметныя, рэзка выяўленыя, своеасаблівыя рысы.*
**Характерные черты** – уласці/выя ры/сы (мн.л.) – *рысы, якія ўласцівы той ці іншай асобе.*
**Характерный** – уласці/вы – *1) з рэзка выяўленымі асаблівасцямі, рысамі; 2) уласцівы каму-, чаму-н., спецыфічны; 3) уласцівы вызначанаму народу, эпосе, грамадскаму асяроддзю; 4) упарты, які любіць рабіць па-свойму, з цяжкім, наравістым характарам.*
**Хвойный** – іглі/сты – *адзін з 13-14 аддзелаў царства раслін, да якога адносяцца судзінкавыя расліны, насенне якіх развіваецца ў шышках.*

**Хвоя** – іглі/ца (ж.р.) – *ігліcты ліст; іголкападобны ці лускаваты ліст некаторых (звычайна вечназялёных) дрэў ці хмызнякоў.*
**Хейлит** – хе/йліт (м.р.) – *запаленне чырвонай аблямоўкі вуснаў.*
**Хейроскоп** – хейраско/п (м.р.) – *прыбор для трэніроўчых практыкаванняў з мэтай замацавання цэнтральнай фіксацыі амбліяпічнага вока і выпрацоўкі звычайнага бінакулярнага зроку.*
**Хеморецептор** – хемарэцэ/птар (м.р.) – *аферэнтны нейрон, які адказвае генерацыяй нервовага штуршка на ўзаемадзеянне ўспрымальнікаў бялку з вызначанай хімічнай малекулай на з'яўленне ў арганізме адмысловых хімічных злучэнняў.*
**Хемосинтез** – хемасі/нтаз (м.р.) – *суклад некаторымі бактэрыямі арганічных рэчываў з вокісу вугляроду за кошт энергіі, атрыманай пры акісленні неарганічных рэчываў, напр. аміяку, злучэнняў серы.*
**Хирург** – хіру/рг (м.р.) – *урач, спецыяліст у галіне хірургіі.*
**Хирургия** – хірургі/я (ж.р.) – *галіна медыцыны, якая займаецца аперацыйнымі метадамі лячэння.*
**Хлор** – хлор (м.р.) – *хімічны элемент, адносіцца да сям'і галагенаў, жоўта-зялёны газ з рэзкім пахам.*
**Хлористый** – хло/рысты – *які мае ў складзе хлор.*
**Хлорная известь** – хло/рная ва/пна (ж.р.) – *белы парашок з рэзкім пахам і моцнымі акісляльнымі ўласцівасцямі.*
**Хлородонтия** – хлораданты/я (ж.р.) – *з'яўленне зеленаватага адцення ў колеры малочных зубоў.*
**Хлороз** – хларо/з (м.р.) – *захворванне раслін, якое сустракаецца пераважна пры шчолачнай рэакцыі глебы.*
**Хлороформ** – хларафо/рм (м.р.) – *празрыстая лятучая вадкасць з саладкаватым пахам, якая ўтрымлівае хлор і выкарыстоўваецца як наркатычны сродак.*

**Хлороформирование** – хлорафармава/нне (н.р.) – *распаўсюджаны сродак агульнага абязбольвання.*
**Хлороформированный** – хлорафармава/ны – *асоба, якая атрымала абязбольванне.*
**Хлороформировать** – хлорафармава/ць – *абязбольваць.*
**Хоаны** – хаа/ны (мн.л.) – *авальныя адтуліны, з дапамогай якіх насаглотка звязана з паражнінай носа.*
**Ходьба** – хада – *1) дзеянне паводле дзеяслова* ***хадзіць – ісці****; 2) уласцівая каму-н. манера хадзіць; 3) развіццё, бег чаго-н.*
**Холера** – хале/ра (ж.р.) – *1) вострая інфекцыйная кішачная хвароба, якая суправаджаецца ванітамі, ляксамі; эпідэмія гэтай хваробы; 2) ужываецца як лаянкавае слова.*
**Холестерин** – халестэры/н (м.р.) – *арганічнае тлушчападобнае рэчыва, якое знаходзіцца ў нервовай і тлушчавых тканках, печані і інш., а таксама ў прадуктах харчавання, і адыгрывае важную ролю ў жыццядзейнасці арганізма.*
**Холецистит** – халецысты/т (м.р.) – *запаленне жаўцяка.*
**Холерик** – хале/рык (м.р.), запа/льны – *1) які мае адносіны да запалу; 2) прызначаны для запальвання; 3) гарачы, хвалюючы.*
**Холангиография** – халангіяграфі/я (ж.р.) – *рэнтгеналагічнае даследаванне жоўцевых пратокаў.*
**Холелитиаз** – халелітыя/з (м.р.) – *жоўцекамянёвая хвароба.*
**Холестаз** – халеста/з (м.р.) – *спазма жаўцяка.*
**Холецистография** – халецыстаграфі/я (ж.р.) – *рэнтгеналагічнае даследаванне жаўцяка.*
**Холецистопатия** – халецыстапаты/я (ж.р.) – *агульная назва захворванняў жаўцяка.*
**Холецистохолангит** – халецыстахалангі/т (м.р.) – *гэта запаленне жаўцяка і жоўцевых пратокаў.*

**Холинергические** – халінергі/чныя (лекі) – *гэта лекі, якія блакіруюць або аблягчаюць перадачу штуршкоў у халінергічных сінапсах.*
**Холодильник** – лядо/ўня (ж.р.), халадзі/льнік (м.р.) – *1) шафа з халадзільнай устаноўкай; 2) збудаванне, прадпрыемства, спецыяльнае памяшканне з паніжанай тэмпературай для захоўвання чаго-н. у холадзе.*
**Холофермент** – халаферме/нт (м.р.) –*гэта фермент, які складаецца з неактыўнай бялковай часткі, апаферментнай і актывізаванай небялковай групы.*
**Хондрин** – хандры/н (м.р.) – *калаген, які ўваходзіць у склад валокнаў міжкаморкавага рэчыва храстковай тканкі.*
**Хондрит** – хандры/т (м.р.) – *запаленне храстка.*
**Хондрология** – хандрало/гія (ж.р.) – *раздзел гісталогіі, які вывучае развіццё, будову і працу храстковай тканкі.*
**Хондрома** – хандро/ма (ж.р.) –*дабраякасная пухліна, якая паходзіць з храсткавых каморак, можа развівацца на канцы косці, якая расце, аднак часцей за ўсё ўзнікае ў касцях ступні і ручыцы.*
**Хордома** – хардо/ма (ж.р.) – *рэдкая пухліна, якая паходзіць з рэшткаў хорды зародка.*
**Хордотомия** – хардатамі/я (ж.р.) – *хірургічнае ўмяшальніцтва, якое дазваляе паменшыць моцны і ўпарты боль у вобласці лагва або ніжніх канцавін.*
**Хорея** – харэ/я (ж.р.) – *міжвольныя рухі галавы або канцавін.*
**Хорион** – харыё/н (м.р.) – *вонкавая зародкавая абалонка, якая акружае зародак.*
**Хорионический** – харыяні/чны (ганадатрапін) – *гармон, што выпрацоўваецца ў маціцы ў большасці вышэйшымі сысунамі для падтрымкі функцый жоўтага цела.*
**Храп** – хроп (м.р.) – *1) дыханне, пры якім узнікаюць вібрацыі мяккага паднябення; 2) гук, выдадзены ў час такога дыхання.*

**Хрипота** – хры/пка (ж.р.) – *наяўнасць хропа ў голасе.*
**Хрипы** – хры/пы (мн.л.) – *паталагічныя дыхальныя шумы, вызначаныя пры аскультацыі лёгкіх.*
**Хроматин** – храмаці/н (м.р.) – *храмасомны артыкул каморкавага ядра, у склад якога ўваходзяць ДНК, РНК і бялкі.*
**Хроматолиз** – фарбаразбурэ/нне (н.р.), храмато/ліз (м.р.) – *рассейванне ці дэзынтэграцыя мікраскапічных утварэнняў у нервовых каморках, якія звычайна ўтвараюцца з бялкоў. Гэтыя ўтварэнні з'яўляюцца частковым водгукам каморкі на атрыманую траўму.*
**Хромать** – кульга/ць – *1) хадзіць, кульгаючы праз укарачэнне або хваробы нагі, ног; 2) быць у незадавальняючым становішчы, мець недахопы.*
**Хромоген** – храмаге/н (м.р.) – *хімічнае спалучэнне, якое змяшчае ў сабе храмаформную групу і здольнае даць фарбавальнік.*
**Хромосома** – храмасо/ма (ж.р.) – *пастаянная частка ядра жывёльных і раслінных каморак, носьбіт спадчыннай генетычнай інфармацыі.*
**Хромота** – кульга/васць (ж.р.) – *кульгаючая хада, няправільны рух ног, які выкліканы ўкарачэннем нагі або хваробай.*
**Хромотография** – храматаграфі/я (ж.р.) – *метад раздзялення і аналізу сумесей, які заснаваны на розным размеркаванні іх кампанентаў паміж дзвюма фазамі – рухомай і нерухомай.*
**Хромоцистоскопия** – храмацыстаскапі/я (ж.р.) – *інструментальны метад дыягностыкі, паасобнае вызначэнне функцый кожнай ныркі і верхніх мачавых шляхоў з дапамогай фарбавай пробы.*
**Хронаксия** – хранаксі/я (ж.р.) – *мінімальны час уздзеяння на тканку пастаяннага электрычнага току падвоенай парогавай сілы, якое выклікае ўзбуджэнне тканкі.*
**Хроника** – хро/ніка (ж.р.) – *1) запіс гістарычных падзей у храналагічным парадку; 2) літаратурны твор, які змяшчае гісторыю падзей; 3)*

*дакументальнае паведамленне ў СМІ пра сучасныя падзеі.*
**Хронический** – храні/чны – *1) той, што доўжыцца шмат часу, марудна развіваецца, зацяжны; 2) які пакутуе праз працяглую, сталую хваробу; 3) працяглы, марудны, зацяжны.*
**Хронобиология** – хронабіяло/гія (ж.р.) – *частка біялогіі, якая вывучае біялагічныя рытмы, праходжанне розных біялагічных працэсаў (пераважна цыклічных) у часе.*
**Хронограф** – храно/граф (м.р.) – *1) зводны агляд усеагульнай гісторыі ў сярэднія вякі; 2) прылада для дакладнай рэгістрацыі моманту якога-н. назірання і для вымярэння кароткіх інтэрвалаў часу.*
**Хронотропный** – хранатро/пны, часазале/жны – *зменная частасць сэрцавых рытмаў.*
**Хрусталик** – крышта/лік (м.р.) – *1) памяншальнае ад* ***крышталь****; 2) частка вока ў выглядзе дваякавыпуклай празрыстай лінзы, размешчанай за райковай абалонкай.*
**Хрящ** – храсто/к (м.р.) – *гнуткая і шчыльная злучальная тканка хрыбеткавых жывёл і чалавека, якая ўтварае некаторыя часткі шкілета і дыхальных шляхоў дарослага чалавека.*
**Хрящеватый** – храсткава/ты – *які мае вялікія або выступаючыя храсткі.*

# -Ц-

**Царапина** – дра/піна (ж.р.) – *неглыбокая ранка на целе або пашкоджанне на прадмеце ў выглядзе палоскі, зробленае чым-н. тонкім і вострым.*
**Цвет** – ко/лер (м.р.) – *1) светлаваты тон чаго-н; афарбоўка; 2) у жывапісе – адценне фарбы, ступень яркасці яе; 3) спецыяльна падрыхтаваны для афарбоўкі чаго-н., склад фарбы.*

**Целенаправленный** – мэтанакірава/ны – *які вызначаецца мэтанакіраванасцю.*
**Цианоз** – сіню/ха (ж.р.), цыяно/з (м.р.) – *сіняватая афарбоўка скуры і (або) слізніцы, калі колькасць аднаўленага гемаглабіну перавышае 50 г/л.*
**Цикл** – цы/каль (м.р.), цыкл (м.р.) – *адзінка вымярэння вугла, а таксама фазы ваганняў.*
**Цинга** – шкро/бут (м.р.), цынга/ (ж.р.) – *хвароба, выкліканая вострым недахопам вітаміну С (аскарбінавая кіслата).*
**Циркуляторный** – абяга/льны, цыркулято/рны – *які адносіцца да кровазвароту.*
**Циркуляция** – абе/г (м.р.), цыркуля/цыя (ж.р.) – *кругавы рух, кругазварот. Цыркуляцыя крыві.*
**Цирроз** – цыро/з (печані) (м.р.) – *цяжкае захворванне печані, якое суправаджаецца незваротным замяшчэннем парэнхіматознай тканкі печані фібрознай злучальнай тканкі, ці сромай.*
**Цистаденома** – цыстадэно/ма (ж.р.) – *адэнома, якая мае кістозную структуру.*
**Цистит** – цысты/т (м.р.)– *запаленне мачавіка, якое часта ўзнікае ў выніку траплення ў яго інфекцыі (звычайна бактэрый тыпу Escherichia coli).*
**Цистицеркоз** – цыстыцэрко/з (м.р.) – *захворванне, якое выклікаецца наяўнасцю лічынак стужачнага чарвяка ў кожным органе.*
**Цистоскоп** – цыстаско/п (м.р.) – *прызначаны для правядзення дыягнастычных працэдур цэўкі і мачавіка.*
**Цитогенетика** – цытагене/тыка (ж.р.) – *раздзел генетыкі, які вывучае ўзаемасувязь паміж заканамернасцямі спадчынных прыкмет і будову храмасом. Асноўным прадметам даследавання ў цытагенетыцы з'яўляюцца храмасомы.*
**Цитодиагностика** – цытадыягно/стыка (ж.р.) – *распазнаванне хвароб шляхам мікраскапічнага даследавання каморкавых элементаў, узятых з паверхні цела або з яго вадкасцей.*

**Цитолиз** – цыто/ліз (м.р.) – *разбурэнне раслінных і жывёльных каморак.*
**Цитолог** – цыто/лаг (м.р.) – *спецыяліст, які вывучае будову і хімічны склад каморкі, функцыі ўнутрыкаморкавых структур, функцыі каморак у арганізме жывёл і раслін.*
**Цитологический** – цыталагі/чны – *гэта метад, які ўключае вывучэнне цытаплазмы, уласцівасці і яе хімічны склад.*
**Цитология** – цытало/гія (ж.р.) – *навука аб каморцы, разам з гэтым, біялагічная дысцыпліна, якая вывучае структуру, функцыі і эвалюцыю каморак, ядзернацытаплазматычныя комплексы, нерасчлянёныя на каморкі, аднакаморкавыя жывёльныя і раслінныя арганізмы, а таксама разам бактэрыі.*
**Цитоморфоз** – цытамарфо/з (м.р.) – *змены, якія адбываюцца ў каморцы на працягу яе жыццёвага цыклу.*
**Цитоплазма** – цытапла/зма (ж.р.) – *унутранае асяроддзе каморкі, апроч ядра, абмежаванае плазматычнай мембранай.*
**Цитоплазматический** – цытаплазматы/чны – *які мае адносіны да цытаплазмы.*
**Цитотоксин** – цытатаксі/н (м.р.) – *агульная назва рэчыва, таксічнага для каморак.*
**Цитотоксический** – цытатаксі/чны – *разбуральны або таксічны для каморак.*
**Цитохимия** – цытахі/мія (ж.р.) – *навука, якая вывучае хімічныя спалучэнні, якія прысутнічаюць у каморках жывёл, а таксама іх функцыі.*
**Цитохром** – цытахро/м (м.р.) – *дыхальны пігмент, у склад якога ўваходзіць бялок.*
**Цитоэколог** – цытаэко/лаг (м.р.) – *вучоны, які займаецца вывучэннем каморкі, яе структуры і ўплыву навакольнага асяроддзя на хімічны склад.*
**Цитруллин** – цытрулі/н (м.р.) – *амінакіслата, якая не ўваходзіць у склад бялка; выпрацоўваецца печань ў*

*якасці пабочнага прадукта ў працэсе пераўтварэння аміяку ў мачавіну.*
**Цифра** – лі/чба (ж.р.) – *паказальнік, разлік чаго-н., які адлюстраваны ў лічбах; знак, які абазначае лік.*
**Цифровой** – лі/чбавы – *адлюстраваны ў лічбах.*

# -Ч-

**Частота** – ча/стасць (ж.р.) – *велічыня, якая перадаецца лічбай паўтораў чаго-н. за адзінку часу.*
**Человек** – чалаве/к (м.р.) – *грамадская істота, якая мае высокаарганізаваны мозг, валодае мысленнем, маўленнем, здольнасцю вырабляць прылады працы і мэтанакіравана выкарыстоўваць іх.*
**Человеческий** – чалаве/чы – *уважлівы, чулы, душэўны.*
**Челюстной** – скі/вічны – *які адносіцца да сківіцы.*
**Челюсть** – скі/віца (ж.р.) – *кожная з дзвюх касцей твара, у якіх умацаваны зубы.*
**Червеобразный** – чэрвепадо/бны – *які мае знешні выгляд чарвяка.*
**Червяк** – чарвя/к (м.р.) – *бесхрыбеткавы жывёльны арганізм з доўгім мяккім целам без канцавін і ярка выражанай галавы.*
**Череп** – чэ/рап (м.р.) – *шкілет галавы хрыбеткавых і чалавека; паверхня, верхняя частка галавы.*
**Черепной –** чарапны/ - *які мае адносіны да чэрапа.*
**Чесотка** – каро/ста (ж.р.) – *заразная хвароба скуры ў чалавека і жывёл, якая суправаджаецца гнойнай высыпкай і моцным свербам.*
**Чешуйка** – лускаві/нка (ж.р.) – *1) памяншальнае да* ***луска****; 2) асобная пласцінка лускі; 3) мікраскапічная хіцінавая пласцінка на целе некаторых членістаногіх жывёл (галоўным чынам насякомых).*

**Чешуя** – луска/ (ж.р.) – *1) дробныя пласцінкі, якія размешчаны на паверхні цела некаторых хрыбеткавых жывёлін; 2) пластавыя покрывы чаго-н.*
**Чувство** – пачуццё/ (н.р.) – *1) псіхічныя працэсы перажывання чалавекам сваіх адносін да навакольнага свету; 2) псіхічны стан або фізічныя адчуванні чалавека; 3) знешняе праяўленне душэўнага пад'ёму, усхваляванасці; 4) каханне, сімпатыя, прыхільнасць да каго-н.*
**Число** – лік (м.р.) – *1) паняцце колькасці, велічыня, пры дапамозе якой праводзіцца лічэнне; 2) колькасць каго-, чаго-н.; 3) склад, рад вядомай колькасці каго-, чаго-н.; 4) вынікі гульні, выражаныя ў лічбах; 5) граматычная катэгорыя, якая выражае адзінкавасць або множнасць.*
**Чихание** – чыха/нне (н.р.) – *чыхаць, а таксама гукі гэтага дзеяння.*
**Чувствительный** – чуллі/вы – *1) здольны ўспрымаць знешнія, фізічныя раздражненні; 2) кропальны, сардэчны, здольны выклікаць замілаванне, добрыя пачуцці; 3) здольны тонка адчываць, востра рэагаваць.*
**Чирей** – скула/ (ж.р.) – *гнойны нарыў, фурункул.*
**Численный** – ко/лькасны – *які мае адносіны да колькасці, абазначае колькасць.*
**Член** – чэ/ляс (м.р.)– *адзін з вонкавых плоцевых органаў рэпрадуктыўнай сістэмы мужчыны, які выводзіць мачу з мачавіка, выкідае сперму.*
**Чревосечение** – чэравасячэ/нне (н.р.) – *хірургічная аперацыя, звязаная з раскрыццём брухавіннай паражніны.*
**Чувство** – пачуццё/ (н.р.) – *1) чаго і якое.Здольнасць усведамляць, перажываць, разумець што-н. на аснове адчуванняў, уражанняў; 2) каханне, прыхільнасць да каго-н.*
**Чувствительный** – чуллі/вы – *1) здольны ўспрымаць знешнія, фізічныя раздражненні; 2) кропальны,*

*сардэчны, здольны выклікаць замілаванне, добрыя пачуцці; 3) здольны тонка адчуваць, востра рэагаваць.*
**Чума** – паля/ндра (ж.р.), чума/ (ж.р.) – *вострае прыроднае захворванне, вельмі небяспечнае, для якога характэрны гемаралагічнае запаленне пасакавых вузлоў, лёгкіх і іншых органаў, ліхаманка, цяглічная слабасць, парушэнне псіхічных працэсаў.*

# -Ш –

**Шанкр** – ша/нкер (м.р.) – ***мяккі шанкер*** – *інфекцыйнае венерычнае захворванне;* ***цвёрды шанкер*** – *першае праяўленне захворвання на пранцы ў выглядзе расколіны, якая ўзнікае на месцы заражэння інфекцыяй.*
**Шар** – ку/ля (ж.р.), шар (м.р.) – *1) у мат. – гэта геаметрычнае цела, якое ўтворана вярчэннем круга вакол свайго дыяметра; 2) прадмет, які мае акруглую форму; 3) прадмет такой формы для галасавання, а таксама сам голас "за" або "супраць".*
**Шейка** – шы/йка (ж.р.) – *1) памяншальна-ласкальнае да слова* ***шыя****; 2) вузкая, завужаная частка чаго-н.; 3) хваставая частка цела прэснаводнага рака.*
**Шелушение** – лушчэ/нне (н.р.) – *1) ачышчэнне ад шалупін якой-н. абалонкі, разгрызаючы, ачышчаца ад шалупін і есці; 2) разрыхляць верхні пласт глебы лушчыльнікам.*
**Шепелявить** – шапяля/ць – *невыразна вымаўляць некаторыя гукі.*
**Шея** – шы/я (ж.р.) – *частка цела паміж галавой і тулавам у чалавека і наземных хрыбеткавых жывёл.*
**Шизогония** – шызагані/я (ж.р.) – *шматлікае бясплоцевае размнажэнне ў прасцейшых і некаторых водарасцяў.*
**Шизофрения** – шызафрэні/я (ж.р.) – *цяжкае псіхічнае захворванне, якое суправаджаецца ўстойлівымі*

*зменамі ў псіхіцы, парушэнне звязанасці псіхічных працэсаў, зніжэнне псіхічнай дзейнасці.*
**Шиловидный** – шылападо/бны – *які сваім знешнім выглядам, формай нагадвае шыла.*
**Шип** – шып (м.р.) – *1) востраканцовы выступ, нарасць на целе; 2) невялікі выступ на чым-н.*
**Шиповник** – шыпшы/на (ж.р.) – *расліна сямейства ружакветных, з простымі, не махровымі кветкамі і са сцяблом, пакрытым калючкамі; дзікая ружа.*
**Шистосомозы** – шыстасамо/зы (мн.л.) – *паразітарнае захворванне чалавека.*
**Шишка** – гуз (м.р.) – *1) жаўлак ад удару або нараст на целе чалавека, жывёлы; 2) ненармальнае патаўшчэнне на якой-н. частцы расліны.*
**Шишковидное тело** – гузаві/ца (ж.р.), гузападо/бнае цела (н.р.) – *адзін з аддзелаў галаўнога мозга.*
**Шишковидный** – гузападо/бны – *які сваім знешнім выглядам, формай нагадвае гуз.*
**Шкаф** – ша/фа (ж.р.) – *1) прадмет мэблі ў выглядзе высокай скрыні з дзверцамі, якая служыць для захоўвання чаго-н.; 2) прыстасаванне ў выглядзе скрынкі са створкай або дзверцамі, якое служыць для якіх-н. мэт (сушкі, выпечкі).*
**Шов** – шво (н.р.) – *месца злучэння сшытых кавалкаў тканіны, скуры і інш.*
**Шовный** – шы/ўны – *які служыць для сшывання, змацавання чаго-н.*
**Шок** – шок (м.р.) – *агульнае цяжкае парушэнне функцый арганізма ў выніку моцнага фізічнага пашкоджання ці псіхічнага ўзрушэння.*
**Шпатель** – шпа/тэль (м.р.) – *інструмент у выглядзе лапатачкі для накладання і выроўнівання шпаклёўкі.*
**Шпора** – астро/га (ж.р.), шпо/ра (ж.р.) – *1) рагавы завостраны выступ на нагах; 2) сагнутая ў форме абцаса металічная дужка з кальцом на канцы, якая прымацоўваецца да бота наезніка і служыць для панукванья каня.*

**Шприц** – шпрыц (м.р.) – *медыцынскі інструмент – цыліндрык з поршнем і іголкай для ўвядзення ці адсмоктвання вадкасці.*
**Шрам** – блі/зна (ж.р.), шрам (м.р.) – *след на скуры ад раны.*
**Штамм** – штам (м.р.) – *у мікрабіялогіі – чыстая культура мікраарганізмаў, вылучаная з якой-н. пэўнай крыніцы, якая прымяняецца для прыгатавання вакцыны і сыроваткі.*
**Шум** – шум (м.р.) – *1) гукі, якія зліліся ў громкае і нязладжанае гучанне; 2) ажыўленае абмеркаванне, выкліканае павышаным інтарэсам да чаго-н.; 3) гук з няяснай танальнасцю; 4) сварка, крыкі, гучнае выражэнне незадавальнення.*

# -Щ –

**Щека** – шчака/ (ж.р.) – *1) бакавая плоская частка паверхні чаго-н.; 2) частка твара ад скулы да ніжняй сківіцы; 3) высокія крутыя скалістыя берагі ракі.*
**Щелочеустойчивость** – шчолачаўсто/йлівасць (ж.р.) – *здольнасць рэчываў устойліваць дзеянне рэчываў.*
**Щелочной** – шчалачны/ – *рошчына з высокай канцэнтрацыяй гідраксільных іонаў.*
**Щель** – шчы/ліна (ж.р.) – *вузкая, прадаўгаватай формы дзірка, адтуліна.*
**Щёлочь** – шчо/лач (ж.р.) – *едкая рошчына, прыгатаваная з попелу, залітага варам.*
**Щипцы** – шчыпцы/ (мн.л.) – *інструмент у выглядзе двух замацаваных на шарніры стрыжняў, якія служаць для сціскання, расколвання, схоплівання, выдзірання чаго-н.*
**Щитовидная железа** – шчытападо/бная зало/за (ж.р.) – *залоза ўнутранай сакрэцыі чалавека і хрыбеткавых жывёлін, якая прымае ўдзел у абмене рэчываў у арганізме.*

**Щитовидный** – шчытападо/бны – *які мае форму шчыта.*
**Щурить** – жму/рыць – (*што.) Сціскаючы павекі, прыплюшчваць вочы.*

# - Э –

**Эвакопункт (эвакуационный пункт )** – эвакапу/нкт (эвакуацыйны пункт) (м.р.) – *установа, якая кіруе ў час вайны, стыхійных няшчасцяў і пад. арганізацый лячэння і эвакуацыі параненых, хворых, а таксама насельніцтва з небяспечных месцаў ці зоны ваенных дзеянняў.*
**Эвакуация** – эвакуа/цыя (ж.р.) – *1) арганізаваны вываз насельніцтва, установ, прамысловых аб'ектаў і пад. з небяспечных месцаў, якім пагражаюць ваенныя дзеянні або стыхійныя няшчасці; 2) выдаленне чаго-н. аднекуль-н.*
**Эволюция** – эвалю/цыя (ж.р.) – *развіццё, працэс паступовага беспераnыннага колькаснага змянення каго-, чаго-н, які прыводзіць да якаснага змянення.*
**Эзофагит** – эзафагі/т (м.р.) – *запаленне слізніцы стрававода.*
**Эзофагоскоп** – эзафагаско/п (м.р.) – *трубка з аптычнымі і асвятляльнымі сістэмамі, якія выкарыстоўваюцца ў медыцынскай практыцы для даследавання стрававода.*
**Эйфория** – эйфары/я (ж.р.) – *стан прыўзнятага настрою, бестурботнасці, задавальнення, які не адпавядае аб'ектыўным умовам.*
**Эквивалент** – раўназна/чнік (м.р.), эквівале/нт (м.р.) – *што-н. раўназначнае, раўнацэннае, раўнамоцнае чаму-н, здольнае поўнасцю замяніць яго.*
**Эквивалентный** – раўназна/чны, эквівале/нтны – *які што-небудзь поўнасцю замяняе ў якіх-н. адносінах.*

**Эквипотенциальный** – раўназдо/льны, эквіпатэнцыя/льны – *які выконвае столькі ж, колькі і хто-н. іншы.*
**Экзальтация** – экзальта/цыя (ж.р.) – *стан павышанай узбуджанасці.*
**Экзантема** – экзантэ/ма (ж.р.) – *высыпанні featureзнага паходжання і велічыні на паверхні скуры.*
**Экзема** – во/дрыца (ж.р.), экзэ/ма (ж.р.) – *незаразнае запаленчае захворванне скуры, якое суправаджаецца свербам і з'яўленнем высыпкі, гнойных пухіроў.*
**Экзобиология** – экзабіяло/гія (ж.р.) – *навуковая галіна, якая вывучае праблемы, звязаныя з магчымасцю існавання незямных формаў жыцця.*
**Экзодерма** – экзадэ/рма (ж.р.) – *пласт каморак, які звычайна знаходзіцца непасрэдна пад эпідэрмісам у каранёвых раслін.*
**Экзокринный** – экзакры/нны – *залозы вонкавай сакрэцыі.*
**Экзосмос** – экзо/смас (м.р.) – *працэс прасочвання (дыфузіі) вадкасцей і некаторых распушчаных рэчываў з каморкі ў навакольнае асяроддзе.*
**Экзотермический** – экзатэрмі/чны – *які аддае цеплыню.*
**Экзотоксин** – экзатаксі/н (м.р.) – *труць, вылучаемая жывымі мікробамі ў навакольнае асяроддзе.*
**Экзотрофный** – экзатро/фны – *аб арганізмах-паразітах: які жыве на паверхні цела "гаспадара" – жывёлы, расліны.*
**Экзофтальм** – экзафта/льм (м.р.) – *зрушэнне вочнага яблыка наперад.*
**Эклампсия** – эклампсі/я (ж.р.) – *позні таксікоз цяжарных. Асноўны сімптом – сутаргі цягліц усяго цела са стратай прытомнасці.*
**Эколог** – эко/лаг (м.р.) – *спецыяліст па экалогіі, навуцы, якая вывучае ўзаемаадносіны чалавека, жывёл, раслін, мікраарганізмаў паміж сабой і з навакольным асяроддзем.*

**Эксгибиционизм** – эксгібіцыяні/зм (м.р.) – *від плоцевай ненармальнасці: публічнае агаленне, выстаўленне напаказ плоцевых органаў.*
**Экскориация** – экскарыя/цыя (ж.р.) – *паверхневы дэфект скуры, які ўтвараецца ў выніку расчосвання або траўмы.*
**Экскременты** – экскрэме/нты (мн.л.) – *пераатраўленая ежа ў выглядзе калу, мачы.*
**Экскрет** – экскрэ/т (м.р.) – *патрэбнае або шкоднае рэчыва, якое выдзяляецца арганізмам.*
**Экскреция** – вывядзе/нне (н.р.), экскрэ/цыя (ж.р.) – *дзейнасць органаў, залоз і пад., накіраваная на вывядзенне з арганізма розных непатрэбных або шкодных рэчываў.*
**Эксперимент** – до/след (м.р.), эксперыме/нт (м.р.) – *аднаўленне якой-н. з'явы ў штучных умовах з мэтай яе вывучэння.*
**Эксперт** – экспе/рт (м.р.) – *спецыяліст, які праводзіць экспертызу, г.зн. даследуе што-н., каб даць заключэнне па спрэчным пытанні.*
**Экспертиза** – эксперты/за (ж.р.) – *вывучэнне, даследаванне чаго-н. з мэтай даць яму правільную ацэнку, зрабіць правільнае заключэнне і пад.*
**Эксплантат** – эксплanta/т (м.р.) – *кавалачак тканкі ці органа, які культывуецца па-за арганізмам.*
**Экспрессия** – экспрэ/сія (ж.р.) – *выразнасць, сіла выяўлення пачуццяў, перажыванняў і пад.*
**Экспресс-диагностика** – экспрэ/с-дыягно/стыка (ж.р.) –*паскораны метад дыягностыкі, які выкарыстоўваецца для даследавання функцыі розных органаў пры масавых абследаваннях насельніцтва.*
**Экссудат** – эксуда/т (м.р.) – *вадкасць, якая выдзяляецца пры запаленні з невялікіх судзін у тканцы або паражніне цела.*
**Экстаз** – экста/з (м.р.) – *1) найвышэйшая ступень захаплення, пры якой чалавек даходзіць да самазабыцця; 2) стан непрытомнасці.*
**Экстензор** – экстэ/нзар (м.р.) – *разгібанне цяглiцы.*

**Экстракт** – вы/цяжка (ж.р.), экстра/кт (м.р.) – *рэчыва, здабытае выцяжэннем з расліннай або жывёльнай тканкі з дапамогай якой-н. вадкасці.*
**Экстракция** – экстра/кцыя (ж.р.) – *аперацыя, выдаленне зуба.*
**Экстрасистола** – экстрасі/стала (ж.р.) – *нечарговае скарачэнне сэрца.*
**Электрокардиограмма** – электракардыягра/ма (ж.р.) – *запіс электрычнай актыўнасці сэрца.*
**Электролит** – электралі/т (м.р.) – *хімічнае рэчыва, якое раскладаецца на састаўныя часткі пры праходжанні праз яго электрычнага току.*
**Электронаркоз** – электранарко/з (м.р.) – *наркоз, выкліканы дзеяннем электрычнага току на цэнтральную нервовую сістэму.*
**Электронно-вычислительный** – электро/нна-выліча/льны – *які мае адносіны да электронных сродкаў, прызначаных для вылічальных працэсаў, пераўтварэння інфармацыі, для кіравання механізмамі, агрэгатамі і пад.*
**Электронный – электро/нны** – *які мае адносіны да электрона; які складаецца з электронаў.*
**Электронож** – электрано/ж (м.р.) – *востры электрод, з дапамогай якога праводзяць дыятэрматамію.*
**Электросон** – электрасо/н (м.р.) – *медыцынская працэдура, якая выклікае сон пад уздзеяннем электрычнага току на галаўны мозг.*
**Электростимулятор** – электрастымуля/тар (м.р.) – *гэта медыцынскі прыбор, з дапамогай якога ўздзейнічаюць электрычным токам на арганізм чалавека.*
**Электротерапевтический** – электратэрапеўты/чны – *які мае адносіны да правядзення дыягностыкі з дапамогай электрычнага току, а таксама ўздзеяння на ўвесь арганізм чалавека.*
**Электротонус** – электрато/нус (м.р.) – *гэта тонус, які падаецца цяглíцам чалавека з дапамогай электрычнага току або імпульсу.*

